СЯРГЕЙ
ГРАХОЎСКІ

# СУСТРЭЧА З САМІМ САБОЮ

ЛІРЫЧНАЯ
ПРОЗА



МІНСК
«ЮНАЦТВА»
1988

ББК 84Бел7
Г 78

Для старэйшага школьнага ўзросту

Рэцэнзент Г. С. ШУПЕНЬКА

Мастак В. С. СІДАРАВА

Новая книга лирической прозы Сергея Граховского возвращает читателя в романтическую пору юности комсомольцев 30-х годов, в суровое время классовой борьбы, рассказывает о чистой и светлой любви, о судьбах людей труда.

В книге нашли место впечатления автора о первых днях строительства Новополоцка и нефтеперерабатывающего завода, о наших современниках.

Г $\frac{4803010200-089}{М 307(03)-88}$ 51—88



ISBN 5-7880-0050-5

# ЗІМОВЫЯ СНЫ

Без сноў, кажуць, чалавек жыць не можа. А сны бываюць самыя нечаканыя і неверагодныя. У сны прыходзяць назаўсёды забытыя людзі і здарэнні, падзеі і непрыкметныя эпізоды. Бывае, прачнешся, і ўсё развеялася, забылася, а ў душы, у падсвядомасці застаецца пачуццё радасці або трывогі, тоненькай павуцінкай трымціць працяг успамінаў, а то прыснёны гук, даўно забытае слова, мелодыя.

Веснавыя сны часцей бываюць светлыя і лёгкія, ружовыя і кароткія, як красавіцкая ноч. Яны знікаюць нечакана, але доўга яшчэ ў памяці жыве адчуванне саснёнай пары: нейкае імгненне ты зноў быў шчаслівым хлапчуком, марыў хутчэй вырасці, бо не здагадваўся, колькі нягод цябе чакае ў сталасці. А прыснілася толькі радаснае маленства, і ты ўвесь дзень успамінаеш далёкае, даўно зmененае часам наваколле. Такім яно засталося толькі ў глыбінях памяці і ў нечаканых снах. Прысніцца: і бачыш кожную драбніцу, адчуваеш пахі талай вады і гаркаватых тапалёвых пупышак, вербных коцікаў і цёплы дух узаранай зямлі.

З тае пары пройдзена такая вялікая дарога, пракаціліся такія навальніцы і пажары, прайшла такая пачварная апошняя вайна, што амаль нічога не засталося з таго, што хавала

і берагла памяць з маленства: зніклі сажалкі, перасохлі цёмныя віры і рэкі.

Сны — мае ўспаміны, успаміны — сны.

Мне часта сніцца вялікі двор, з пачарнелага бярвення доўгі свіран, прысадзісты склеп і лядоўня пад крутым дахам да самай зямлі. Ад іх і ў спёку цягнула халадком. У самыя вялікія маразы сюды вазілі з рэчкі зіхатліва-блакітныя і срабрыста-ружовыя на сонцы вялізныя кубы лёду. Вострыя канты іх пераліваліся малінавымі, сінімі і залацістымі іскрамі. Лёд спускалі ў цёмны склеп, укрывалі тоўстым пластом саломы, каб і ў спёку не растаў. З абодвух бакоў двара — вялікі стары сад. Вокнамі на вуліцу стаіць доўгі з белымі аканіцамі «панскі» дом. З двара ён абсаджаны кустамі бэзу, язміну і барбарысу. У канцы саду — невялічкая хатка. Большую яе палавіну займаюць кухня і пральня, з сянец направа — пакойчык на два акенцы. У ім кватаруем мы з мамаю. Яна падмятае, шаруе падлогі ў панскіх пакоях, мые і прасуе бялізну, робіць, што загадаюць. За гэта з нас не бяруць за кватэру і часам з кухні даюць недаедкі і апалоскі. У вялікім доме пакойчык з куханькаю займае вартаўнік, конюх, садоўнік, дворнік, агароднік і дравакол, словам, майстра на ўсе рукі, высокі, худы, як дошка, з доўгаю буслінаю глюгаю Пятро Лісіца. Кухаркаю робіць прыгожая, увішная, заўсёды ўсмешлівая і светлая яго жонка Ева. І двое дзетак у іх: такі, як я, Валодзька і трошкі большанькая Насця.

А пан? Які ён там пан, хоць і мае ў самым цэнтры мястэчка цэлы фальварак?! І ўсе завуць яго панам Клецкім. А ён усяго фельчар —

адзіны лекар на ўсё мястэчка. Кожны выклік да хворага, пастаўленыя банкі ці п'яўкі, рыцына ці гумавы капшук з лёдам на галаву ад гарачкі штодзень прыносілі свежую капейку. Ён і зубы рваў, і парадзіх ратаваў — рабіў усё, што трэба, і, казалі, памагала.

Ехалі да пана Клецкага ўсе паны і мужыкі, фальваркоўцы і мяшчане. І не з пустымі рукамі. Каб лепей палячыў, везлі самае лепшае. Чаго толькі не было ў тым склепе і лядоўні! Каўбасы, кумпякі і мёд, смажаныя парсюкі і гусі не пераводзіліся ніколі.

Успомніўся і пан. Невысокі, круглы, з колкім вожыкам сівізны, з глыбока схаванымі пад ілбом вочкамі. Летам — у сурдуце з тонкага палатна, зімою — у пацягнутым сінім сукном футры. Дома ён налягаў на «проша» і «пшэпрашэм», з панкамі і падпанкамі гаварыў па-польску, з мужыкамі — папросту, грубавата і грэбліва. Асоба «пана» то праяснее, то засцілаецца смугою даўніны, а двор, сад, свіран з вялізнымі драўлянымі маглямі, на якіх качалі мытую бялізну, кусты пад вокнамі з дробненькімі чырвонымі караля́мі барбарысу, дзядзьку Пятра і цётку Еву бачу, як жывых. Не толькі ўсё гэта бачу, адчуваю пах першага снегу і дыму ад бярозавых дроў, стаяць перад вачыма заінелыя яблыні, на тонкіх аснежаных галінках язміну скачуць шустрыя сінічкі.

У тыя свае чатыры гады я ведаў, што недзе пад Баранавічамі і Пінскам ідзе вайна з вусатым Вільгельмам і бацька мой недзе там. Здавалася, я яго ніколі не бачыў, але ўяўляў па маміных расказах і цьмянай картцы высокім, з вусікамі, у заламанай назад салдацкай кучомцы,

з круглаю брыжастаю какардаю, у шэрым шынялі і з башлыком за плячыма.

Я сядзеў адзін у нашым пакойчыку на нізенькім зэдліку і бясконца гартаў з канца ў канец нейкі часопіс з карцінкамі пра вайну. Каторы раз разглядаў акопы з гарматамі, барадатых генералаў з крыжамі на ўсе грудзі, імператрыцу Аляксандру Фёдараўну і вялікую княжну Анастасію з кошыкам велікодных яек у салдацкім шпіталі. Былі здымкі цэпелінаў і нямецкіх «ерапланаў».

Летам з Евіным Валодзькам мы цэлымі днямі гулялі паміж лядоўняю і абымшэлым плотам. Часам дзядзька Пятро нас пускаў у свіран. Там круцілі драўляную корбу ад нідзе болей не бачанай машыны, што на тоўстых барабанах качала кужэльныя прасціраддлы і панскую бялізну. І назвы болей нідзе і ніколі не чуў «маглі». І нам хацелася пакруціць тую корбу, але сілы і ўдвух не хапала.

Зімою па разутасці я сядзеў дома і гартаў той адзіны часопіс, з бульбін і трэсачак рабіў «пільшчыкаў», рагатых кароў і расстаўляў на лаве цэлыя чароды. З бульбін зрабіў і пастуха, праўда, на чатырох нагах, бо на двух не стаяў. Калі зморыць сон, засынаў на падлозе, пакуль не прыйдзе мама. Яна рана ўпраўлялася на асноўнай рабоце і бегла на заработкі да багацейшых местачкоўцаў — да аптэкара Фрыда, да крамніка Нісенбаўма, да нашага суседа — айца Алімпія. Мыла падлогі і бялізну, насіла з рэчкі ваду, даіла чужых кароў і пілавала дровы. Заўсёды мне прыносіла мама гасцінцы — паўлустачкі сітніцы, скварачку, цукерчыну, драбок цукру. Толькі потым я зразумеў, што яна

адрывала ад сябе і непрыкметна хавала за пазуху самы смачны кавалачак.

Найвялікшай каштоўнасцю і маёю радасцю ў нас была высокая лямпа пад белым абажурам. Адкуль і як яна трапіла да нас, я не ведаў, але заўсёды чакаў, калі мама засвеціць яе: у пакойчыку станавілася светла і цёпла. Чакалі ходзікі на сцяне, вецер рыпеў аканіцай, аж вытыркаўся прэнт з жалезнаю засаўкаю, за грубкаю тоненька спяваў цвыркун. Седзячы на маленькім зэдліку, мама абірала картоплю, а я на падлозе расстаўляў бязрукіх і аднаногіх аблезлых і пагнутых алавяных салдацікаў. Мама паціху спявала: «Степь да степь кругом, путь далёк лежит...», і я далучаўся тоненькім галаском: «А в степи глухой паміраў ямшчык». Хто такі ямшчык, я не ведаў і не пытаўся ў мамы,— быў упэўнены, што чалавек, які капае ямы.

Прысніцца той вечар, і камячок падкоціць да горла. Такая была ласкавая і маладая мама, такая была цішыня, так цёпла і светла было ў нашым пакойчыку, а наперадзе — доўгае-доўгае жыццё, і думалася, што будзе яно самым шчаслівым.

Праз акно я не раз бачыў, як «доктар» Клецкі (для большай павагі яго звалі доктарам) у белых ступках таўчэ нейкую соль, круціць жоўтыя і чорныя мазі, дык і мы з Валодзькам у пушачках расціралі крэйду, у пляшачках разводзілі сіньку і соль і самі хадзілі падсіненыя і мурзатыя. Мы гулялі ў доктара і хворага. Хворым часцей прыпадала быць мне, а Валодзька голасам пана Клецкага распытваў, што баліць,

прыкладаў вуха да грудзей і спіны, хмурыўся і цмокаў акурат як наш гаспадар.

Перад калядамі Валодзька з тыдзень не прыходзіў да мяне. Я зусім занудзіўся без яго. Цётка Ева сказала, што Валодзька прастыў па дарозе з лазні і без памяці ляжыць у гарачцы. Схадзіць адведаць яго ў мяне не было ў чым. А так хацелася ў двор; скрозь іскрыўся пульхны снег, сад здаваўся ў веснавой квецені, на галінках скакалі і гушкаліся чырванагрудыя гілі, але разуты не пабяжыш.

Неяк раніцаю з кухні пачулася горкае галашэнне цёткі Евы, і мама ўвайшла заплаканая. «Няма, сыночак, болей Валодзькі»,— сказала яна. «А дзе ж ён? Куды дзеўся?» — здзівіўся я. «Памёр Валодзька. Анёлы душачку ў рай панеслі».— «А Валодзька тут без душы астанецца?» — ніяк я не мог уцяміць, як людзі паміраюць. Гэта была першая смерць у маім жыцці.

Назаўтра маці загарнула мяне ў сваю гаматную клятчастую хустку, абкруціла ногі мультановымі анучачкамі, абула ў недзе падабраныя маленькія галёшыкі і панесла да цёткі Евы.

Двор быў белы ад чыстага снегу, шчабятлівыя сінічкі з бэзавых кустоў страсалі хрусткі іней, пахла марознай свежасцю і настылай кужэльнай бялізнай.

У цётчынай Евінай кватэры перад зіхоткімі абразамі гарэла чырвоная лампадка, на ўслоне, засланым белым прасцірадлам, ляжаў маленькі зжоўклы Валодзька. Кіпцікі на складзеных ручках пасінелі, заплюшчаныя вочкі глыбока запалі, на лбе — вузкая паперка з ней-

кімі малюнкамі, пакручастымі літарамі. У галавах у шклянцы з жытам гарэла і аплывала тоненькая свечка. Я баяўся, каб гарачая кропля воску не капнула і не апякла Валодзькаў лоб. Воск сплываў і застываў вузельчыкамі на свечцы і шклянцы. Валодзька не варушыўся. Мне хацелася пабудзіць яго і паклікаць у двор. Я не ведаў, што такое смерць: чаму ён ляжыць, а ўстаць не можа, ёсць, а кажуць, яго няма. Чаму?

Заліваецца слязамі цётка Ева, Насця ўкленчыла на падлогу каля ложка, круціць галавою і заходзіцца плачам. На лаўках сядзяць і паціху гамоняць нейкія сухія і чорныя бабулькі, маленькая гарбаценькая царкоўная служка суцяшае цётку Еву: «Грэх так убівацца, Евачка, богу спатрэбілася тваё дзіцятка. Анёльская душачка ўжо та-ам! — яна тыцнула сухенькім пальцам у столь — перад усявышнім». Мне зрабілася страшна, каб і мая душачка яму не спатрэбілася, я з апаскаю зірнуў на абразы: сівабароды бог сярдзіта глядзеў на мяне і паказваў пальцамі на неба. Я пачаў хавацца за маму, а яна не разумела майго страху і ўшчувала, каб не круціўся.

Дзядзька Пятро грукае ў свірне. Плача і мая мама. Дагарае, аплывае свечка, цётка Ева ад яе запальвае новую і ставіць у шклянку з жытам. Дзядзька Пятро ўносіць маленькую дамавінку, яна пахне марозам і смаловым духам свежых стружак. У дзядзькі Пятра на кончыку шырокага чырвонага носа дрыжыць празрыстая кропля, другая паволі паўзе па шчацэ. Бацька асцярожна бярэ на рукі спруцянелае Валодзькава цельца і кладзе ў труну. Шырокія плечы

дзядзькі Пятра калоцяцца ад нячутнага плачу, відаць, ён вінаваціць сябе, што павёў у такую сцюжу сына ў лазню і загубіў яго.

Цяпер і я паверыў, што Валодзька болей не ўстане і не прыбяжыць да мяне, не будзем больш з ім дурэць у свірне на сене, хавацца ад пана Клецкага за кустамі бэзу. І я заплакаў наўзрыд, як ад пякучага болю і самага вялікага жалю. Мама вывела мяне з хаты, а ў двор уваходзіў у доўгай чорнай расе айцец Алімпій, за ім хуценька дрыпаў з кадзілам у руках сухенькі дзячок.

Мама замкнула мяне ў пакойчыку, а сама пайшла за дамавінаю на клады. Больш я ніколі Валодзьку не бачыў, нават карткі яго не засталося. Ведаў толькі невялічкую магілку каля капліцы з нізенькім крыжам і злінялым ад дажджоў і сонца абразком. Калі я падрос, часта хадзіў на клады і ніколі не мінаў магілку свайго лепшага таварыша. Яго смерць была першаю стратаю ў маім жыцці, першым вялікім горам, але не хацелася верыць, што некалі гэтак жа закапаюць і мяне, што ўсе людзі павінны памерці, што не будзе маёй мамы і ўсіх, каго бачу, ведаю і люблю.

Управіўшыся з работаю, вечарамі мама запальвала лампадку перад маленькім абразком багародзіцы, я станавіўся ў ложку на коленцы, складаў далоні і, гледзячы на мігатлівы чырвоны бляск на акладзе, шаптаў: «Отча наш, іжа ясі на небясі...» і не разумеў ніводнага слова малітвы. Маліўся, а думаў адно, каб толькі мая душачка не спатрэбілася богу, і хаваўся, каб ён не бачыў мяне. Багародзіца — жанчына, можа, трохі літасцівейшая, у яе ж на руках сваё

дзіцятка, дык з чужымі толькі лішні клопат. Шаптаў малітву за мамаю, а думаў, ці скора з вайны вернецца татка, які гасцінец прынясе і ці дасць заўтра цётка Ева з панскай кухні маме піражочак.

Пасля малітвы мама расказвала казку. Відаць, прыдумляла сама, бо часта збівалася, блытала імёныцароў і разбойнікаў і засынала раней за мяне. Чэкалі на сцяне ходзікі, рыпела аканіца, стагнаў у коміне вецер. Часам снілася, што мы з Валодзькам катаем адзін аднаго ў саначках, гуляем у снежкі, зрываемся з кручы і ляцім, ляцім у снежным пыле. Я веры ў: ён прыходзіць у мае сны, заўсёды маленькі і вясёлы, а потым знікае і доўга-доўга не вяртаецца.

У снах, як і ў жыцці, няма логікі і паслядоўнасці.

Позняй восенню снілася мне надоўга запомненая сонечная вясна. Над зацягнутым брослю і жабурыннем берагам сажалкі да самай вады схіліліся старыя дуплаватыя вербы. Іх тонкія косы, усыпаныя мяккімі жоўтымі чмялямі коцікаў, купаюцца ў зялёнай вадзе. Крумкае, крэкча, заходзіцца на ўсе галасы жабіны хор. У прагалах бросні сінее чыстае неба, плывуць ружавата-белыя воблачкі. Яны аднолькавыя ў сажалцы і нада мною. На тым беразе сажалкі выцягнуліся ў самае неба дзве белыя званіцы старасвецкага касцёла з пукатым чырвоным купалам, з каляровымі шкельцамі ў вузкіх акенцах. Сонечныя прамені ў іх пералівающца чырванню і золатам, чыстым блакітам і густой зелянінай. Увечары, пад месячным святлом касцёл здаецца лёгкім і дзівосным пры-

відам. Наўкола — высокі здзірванелы вал — старадаўняя абарона ад прыхадняў — дзікіх ордаў і крыжакоў.

Я гайдаюся на вярбе. Яе голле ў наростах і гузырах рыпіць драчыным стогнам, кашлатыя коцікі хмеляць саладкаватым водарам і асыпаюцца дробненькім жоўтым пылам. Так прыгожа наўкол, так светла, сонечна, лагодна і ціха, што ад замілавання аж хочацца заплакаць, усё і ўсіх любіць, быць ласкавым і добрым, чулым і шчодрым, не злавацца і не крыўдзіць нікога.

Мне трынаццаць гадоў. Я яшчэ добра не ведаю, дзе ў мяне сэрца, але яно татахкае ў грудзях і просіць пяшчоты, а думкі «мкнуцца мімаволі туды, дзе расцвіла вясна». Я ведаю і люблю гэтыя вершы і сам спрабую нешта складаць, але, як той глуханямы, усё бачу, усё адчуваю, а сказаць не магу: словы становяцца рубам, зліпаюцца, як цукеркі-падушачкі, глухнуць, як толькі пачынаю іх рыфмаваць. Ад бяссілля ўпадаю ў роспач: паміж жаданнем і магчымасцю — прорва.

У мяне ўжо ёсць свае тайны. Пра іх нават сорам прызнацца самому сабе: я прыглядаюся крадком да сваіх равесніц і старэйшых дзяўчынак, дражняць маё ўяўленне іх круглыя каленцы, пульхныя вусны і ледзь прыкметныя бугарочкі пад сукенкаю, а ў некаторых ужо вытыркаюцца два гузічкі ад станіка. Я баюся прызнацца сабе, што трывожаць і будзяць невыразныя жаданні дакрануцца хоць бы да рукі ў чарнільных плямках, пабыць удваіх, сказаць нешта ласкавае. Калі ж здараецца апынуцца разам, калоціцца сэрца, язык дубее або пляце

нейкае глупства, каб толькі не паказаць сапраўдныя пачуцці і жаданні. Якая гэта салодкая трывога і пакута!

Я злажу з вярбы і караскаюся па крутым схіле вала наверх. Пад нагамі апаўзае адталая зямля і леташняя прэлая трава. Па ўсім вале пратаптана бітая сцежка. Сям-там старыя пarэпаныя вербы схіліліся і перагарадзілі яе. Я гляджу наўкол. Да самых местачковых хат падышла паводка, заліла паплавы і грады, двары і нізкія вуліцы, выган і зарэчныя лугі, далёкія пясчаныя выдмы, затапіла астравы, лазнякі і алешнікі, далёкія дубы па самую макаўку стаяць у вадзе. Рудаватая ад леташніх траў і глiністых берагоў паводка гайдаецца, драбіцца і зіхаціць на сонцы, нібы друзачкі разбітых люстэркаў. Куды ні зірнеш, бялеюць чароды гусей, лапочуць крыллем, куляюцца ў ваду, а то з крыкам зрываюцца ў лёт і зноў плюхаюцца, знікаючы ў веееры пырскаў. Следам за качарамі з сінімі пасачкамі на крылах плывуць чароды качак. Над паводкаю стаіць плёскат, радасны птушыны грай і крык. Усё радуецца цяплу, вадзе і вясне, усё хоча жыць, кахаць і памнажаць свой род. Усё гэта ўмясціла адно слова В Я С Н А.

На касцёльных званіцах — дзве вялізныя старыя буслянкі. Раз-пораз у іх залятаюць з клёкатам і сухім трэскам буслы, павольна махаюць шырокімі крыламі і з дзюбы ў дзюбу перадаюць здабычу. Неба, вада і зямля іскрацца, пераліваюцца зіхатлівым бляскам, пахнуць праснаватым, то гаркавата-салодкім водарам коцікаў, лотаці і набрынялай чаромхі.

Я стаю на вале і любуюся бязмежным ва-

дзяным прасторам. Пад ім знікла пакручастая рэчка, і толькі дзе-нідзе гайдаюцца над вадою ледзь прыкметныя чубкі надрэчных кустоў ды імклівей струменіць вада на нябачным рэчышчы. Стаю, як зачараваны, убіраю веснавое святло, колеры і пахі, шлюбна-трывожныя крыкі гусей, буслiны клёкат, кракание качак і суладнае крумканне, крэкты і стогны жабіных аркестраў у заброснелай сажалцы. Усё жывое святкуе адраджэнне, усё ўлюбёнае ў жыццё, у яго працяг, у веснавое разводдзе, у чысціню глыбокага неба, у зіхатліва-крыштальнае паветра.

Вясна пачынае новы круг аднаўлення, радасна кліча да жыцця новыя пакаленні птаства і траў, лістоў і буйных зярнят, звяроў і мурашак, ідуць на нераст рыбы, з кветкі на кветку ляціць непрыкметны пылок, яго нясуць на сваіх ножках нястомныя пчолы — пачынаецца новы круг жыцця. Я шапчу знаёмае: «Вясна, вясна жаданая, ты прыйдзеш зноў, ты вернешся, і першы гром, як музыка, таемна так пракоцiцца...» Чаму таемна? І ўяўляю сінюю з падпалінамі хмару, ломкую зіхатлівую маланку, у нейкіх невядомых глыбінях неба глухое вуркатанне, яно бліжэе і нарастае, набірае сілу і раскочваецца ўслед за маланкаю расколатым стрэлам, уздрыгвае зямля і гром паволі адкочваецца глухім гулам за небасхіл.

Я шапчу Коласавы радкі і думаю, як проста самымі звычайнымі словамі паэт адкрыў вясну, яе вечны дух адраджэння і абнаўлення, з усімі колерамі, гукамі і пахамі, з халадком росных світанняў, з прадчуваннем першай навальніцы. З якім шчымным жалем сказана пра

незваротную маладосць, пра страчаныя гады. Мне гэта не зразумела, бо яшчэ і маладосць не прыйшла, я толькі — на парозе зялёнага юнацтва і, апрача гэтага наваколля, нічога яшчэ не бачыў, і веру, што нічога лепшага і прыгажэйшага быць не можа. Таму так хочацца пра ўсё, што бачу, адчуваю і люблю, расказаць самымі прыгожымі словамі, каб усе ўбачылі і адчулі ўсё, што хвалюе і радуе мяне — гэтыя зарэчныя лугі, неба з ружовымі воблакамі, далёкія дубровы, ціхую плынь ракі і бясконцае разводдзе. Спрабую, а патрэбнага, адзінага слова ніяк не знайсці: адчуваю і бачу адно, а на паперы выходзіць нейкае невыразнае мармытанне, расквечанае чужымі і штучнымі санцавеямі і веснаходамі. Што нешта пішу, сорамна прызнацца нават самым блізкім, бо пісьменнік мне ўяўляецца незямною істотаю. А я? Што я? Нават яшчэ і чыгункі не бачыў, прачытаў дзесятак выпадковых кніжачак. У школьнай ведамасці паспяховасці бліжэй да канца, чым да пачатку: на матэматыцы часцей туляюся за чужыя спіны, а на кантрольных больш гляджу ў суседаў сшытак. Толькі і хваляць мяне за маляванне, спевы ды звонкую дэкламацыю.

Асабліва балюча, калі пачынаеш сам сябе дакараць і пакутаваць за ўласныя няўдачы. Але мары не даюць спакою: гляджу на разводдзе, на блакітную стужку далёкіх лясоў і думаю, думаю, што ж там, за імі? Той дзівосны, невядомы свет, таемны, як музыка першага грому, далёкі і недасяжны... І ўсё ж уяўляю сябе ў ім шчаслівым і роўным з усімі. Так, *я* — летуценнік, а хто не марыць у светлую падлеткавую пару? Хоць тады ніхто сябе шчаслівым не

лічыць, а самыя дробныя няўдачы здаюцца непапраўным горам, пакутаю і пакут. У пятым класе я дайшоў да адчаю, калі выкладчык матэматыкі мне даў пераэкзаменоўку на восень. Я хаваўся ад таварышаў і знаёмых, адчуваў сябе апошнім дурнем і гультаём, здавалася — кожны сустрэчны ведае пра маю бяду і не спагадае, а зларадна кпіць і здалёк тыцкае пальцам: «Вунь ён, пераэкзаменоўвачнік, а яшчэ пнецца нешта пісаць і пасылаць у рэдакцыі...»

Сапраўды, я хаваў лісты ў фірменных канвертах, бо загадзя ведаў, што яны мяне не парадуюць, у іх мае пісанні называлі «вершаванымі спробамі» і раілі больш чытаць класікаў і старанна вучыцца. Усе мае няўдачы круціліся, як сапсаваная патэфонная пласцінка, вярзлося адно і тое ж: «ні на што не здатны пакутнік». Дайшоў да таго, што стала нямілым жыццё — спрабаваў кінуцца ў вір — няхай папакутуе і пашкадуе матэматык і той, хто кпіць з мяне. Але ўтапіцца не ўдалося. З маленства я добра плаваў і даваў нырца. Кінуся ў самую глыбіню, затрымаюся пад вадою, а зверху прабіваецца зеленаватае святло, побач віляюць хвастамі рыбы, успамінаецца: «и в распухнувшее тело раки черные впились», апаноўвае страх, і я выплываю на другім беразе, дрыжучы ад глыбіннага холаду; самому становіцца шкода сябе, падаю на цёплы пясок, заплюшчваю вочы, пад ружовымі павекамі ляцяць і знікаюць маленькія зорачкі, над вухам гудзе авадзень, недзе рыкае карова і крычаць спалоханыя гусі. Н-е-е! Хіба ж можна пакідаць такую зямлю, неба і сонца, усё звонкае, зіхатлівае наваколле? А што будзе з маёю беднаю мамаю? Ці вытры-

вае яна? Цётка ж Ева і дасюль плача па сваім Валодзьку. Думкі чапляюцца адна за адну, пераскокваюць з успамінаў на мары. Я ўглядаюся ў бяскрайняе разводдзе: яно мне ўяўляецца морам, і здаецца, вось-вось аднекуль выплыве карабель пад белымі ветразямі.

Думкі перабіў знаёмы голас: «Даўно ты тут?» Азіраюся — Валодзева сястрычка Насця. Як яна вырасла, якая ладная ды прыгожая з раннімі прыкметамі дзявочай пекнаты. Яна ідзе на клас вышэй за мяне, а выглядае паненкай. Я гляджу і маўчу. «Што табе, мову заняло?» — «Ты так падобна на Валодзьку»,— недарэчна ляпнуў я. А можа, і Насці тады падумалася, што і Валодзька быў бы такі цыбаты і даўгарукі, з ружовымі прышчыкамі на лбе, як і я.

Насця страсянула прыгожай галоўкай з хвалістымі валасамі і загаварыла заклапочана і будзённа: «Сплылі некуды качкі і трэці дзень ні слыху ні дыху. Можа, дзе ў ракітніку наклалі яек, выведуць качанят і здзічэюць. Мама паслала шукаць, а дзе іх знойдзеш? Унь як разлілося! Ты часам не бачыў?» — «Не, не бачыў, а пашукаць можна». Я збег з вала. Унізе стаяла лодка нашага суседа Сашы Пітушкі. Вёслы ён хаваў у лазовым кусце, а замок на ланцугу вісеў так, для прыклёпу. Я дастаў вёслы, сапхнуў лодку і ўзяўся памагчы Насці. «А Саша сварыцца не будзе?» — «Не бойся, хутка звечарэе, а інакш ён у рыбу не ездзіць. Пакатаемся, пашукаем, можа, і знойдзем».— «Глядзі толькі, каб не папала нам». Мяне апанавала дурная смеласць: «Хадзі хутчэй сюды». Насця збегла з вала, я падтрымаў яе за руку, каб не начэр-

паць у лодку вады, пасадзіў на карму, паставіў качоты. Насця трымалася за барты хісткай лодкі, я адпіхнуўся вяслом, і мы паплылі. Што мы знойдзем качак, відаць, не спадзявалася і Насця. Дзе ты іх знойдзеш, калі ўсё разводдзе ўкрыта чародамі птаства, яно плыве, зрываецца ўлёт, крычыць, лапоча крыламі. От і нам захацелася сплысці далёка-далёка, туды, дзе віруе вада, дзе стаяць у вадзе старыя алешыны і дубы з пакарабачаным шаматкім лісцем.

Пад вадою была відна леташняя трава. Гайдаўся пасохлы аер, пахла прэснаю свежасцю талай вады, цягнула халадком нядаўняга крыгаходу.

Сонца паблякла над зарэчнымі лясамі, запырскала чырваннню дробныя хвалі і пенную дарожку за кармою, шырокімі слупамі праменняў папрабівала хмары і павісла над небасхілам, як да чырвані нагрэтая патэльня. Мы плылі ўслед за сонцам. Я налягаў на качоты, рыпелі жалезныя шворны ў размеленых гнёздах, далоні смылелі ад вёслаў, а зверху мерзлі і сівералі рукі. Вясло часам зрывалася, і пыркі ляцелі на Насцю, яна атрасала кроплі з сукенкі і бяскрыўдна прасіла: «Ты ж не вельмі пырскайся».

Мы даўно забыліся пра качак. Іх паменела на вадзе. Відаць, сплылі ў зацішныя чарацяныя затокі. Часам нашу лодку падхоплівала віратлівая плынь і некуды імкліва несла, пад намі была халодная чарната: значыць, выплылі на рэчышча, і апаноўваў страх — барані божа перакулімся, ніхто і не дазнаецца, куды дзеліся, пакуль не спадзе вада.

Сонца закацілася за лясы, цямнела і бляк-

ла на захадзе зіхатлівая чырвань, пацягнула холадам і пачало хутка змяркацца. На пазелянелым небе прарэзаўся тоненькі маладзічок. Мы заплылі так далёка, што за смугою зніклі вал і мястэчка, туманам завалакло і касцёльныя званіцы. Нам ужо было не да качак. На далонях палопаліся намуляныя мазалі, у лодцы з нябачных шчылін прыбывала вада, Насця калацілася ад холаду і страху, што заблудзіліся і да берага не прыб'ёмся. Пякучым болем смылелі змуленыя і закачанелыя далоні, чаравікі намоклі, у лодцы хлюпала вада, і я ўжо амаль не чуў ног, але налягаў на вёслы. У змроку знік далёкі лес, нідзе ніводнага агеньчыка, ніводнага гуку, толькі рыпяць і плюскочуць вёслы. А куды плывём, я не ведаў. Часам клаў вёслы на борт, апускаў далоні ў ваду, каб хоць трохі адышлі ад пякучага болю. Лодка круцілася на месцы.

«Што ж ты нарабіў? Куды мяне звёз? Што падумае мама? Яна ўжо недзе бегае па вале і гукае мяне». Я суцяшаў Насцю і зноў браўся за вёслы, гроб з новаю ўпартаю сілаю. Раз-воддзе ўсыпалі дробныя зоркі, побач з лодкаю плыў і гайдаўся маладзічок. Я сядзеў спінаю да носа лодкі і не бачыў, куды мы плывём.

«Глядзі, глядзі! Нешта свеціцца!» — ускрыкнула Насця. Я крута павярнуўся і ўбачыў за спінаю некалькі мігатлівых кропель, а над імі, нібыта ў паветры, разгаралася полымя. Я адразу ўсцешыўся і акрыяў духам: «А ты баялася... Я ж казаў — скора дома будзем».— «Добрае скора. Ты ж ледзьве рукамі варушыш. Давай мне вёслы». Я і рады быў бы аддыхнуць, але ў поцемках у хісткай лодцы небяспечна

было перасаджвацца, ды і мой хлапечы гонар не дазваляў саступіць сваё месца. Мы плылі моўчкі. Я шкадаваў, што напаткаў Насцю і ўзяўся шукаць тых качак, а яна, відаць, кляла мяне, што ўгаварыў плысці па разводдзю.

Агонь набліжаўся. Я падумаў, ці не для нас нехта расклаў вогнішча. Вёслы шлёпалі без размаху, без захопу глыбіні, без ранейшай сілы. Вакол лодкі кругамі расплываліся зоркі, я разграбаў іх вёсламі, а тонкі маладзічок ужо адплыў далёка-далёка. Хоць і смылелі палопаныя мазалі, я з апошніх сіл налягаў на качоты. Хутка вясло дастала да дна. Ад вогнішча пачырванела вада і Насціна аблічча. Было радасна, што прыбіліся да берага, і боязна апраўдвацца перад бацькамі і Сашам Пітушкам за лодку.

Я ўсё ж пацэліў падплысці да слупка, памог Насці выскачыць на сухое, прыкруціў лодку ланцугом і пачапіў замок без ключа. Зверху пачуўся знаёмы настылы голас: «Ну, вы, абармоты, ідзіце грэцца». Мы павольна на здранцвелых нагах ускараскаліся на вал. Каля вогнішча ў світцы і зімовай шапцы стаяў Насцін бацька.

«Мы качак шукалі...» — пачаў я апраўдвацца за сябе і Насцю. «Што ж вы, знайшлі?» — «Дзе ты іх знойдзеш, татачка?!» — «А яны цябе шукалі і мяне паслалі дашукваць. Грэйцеся, а то адсюль было чуваць, як зубы ляскацяць».— «А як вы дагадаліся?» — «Качкі сказалі»,— засмяяўся дзядзька Пятро. Мы працягнулі да вогнішча задубелыя рукі і маўчалі. Хацелася апраўдацца, нешта растлумачыць, але навошта хлусіць, калі на цябе не сварацца і не

папракаюць. Маўчыць і дзядзька Пятро, толькі шморгае носам і ўздыхае.

Над намі зорнае неба, высока ўскаціўся тонкі маладзічок, дагарае вогнішча і блякне на цёмнай вадзе.

## РАДЫЁ

Раптам прыснілася даўно забытае і некалькі дзён не давала спакою, ажывіла ў памяці ўсё да драбніц — знаёмыя і незнаёмыя абліччы, пахі, колеры, гукі, нізкія хмары і дажджынкі на шчацэ, чорны, як дзёгаць, размешаны коламі і нагамі жужаль на базарнай плошчы, сотні фурманак з паднятымі аглоблямі, пах каламазі і сырамятнай скуры — усё ажыло і паплыло перад вачыма.

Гуў, таптаўся, гаманіў на ўсе галасы кірмаш, свісталі гліняныя пеўнікі і рохкалі на вазах подсвінкі, мэкалі авечкі, іржалі коні. У палатняных палатках пішчалі бляшаныя дудачкі, віселі нізкі ружовых, з цукровым хрустам, пернікаў, каля вазоў, запусціўшы галовы ў зрэбныя торбы, коні хрумсталі авёс. Каля доўгага шару крамаў стаялі гаршкі, глякі, «спарышы», макатры і гладышкі, а над імі каціўся перазвон: дзядзькі стукалі па боку пугаўём, жанкі — пушкаю сагнутага пальца і куплялі добра паліваны і звонкі посуд. Перапечкі насілі кашы́ пахкага цёплага печыва і крычалі: «Каму халы, куханы, абаранкі, б-у-б-лі-кі!» Іх перакрывалі сіпатыя галасы: «Чобаты новыя, перады юхтовыя, з рыпам, з берасцінкай, шыты дратвай і шчацінкай».

Чаго толькі не было на гэтым кірмашы?!

На дзяўчатах мільганулі чырвоныя, сінія і зялёныя шаліноўкі, ладныя кабацікі аблягалі зграбныя станы. Хлопцы казырыліся сваімі чубамі, што выкручваліся з-пад збітых набакір шапак з прыгнутымі бліпчастымі казыркамі. Усе лузалі гарбузікі і пеўнямі круціліся каля незнаёмых дзяўчат, скалілі зубы, нешта вясёлае балабонілі, спрабуючы то абняць, то ўшчыкнуць каторую.

Адным бокам рыначная плошча ўпіналася ў цвінтар драўлянай царквы, трошкі далей, з другога боку, стаяла белая, як воблака, з блакітнымі купаламі і пазалочанымі крыжамі каменная царква. Непадалёк, за здзірванелым валам высіўся касцёльны гмах з дзвюма стромкімі званіцамі. Казалі, ён відзён аж за трынаццаць вёрст ад мястэчка. Можа, і праўда. Так што кожны рыначны злодзей і ашуканец, праваслаўны і каталік, мог адразу замаліць свае грахі, не адыходзячы ад месца сваёй дзейнасці.

Але не толькі рэлігійнай сутнасцю, а сваёй вышынёю касцёл і цэрквы заміналі прагрэсу. Справа ў тым, што было вырашана ў нардоме мець сваё радыё. З Мінска прыехаў паважны высокі мужчына ў бліпчастых акулярах, у капелюшы і кароткім клятчастым палітоне. Інжынер. Месца для радыёмачтаў ён выбраў на пустыры непадалёк ад рынку і нардома і сказаў, што яны павінны быць вышэй за ўсе мястэчковыя будынкі. З лесу прывезлі самыя гонкія хвоі, акарылі іх, стачылі ў замок, паскручвалі жалезнымі хамутамі, прыварылі расцяжкі, абедзве мачты злучылі антэнаю, прымацаванаю беленькімі, як фасоліны, ізалятарамі. Паднімала і закопвала тыя мачты бадай палова мя-

стэчка, а другая стаяла наўкол і давала парады: каму за які канат лепей цягнуць. Нарэшце мачты сталі, замацаваныя тоўстымі драцянымі расцяжкамі. Інжынер хадзіў вясёлы і рады. Заставалася ўстанавіць у нардоме прыёмнік, і загаворыць радыё. Праўда, мала хто з местачкоўцаў верыў, хіба можна пачуць, што скажуць у Маскве і ў Мінску: гэта ж такая далеч, а дрот толькі паміж двума слупамі, і ўсё ж чакалі гэтага дзіва.

Неяк ноччу ўсхадзіўся вецер, ды такі, што дзе-нідзе пазбіваў каміны, пааддзіраў ад таполяў сукі, зламаў стралу каля студні, а раніцай на зямлі ляжаў адзін канец антэны з белымі фасолінамі ізалятараў. Інжынер не знаходзіў сабе месца і ніяк не мог даўмецца, як пачапіць на месца антэну. Апусціць і назад паставіць мачту наўрад ці ўдасца — зверыліся людзі, прыйдуць, паглядзяць, пасмяюцца, пакпяць і разыдуцца...

У кірмашовы дзень прыйшоў інжынер на рыначную плошчу, стаў на воз і падняў руку. Маленькі кудлаценькі капельмайстар духавога аркестра добраахвотнай пажарнай каманды на ўсю плошчу пратрубіў сігнал: «Слухайце ўсе!» Аж спудзіліся маладыя коні, ад нечаканасці войкалі і затыкалі вушы палахлівыя жанкі. Гамана сціхла, усе глядзелі на чалавека на возе. Інжынер зняў капялюш і замахаў, каб падышлі бліжэй.

— Таварышы! Мы зрабілі ўсё, каб вы пачулі голас Масквы і нашай беларускай сталіцы. Бура мінулай ноччу сарвала антэну, а без яе нічога не пачуеш. Я спадзяюся, што сярод вас знойдуцца спрытныя і адважныя хлопцы, уз-

лезуць на мачту і зачэпяць антэну. Хто гэта зробіць, атрымае ўзнагароду 25 рублёў.

Дальнія перапытвалі, што ён там кажа, няўжо дваццаць пяць рублёў, гэта ж такія грошы! «Але і ўзлезці не на печ ці азярод»,— пярэчылі асцярожныя.

Інжынер пайшоў да мачты. Міналі хвіліны — ніхто не падыходзіў. Віхляючыся, прытупаў падпіты хлопец у саматканым фрэнчы і ружовай расхлістанай кашулі і запытаў:

— А грошы адразу ці па ве-ма-дасці, цьфу! Ве-да-масці?

— Табе па ведамасці, як толькі праспішся,— адказаў інжынер.

— Чулі? Мяне спаць пасылае. Да я табе гэную драціну, калі хош, адсюль закіну. Не верыш? Давай на заклад. Ну.

Тым часам да інжынера падыходзілі хлопцы, задзіралі ўгору галовы, прытрымліваючы на патыліцы шапкі, углядаліся ў кончык мачты, а ён, здавалася, чыркае па нізкіх хмарах. «Адсюль глядзець, галава круціцца, а адтуль ляснешся, і касцей не збяруць».— «А ты не глядзі, зажмурся і лезь, дык і страху не будзе»,— перагаворваліся хлопцы. «Паспрабаваць, ці што?» — падышоў дзяцюк у крамных портках з напускам над наваксаванымі халявамі, скінуў світку, ухапіўся за гладка абструганы камель, пралез метраў пяць і ссунуўся, як куль. Яшчэ чалавекі чатыры караскаліся, але, не далезшы да першай расцяжкі, з'язджалі долу.

Інжынер стаяў разгублены і змрочны. «Ну, хлопцы, хто яшчэ паспрабуе?» — пытаўся ён. Аднекуль з-за натоўпу праціснуўся невялічкі хлопец, з тварам, усыпаным рудымі вяснушка-

мі, у вялікіх ботах і злінялай будзёнаўцы. Нічога не кажучы, разуўся, скінуў будзёнаўку і світку, расперазаў папружку, спутаў ёю босыя ногі, папрасіў у хлопца яшчэ адну дзяжку, да яе прычапіў канец антэны, падперазаўся. Да яго падбег інжынер і пачаў тлумачыць, як і за што прыкруціць антэну. Нейкі весялун крыкнуў з натоўпу: «Глядзі, канапаты, порткі згубіш, голым задам на ўсё мястэчка пасвеціш». А той толькі скоса зірнуў, цыркнуў праз зубы слінаю, ухапіўся за мачту, ашчаперыў яе спутанымі нагамі, спрытна і лёгка палез угору, толькі надзімалася на спіне сіняя кашуля ды пагойдвалася мачта, а ён лез і лез усё вышэй і вышэй.

У натоўпе каля мачты ўсе сцішыліся і задралі ўгору галовы. Тыя, што спрабавалі ўзлезці, пакеплівалі: «От палядзіш, зараз шусне», «Ужо трымціць. А тычка гэтая, як лазіна, гнецца». А канапаты дзяцюк лез усё спрытней і спрытней. Прывязаная да папружкі антэна паўзла ўгору і ўсё больш напіналася, постаць хлопца менела і менела. Інжынер не зводзіў з яго вачэй — радаваўся і баяўся, каб не сарваўся, тады яму нездабраваць. Пры кожным перахопе рукамі і нагамі мачта згіналася і выпроствалася зноў. Сцішыўся і рынак. Людзі пазадзіралі галовы і сачылі за кожным рухам хлопца на мачце, а ён усё менеў і менеў. Калі далез да верху, звязанымі папружкай нагамі моцна ашчаперыў мачту, падаўся назад, каб прутчэй напялася дзяга на поясе, і пачаў прыкручваць канец антэны. Усталявалася такая цішыня, што чуваць было, як часта дыхае інжынер, ціха божкае і хрысціцца немаладая кабета.

Праз колькі хвілін хлопец папоўз уніз. Натоўп з палёгкаю ўздыхнуў, а хлопец асцярожна абміноўваў жалезныя хамуткі і расцяжкі, чым ніжэй спускаўся, тым павольней перабіраў рукамі. Ужо відаць былі пачырванелыя ад холаду босыя ногі і вяснушкавы твар. Ён саскочыў на зямлю, адвязаў абедзве папружкі, выцер рукавом кірпаты нос і, нічога не кажучы, сеў абувацца. Да яго падышоў інжынер:

— Дарагі ты мой! Ну, выручыў, ну, дзякую...

— На дзякуй сала не спячэш. Гані манету. Там я парсюка сабе нагледзеў,— прытупнуў ботамі верхалаз, надзеў світку і ўскінуў на патыліцу будзёнаўку. Інжынер з-за пазухі дастаў пляскаты партманецік, адлічыў грошы і аддаў хлопцу. Той іх старанна разгладзіў на далоні, схаваў за падкладку будзёнаўкі і знік у кірмашовым натоўпе. Хто ён, чый і адкуль, ніхто не ведаў, толькі дзівіліся смеласці і спрыту, а некаторыя зайздросцілі, што так хутка адхапіў столькі грошай.

Да самых замаразкаў наезджы інжынер корпаўся ў нардоме каля прыёмніка з вялікаю, як у грамафоне, трубою. У ёй нешта шаргацела, трашчала, булькала і мармытала. Вучыў інжынер упраўляцца з гэтаю скрынкаю майго суседа Лаўрэна Грамыку. Ён часам і мяне пускаў паглядзець, як мільгае зялёнае вочка ў прыёмніку. З першымі маразамі прыёмнік загаварыў, не заўсёды выразна і гучна, але гаманіў. Лаўрэн выстаўляў трубу ў адчыненае акно. Каля нардома збіраўся натоўп местачкоўцаў паслухаць не столькі што гавораць, а як гэта без правадоў даходзяць галасы з Масквы і Мінска. Са-

мая скептычная жанчына вырашыла, што гэта Лаўрэн схаваўся і нешта мармыча. «Лаўрэн, пакажыся!» — «Ну, чаго?» — вытыркаўся Лаўрэн [redacted] акна і пускаў радыё на ўсю сілу, а калі заіграла музыка і заспявалі, паверылі ўсе, што і Масква і Мінск чуваць без падману.

Прыходзілі слухаць радыё ў кажухах і валёнках, жанкі закручваліся ў вялізныя хусткі, тупалі па хрусткім снезе на марозе, пад халоднымі буйнымі зоркамі. Самыя трывушчыя дастойваліся да самага «Інтэрнацыянала».

Там, дзе некалі была рыначная плошча, шуміць ужо састарэлы парк; ад нардома і знаку не засталося, зніклі абедзве царквы і касцёл, у мястэчку выраслі пяціпавярховыя дамы, па асфальтаваных вуліцах гуляюць падлеткі ў джынсах і штроксіках, з транзістарамі цераз плячо. Гучыць залівістая да крыку песня: «Жизнь невозможно повернуть назад...» Нельга і не трэба!

## ГАСТРАЛЁРЫ

Сон пра сон вярнуў мяне ў тую бесклапотную пару, калі так добра марылася, бо не было яшчэ чаго ўспамінаць. Верылася, што наперадзе толькі светлая шчаслівая далеч, узлёты і поспехі, без клопатаў, трывог і няўдач. А ў жыцці было ўсё наадварот. Такі ўжо лёс майго пакалення: і ў горы былі свае радасці, без пакут і шчасцю не быў бы рады. У жыцці чалавека ўсё чаргуецца, як дзень і ноч, як дождж і сонца, як зіма і лета...

А ў тым шчаслівым падлеткавым узросце

чым толькі не захапляліся мае аднагодкі, чаго толькі не прыдумлялі ў нашай палескай глушы.

Глуш была сапраўдная, але хлебная і сытая, і нялёгкую дарогу да яе часта знаходзілі нейкія сумніцельныя трупы з пастарэлымі «гераінямі» і аблыселымі «любоўнікамі». Яны ставілі «Марусю Багуслаўку» і «Салдата-чараўніка», «Цыганку Азу» і «Бандарівну», з казакамі і шаблямі, гапакамі і спевамі, з трагічным каханнем і самагубствам на сцэне. За білеты часцей за ўсё плацілі жытам і салам, а такія жэўжыкі, як я, лазілі ў нардом праз адчыненае кім-небудзь спагадлівым акно і не прапускалі ніводнага прадстаўлення. Потым у абсмаленай пажарам пустой ксяндзовай стадоле з аполкаў ладзілі сцэну і паўтаралі па памяці тыя спектаклі, што бачылі ў нардоме.

Аднаго разу мястэчка ўзрушыла навіна — прыехаў і будзе выступаць гіпнатызёр. Што гэта такое, ведалі не многія, хоць і здагадваліся, што незвычайны чараўнік пакажа нешта зроду не бачанае. І прозвішча яго было дагэтуль нікім не чутае — Альберт Маран.

Як жа дапяць у нардом, каб пабачыць, што гэта за гіпноз. Пра білеты не было чаго і думаць: грошай у мамы не было, ды каб і былі, на забаўкі б ніколі не дала. Праз тое ж прыадчыненае акно я ўкуліўся ў забіты людзьмі клуб, прашыўся наперад і з-за абшмулянай спінамі грубкі ўглядаўся ў кожны крок і рух на сцэне. А там сапраўды былі ніколі не бачаныя дзівосы.

Нячутна, нібы плаваў, рухаўся невысокі шчуплы мужчына ў чорным сурдуце, з вялікім чорным бантам на шыі, і валасы былі чорныя,

расчасаныя на роўны прабор і нібыта прылепленыя да невялікай круглай галавы. На століку ён узяў доўгую бліщчастую шпільку, памахаў ёю са свістам у паветры, высалапіў язык, левай рукою прытрымаў яго за кончык і праткнуў навылёт. У зале войкнула некалькі жанчын, а гіпнатызёр пайшоў па праходзе, паказваючы свой прапораны язык. Гэтак жа спакойна ён праткнуў навылёт ніжэй локця руку, потым па самае дзяржанне праглынуў зіхатлівы кінжал.

Публіка прытаілася ад здзіўлення і страху, што ён можа і галаву сабе адрэзаць. Жанчыны заплюшчваліся і адварочваліся. Наздзекаваўшыся з сябе, гіпнатызёр запрасіў на сцэну жадаючую жанчыну. Доўга ніхто не адважваўся. Ён упрошваў і ўгаворваў, што ні калоць, ні пароць не будзе, пакажа «сеанс індывідуальнага гіпнозу». І ўгаварыў-такі зграбную маладзіцу, што ляскала на машынцы ў райвыканкоме. Гіпнатызёр пасадзіў яе ў зручнае крэсла, нахіліўся над тварам і доўга ўглядаўся ў яе вочы, потым вялікім і ўказальным пальцамі ўзяўся за скроні і загаварыў павольна і ціха, нібы заспяваў калыханку: «Спіце, спіце, засынайце. Вы стаміліся, вам хочацца спаць, нямеюць рукі, нямеюць ногі, вы засынаеце, вось заплюшчыліся вочы. Вы спіце, спіце глыбокім прыемным сном». Праз некалькі хвілін жанчына сядзела з заплюшчанымі вачыма і адкінутай галавой. Маран падняў яе руку, адпусціў, і яна ўпала, як пусты рукаў.

«Вам на лоб села муха, поўзае і казыча. Зганіце яе». Жанчына ляпала рукою па лбе. У зале нехта хіхікнуў, на яго засыкалі, Маран пагразіў пальцам і прыклаў яго да вуснаў, каб

маўчалі. Гэта быў толькі пачатак. Гіпнатызёр устрывожана загаварыў: «У пакой праз вокны хлынула вада. Яна прыбывае і прыбывае, падымаецца ўсё вышэй і вышэй...» Жанчына пачала паднімаць ногі, «вада паднялася да каленяў», машыністка вышэй падцягнула спаднічку, пад ёю нешта мільганула белае. У зале нехта выдыхнуў: «О-г-о-го!», а жанчына пачала грэбці рукамі, нібыта плыве. Калі спаднічка паднялася да крытычнай адзнакі, Маран абсмыкнуў яе і павольна загаварыў: «Супакойцеся. Вада сышла, небяспека мінула, свеціць і грэе сонца». Машыністка апусціла ногі і спаднічку. «Вы соладка паспалі на беразе мора, слухалі шум прыбою, загарэлі на сонцы...» Жанчына расшпіліла свой жакецік. «А цяпер будзем прачынацца... вы ўжо не спіце, вы ўсё чуеце...» Гіпнатызёр робіць рухі рукамі ўздоўж цела, фукае ў вочы, а машыністка не ўстае. У зале захваляваліся: «Можа, і не прачнецца... Хоць выспіцца за свае грошы»,— нехта пажартаваў у канцы клуба.

З дапамогаю Марана машыністка павольна паднялася, доўга далонямі працірала вочы, глядзела ў залу, відаць, не пазнаючы, дзе яна і адкуль столькі народу. Гіпнатызёр правёў яе на месца. Усе выцягваліся, каб паглядзець на яе. Сяброўка спытала: «Папраўдзе спала ці прыкідвалася, Жэня?» — «Не ведаю, дзе была. І вада лілася»,— млява адказала машыністка.

Маран прайшоўся па праходзе, спыніўся на сярэдзіне і спытаў: «Прашу жадаючага дапамагчы мне правесці яшчэ адзін сеанс гіпнозу». Усе маўчалі, пазіраючы адзін на аднаго... Маран папрасіў яшчэ раз: «Няўжо сярод вас няма

ніводнага сапраўднага мужчыны? Тым больш, ніхто нічым не рызыкуе. Запрашаю трох чалавек. Як вы сябе адчуваеце?» — запытаў ён у машыністкі. «Добра»,— ціха адказала яна. «Скажыце, калі ласка, гучней».— «Добра. Вельмі добра!» — голасна паўтарыла тая.

Устаў высокі статны стругаль і арцелі Грыня Білімовіч, звонка пратупаў падкоўкамі наваксаваных ботаў на сцэну, за ім пайшлі яшчэ два хлопцы. На сцэне паставілі тры табурэткі — адну пад галаву, другую пад ногі, трэцюю пад сярэдзіну. Грыня лёг на іх. Маран пачаў закалыхваць яго павольным угаворам: «Спіце, спіце, засынайце». Ад такой «калыханкі» ў некаторых у зале заплюшчваліся вочы. Гіпнатызёр, не датыкаючыся, вадзіў над Грынем рукамі і паўтараў: «Ваша цела дранцвее, дзеравянее, напружваецца, вы яго не адчуваеце, яно стала бязважкім». З-пад сярэдзіны асцярожна выцягнуў табурэтку, тулава нікольні не прагнулася, ляжала роўненька, як дошка. У зале ўсе замерлі. Тады Маран загадаў аднаму з асістэнтаў сесці Грыню на жывот. Загіпнатызаваны не зварухнуўся. Потым сеў цяжэйшы: Грыня як апруцянеў. Было яшчэ шмат нумароў, а першыя ўразілі і запомніліся асабліва.

Цэлы тыдзень людзі валам валілі ў нардом. Скептыкі казалі, што Маран добра плоціць сваім памочнікам і тыя слухаюцца яго, большасць верыла ў сілу гіпнозу, некаторыя баяліся гіпнатызёра. Верыў і я.

Аднаго разу на начлезе каля не надта зыркага вогнішча я расказваў хлапчукам пра гіпнатызёра і пачаў паказваць, як ён і што рабіў; пасадзіў на пянёк паслухмянага Матронінага

Алёшу, сціснуў скроні і замармытаў: «Спіце, спіце, засынайце». Потым паднімаў руку — і яна бяссільна падала, падцягваў Алёшка штонікі, ратуючыся ад «вады», рабіў усё, што я загадваў, не расплюшчваючы вачэй. Я падумаў, што так і Марана выручалі яго асістэнты, але Алёшка не прачынаўся. Я казытаў пад носам сухою сцяблінкаю, а ён і не зварухнуўся. «Хопіць, Алёшка, дурыкі строіць. Пагулялі і досыць!» А ён спіць сабе, седзячы. Мяне апанаваў страх: «А што, як не прачнецца?» Занепакоіўся і старэйшы з нас Цімох Салянскі: «Што ж ты нарабіў? Га? Давай адсыпляй назад». Я ўспомніў, як будзіў сваіх падвопытных Маран, і пачаў дзьмухаць Алёшку ў твар, прыгаворваць: «Прачынайцеся, сон прайшоў, вам трэба ўставаць, вы расплюшчваеце вочы, вам лёгка і добра. Фу-фу!» Асветленыя водбліскам вогнішча, Алёшкавы павекі ўздрыганулі і з намаганнем расплюшчыліся. Ён паглядзеў навокал, не пазнаючы нас. Устаў, але не адышоў ад пянька. Заікаючыся, спытаў: «Дзе я быў? Вады болей няма?» — і павольна, як сляпы, пайшоў да вогнішча. «Ты папраўдзе спаў ці прыдурваўся?» — сурова запытаў Цімох. «Спаў і яшчэ хачу спаць. Навошта пабудзіў? А вада аж дасюль даходзіла,— ён правёў далонню па грудзях.— Чуў твой голас здалёку-здалёку»,— прызнаваўся Алёшка.

— Скокні адвярні коней,— загадаў яму Цімох.

Алёшка павольна пайшоў у змрок вільготнага выгана, дзе тупалі і ржалі спутаныя коні.

— Ты што, папраўдзе ўмееш гэтую гіпнозу напускаць? — спытаў у мяне Цімох.

— Сам жа бачыў: спаў Алёшка і слухаўся ўсё, што ні скажу,— пачаў задавацца я, сам не верачы, што ўсё было папраўдзе. Назаўтра ўся наша вуліца ведала, што я загіпнатызаваў Матронінага хлопца.

Як і кожнаму ў такім узросце, і мне хацелася быць непадобным на іншых, нечым вылучацца сярод равеснікаў, быць здатным на незвычайнае. Сябры прасілі загіпнатызаваць іх, а я адвільваў, баючыся, што нічога не выйдзе і кончыцца мая «слава». Аднаго разу наезджая аднекуль з горада дзяўчынка Волька сказала, што ў іх ёсць кніжка пра гіпноз, і паабяцала даць пачытаць. Старую, рассыпаную па старонках, кніжку з цвёрдымі знакамі і яцямі мне далі на некалькі дзён. Каму яна была пільна патрэбна, невядома. Відаць было, што даўно ніхто яе ў рукі не браў — драцяныя сашчэпкі праржавелі, клей на карашку стачылі чарвячкі. Я старанна сшыў усе старонкі, прыляпіў вокладку і ўзяўся чытаць. Чытаў, чытаў і амаль нічога не зразумеў, але добра засвоіў некаторыя прыёмы і ўжо смялей пачаў спрабаваць свае сілы.

Таемна ад настаўнікаў дзяўчаты і хлопцы старэйшых класаў вечарамі збіраліся на вечарынкі: гулялі ў фанты, у «пошту кветак», танцавалі, шапталіся, трымаліся за рукі, а потым разыходзіліся парамі. На такія вечарынкі, як фокусніка, пачалі запрашаць і мяне. Перад танцамі я каго-небудзь гіпнатызаваў — «напускаў мух», «вады», прымушаў «тушыць агонь», часам прызнавацца ў тым, у чым ніхто ніколі б не прызнаўся. Папулярнасць мая расла. Хоць да гэтага часу не ведаю, сапраўды мне нешта

ўдавалася ці проста была сумесная гульня ў гіпноз.

Хутка мае «гастролі» закончыліся. Ідучы ад хворага суседа, да нас завітаў усімі паважаны доктар Аляксандр Сцяпанавіч, нібыта папытаць, ці ўсе ў нас здаровыя. Пасядзеў, пагаварыў з мамаю, а выходзячы, папрасіў мяне правесці яго да майго дзядзькі, бо там у двары грымеў ланцугом здаравенны ваўкадаў. Толькі мы выйшлі за браму, Аляксандра Сцяпанавіч запытаў: «Гэта праўда, што ты займаешся гіпнозам?» — «Я... я... і сам не ведаю,— пачаў апраўдвацца я,— паказаў, што рабіў той, прыезджы гіпнатызёр, а яны засыналі і слухаліся, што ні загадаю».— «М-да-а...— прамармытаў доктар,— слухаюцца, кажаш, а раптам загадаеш такое, чаго б ніхто не паслухаўся па добрай волі? А? За такія фокусы засудзіць могуць. Гіпнозам лечаць спецыяльныя дактары. Той гастралёр, мабыць, меў дазвол. А табе раю больш ніколі гэтым глупствам не займацца. Зразумеў?» Я толькі чырванеў, ківаў галавою і больш ніколі не парушаў перасцярогу доктара.

У сталым веку мяне спрабавалі лячыць гіпнозам, я нават не заплюшчыў вачэй.

## АСІЛАК

Самаробная афіша паведамляла: «Анонс! Анонс! (што такое анонс, ніхто ў нас не ведаў). Асілак з асілкаў — барэц Патапаў: рукі і грудзі мацней каменя і жалеза! Не пераможаны на арэнах цыркаў свету! Жывы выходзіць з магі-

лы. Спяшайцеся бачыць. Толькі два выступленні...»

Хто ж сабе адмовіць убачыць такія цуды? Здавалася, на наша мястэчка хлынулі самыя выдатныя артысты і чараўнікі. Сакрэт быў просты: наш далёкі ад чыгункі раён быў хлебны і тлусты...

Паглядзець на асілка местачкоўцы валілі валам. У нардоме забілі ўсе праходы, сядзелі на падлозе каля сцэны, на падаконніках, прымошчваліся хто дзе мог.

На сцэну выйшаў высачэзны, даўгатвары, з запалымі вачыма, худы, але з магутнаю крутою мускулатураю мужчына. Усмешка адкрыла вялікія жоўтыя зубы. На асілку былі кароценькія сінія трусы, на запясцях — скураныя манжэты. Два пажарнікі ўнеслі нанізаныя на калок дзве трохпудовыя гіры. Патапаў іх падкідаў і лавіў, як гумавыя мячыкі. Запрасіў на сцэну шасцёра хлопцаў. Выйшлі дзецюкі адзін у адзін, асілак паклаў на шыю доўгі карамысел, за яго ўзяліся па тры чалавекі на кожным канцы, і Патапаў закруціў іх, як на каруселі. Потым скрутак шыннага жалеза наматаў сабе на руку, як бранзалет, выпраставаў і зноў згінаў падковы, ламаў напал жалезны прэнт.

Вынеслі на сцэну збіты з дошак памост і выкацілі вялікі валун. Патапаў абапёрся рукамі і нагамі аб падлогу, на грудзі паклалі шчыт, а на яго ўскацілі камень, і два здаравенныя малатабойцы ўзяліся гасіць па ім вялізнымі кувадламі, толькі іскры ляцелі. Асілак трываў, пакуль не разваліўся валун напалам.

Самы незвычайны быў апошні нумар. Усе выйшлі ў двор, запалілі некалькі прамасленых

квачоў, пасталі вакол свежавыкапанай ямы. Патапаў ускочыў у яе і лёг спінаю дагары, яго накрылі збітымі дошкамі і хуценька засыпалі яму ўпоравень з зямлёю. Усе замерлі ад страху: упершыню закапалі жывога чалавека. Нехта сказаў: «Адкопвайце. Ён жа затхнецца». Але пясок у яме заварушыўся, пачаў пучыцца і асыпацца, з ямы пачуўся крэкт, паказаліся тарцы дошак, з-пад іх высунулася галава Патапава, пры святле паходняў бліснула змакрэлая спіна, пясок ссунуўся, адваліўся шчыт. У яме стаяў і змушана ўсміхаўся Патапаў. Яму падалі рукі, і ён, цяжка дыхаючы, вылез з ямы, пакланіўся на ўсе бакі пад бурныя воплескі местачкоўцаў.

На другі дзень Патапаў паўтарыў усе нумары, але ў яму болей не палез. Гледачы абураліся: «Ашукаў! За тыя ж грошы з магілы вылазіў, а нам дулю паказаў». Ім хацелася за свайго паўрубля конча паглядзець пакуты гэтага дужага чалавека, а ён, відаць, болей не мог, бо і ўчора ледзьве вылез з ямы...

Ніхто не бачыў і не ведаў, калі і куды паехаў Патапаў, а хлапчукі яшчэ доўга гулялі ў асілкаў, як і ён, уцягвалі жываты, напіналі худзенькія грудзі, спрабавалі падкідаць гіры, але часцей збівалі сабе на нагах пальцы. Так гулялі ў асілка да прыезду наступнага гастралёра.

У 1930 годзе я пачаў працаваць на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Запомніўся табельны 510 нумар і аблічча сяброў па беладрэўным цэху, імёны майстроў і брыгадзіраў, пах сталярнага клею, звон цыркулярных піл, гул фугавальных і шпіндэльных станкоў, смольны дух гарачага пілавіння. Аднаго разу апоў-

начы, пасля другой змены, у прахадной мне сустрэўся высокі даўгатвары мужчына ў старым кавалерыйскім шынялі, у стаўбунаватай будзёнаўцы і падсмаленых залатаных валёнках. Твар быў хваравіты і жоўты, вочы гарэлі ліхаманкавым бляскам. Ён павесіў свой нумар на табельную дошку фанернага цэха і павольна пайшоў у змрок двара. У ім нешта здалося знаёмае.

— Хто гэта? — спытаў я ў вахцёра.

— О-о-о, брат, гэта не абы-хто. Можа, чуў, быў асілак з асілкаў, Патапаў яму хвамілія. Ніхто яго ніколі не пабораў, ніхто не мог зраўняцца сілаю. Была, ды сплыла. Цяпер ледзьве ходзіць. Ні сям'і, ні здароўя няма, а меў жа такую сілу!

# АКЦЯБРЫНА

За акном прамільгнулі пакгаузы, жоўты двухпавярховы дом, цагляны будынак вакзала, а назву станцыі прачытаць не паспеў. У цягнік села толькі некалькі пасажыраў, і ў наша купэ зайшла зграбная жанчына няпэўнага веку. Яе постаць аблягаў цёмна-карычневы касцюм, у прorазі жакецiка бялелі карункі празрыстай блузкі, на старанна ўкладзеных цёмных валасах ледзьве трымалася газавая касыначка.

Новая спадарожніца ветліва павіталася, лёгка закінула на верхнюю паліцу туга напакаваную спартыўную сумку і, стоячы перад запыленым акном, некаму махала рукою, ведаючы, што яе не пачуюць, старраннай артыкуляцыяй вымаўляла нейкія словы і ўсміхалася, а вочы глядзелі журботна.

Я зірнуў на жанчыну і ўнурыўся ў даволі прымітыўны дэтэктыў, куплены ў чыгуначным кіёску. Праз хвіліну цягнік тузанула, і павольна паплыў каля платформаў з баластам і металаломам, каля штабеляў збуцвелых прамасленых шпалаў, прамільгнуў замурзаны вусаты змазчык, бабулька з казою на повадзе ў зарослым рамонкамі кювеце. Мінулі выхадны семафор, і закружыліся шчыльныя елачкі, палі і пералескі.

— Прабачце, што гэта была за станцыя? — спытаў у жанчыны.

— Анютка. Раней тут хуткія цягнікі не спыняліся. Пенсіянеры дамагліся.

Я пакруціў галавою і ўсміхнуўся: трэба ж прыдумаць — Аню-тка!

— А жыхароў як завуць? Анюцікі?

— Анюткінцамі завуць.— Жанчына дастала з сумачкі часопіс «Кардиология», знайшла патрэбны артыкул. То чытала, то пазірала ў акно. Было ясна: суседка мая медык, ды яшчэ кардыёлаг, спецыяліст па маіх хваробах.

Дэтэктыў мяне цікавіў мала. Недачытаную старонку я заклаў неадпраўленым у спешцы лістом майму земляку, кніжку паклаў на дрыготкі столік і выйшаў у калідор. Там разгаварыўся з высокім сівым мужчынам у паношаным афіцэрскім кіцелі з цэлаю вясёлкаю ордэнскіх планак. Гаворка, як кажуць, пайшла пра вайну і пра бамбёжку, бо і ваяваў ён недзе ў гэтых мясцінах.

Калі вярнуўся ў купэ, суседка мая задуменна глядзела ў акно, відаць, развіталася з некім вельмі блізкім. Я разгарнуў кніжку, канверт з неадпраўленым лістом выпаў на столік. Я перагортваў старонку за старонкаю, спадзеючыся знайсці цікавы эпізод. Жанчына ўважліва разглядала адрас на канверце. Як толькі я адарваўся ад кніжкі, запінаючыся спытала:

— Прабачце, калі ласка, я на канверце выпадкова прачытала Глуск і расхвалявалася. Вы часам не адтуль?

— Вырас там, а цяпер бываю рэдка. Вось адзіны таварыш астаўся, часам перапісваемся, і то ліст на вакзале забыўся ўкінуць. А вас што там цікавіць?

— Усё... Бачыце, я нарадзілася ў Глуску і

нічога пра яго не ведаю. Вывезлі адтуль у пялёнках. Колькі разоў збіралася з'ездзіць, ды так і не выбралася.

— А дзе там жылі вашы бацькі?

— У хатцы каля нейкага прыватнага млына. Маці казала, недзе ў полі стаяў. Бацька мой паравознік, а ў галодныя гады заехаў у гэтую глуш і наняўся машыністам да млынара. Там я і з'явілася на свет.

Мой дэтэктыў упаў на лаўку. Я ўглядаўся ў жанчыну, маўчаў, усміхаўся, а ў самога ад неспадзяванасці затахкала сэрца. Та-ак: на левай шчацэ ледзь прыкметная радзімка, вочы нібыта з усходнім разрэзам. Няўжо можа быць такая сустрэча? Яна чакала, што скажу.

— Памятаю той млын, і хатку памятаю. Цяпер іх і знаку няма. Вось так, Марына Паўлаўна.— Яна замаргала вейкамі, запунсавелі шчокі.

— Як вы сказалі?

— Сказаў Марына Паўлаўна. Так вас завуць?

— Адкуль вы ведаеце?

— Празорца і варажбіт...— усміхнуўся я.— Выходзіць, не памыліўся.— Яна маўчала. Толькі яшчэ больш зардзелася, часцей заміргала доўгімі загнутымі вейкамі. А мне хацелася яшчэ трохі паказытаць яе здзіўленне.

— Дазвольце вашу руку, я вам яшчэ нешта скажу.

Яна даверліва працягнула вузкую смуглявую далонь з тонкімі пальцамі без манікюра.

— Маму вашу зваць Фрося, Ефрасіння. Ёсць у вас і брат... Зваць яго... Як жа зваць? Ага, Уладзімір...— Яна высмыкнула далонь.

— Быў Уладзімір. Ён загінуў каля горада Апавы, у Чэхіі. Што вы яшчэ ведаеце?

— Што вас двойчы хрысцілі.

— І гэта вам вядома? Не тлуміце мне галаву, лепш скажыце, што ведалі маіх бацькоў. Прызнайцеся, ведалі?

— Прызнаюся,— і жартаўліва падняў рукі ўгору.— А такія сустрэчы бываюць раз у паўстагоддзе. Цяпер маю права зваць вас проста Марына, бо колькі разоў няньчыў скручанае спавівачамі гарластае дзеўчанё.

— Дык хто вы? Як вас зваць? Можа, і ваша імя мне вядома?

— Так і быць. Розыгрыш не ўдаўся,— і я назваў сябе. Яна ссунула бровы, напружваючы памяць:

— Чакайце... прозвішча чутае... ад мамы. Так, нешта ўспамінаецца. А дзе жывяце цяпер?

Мы абмяняліся кароткай інфармацыяй. Марына працавала педыятрам у Рыбноўскім раёне на Разаншчыне, цяпер вярталася дадому ад мужавай радні.

— Дарога ў нас дальняя. Раскажыце, калі ласка, усё, што помніце пра тыя мае «хрэсьбіны». З маміных расказаў мала што запомнілася.

У купэ адчыніліся дзверы, правадніца паставіла на столік шклянкі з чаем. Каб сабрацца з думкамі, я марудна размешваў лыжачкай цукар, зняў абгортку з пачка вафляў, павольна сербануў гарачага чаю. Марына не дакранулася да шклянкі, моцна счапіўшы пальцы рук, чакала, што я скажу.

— З чаго ж пачаць?..— задумаўся я.

— З самага пачатку. Усё, што помніце. Калі ласка.

— Тады слухайце. Піце чай і слухайце.— Я яшчэ сербануў глыток.

— У пачатку дваццатых гадоў голад многіх пагнаў з гарадоў у далёкія хлебныя мястэчкі і сёлы. Наехала шмат інтэлігентаў і да нас. Запомніўся добры мастак Лебедзеў. Ён выкладаў у школе маляванне і так захапіў усіх вучняў, што не было хаты без размаляваных печы і сцен. І спевы ў нас выкладаў наезджы настаўнік, а ў нядзелю спяваў на клірасе. Быў яшчэ маленькі, кудлаты і чарнявы, юркі, як малпачка, музыкант. Іграў ён на карнеце, аж шыбы звінелі ў наваколлі. З'явіўся і ваш бацька, у скуранцы, чыгуначнай фуражцы з кантамі. Ён з вашаю мамаю і Валодзькам спыніліся ў нас: з маім бацькам яны былі раднёю ў трэцяй стрэчы. Так што і мы з вамі трохі свае. Добра памятаю вашу маму, бялявую, сарамлівую і ціхую. Валодзьку было гады чатыры. На левай шчацэ ў яго цямнела ладная радзімка.

За мястэчкам у полі быў вялікі двухпавярховы млын, а пры ім — крупадзёрка, ваўначоска і пільня. Каля млына стаялі дзве хаткі — адна для завознікаў, другая для машыніста. Пакуль трымаўся НЭП, млын належаў местачковаму заможніку Довіду Стральцу. Ён адразу згадзіў вашага тату ў машыністы і пасяліў у парожняй хатцы.

Летам я часта прыбягаў у млын, гадзінамі глядзеў, як сапе, цяжка дыхае, шпокае маслянымі поршнямі, сыкае помпаю, дрыжыць і зыбаецца ўкапаны ў зямлю запацелы чорны паравік. Дзядзька Павел пры ім здаваўся нейкім

чараўнікам. Бацька ваш у мястэчку быў адзіны сапраўдны рабочы, бо не меў ніякай маёмасці — адным словам, самы што ні ёсць пралетар. Таму на ўсіх сходах ён заўсёды сядзеў у прэзідыумах, на святочных дэманстрацыях ішоў у першым радзе побач з раённым начальствам.

Пасля каляд мая маці пайшла ў водведкі да цёткі Фросі, а вярнулася на досвітку. На бацькава запытанне толькі і сказала: «Дзевачка». Зразумеў і я, што ў дзядзькі Паўла з'явілася дачка. Неўзабаве ад маці пачуў незнаёмае слова «акцябрыны». Яна расказвала суседкам, што ў валасці загадалі Паўлу не хрысціць дзіця, а запісаць па новых законах у клубе, пры людзях. Такога ў мястэчку яшчэ зроду не было.

Пагаласка пра акцябрыны пакацілася з вуліцы ў вуліцу, з канца ў канец. На рынку, у крамах, на цвінтары адна ў аднае пыталіся жанкі, калі ж будуць тыя савецкія хрэсьбіны! Хто будзе за «папа»? Ці пусцяць хоць паглядзець?

Вось і настаў той дзень, сцюдзёны і завейны. Зіма ўдалася снежная і лютая, на ўскраінах панакручвала гурбы роўныя са стрэхамі. Акцябрыны прызначылі ў клубе: у самым вялікім з нацыяналізаваных дамоў выпілавалі адну сцяну паміж пакоямі, паставілі лаўкі, збілі невысокі памост. Удзень тут засядаў суд, а ўвечары праводзілі мітынгі і сходы.

На змярканні мой бацька запрог нашу сівую кабылу, узяў мяне і паехалі да млына. Узрушаная цётка Фрося ўздыхала і прычытала: «А божачка, божачка, як жа яно будзе?

Каб хоць не застудзіць дзіцятка. Там жа народу збярэцца цьма, і будуць глядзець, як на нехрысцяў». У вашай хацінцы ўжо была мая маці, а ўсім камандавала бабка Пабліянка. Была такая ў мястэчку здатная на ўсе рукі кабета: ніводная парадзіха не абыходзілася без яе, і на хрэсьбінах яна камандавала, ніхто вяселля без бабы Пабліянкі не спраўляў, і нябожчыка ў апошнюю дарогу без яе не выпраўлялі — усё яна ведала, усё ўмела, усім верхаводзіла. На вашу маму толькі буркала: «Няма чаго войкаць. От вязіце барзджэй, ды не баўцеся, а я тым часам памалюся, каб анёлы засланілі святую душачку ад нячысцікаў».

Яна ўпраўна снавала пры печы. На сцяне і на дзвярах скакалі водбліскі кармазынавага полымя, у печы нешта булькала, скваірлося, пад кужэльным абрусам дыміліся смачнаю параю пірагі. Калі выходзілі з хаты ў клубах марознага паветра, бабка тройчы пержагнала нованароджаную, сказала «з богам» і зачыніла дзверы.

У полі скавытала і круціла мяцеліца, гурба замеценага снегам пілавіння здавалася высачэзнаю гарою, чарнела зацярушаная ў пазах мучным і снежным пылам сцяна млына і белымі бельмамі акон. У небе праз ускудлачаныя хмары шчарбаты месяц заліваў халодным сіняватым святлом імклівыя снежныя змеі, што перапаўзалі абледзянелую дарогу. Мы ледзьве расселіся на санях і паехалі супроць ветру. Мястэчка пачыналася старымі кладамі. У змроку шумелі і шаргацелі абледзянелым веццем расахатыя хвоі, прывідамі здаваліся аблемаваныя снежнаю навіссю помнікі і пахілыя крыжы.

Ехалі паціху, каб на раскатах не перакуліліся сані.

Вокны клуба залівала белае святло, пад дзвярыма тупалі людзі, якім не хапіла ўсярэдзіне месца. Як толькі мы пад'ехалі, усе расступіліся, даючы нам дарогу. Папярадзе ішла захутаная ў вялікую суконную хустку ваша мама, побач — бацька, за імі — я з Валодзькам. Клуб быў набіты людзьмі па самыя дзверы. Прыткнуліся да сцен, таўкліся ў праходзе і каля невысокіх падмосткаў. На іх стаяў доўгі стол, накрыты чырвоным, справа — трыбуна, пасярэдзіне сцяны вісеў партрэт Карла Маркса. Для вашай маці, напэўна, з нейкага маёнтка прывезлі пацягнутае зялёным аксамітам высокае крэсла. Побач, на звычайным гнутым крэсельцы сеў бацька ў сваёй нязменнай скуранцы, з аднаго боку паставілі Валодзьку, з другога для сіметрыі — мяне. Зала гаманіла і гула, бесцырымонна разглядалі вашых бацькоў, часам чулася: «І бога не баяцца». Нехта пярэчыў: «Хіба ён такі страшны?», «Як жа нехрышчонаму жыць?», «А чаго гэта Іванаў хлопец прыляпіўся?», «Павел жа, кажуць, ім нейкая радня». Я чырванеў, гатовы ўцячы ад сораму, але жаданне ўпершыню быць навідавоку, адчуваць, што і я тут не староннi, перамагло сорам. Усе пазіралі на бакавыя дзверы, але адтуль доўга ніхто не выходзіў. У невялікім зальчыку станавілася парна і душна ад кажушных, цыбульных і часночных пахаў.

Нарэшце з баковачкі выйшаў у расшпіленай камісарскай скуранцы старшыня прафсаюза Лазар Віленчык, за ім — зграбная, у чырвонай касыначцы, кіраўнік жаночага аддзела Насця

Клімчук і наезджы, з паголенай, як гарбуз, галавою, у зялёным фрэнчы з кішэнямі, як добрыя торбы, старшыня мясцовай кааперацыі Сувораў. Віленчык пазваніў школьным званком, і ўсе сціхлі. Гаварыў ён зычна, доўга і складна, а што, я тады нічога не разумеў. Пасля яго за трыбуну стаў Сувораў з вялікаю тоўстаю кнігаю ў чырвонай абкладцы. Нехта добра чутным шэптам сказаў: «Гэта іх евангелле». Яго перакрыў шэпт ад дзвярэй: «А кудлаты Лазар за папа». Віленчык пазваніў і некаму паківаў пальцам.

Сувораў разгарнуў кнігу. Не заглядаючы ў яе, зычна і хутка загаварыў, што рэлігія опіум для народа (што такое той опіум, ніхто ў мястэчку і не чуў), што папы, ксяндзы і рабіны ашуканцы і крывасмокі, а ў цэрквах, касцёлах і сінагогах абдурваюць і пазбаўляюць смеласці і волі людзей. Потым пачаў нешта чытаць з кнігі. Чытаў аднастайна і доўга, спатыкаючыся, вымаўляў незнаёмыя словы. Не ведаю, як дарослыя, а я ў тым чытанні нічога не цяміў.

Марына Паўлаўна глядзела нейкім адсутным зажураным зрокам, нібыта бачыла той завірушны вечар, душны перапоўнены клуб, зусім маладых сваіх бацькоў, шустрага Валодзьку з радзімкаю на шчацэ. Я замаўчаў. Глуха татахкалі колы на стыках, за акном мільгалі пераезды, будкі стрэлачнікаў, пакгаузы, паўстанкі і шчыльныя прыдарожныя прысады з елачак. Я думкамі і пачуццямі перанёсся ў той завірушны вечар і зноў вачыма хлапчука ўбачыў усё і ўсіх, такіх маладых і знаёмых, незваротна страчаных назаўсёды.

Мая спадарожніца парушыла маўчанне.

— Чаму ж вы замоўклі? Я слухаю...— яна абаперлася падбародкам на счэпленыя замком смуглявыя далоні.

— Ад доўгага аднастайнага чытання Суво-рава ўсе занудзіліся. Я пераступаў з нагі на нагу, пачаў круціцца з боку ў бок. Цётка Фрося смыкнула мяне за рукаў і з папрокам зіркнула добрымі светлымі вачыма. Калі Суворaў дачытаў сваю рату і сеў, на памост узышоў старшыня местачковага Савета Барыс Галубавец з доўгаю прашнураванаю кнігаю. Віленчык узяў з матчыных рук дзіця, паклаў на чырвоны настольнік, і на ўвесь клуб пакаціўся залівісты плач. Усе за сталом, а за імі і ў зале запляскалі ў ладкі. «Ого, галасістая! Бедная, естачкі хоча!» — пачулася з розных куткоў.

— Вось азвалася новая грамадзянка нашай краіны — Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік Акцябрына Паўлаўна,— урачыста абвясціў Суворaў.— Зараз прадстаўнік Савецкай улады запіша яе ў кнігу актаў грамадзянскага стану па новым звычаі, які завецца ак-цяб-ры-ны. Віншуем высокасвядомага прадстаўніка рабочага класа таварыша Цімкевіча і яго...— Суворaў замяўся,— жану, адным словам, супругу Фросю Епіфанаўну з дачкою Акцябрынаю. Па даручэнню райвыканкома, праўлення каапера-цыі, арцелі «Спартак», прафсаюза і камсамола нованароджанай уручаюцца падарункі.

У суседнім пакоі па камандзе юркага кудлаценькага карнетыста, якога адразу ахрысцілі капельдудкіным, аркестр пажарнікаў грымнуў туш. Дзяўчаткі ў юнгштурмаўках і чырвоных касынках на выцягнутых руках, як дары

ад заморскіх паслоў, унеслі каляровыя скруткі і склалі на стале ладнаю горкай. У цэнтры зіхацеў самавар. Людзі ўставалі з месцаў, станавіліся на дыбачкі, выцягвалі шыі — кожнаму хацелася пабачыць, чым жа адарылі шчаслівых бацькоў і дачушку.

Маці нізка пакланілася прэзідыуму і залу. Бацька павінен быў нешта казаць, а тады яшчэ не было завядзёнкі загадзя пісаць прамовы, дык ён ад хвалявання толькі і сказаў: «Я, як рабочы чалавек, апраўдаю давер'е Савецкай уласці. Абавязкова апраўдаю, як рабочы чалавек... Дазрастуе міравая рэвалюцыя! Ура!» Усе ахвотна крыкнулі ў адказ, а нованароджаная зайшлася залівістым плачам. Віленчык кіўнуў у бакоўку, і пажарнікі грымнулі «Інтэрнацыянал». Усе ўсталі і заспявалі гімн. Яго хутка засвоілі, бо кожны сход заканчваўся спяваннем «Інтэрнацыянала».

Маці калыхала на руках прыкрытае хусткаю дзіця і нешта ласкавае шаптала. Замоўк аркестр. Шумна разыходзіліся местачкоўцы з першых акцябрын. Каля канавязі, замеценая снегам, наша кабыла лена хрумстала сена. Бацька строс пасцілку, склаў у перадок падарункі, мне далі везці самавар. Я яго моцна трымаў за настылыя вушы, аж зайшліся ад холаду і здранцвелі пальцы.

Хмары раздаліся, неба вызарыла, бралася на мароз. Шчарбаты месяц заліваў блакітным святлом зіхатлівыя стрэхі і сумёты, наслізганую палазамі дарогу, белыя прысады і поле, аблямаванае заінелым лесам. Ехалі моўчкі, толькі папісквала Акцябрына.

— Ванечка, падгані трошкі хутчэй. Дачушка ж заходзіцца ад голаду,— прасіла ваша мама і не назвала ні разу дзіця новым імем.

Нарэшце ў воблакамі белае пары ўваліліся ў цесную хатку. Пасля клубнага святла яна здавалася асабліва змрочнаю. На сцяне гарэла пяцілінейная лямпа, на засланым стале стаялі талеркі з халадцом і смажанінаю, салёнымі гуркамі і ружовым салам. Яшчэ смачней пахла з печы. Бабка Пабліянка прыняла дзіця і, не раскручваючы, падала маці: «Барзджэй пакармі, Фросечка. І паехалі».— «Куды яшчэ паехалі?» — здзівіўся бацька. «Куды? Куды? Ты сваё дзела здзелаў і маўчы»,— сказала бабка і пачала завязваць гаматную суконную хустку. «Іван, падкінь кабыле тым часам». Бабка камандавала ўсім і ўсімі, і хочучы ці не, а слухаліся яе. Сцішанае дзіцятка яна закруціла ў новую ружовую коўдру, кіўнула майму бацьку, яны выйшлі з хаты, і толькі было чуваць, як зарыпелі сані.

— Што гэта яна надумалася? Чаго тут камандуе? — усхадзіўся дзядзька Павел.

— Кажуць, трэба правезці праз тры масты, каб не хварэла дзіця. От і павезлі. Не бойся, бабка ўсё ведае,— схлусіла маці,— а ты тым часам унясі з кладоўкі капусты.

На ўскраіне мястэчка, непадалёк ад кладоў, жыў айцец Аляксей. Да яго і паехалі. Кумам быў мой бацька, кумою — бабка Пабліянка. Колькі яна прыняла, ахрысціла і пакуміла, сама не ведала. Без яе ніхто не абыходзіўся. Усе местачкоўцы былі яе хрэснікі. Ніхто не ведаў, колькі ёй год — заўсёды была ў адной меры і здавалася вечнаю.

Неўзабаве яны вярнуліся. Бабка разгарнула дзіцятка, перахрысціла, лёгка падкінула ўгору і сказала: «Хай расце вялікая, разумная ды здаровенькая хрышчоная Марынка. А цяпер усе за стол. Кум, налівай!»

Дзядзька Павел толькі лыпаў вачыма:

— Дык гэта вы... гэта вы, значыць, ашукалі, хрысціць вазілі? І ты, Ваня... а-я-яй. Што ж я скажу Віленчыку, як пагляджу ў вочы.

— А ты не глядзі. На ёй жа знаку няма, хрышчоная ці не. Гэта ж не воспа. Ты нічога не чуў і не бачыў. Акцябрына ці Марына, адно і тое ж. Тое па-іхняму, гэта па-нашаму. Вырасце, сама разбярэцца. Няма чаго цяпер гавэнду разводзіць. Усе за стол!

Спачатку пілі і елі моўчкі. Потым разгаварыліся ды і заспявалі. Мой бацька выцягваў: «У зары ў зоранькі многа ясных звёзд», пакуль не асалавеў над талеркаю халадца. Мы з Валодзькам заснулі на печы...

Наступіла доўгая паўза.

— А пасля яшчэ праўлялі акцябрыны?

— Не прыпамінаю. Пры мне не было.

— Чаму ж толькі адны? Чым я заслужыла такую ўвагу?

— Відаць, таму, што ў мястэчку больш нікога не было пралетарскага паходжання. Кожны местачковец меў хоць мізэрную ўласнасць. Ды і накладна, пэўна, было рабіць падарункі. Нараджаліся дзеці, хто хрысціў, хто запісваў у Савеце, і ўсе аднолькава параслі, людзьмі сталі, вайну адваявалі. Цяпер з даўнейшых мала каго ў мястэчку сустрэнеш... Вясною млын нацыяналізавалі. Жыццё наладзілася, і вашы бацькі паехалі назад у Жлобін, на чыгунку.

Разы са два прыходзілі лісты ад вашага таты, потым дачуліся, што ён загінуў у нейкай аварыі. І ўсё абарвалася... Гэта ж трэба, праз столькі гадоў сустрэцца ў адным купэ. Каб адправіў пісьмо, так бы, мабыць, і прамаўчалі або пералівалі б з пустога ў парожняе. Магчыма, ужо не раз недзе сустракаліся, праходзілі побач і разміналіся, нічога не ведаючы. Каб хто расказаў пра такую сустрэчу, не паверыў бы. А цяпер ваша чарга. Раскажыце пра сябе.

— І ўсё ж завуць мяне Акцябрынай. Мама спачатку і Марынай звала, а як пайшла ў школу, запісалі па метрыцы. Так і засталося. І мама прывыкла.

Жыццё яе склалася, як і ў кожнага з яе пакалення: былі страты і пакуты ў вайну, галоднае студэнцтва, замужжа, дзеці і работа ў заводскай паліклініцы.

На развітанне абмяняліся адрасамі, абяцалі пісаць, але так і не прыйшло ніводнага ліста: яна, відаць, чакала, што напішу я, а я спадзяваўся на яе. Потым і адрас згубіўся.

Гады праз два я ўспомніў Акцябрыну і напісаў наўгады на адрас тае заводскай паліклінікі, але ліст вярнуўся з адзнакай: «Адрасат выбыў».

Дагэтуль шкадую, што страціў, хоць і далёкую, сваячку. Іх усё меней і меней застаецца ў мяне. А радню заўсёды трэба берагчы.

# ГАЛЯ КАРЭЦКАЯ

У канцы жніўня далёкага даваеннага года палавіну нашага цэха зваліла эпідэмія брушнога тыфусу. У палатах і калідорах доўгай стадолы інфекцыйнай бальніцы не было дзе прытуліцца, а хворыя ўсё прыбывалі і прыбывалі. І я болей за два месяцы пракачаўся ў гарачцы паміж жыццём і смерцю.

Дажджы ў тую восень ішлі бесперапынна, ад ветру звінелі незакітаваныя шыбы, на іх наліпала і трымцела пажоўклае лісце, холадам цягнула з шчылін недагледжаных акон. Ложкі стаялі адзін пры адным. Нехта трызніў і крычаў у непрытомнасці, хтосьці спяваў і рваў уціральнікі, якімі быў прывязаны да ложка. Малы і сухенькі, змучаны фурункулёзам, мой сусед ледзь чутна стагнаў.

Часам сярод ночы тупалі санітары з насілкамі, а раніцай пуставаў засланы ложак. Калі пыталіся, дзе наш сусед, сёстры стараліся абыякава адказваць: «Перавялі ў другую палату». Кожны маліў бога, каб толькі яго не перавялі ў «тую палату». Антыбіётыкаў тады яшчэ не было, таму ратавалі нас галоднай дыетай і камфарай падтрымлівалі сэрца.

Пасярод столі цьмяна гарэла запырсканая вапнаю лямпачка, за сцяною шумеў дождж, завываў і грукаў адарванаю бляхаю вецер. Кожнаму да плачу, да крыку хацелася есці,

таму з ранку да ночы раструўлялі адзін аднаго ўспамінамі пра дранікі ў смятане, верашчаку, гарачую бульбу з марожаным салам. А нам давалі раз на дзень некалькі лыжак працэджанага рысавага адвару і дзве шклянкі несалоджанага чаю. У гэтым быў наш паратунак.

Праз два месяцы з дапамогаю ружовашчокай сястрычкі я вучыўся хадзіць па палаце ад ложка да ложка. Позняй восенню спачатку на паштовым аўтобусіку, а потым на кані на змярканні бацька прывёз мяне дадому. Пакуль ён адчыняў брамку, я споўз з воза, ступіў некалькі крокаў, захістаўся, як хлудзіна, пакаўзнуўся і споўз на слізкую сцежку. Пакуль карааскаўся, каб устаць, пачуў, як суседка казала дачцэ: «Антоля бажылася, што сканаў Ляксей. Аж бач, жывога прывёз Іван. Авой! Дзе ж ён дзеўся? Толькі што калываўся». Я хапаўся за частаколіны, каб устаць, падскочыў бацька і, трымаючы за сярэдзіну, давёў да ганка. Насустрач выскачыла маці і загаласіла: «А дзіцятка ж маё, жывенькае, дзякаваць богу».

З тыдзень вучыўся хадзіць па хаце, патроху ад'ядаўся і прутчэў. Дажджы змяніліся ціхімі сонечнымі днямі, паляцела доўгая лёгкая павуціна, загарэўся чырваннью і золатам недалёкі лес, парудзела за нашым гародам завішаваная балацінка, а на апусцелых і сталочаных градах датлявала прыплясканае дажджамі бацвінне, на сагнутых тычках шамацеў пасохлы фасольнік, тырчалі белыя храпкі ссечанай капусты. За шэрымі стрэхамі нашае ўсяго на дванаццаць хат вёсачкі цёмныя елкі аблямоўвалі колішні панскі сад. Зямля адышла пад калгас, а двор заняло лясніцтва: адну палавіну ашаля-

ванага з белымі калонамі дома займала кантора, на другой пасяліўся ляснічы. Быў ён наезджы, даношваў колішнюю форменную фуражку з зялёным аксамітным акольшам, на носе блішчалі акуляры ў тоненькіх залочаных абадках, на верхняй губе раслі рудаватыя вусы, а пад ніжняю — тырчаў маленькі касмычок. Гаварыў ляснічы не па-простаму, часта паўтараў «та-а сказаць» і «будьте уверены, любезный». У гэтым сказе заўсёды чулася пагроза, а за ёю — акт і штраф. Ён ніколі не крычаў і не лаяўся, але бязлітасна штрафаваў парубшчыкаў за кожнае бярвенца і жардзінку.

Старэйшая дачка ляснічага вучылася ў Рагачове на настаўніцу, малодшая, хваравітая Галя, была пры бацьку, часам у канторы выпісвала білеты на дровы, нешта друкавала на «Ундэрвудзе», а ў добрую пагоду хадзіла дыхаць смольным паветрам у суседні лес, што пачынаўся праз некалькі гоней за садам.

Летась некалькі разоў я памагаў Галі збіраць яблыкі ў вялікім колішнім панскім садзе. Мы іх зносілі адным кашом да будана, палілі абрэзанае сухое голле, зграбалі на вогнішча лісце. Гаварылі абы не маўчаць. Галя, тоненькая, як былка, з бледным лялечным тварам, шэрымі вачыма пад крутымі броўкамі і ледзь прыкметнымі пагорачкамі грудзей часам расказвала неверагодныя гісторыі, вычытаныя з раманаў, што засталіся ў шафах колішняй панскай бібліятэкі. Угледзеў цёмныя яловыя прысады вакол саду, і ўспомнілася Галя, нават захацелася ўбачыць, але далёка адлучацца ад дому яшчэ не адважваўся. Тупаў па двары, падстаўляў слабаму асенняму сонцу схуднелы

твар, глядзеў, як сцелецца па жнеўніку і ляціць павуцінне, завісае на платах і бадыллі. На старой дуплаватай таполі трывожна гарланіла вараннё, а чароды гусей з жытнішча зрываліся ў лёт, з шумам кружылася і падала лісце, вецер зносіў яго ў разоры і гразкія каляіны.

Часам успаміналіся любімыя вершы: «І было ўвосень, калі стрыглі поле, і на полі слалі дываны [redacted] лістоў, засмылела сэрца нечуваным болем. Вельмі многа крыўды, вельмі мала слоў». Або «Не жалею, не зову, не плачу. Все пройдет, как с белых яблонь дым...» Адзінота, шум апалага лісця, асенняя туга і мінорныя вершы часам краналі да слёз, хацелася спагады, цеплыні, ласкі, увагі і добрага слова. А побач нікога не было: маці ад відна да цямна перакопвала бульбянішча, бацька служыў у сельсавеце, а я, як таўкач, сноўдаўся па хаце і па двары, сядзеў на акораным пачарнелым бярвенні і глядзеў, як вераб'і малоцяць пахілыя каноплі.

У нядзелю з кіёчкам наважыўся пайсці ў бліжэйшы лес, а пасля хваробы ён здаваўся не такім і блізкім: спыняўся, адпачываў пад абляцелымі ракітавымі кустамі і паволі ішоў далей. У лесе было зацішна і цёпла. Рэдкія сосны на ўзлессі ледзьве гайдаліся ў сваім адвечным суме, на залітым смалою пні грэлася яшчарка, гарчыў пах апалага лісця і вялай травы, сухое ігліцы і багуну, датлявалі пазелянелыя трэскі і хваёвая кара.

Я сеў на стары аблузаны выварат [redacted] высока задранымі карэннямі, чыркаў кіёчкам па зямлі, збіваў паразяўленыя шышкі, а з колішняга кастрышча высокі прывялы скрыпень пускаў

доўгія пасмы пуху. Я радаваўся, што прыгравала сонца, што дыхаў гаркаватым асеннім паветрам, успаміналіся наша палата, хлопцы, што асталіся пасля мяне, і наш беладрэўны цэх. Дактары казалі, што пра работу на камбінаце пакуль што няма чаго і думаць. Сланяцца абібокам і быць утрыманцам не дазваляла сумленне. Я ведаў, што бацькі не ўпікнуць за дармаедства, але карцела мець хоць які занятак і заробак. А што я ўмеў? Што мог рабіць?

Мае разважанні перапыніў шоргат за спіною. Я азірнуўся. Па сцежцы ішла Галя. На ёй быў кароткі зялёны жакецік, клятчастая мультановая спаднічка, белы берэт, а ў руцэ дубчык з чырвоным лістком, пад пахаю даволі тоўстая кніжка. Яна, відаць, пазнала мяне, падышла і спынілася насупраць.

— Няўжо ты?

— Хіба і пазнаць ужо нельга?

— Чаму не? Пазнаю. Ну, здрастуй,— і падала тоненькую з доўгімі халоднымі пальцамі руку.

— Вашы селавыя жанкі колькі разоў пахавалі ўжо цябе.

— Значыць, доўга буду жыць.

— Ты то будзеш доўга... Калі вытрымаў такую хваробу, значыць, дужы. Да глыбокай старасці дажывеш.— У яе тоне гучала жальба і зайздрасць.

— Навошта да глыбокай? Жыві, пакуль дужы, пакуль сам сябе дагледзіш, а ляжаць нямоглаю завалаю, не давядзі гасподзь.

Я разумеў, пра што яна думае, хоць выглядае куды лепей, як мінулай вясною: паружавеў твар, жывым святлом іскрыліся вочы, павіль-

гатнелі некалі апечаныя смагаю вусны. Я разглядаў яе ад берэціка да зграбных хромавых чаравічкаў.

— Ну, чаго ўтаропіўся?

— Даўно не бачыў... і любуюся. Такая ты ружовая і ладная.

— Пляцеш абы-што. Не выдумляй і не хлусі.

— Дальбог. Чэснае камсамольскае. Ты проста расцвіла.

— Гэта ўсё паранае малако з мёдам, лоем і альясам. Аж падумаць агідна, але нічога не зробіш, заплюшчуся і п'ю. А ў грудзях усё адно як гармонік рыпае, і кашаль начамі душыць. Дактары раяць дыхаць смольным паветрам. От і хаджу, пакуль цёпла.

— Чаго добрага, а паветра ў нас хапае.— Я пасунуўся, і Галя села побач. Ногі трошкі не даставалі да зямлі, і яна павольна гайдала імі.

— А ты калі збіраешся на свой камбінат?

— Думаю зіму перабыць дома. Пашукаю якую-небудзь работу. Можа, у вашым лясніцтве такі няўмека патрэбен?

— Папытаюся. Ты заходзь... Абавязкова заходзь.

Сонца свяціла нам проста ў вочы. Галя зажмурылася і маўчала. Я прыгледзеўся да яе кніжкі. Міхась Зарэцкі. «Сцежкі-дарожкі». Усе захапляліся гэтым раманам, а я так і не паспеў яго прачытаць.

— А мне дык больш вершы падабаюцца,— прызнаўся я.

— Сцішкі — глупства. Мне яны ў школе абрыдлі: «Вот моя деревня, вот мой дом родной, вот качусь я в санках по горе крутой». Ну і ка-

цісяr, хто табе не дае. І я качуся, чаго ж крычаць пра гэта на ўвесь свет? А тут,— яна пагладзіла вокладку,— жыццё, пакуты, здрады, сапраўднае каханне, аж сэрца халадзее.

— А гэта ты ведаеш?

Падаюць сняжынкі — дыяментны-росы,
Падаюць бялюткі за маім акном...
Расчасалі вішні шоўкавыя косы
І ўранілі долу снегавы вянок.

— Прыгожа, а далей можна і не чытаць. А раман на сярэдзіне не кінеш: хочацца хутчэй дачытаць і расставацца шкада.

Я чытаў дзесяткі строф розных паэтаў, а Галю так і не захапіў. Галя злезла з вываратня, атрэсла спаднічку ад пацярухі.

— Мне пара. Можаш правесці, калі хочаш,— не то спытала, не то папрасіла мяне. Па зарослай сухімі рамонкамі і трыпутнікам мяжы мы пайшлі да брамкі ў канцы саду. Тут яшчэ пахла познімі антонаўкамі, апалым лісцем, вінным духам гнілак і дымком ад сухое травы і сучча.

Каля брамкі мы спыніліся і маўчалі.

— А з табою ёсць пра што пагаварыць. Ты ж не толькі вершыкі знаеш?.. Калі не раздажджыцца, прыходзь на гэты вываратня, і я прыйду, пагаворым, паходзім. Так сумна адной,— і падала на развітанне руку, я затрымаў яе і доўга глядзеў у шэрыя вочы. Яны вільготнелі, і па шчацэ скацілася слязінка.

— Пацалуй мяне,— яна кніжкаю тыцнула ў шчаку,— мяне яшчэ ніхто не цалаваў і наўрад ці калі пацалуе.

Мне здалося адразу, што яна жартуе, і не зрушыўся з месца.

— Ну... Баішся? Ці грэбуеш?

Я дакрануўся вуснамі да паружавелай шчакі. Галя адкінула галоўку і заплюшчылася. Я ўпіўся ў яе гарачыя вусны, адчуў, як цокаюць зубы. Нарэшце яна рэзка адарвалася, кулачком выцерла шчокі.

— Вось і ў нас ёсць тайна. І глядзі, нікому — ні слова. Чуеш? А то зненавіджу. І нічога не выдумляй, і ні на што не разлічвай. Гэта так. Нешта на мяне накаціла. Можа, ад вершаў. Ідзі і не азірайся.— Яна ляпнула брамкаю і пабегла праз сад, згінаючыся пад навіссю веццяў. Я доўга стаяў каля плота і глядзеў ёй услед.

Пакуль было цёпла і ціха, я хадзіў на ўзлессе, садзіўся на той сточаны шашалем выварат, шпацыраваў па сцежцы, углядаўся, ці не мільгае дзе знаёмая постаць. Але ўсё дарэмна. Галя не з'яўлялася ні ў садзе, ні ў лесе. Пайсці цяпер у лясніцтва без патрэбы я не адважваўся. Часам павольна хадзіў каля шчытнай садовай агароджы: тоўстыя дошкі рассохліся, патрэскаліся і абраслі сівым мохам. Па апусцелым садзе тупаў толькі вартаўнік, абкопваў яблыні, збіраў падгнілыя з белымі струпамі яблыкі і зносіў іх да будана.

Праз некалькі дзён задажджыла. Паплылі нізкія хмары, цуркі вады папрабівалі дзірачкі ў прызбе, у хаце і днём стаяў паўзмрок.

Пасля бальніцы я хутка ад'еўся і акрыяў, на галаве адскочылі колкія валасы; трохі памагаў маме па гаспадарцы і ўсё часцей пазіраў на замглёныя елкі ў колішнім панскім садзе, успамінаў Галю. І так хацелася пабачыць яе.

Вяртацца на камбінат не хацелася, ды і сі-

лы яшчэ не набраў, а нешта рабіць трэба было. У мястэчку на круглай тумбе выпадкова прачытаў абвестку, што раённы аддзел народнай асветы набірае «ліквідатараў непісьменнасці» з адукацыяй не ніжэй сямі класаў. Месячны аклад 28 рублёў. А што, думаю, і гэта работа, і такія грошы не валяюцца. Зіму пахаджу ў ліквідатарах, а там відаць будзе. Пайшоў і адразу наняўся. Прызначылі мяне ў вёску за тры вярсты ад нашае, выдалі сшыткі, грыфельныя дошкі, лемантары для дарослых і разразныя азбукі. З членам сельсавета мы згадзілі прастарнейшую хату: у адной жылі гаспадары, другая пуставала. У ёй павесілі дзве лямпы, паставілі на козлах доўгі стол і лаўкі, сельсавет па гужпавіннасці прывёз дроў, адпусціў газы. Непісьменных сабралася аж дваццаць дзве душы, найбольш жанкі сярэдняга веку і некалькі маладзіц, прыбіўся і мясцовы «дзед Шчукар» — хітры пустабрэх. Непрыстойнымі жарцікамі і пякельным самасадам ён ледзь не разваліў усю маю школу.

Дажджы расквасілі дарогі ў такую калатушу, што і ў добрых ботах цяжка было дайсці да маёй «работы». Таму хадзіў задамі па растаптаных травяністых сцежках. Я адразу ўявіў сябе сапраўдным настаўнікам: завёў журнал, рабіў пераклічкі, ставіў адзнакі. На заняткі, толькі падаіўшы кароў і ўправіўшыся дома, прыходзіла калі дзесяць, калі дванаццаць жанчын, а бывала, і таго меней. Каб не распаўся мой «лікпункт», бывала, хадзіў па хатах, вучыў дома складаць з картонных літар «Ты», «Мы», «Дом», «Дуб» і нарэшце: «Мы — не рабы, рабы — не мы».

Я купіў ліхтар «Лятучая мыш» і [redacted] ім хадзіў палявою дарогаю каля лясніцтва. На дзядзінцы і ў старым садзе шумелі прысады. Я спыняўся супроць дома. У ім заўсёды позна свяцілася адно акно. Гэта быў Галін пакойчык. Я махаў ліхтаром, спадзеючыся, што нехта адсуне фіранку, зірне ў двор. Нікога. Недзе каля свірна грымеў ланцугом і заходзіўся брэхам сабака.

Нечакана ўдарылі маразы. Лужыны, зашклёныя тонкім лядком з белымі карункамі, і зарунелыя палі прыцерушыў снежны пыл, неба праяснела, а ноччу вызарыла, халады набіралі сілу. Зямля аж гула пад калясьмі, лес і сады ўкрываліся шэранню, яна іскрылася пад промнямі халоднага сонца, асыпалася ад ветру, а за ноч зноў усё серабрылася, нібы ў майскай квецені.

Яшчэ завідна ішоў я ў свой «лікпункт». Ззаду звонка цокалі капыты і грымелі колы. На лёгкім вазку побач з ляснічым сядзеў у футры і чорным капелюшы, у залатых акулярах белабароды славуты местачковы фельчар Нохім. На каленях ён трымаў пацёрты скураны саквояжык. Нечаканая трывога ахапіла мяне. Толькі назаўтра мне маці сказала:

— Саўсім жа слабая дзеўка ў Карэцкіх. І так, бедная, ледзьве дыхала, дык на табе, трэба было яшчэ застудзіцца. Каторы дзень, кажуць, у гарачцы кідаецца. Ні банькі, ні п’яўкі не могуць даць рады. Як свечачка, згасае беднае дзіцяя. Я-то ведаю, як маці горка, калі дзіцяя на той свет пазірае.

Мяне агарнулі страх і жаль. Я адчуў, як заірдзеліся шчокі, як затахкала сэрца, бо ўсіх

шкадаваў, а Галя з тае сустрэчы стала нібы свая. Хацелася пабегчы ў лясніцтва, дапытацца, што з ёю, паглядзець хоць здалёк. Але ці мог я адважыцца пайсці ў тым сарамяжным узросце?

Я заўсёды прыслухоўваўся, як тарахцяць па ўмерзлай дарозе лёгкія колы, ведаў, што зноў да Галі павезлі фельчара, значыць, ёй не палегчала.

Сцюдзёнаю і ветранаю ноччу, затуліўшы ліхтар крысом паддзеўкі, я спыніўся насупроць лясніцтва. У вокнах было светла, у Галіным акне мільгала некалькі свечак, а верхняя шыбіна чырванела ад запаленай лампадкі. Я скамянеў ад нечаканасці. Няўжо? Няўжо? Мяне біла ліхаманка ад сцюжы і трывогі. Вецер хвастаў шчокі шорсткім настылым пяском, слязіліся вочы. І свечкі, і лампадка ўстрывожылі да болю ў грудзях, не хапала паветра; наблізіўся да дома, прыслухаўся: пачуўся прыглушаны стогн і гул ветру ў голым вецці старых ліп.

Дома, не запальваючы лямпу, я лёг на халоднае кужэльнае прасціradла, накрыўся з галавою суконнаю коўдраю, каб не чутно было, як ляскочуць мае зубы. Стараўся заснуць, але які там быў сон! Пад раніцу ў правалах забыцця вярзліся нейкія вялізныя лупатыя павукі, а я ніяк не выпутваўся з ліпкага павуціння, а недзе ў змроку з маім ліхтаром бегла і спатыкалася ў чорным капялюшыку Галя. Я клікаў яе, а голасу не было чуваць, а яна ўсё меншала, пакуль не знікла ў змроку зусім. Я прахапіўся ад страху. За акном сінела халодная зорная ноч. За печчу не сціхаў цвыркун, ды цяжка ўздыхала маці. Бацька пасля доўгага сходу па

самаабкладанню, відаць, недзе заначаваў у далёкім засценку.

Галя сканала ў тую халодную трывожную ноч.

Пасля паўдня купкамі і па адным нашы суседзі ішлі ў лясніцтва. Я пайшоў задамі, каля таго ўзлесся, дзе апошні раз сустрэўся з Галяю, і ўспомнілася ўсё да драбніц — пах яе валасоў, асінавы дубчык з чырвоным лістком, наша размова каля брамкі ў тыльным плоце саду. Я абагнуў яго і ўвайшоў у двор. На высокім ганку стаялі без шапак і курылі мужчыны, гаманілі жанкі ў чорных хусцінках, а ў цёмным прававеле расчыненых дзвярэй дрыжалі агеньчыкі свечак. Не хацелася верыць, што там — нерухомая, застылая, адлучаная ад усяго існага на зямлі, такая маладзенькая Галя.

Пастаяў і пайшоў далей уздоўж дзядзінца. У дальнім свірне шорхаў гэблік, грукаў малаток па нечым пустым і гулкім. Ад прыкрасці і страху я павярнуў назад, каля ганка зняў шапку і на дыбачках увайшоў у вялікі пярэдні пакой. Там сядзелі і стаялі людзі, высока на доўгім стале ў белай шлюбнай сукенцы, у вэлюмам і вяночкам на маленькай галоўцы, дробненькая, як падлетак, ляжала дзяўчынка, ужо не падобная на Галю. У высокіх, відаць, яшчэ панскіх падсвечніках гарэлі тоўстыя грамнічныя і шлюбныя свечкі, аплеценыя тонкімі блішчастымі змейкамі. З суседняга пакоя даходзіла прыглушанае галашэнне і стогн. Я падышоў бліжэй: павекі глыбока запалі, тонкія бровы ўзняліся, нібыта ў здзіўленні, скусаныя вусны запякліся і пажоўклі, складзеныя далонькі былі васкова-празрыстыя. Каб не заплакаць, я

хуценька выйшаў у двор і апынуўся не на вуліцы, а ў садзе. Пад нагамі, як бляшанае, шаргацела счарнелае лісце і заінелае бадылле прымарожаных кветак, дзядоўніку і палыну. Лес стаяў маўкліва-празрысты, стоены і журботны, толькі ледзьве гайдаліся верхавіны пасівелых ад шэрані сосен.

Хавалі Галю на другі дзень на селавых кладах. Дамавіну неслі пазменна маладзейшыя леснікі і нашы вясковыя хлопцы. Паперадзе ў чорнай рызе з белаю аблямоўкаю і срабрыстымі крыжамі размахваў кадзілам поп. Казалі, на гэтым настояла маці ляснічага. Мне, «ліквідатару» і камсамольцу, ісці за папом было няёмка і боязна.

А ноччу ўсхадзілася завіруха. Да раніцы поле, дарогі і стрэхі ўкрыліся снегам, у паветры круціліся, як іголкі, колкія сняжынкі, а ўсё наваколле іскрылася і зіхацела, аж рэзала вочы. Па цаліку зарыпелі і паплылі сані, пад палазамі заблішчаў пругкі, уезджаны след. Я ўзяў кіёк і пайшоў далёка за вёску, дзе на ўзгорку маўкліва стаялі замеценыя завеяй старыя надмагільныя хвоі. Брамка на клады была адчынена, а па чыстым снезе, відаць, толькі праскакала варона. Галіну магілку адшукаў адразу: з-пад снегу тырчалі камякі гліны, а на грудку з вазонаў тырчалі замеценыя і прыхопленыя марозам счарнелыя кветкі. Ці ад холаду, ці ад ветру ў мяне заслязіліся вочы. Я пазграбаў з грудка і застылых кветак снег, хукаў на азяблыя рукі; і не верылася, што больш ніколі не ўбачу адкрытую, ласкавую, даверлівую сваю равесніцу. Я ніколі не захапляўся ёю, але заўсёды святлела на душы, што яна ёсць, што мож-

на яе нечакана сустрэць, нетутэйшую, не падобную на іншых, заўсёды задуменную і трошачкі сумную. Ёй бы жыць ды жыць, радавацца самой і радаваць людзей, а яе няма і не будзе ніколі. Жыве ж і каторы год просіць смерці разбіты паралюшам, мабыць, стогадовы дзед Пофа. Пакутуе сам, звяліся ўсе хатнія. А каму так хацелася жыць, знік назаўсёды пад гэтым грудком, замеценым першым снегам. Мог бы гэтак знікнуць і я, каб не ўратавалі дактары ў бабруйскай бальніцы. Значыць, пашанцавала. Вось прыйду дадому, каля печы адагрэю рукі, паем гарачай заскваранай капусты, а ўвечары з ліхтаром зноў пайду да сваіх сонных і не надта старанных вучаніц з цяжкімі, парэпанымі рукамі, асмужанымі вятрамі і холадам тварамі. Толькі ўжо не буду спыняцца каля лясніцтва, і ў кутнім акне больш не загарыцца святло.

Праз месяц ляснічы з'ехаў ад нас не то ў Лапічы, не то ў Чырвоны бераг. Казалі, доўга на яго сварыліся і сарамацілі ў райвыканкоме за тое, што падаў кепскі прыклад сваім падначаленым, што іграў на руку царкоўнікам, і перавялі ў другое месца.

Неўзабаве з'ехаў з дому і я. Жыццё мяне круціла на ўсе бакі: падаў, караскаўся і зноў уставаў. Толькі гадоў праз дваццаць прыехаў у родныя мясціны: ні радні, ні блізкіх сяброў амаль ужо не засталося. У першы дзень пайшоў на клады, ледзь адшукаў матчыну магілу. Раптам з невысокага гранітнага слупка з крыжыкам наверсе зірнулі сумныя вочы дзяўчынкі з куцымі коскамі і горкай усмешкай. Надпіс зліняў і пачаў зарастаць мохам: «Галіна Карэцкая. 1914—1931». І больш нічога.

# РУТА

> Волшебной силой песнопенья
> В туманной памяти моей
> Так оживляются виденья
> То светлых, то печальных дней.
>
> *А. Пушкин*

Як толькі ўзялася ў сілу трава і зашумелі клейкай лістотай бярозы, зноў на ўзлессі стаў цыганскі табар. Ад колішняга маёнтка да гонкага хвойніку вяла абсаджаная старымі бярозамі дарога, у канцы яе, на ўтравянелай лагчынцы стаяла невялічкая каплічка з выбітым шклом, злінялаю і пакалечанаю фігуркаю маткі боскай. Тут і спыняліся кожны год адны і тыя ж цыганы: нацягвалі палапленыя, парыжэлыя ад дажджоў і дарожнага пылу шатры, загараліся вогнішчы, звінелі кавадлы і чулася здалёк гамана. Цыганы лудзілі катлы і глякі, чаканілі бляшкі на аброці і набедрыкі, а цыганкі ў доўгіх стракатых спадніцах, чырвоных, жоўтых, зялёных і сініх хустках разыходзіліся па сёлах варажыць на картах і прысушваць каханых, ратаваць кароў ад ліхога вока, а дзяцей ад пераляку. Многія проста хадзілі з хаты ў хату прасіць лусту хлеба і скварку «сабе і свайму цыганяці».

Вечарамі ўсе збіраліся ў табары. Высока палалі вогнішчы, гучалі доўгія звонкія і тужлі-

выя песні. Ныла гітара, плакала скрыпка, адбіваў такт бубен з мядзяным перазвонам. У іх былі жальба і надрыўны стогн па далёкіх дарогах і страчаным шчасці, спрадвечны боль прыгожага вандроўнага роду. Раптам віхурай закручвалася «Цыганачка» пад пляскат учарнелых і жорсткіх далоняў. У круг, заліты водбліскам полымя, урывалася гнуткая, як ракіцінка, маладая дзяўчынка ў вясёлкавай замеці шырокіх фальбонаў. Гарачым вуголлем палалі вочы, залацістымі маладзікамі гарэлі завушніцы, яна высока несла прыгожую галоўку, блішчалі даспелаю чырванню вільготныя вусны, ад полымя здаваліся ружовымі роўныя, як часнок, зубы, звінелі маністы з мікалаеўскіх срэбных манет, пад цеснаю блузкаю ўздрыгвалі тугія грудзі.

Ёй насустрач выскачыў ладны цыган у лакіраваных ботах, шырокіх аксамітных шараварах, з-пад чорнай з разводамі камізэлькі языкамі полымя выбіваліся шырокія рукавы малінавай кашулі. Ён, як каршун з акрываўленым крыллем, кружыўся вакол прыгажуні, ляскаў далонямі па халявах, войкаў, эхкаў, екатаў, пайшоў упрысядкі, а цыганачка плыла па крузе, як лебядзіныя шыі, згіналіся яе смуглявыя рукі. Гэта быў не танец, а размова двух гарачых сэрцаў — стрымана-разважлівага, ганарлівага, з падкрэсленай недаступнай годнасцю, і шалёнага ў няўрымслівай пагоні. Яно, здавалася, крычала, дамагалася неадкладнага водгуку на палымяны тэмперамент. А дзявочае, стрымліваючы прытоены жар, некуды клікала плаўнымі павевамі пяшчотных рук, засланялася вузкімі далонькамі, адмахвалася і вабіла да

сябе. Гэта быў танец пачуццяў, размова без слоў.

Наўкруг стаялі і ляскалі ў такт цыганы і цыганкі. Над імі ўзвышаўся старэйшына табара дзед Даніла ў чорным капелюшы, з-пад смольных кудзераў з павуцінкамі сівізны пабліскавала вялікая завушніца, вусы звісалі ніжэй падбародка, арліныя вочы ад бляску полымя наліліся чырванню. На ім — чорны аксамітны сурдут, на расшпіленай кудлатай грудзіне блішчыць залаты медальён, а погляд адсутны, нібы ён тут і не тут, бачыць танец, а думае пра сваё, можа, і сябе ўспамінае такім жа маладым, і сваю каханую, пахаваную недзе край дарогі. І магіла згубілася, і табар ні разу не трапіў на тыя гасцінцы, і могілак цыганскіх нідзе не было... А можа, пра нешта іншае думаў дзед Даніла.

Маладзіцы трымалі на руках мурзатых цыганят, большыя дзеці круціліся каля танцораў, прытупвалі ў лад музыцы, пускаліся ўпрысядкі. У вачах маладых і старых успыхвалі іскры, спякотным бляскам пераліваліся чырвоныя і жоўтыя атласныя кашулі на белазубых кучаравых цыганах. У крузе танцавала зусім маладзенькая, гнуткая і статная Рута. Можа, гэта быў яе першы танец на людзях. У абліччы і ў характары Руты было мала цыганскага: светлы твар, шэрыя вочы, цёмна-русыя з падпалінамі валасы. Можа, гэта выклікала сумненні ў табары, але Рута была яго аздобай.

Цыганы гэтае месца ўпадабалі даўно, і я Руту чамусьці прыкмеціў з першай сутрэчы. Яна была негаваркая, сарамяжная, ніколі нічога не выпрошвала, не набівалася варажыць,— хадзі-

ла па хатах са сваёю маці, гаваркою, але не нахабнаю, у самым цвеце цыганкаю Кацярынаю. Яны ніколі не міналі нашу хату. Заходзілі як добрыя знаёмыя. Кацярына расказвала маёй маме пра свае вандроўкі па Украіне і Волзе, па сёлах Случчыны і Любаншчыны. У Ніжыне і Пластку пад Любанню яны заўсёды зімавалі.

Рута моўчкі сядзела на ўслончыку, паклаўшы вузкія зграбныя рукі на калені. З-пад шырокіх спадніц вытыркаліся запыленыя маленькія ножкі з ружовымі пазногцікамі, на стане напінаўся расшыты бліскаўкамі тугі кабацік. Пакуль гаварылі жанкі, яна маркотна пазірала ў акно, а то падыходзіла да сцяны і разглядала малюнкі на адрыўным календары. Мама не давала ім кавалкаў, а запрашала за стол і карміла абедам.

Калі Кацярына з дачкою заходзілі да нас, у мяне пачынала часцей стукаць сэрца, я губляўся, апускаў вочы, ненатуральна мітусіўся і крадком аглядаў дзяўчыну ад малюпаценькіх пальчыкаў босых ног да хвалістых валасоў, пранізаных сонцам. На дарогу маці давала Кацярыне пару сухіх гомалак і ладны акраец хлеба. Тая далікатна аднеквалася, і міласціна знікала ў нейкіх патаемных кішэнях.

На змярканні я хадзіў да цыганскіх вогнішчаў. Слухаў працяжныя сумныя песні, глядзеў, як у вялікіх казанах паруе вячэрняе варыва, як дурэюць і скачуць галапузыя цыганяты, а часцей непрыкметна спыняўся каля Кацярынінага шатра, глядзеў, як Рута, падкурчыўшы ногі, падграбае ўкрытае белым прысакам вуголле пад трыногаю, а на ёй у закураным

кацялку булькае заскварааны кулеш. Мы часам гаворым з ёю. Пра што? Так, ні пра што — дзе была, што бачыла, куды збіраецца заўтра, а ці зойдзе да нас, спытаць не адважваўся. Калі пад гітару і скрыпку тужліва запяюць каля суседняга вогнішча, пытаўся, пра што тая песня.

— Табе рана пра гэта... Пра каханне і пра здраду пяюць.

— А табе хіба не рана?

— Я дзеўчына. Мне пара чакаць нарачонага. У нас рана замуж аддаюць,— сумна гаворыць Рута. Мне шкода яе, я зайздрошчу таму, хто возьме яе ў жонкі, такую ладную, статную і ласкавую. Ён недзе тут, у табары.

— Гэта ты з ім танцавала?

— Не ведаю. Можа, і з ім,— загадкава ўсміхаецца Рута і маўчыць.

Каб толькі нешта казаць, пытаюся:

— А ты ўмееш чытаць? — Яна адмоўна круціць галавою. Мне аж не верыцца, што такая дзяўчына і не ўмее чытаць.

На другі дзень я прынёс у табар паэму Пушкіна «Цыганы». Каля вогнішча Кацярына мясіла жытняе цеста на праснакі, раскочвала яго і кідала на гарачую патэльню. Руцін бацька, сухі, чорны, як галавешка, цыган хутаўся ў старую кажушную безрукаўку, а яго доўгія худыя рукі бездапаможна ляжалі на каленях падкурчаных ног. Рута скубла курынае пер'е. Я павітаўся.

— О, каго бачу! Хадзі да шалаша, адагрэецца душа. І павячэраеш з намі,— запрасіла Кацярына. Я засаромеўся, патаптаўся, але сеў бліжэй да агню. Згасала залаціста-чырвоная паласа захаду, на ружавата-зялёным небе

выбліснулі першыя зоры, у суседніх шалашах чулася прыглушаная гамана, плач дзяцей, іржанне і тупат коней на ўзлессі. Руцін бацька спытаў, што ў мяне за скрутачак. Я разгарнуў кніжку і сказаў, што ў ёй вельмі складна напісана пра цыганоў.

— А хто і што можа пра нас ведаць? — не паверыў цыган.

— Пушкін,— адказаў я і паказаў партрэт.

— Дай, дай сюды,— цыган сухімі пальцамі ўзяў кніжку, паглядзеў зблізку, потым здалёк, пакруціў так і гэтак.

— Дык ён жа цыган. Палянь, Каця? Хіба не? Выліты Епіфан. Зірні, Руціца.

Я запярэчыў, што прадзед Пушкіна быў з Афрыкі.

— Дык і там, у той Афрыцы, нашага брата не бракуе... Чытай. Паглядзім, цыган ці не.

Я прысунуўся бліжэй да вогнішча, побач сядзела Рута. Чуўся пах яе прадымленай і прапацелай сукенкі, рассыпаных па плячах валасоў. Ад святла вогнішча яны здаваліся то залацістымі, то чырвонымі, як агонь. Я пачаў чытаць натхнёна і выразна, каб даходзіла кожнае слова. Усе прыціхлі, толькі сіпела патухлая люлька цыгана. Калі я дайшоў да радкоў

Огни везде погашены,
Спокойно всё; луна сияет
Одна с небесной вышины
И тихий табор озаряет.
В шатре одном старик не спит;
Он перед углями сидит,
Согретый их последним жаром,
И в поле дальнее глядит,
Ночным подернутое паром...

Рута цёмнай далонькай змахнула слязінку, а бацька перабіў мяне:

— Ану, пакажы яшчэ.— Узяў з рук кніжку, доўга глядзеў на партрэт, вярнуў мне.— Складна напісаў. Відаць, усё ж цыган ён. Можа, украў яго той фрыканец.

Я і не заўважыў, як пападыходзілі суседзі. Яны стаялі моўчкі і чакалі, калі пачну чытаць далей.

Калі скончыў чытаць, ужо дагарэлі кастры, замоўк табар. Рута сядзела, нізка апусціўшы галаву. Я развітаўся, адышоўся і азірнуўся. Яна заграбала пад трыногаю жар. Я амаль бег пад бярозавымі прысадамі, з лісця зрываліся і падалі на твар халодныя расінкі, над маладым жытам плыў зеленаваты туман пад святлом поўнага месяца.

Каб не будзіць маму, я спаў у гумне на лапіку леташняга сена. Лёг, укрыўся посцілкаю, але доўга заснуць не мог: праз шчыліну ў даху і няшчытных варотах сачылася месячнае святло, сухія сянінкі казыталі шыю і твар, у вушах стаяў камарыны звон, а ў вачах усё яшчэ дагарала вогнішча, сядзела задуменная Рута, кехкаў яе бацька. Я паварочаўся і выйшаў з гумна. Над полем гайдаўся зеленаваты туман, на схіле неба пачырванеў месяц. Здалося, што ў свеце я адзіным-адзін, і стала горка да слёз.

Табар з'ехаў нечакана. Я схадзіў на тое ўзлессе. На кастрышчах ляжалі астылыя галавешкі, вецер разносіў шэры попел, перацёртую салому, валяліся каляровыя стужкі старызны ды ўсеяныя жукамі конскія яблыкі. На месцы Руцінага шатра была толькі пажоўклая выкачаная трава.

* * *

На другую вясну надвячоркам пацягнула дымком з таго цыганскага ўзлесся. Хацелася збегаць, паглядзець, але стрымлівала боязь: а што, калі Рута ўжо перайшла ў другі шалаш, да таго кудлатага цыгана, а то, чаго добрага, ужо і цыганятка носіць за спінаю. Узлез на плот, паглядзеў на дымкі над вогнішчамі, на белыя і шэрыя шатры за хвалістаю сцяною зялёнага жыта.

У першыя дні да нас ніхто не заходзіў: разбрыліся цыганкі па шляхецкіх засценках, цыганы конна гарцавалі з кірмаша на кірмаш, у табары млява ляпалі кволыя лудзільшчыкі ды плакалі дзеці. Я часам даходзіў да табара, а зайсці не адважваўся, спадзяваўся, што Рута з маткаю не абмінуць нас.

Спякотным днём я прывёз воз жэрдак і заскочыў у хату каўтнуць ад смагі глыток вады. На табурэце насупраць мамы сядзела змізарнелая, з густою сівізною ў валасах Кацярына, на ёй была чорная сукня і гаматны запылены мужчынскі пінжак. Па маміным расчырванелым твары спаўзалі слёзы. Я ціха павітаўся, бо адчуў нешта нядобрае, зачарпнуў карэц, Кацярына зірнула на мяне запалымі вачамі і заплакала ўголас.

— Няма, дзеткі, маёй Руціцы, няма маёй ясачкі. Яна ж, бедненькая, усё ўспамінала тую кніжачку, што ты чытаў, усё прасілася вучыцца і часта прыгаворвала нешта з тых сцішкоў.

Я нічога не зразумеў з яе гаворкі, але адчуў, што здарылася нешта страшнае і непапраў-

нае. Каўтнуў глыток вады і паставіў недапіты карэц.

— Ідзі, сынок, распражы кабылу, каб здракі не секлі,— выціраючы вочы, загадала мама,— я табе потым усё раскажу.

Я выйшаў з хаты, пазганяў дубцом з кабылы аваднёў і сляпнёў, распрог яе і адвёў у стайню, пачаў зносіць у штабель жэрдкі, а спакою не давала адна думка: што ж стрэслася з Рутаю. На ганку з мамаю развітвалася Кацярына, але не пайшла на вуліцу, а павярнула ў двор, каб загуменнем выйсці на лугавую сцежку, што вяла ў суседні пасёлак.

Калі цыганка параўнялася са мною, я напаўдарозе кінуў жэрдку, выцер аб штаны засмоленыя рукі, перагарадзіў сцежку і, запінаючыся, спытаў:

— Скажыце мне праўду. Што з Рутаю?

Яна памаўчала, акінула мяне поглядам знізу ўверх і ціха загаварыла:

— Ой, хлопча, хлопча, колькі яшчэ на зямлі лютасці і злосці, не прывядзі гасподзь. І гром іх не паб'е, і бог не пакарае.— Памаўчала яшчэ, відаць, думала, як пачаць. Я тады не разумеў, як цяжка маці гаварыць пра сваё гора і як трэба берагчы матчыны сэрцы.

Кацярына загаварыла павольна, запінаючыся, і пачала здалёк:

— Зімавалі мы ў Загаллі. Ведама, хадзілі па сёлах і неяк карміліся каля добрых людзей. Стары мой вялы саўсім, нягеглы і нядужы. Я часцей аставалася пры ім. Па сёлах пайшла Руціца. Сарамлівая яна была, цыганскага ў ёй было мала, але людзі спагадалі ёй, і ніколі з пустою торбаю не прыходзіла, хлеб давалі, а пасля

каляд і скваркай скароміліся. Ужо і на весну павярнула, дні пабольшалі, снег памякчэў. Пайшла мая Руціца варажыць у Язмін: дзевак там на выданні, не раўнуючы, як на кірмашы. Кожнай карціць, адкуль сватоў чакаць. Дачушка мая і суцяшала іх. Пайшла зранку. Змяркацца пачало, а яе ўсё няма. Трывога нейкая навалілася. Ужо і зоры высыпалі, а Руты ні слыху ні дыху. Такога зроду не было. Тая ноч мне за год сцяглася, у вочы, няйначай, пяску насыпалі. Яшчэ і не вывіднела, паляцела я ў той Язмін: у адну хату, у другую. «Была,— кажуць,— маладзенькая цыганачка, складна так варажыла і пабегла ў сяла яшчэ завідна».

Дарогі тае ад сілы вярсты чатыры, а то і меней. На нагу яна была порсткая. Тут маё сэрца і ўпала. Ваўкі, думала, напалі: круцілася ж тут не адна гайня пасля піліпаўкі. Зблудзіла — суцяшаю сябе, але каб і хацеў, са сцежкі нікуды не звернеш, снег вунь які. Лясок — заяц у тры махі пераскочыць. Бегала я па ім, гукала, галасіла, па сумётах грузала — нідзе ні слядочка.— Кацярына шморгала носам і выцірала непаслухмяныя слёзы. Я стаяў аслупянелы.

— Так і не знайшлі? — не вытрываў я.

— Знайшлі, дзеткі, знайшлі. Лепш бы не бачыць, што з ёю зрабілі. Яна ж была, як лялька, і ты ж прыходзіў паглядзець на яе,— зноў замоўкла Кацярына. Відаць, сказаць самае страшнае асабліва цяжка. Стаяла яна чорная, як здань, сцяўшы асмужаныя шурпатыя вусны, з поўнымі вачамі слёз...

— Два іроды, браты родныя, дзікія, як ваўкі кручаныя, запынілі яе, няшчасную, у лесе, скруцілі ручанькі паяском, знушчаліся з яе, як

хацелі, рот хусцінкаю заткнулі, каб не крычала. А як нацешыліся, пабаяліся, каб не выказала, дык данеслі да рэчкі і ў пельку спусцілі пад лёд. За ноч мяцеліца зараўняла сляды, і — ні знаку. А мы ўсім табарам, і кансамольцы з намі, каля тыдня лазілі па лесе — і нічагусенькі.

Толькі пад весну вятры пазганялі з рэчкі снег, пад чыстым лёдам, як пад люстрам, убачыў яе наш хлопец. Адзін ён не пераставаў шукаць — ездзіў конна, дапытваўся ў людзей, хадзіў, як тручаны, і выхадзіў-такі на бяду сабе і на гора нам.

— Епіфан знайшоў яе? — ляпнуў я.

— А табе адкуль знаць? Праўда, Епіфан. Высах ён, як тычка... Па тым пояску пазналі, хто яе са свету звёў. Тыя два ваўкалакі ўсю зіму туляліся па лясах ды адзінокіх футарах. Бацькоў іх у Сібір саслалі, а сыны ўцяклі з таго кулацкага абозу. Цяпер іх шукалі не толькі мы, уласці шукалі: грэх убіўцам дараваць — пралітая кроў не дазволіць. І знайшлі-такі ірадаў аж недзе пад гэтым, як яго?.. Дай бог памяць, пад Чарнобылем аж. А судзілі ў Любані. Народу найшло, як у царкву на вялікдзень. Ваўкалакі тыя толькі нешта мармыталі і не адпіраліся. Людзі хацелі самі з імі каламі рашчытацца, дык міліцыя не дала. Я толькі паспела плюнуць у іх азвярэлыя хары. От так, дзеткі,— уздыхнула Кацярына,— няма нашай Руціцы, анёла нашага.

У мяне адняло мову, я не ведаў, што можна сказаць.

— А ты не цурайся. Прыходзь да нас і тую кніжачку прынось, пачытаеш. Рута любіла яе. Ну, я пайшла.

Кацярына лёгка пераскочыла пералаз, збегла ў нізіну і праз нейкі час знікла ў алешніку. Я доўга глядзеў ёй услед, а ў табар болей не пайшоў. Заплюшчу вочы і бачу жывую Руту то ў шалёным танцы, то маўклівую і журботную каля цьмянага вогнішча на тым колішнім цыганскім узлессі, толькі жывую, толькі юную і прыгожую.

## ГЭТА Ж ЯНА

На летнія канікулы з'язджаліся ўсе знаёмыя студэнты, ужо адметныя ад сваіх мястэчковых равеснікаў гарадскою вопраткаю, прычоскамі, моднымі слоўцамі і манерамі трымацца, упэўненасцю ў сваёй дасведчанасці і перавазе. Хлопцы і дзяўчаты весела шпацыравалі па адзінай брукаванай вуліцы, пры месячным святле гулялі ў «гарэлкі» ў ціхай зялёнай Дашкоўскай вулачцы, а потым парамі разыходзіліся на зацішныя цьмяныя ганачкі, у бэзавыя і язмінавыя палісады.

Толькі наезджая практыкантка-медычка, статная дзяўчына ў ружовай суконцы, з круглаю каштанаваю стрыжкаю і зеленаватымі вачамі ні з кім не знаёмілася і не сябравала, не хадзіла на шпацыр, гульні і вечарынкі. Лічылі яе ганарліваю, хоць адметнаю красуняю яна і не была. Проста па-маладому статная, імклівая ў хадзе, круглатварая і трошкі кірпаценькая, але была ў ёй нейкая іскрынка, што вабіла і спыняла ўвагу. Я ведаў, што завуць яе Марусяй, праходзіць практыку ў бальніцы, жыве ў сястры на агранамічным участку пры выяздзе з мястэчка.

Хлопцы казалі, што на ўсе падыходы толькі ўсміхаецца, скоса пазірае і ідзе далей. Што ж яна за цаца? — заінтрыгавала мяне. І пачаў

цікаваць яе, але ў вочы сляпіцаю не лез, толькі назіраў здалёк.

Кожны вечар, калі зарэчныя лугі млелі ў сіняватай смузе і над імі курыліся пасмы туману, а чароды гусей з гергетаннем цягнуліся з выгану дадому, дзяўчына ў ружовай сукенцы спяшалася на рэчку. Цераз плячо перакінуты квяцісты ручнік, яна шпарка ішла па вузкай лугавой сцежцы, толькі мільгалі на моцных нагах беленькія «таргсінкі». Часцей яе бачыў на адлегласці, але нешта прывабнае было ў яе постаці і абліччы. Яна адна прыходзіла на стромкі бераг, дзе звычайна купаліся жанчыны. Купальнікаў і плавак у той час мы не ведалі: у жанчын было адно месца, мужчыны купаліся дзе прыйдзецца — распраналіся ў зацішку надрэчных кустоў і, азіраючыся, сігалі ў павольную плынь ракі.

Я здалёк пазіраў, як за кустамі ракітніку мільгала ружовая сукенка, потым, затуліўшыся спераду рукамі, з крутога берага зрывалася высокая белая постаць. У вечаровай цішыні далёка было чутно, як звонка б'юць далоні па вадзе.

Канчаўся жнівень, а з ім і нашы канікулы. Я і не спадзяваўся сустрэцца і загаварыць з гэтай ганарлівай дзяўчынай. Не ведаю, што больш замінала, залішняя сціпласць ці ўласны ганарок. Я пераконваў сябе, што нічога асаблівага ў ёй няма, і ўсё ж кожным надвячоркам ішоў на ўтравянелы надрэчны вал, углядаўся ў далёкія замглёныя лугі з пачарнелымі стагамі. За далёкім пясчаным узгоркам сінелі маладыя хвойнікі. На заваротах жывым срэбрам пабліскавала рака і знікала зноў за крутымі берагамі і кустамі алешніку. Да ад'езду заставаліся лі-

чаныя дні, я збіраўся ў свой інстытут, не сёння-заўтра магла знікнуць і Маруся.

У суботні вечар на рэчку яна не прыйшла. Я даседзеў на вале да змяркання і, нібыта нешта страціўшы, пайшоў у мястэчка. Пасярод базарнай плошчы стаяў высокі і доўгі нардом. У ім праводзілі сходы, ставілі аматарскія спектаклі і разы са тры на тыдзень паказвалі старыя кінакарціны. Пры мне ў вокнах патухла святло, загайдаўся зеленаваты слупок з праектара. Я паспеў узяць білет і ўбег у цёмную залу. На доўгіх лаўках, часам асветленыя экранам, чарнелі абрысы галоў. Я спыніўся ў вузкім праходзе, не ведаючы, куды прыткнуцца. Нехта крайні заварушыўся, адсунуўся. Я зразумеў, што мне даюць месца. Я сеў, мая суседка памкнулася далей управа. Каб не заміналі пярэднія, нахіліўся да суседкі і адчуў цяпло яе пляча. Запалілі святло, каб закласці новы ролік, і я ўбачыў, што сяджу побач з Марусяю. На ёй была мяккая мультановая сукенка ў буйную клетку. Толькі цяпер я здагадаўся павітацца і падзякаваць за месца. Яна ўсміхнулася і абыякава адказала: «Лаўка казённая, сядзіце дзе прыйдзецца, а месцы адзначаць у вас яшчэ не дадумаліся».— «І добра, што не дадумаліся, а то не сядзець бы мне побач з вамі».

Святло патухла, і каторы ўжо раз на нашым экране замітусіліся Гопкінс і Фогель, таямніча выплывала злавесная постаць Чычэ ў многа разоў бачаным фільме «Мес-Мэнд». Я глядзеў нібыта засяроджана, а правая рука трымалася ўжо не за спінку, а кранала́ся цёплага Марусінага пляча. Пасля сеанса мы выйшлі разам і поруч пайшлі ў яе бок.

Мястэчка сцішылася пад халаднаватым зорным небам. Праз шчыліны некаторых акон прабіваліся тоненькія нітачкі святла, высокія таполі здаваліся чорнымі зданямі, і толькі на верхавінах пад блакітным святлом поўні срабрыліся і дрыжалі лісты: месяц толькі выплыў з-за хмары з залацістымі беражкамі. Адзін бок вуліцы патанаў у чарнаце густога ценю, на другім баку хаты нагадвалі тэатральную дэкарацыю ў хісткім зеленавата-сінім святле — зырка блішчалі шыбы, друзачкі шкла на дарозе аж сляпілі вочы. Мы ішлі моўчкі. Каб толькі не маўчаць, я спытаў, ці спадабаўся маёй спадарожніцы фільм.

— Я глядзела яго не менш як пяць разоў. А пайшла, бо не было куды дзецца.

— Тут жа столькі студэнтаў. Збіраюцца вечарамі, гуляюць, спяваюць, катаюцца на лодках, а потым разыходзяцца парамі і не сумуюць.

— Вы ж усе тут свае, а я так і не знайшла ні сяброў, ні сябровак.

— Кажуць, вы грэбуеце ўсімі.— Маруся толькі засмяялася. Так, гаворачы ні пра што, мы дайшлі да вялікага дома ў канцы мястэчка. У шырокіх вокнах з белымі рамамі святла не было. У гэтым доме быў адзіны на ўвесь раён агранамічны ўчастак. Тут, у сястры, аграномавай жонкі, кватаравала Маруся. Каля брамкі я дакрануўся да Марусіных рук. Яны былі халодныя і дрыготкія. Ад месячнага святла яе вочы здаваліся яшчэ зелянейшымі, а вакол валасоў гайдаўся зіхатлівы німб. Я паднёс яе рукі да вуснаў і пачаў хукаць, каб сагрэць, потым

пацалаваў адну і другую далонь. Маруся прыхінулася да мяне і тут жа рэзка падалася назад.

— Вы так усіх праводзіце і развітваецеся, з першай сустрэчы?

— Не, толькі вас.

— Вы ж мяне зусім не ведаеце. Адкуль такі спрыт?

— Ведаю вас даўно. Ведаю, што вы медычка і хутка паедзеце ў свой Магілёў, добра запомніў вашу ружовую сукенку, месца і час, калі купаецеся. А сёння чаму не прыйшлі?

— Божа мой! Дык вы сачылі за мною? І не сорам?!

— Сачыць не сачыў, а бачыць хацелася кожны дзень. Які ж тут сорам?

— Чаму ж не падышлі раней?

— Чуў, што вы ганарлівая і, як палякі кажуць, недаткнёнтая.

— Усё хлусня. Ганарыцца мне няма чым. А нахабнікаў не цярплю і адбіваюся, як ад сляпнёў.

Я асмялеў, абняў за плечы і прытуліў да сябе. Яна не адштурхнула, адвяла назад галаву, прыплюшчыла вочы, я асцярожна пацалаваў халаднаватую шчаку, дакрануўся да вуснаў і ўпіўся ў іх доўгім пацалункам. Яна шчыльней прыхінулася да мяне, я адчуў яе невялічкія пругкія грудзі. Маруся рэзка адарвалася ад мяне, паправіла рассыпаныя валасы:

— Вар'яты. Што гэта мы сабе дазваляем? І з першай сустрэчы! Што падумаеш пра мяне? Я толкам нават не ведаю, як... вас зваць, хто вы і што вы, а вось адштурхнуць не магла. Вы, мабыць, нейкі чараўнік,— усміхнулася яна.

— А вы — чараўніца. Кажуць, у такія ночы людзі становяцца лунацікамі і блукаюць па дахах. Вы бачылі калі-небудзь лунаціка?

— Не даводзілася і наўрад ці давядзецца.

— Чаму?

— Я — медык і не веру ў дзівосы.

— Такою ж месячнаю ноччу сам бачыў, як па самым вільчыку босы, ва ўсім споднім павольна хадзіў, задраўшы галаву, чалавек. Дойдзе да краю і — назад, ступае як здань. Ад святла ўвесь аж блакітны. Мы з таварышам угледзелі і замерлі. Кажуць, калі, барані божа, крыкнуць ці вытнуць па чым, спалохаецца і разаб'ецца.

— Па-мойму, вы нядаўна начыталіся Гогаля ці старажытных казак.

Я не пярэчыў і не пераконваў, бо і сам быў не вельмі ўпэўнены — сапраўды бачыў ці прывярзлося. Месяц стаяў амаль у зеніце. Усё навокал было ў срабрыстым блакіце, а цені — вугальна-чорныя. За мястэчкам у далёкай нізіне павольна плыў сіні туман, над ім узнімалася Мыслачанская гара, белая каплічка на ёй здавалася тоўстым манахам у зіхоткім капюшоне, а на самай вяршыні стаяла, нібы сплеценая з павуціны, стромкая трыганаметрычная вышка, якую ў нас чамусьці звалі маяком. Наўкол была цішыня і прыгажосць, што мне страшэнна захацелася ўзняцца на вышку і паглядзець на гэтае хараство з вышыні. Я сказаў Марусі, не спадзеючыся, што яна пойдзе са мною.

— Сапраўды, так хораша! Праспаць такую ноч крыўдна. Другой такой можа не быць.

Я адчуў, што Марусю працінае жнівеньскі халадок, і накінуў ёй на плечы свой пінжак.

— Мне не холадна, а дрыжу сама не ведаю чаго.

Мы падышлі да доўгай жоўтай стадолы бальніцы. Маруся зазірнула ў акно:

— Анікееўна дзяжурыць. Ёй сягоння нялёгка. І я так часам не сплю ночы.

Мы звярнулі з пясчанае сыпкай дарогі на тупкую сцежку. Абапал зіхацеў росны трыпутнік і даўно адцвілыя рамонкі. Мы ўзяліся за рукі і пайшлі поруч. Маруся нечакана спытала:

— Алёша, а ты на каго вучышся?

Я здзівіўся і ўзрадаваўся, што Маруся мяне так ласкава называла і першая перайшла на «ты».

— А казала, што не ведаеш, як мяне зваць.

— Ведала даўно і заўважыла не сёння. Вельмі ж ты нейкі ціхі і далікатны... а цалавацца, відаць, навучыўся даўно. Колькі ж ты перацалаваў сваіх мінчанак?

— Шкада, што не лічыў, а так, як цябе, нікога,— і ўпіўся доўгім пацалункам у яе гарачыя вусны.

Мы адышлі далёка ад мястэчка. Пад месяцам цямнелі хаты і маўклівыя сады, недзе ў акне мільгаў адзінокі агеньчык, ледзь чуцен быў лены брэх сабак, а ў туманнай нізіне чалавечым стогнам заходзілася сава. Павольна па зараселым схіле мы ўзышлі на ўзвышша. Падобная на пячурку, ніша капліčкі была пустая, а каля яе валяліся чарапкі ад колішняга святога Антонія. Спыніліся каля прыступак лесвіцы, што з пляцоўкі на пляцоўку вяла на самы верх вышкі.

— Палезем?

Маруся кіўнула галавою.

— А на маё пытанне так і не адказаў.

— На якое?

— На каго вучышся?

— Няўжо так важна адразу запаўняць анкету пры першай сустрэчы?

— Бачыш, я, нічога не ведаючы пра цябе, не пабаялася пайсці ў такую далеч.

— Вучуся на журналіста. Працую ў адной невялічкай газеце, якую ты не чытаеш, бо завецца яна «Рабселькор». Там я і лічуся «літрабом». У перакладзе — літаратурным работнікам. Жыву ў падсуседзях у прыватным пакойчыку на ціхім Трамвайным завулку. Пражыў на свеце аж дзевятнаццаць гадоў. Камсамолец, халасты і бяздзетны, не судзімы, родзічаў за мяжою не маю,— расказваў я, ідучы па хісткіх счарнелых прыступках. Уверсе лагодны ветрык ледзь казытаў нашы валасы, здавалася, мы плывём у хісткім блакітным прасторы. У туманнай нізіне тырчалі, падобныя на крыжыкі, верхавіны елак, на ўсе бакі разыходзіліся і знікалі ў блакітнай смузе зжатыя палі. Я ўспомніў і прадэкламаваў радкі:

Мёрзлы месяц з-за гор васількамі
Перасыпаў азёрную сінь.
Стыне ўсё...
Ледзянымі сярпамі
Выйшла восень рабіну касіць...

Маруся чмокнула мяне ў шчаку і хуценька пабегла ўніз.

— Хадзем хутчэй. Тут ад прыгажосці можна звар'яцець і нарабіць глупства.

З нізін паднімаўся туман, месяц замурзала лёгкая хмарка, недзе далёка закукарэкаў першы певень.

Мы яшчэ доўга развітваліся каля брамкі. Дамовіліся заўтра ў поўдзень сутрэцца на рэчцы.

І сустрэліся. Не ведаю, як Маруся, а я амаль усю ноч качаўся ў гумне на колкім сене, а як праз шчыліны прабіліся першыя малінавыя палоскі святла, заснуў і праваліўся ў нейкае салодкае трызненне, нібыта ніяк не канчалася тая дзівосная блакітная ноч. Прахапіўся ад задухі ў нізкім нагрэтым сонцам паддашшы. На скорую руку апаласнуўся, стоячы з'еў пару дранікаў і пабег да падмытай паводкамі пахілай вярбы. Вада плюскатала ў прамыінах высокага тарфяністага берага, а левы быў пясчаны, сталочаны авечкамі і гусінымі лапамі, зарэчны луг упінаўся ў густы дубняк, там-сям бліщчалі маленькія азярынкі. Я глядзеў на наваколле і кожны раз дзівіўся прыгажосці знаёмых з маленства краявідаў, здавалася, што нідзе нічога прыгажэйшага і быць не можа. Ад свайго захаплення схамянуўся, пачуўшы блізкія крокі. Маруся ішла нацянькі, абмінуўшы мястэчка. Яна трымала загорнуты ў хусцінку скрутачак і падбеленыя зубным парашком «таргсінкі». Відаць, хацела падысці непрыкметна, а калі я азірнуўся, пабегла насустрач і замест прывітання спытала, ці даўно чакаю. Я хацеў прыкінуцца пакрыўджаным, але ўсміхнуўся і сказаў, што стаю тут зранку.

— А я ледзь уцякла ад сястрычкі. І ўсё ты вінаваты. Зірні, што нарабіў,— і яна адхінула каўнерык ружовай сукенкі. На шыі пасінелі прыпудраныя плямкі ад учарашніх пацалункаў.

— Я вытрымала такі допыт. Сястра так і не верыла, што не ведаю, з кім была ўчора ў кіно.

А калі б, барані божа, даведалася пра маяк, замкнула б да самага ад'езду.

— Дай лепей пахукаю на твае сінячкі, і яны адразу пройдуць. Трэба было іх пакінуць трохі ніжэй, каб ніхто не ўбачыў.

Маруся мне пагразіла пальчыкам.

— Ты калі-небудзь была на Высокім беразе?

— Дзе гэта?

— Значыць, не бачыла сапраўднай прыгажосці. Хадзем.— Я ўзяў яе за руку, і мы пайшлі па высокім парудзелым рамонніку і курасллепе, абмінаючы кусты, сухія затокі і старыцы. Хоць і не надта зыркае сонца прыпякала ў спіны, я зняў кашулю і дакрануўся загарэлаю да чарнаты рукою да Марусінага белага локця, яна ўсміхнулася:

— Негр і альбіноска. Да мяне загар не прыстае, ды я і не стараюся злузваць уласную скуру.— Яна скінула ружовую кофтачку, і адкрыліся прыгожыя плечы ў залацістых вяснушках, крыкнула: «Даганяй!» — і замільгалі пругкія белыя ногі па рудым сталочаным беразе. Маруся часам азіралася і бегла яшчэ хутчэй. Я не вельмі ўлягаў, каб дагнаць яе трохі далей, у зацішку. Раптам яна знікла за кустамі алешніку. Я запаволіў бег, пазіраючы ў розныя бакі. Маруся выскачыла ў вузенькіх белых трусіках і тугім ліфчыку і, размахваючы суконкаю, пабегла далей. Я яе хутка дагнаў, абхапіў звільжэлыя плечы, а рукі дакрануліся да карункаў на ліфчыку. Маруся далікатна ляпнула па маіх сашчэпленых далонях, пагразіла пальчыкам: «Далей няможна». Шумна дыхаючы, мы пайшлі лугам. З чорненькіх круглых пячурак высокага берага выпырхвалі вастракрылыя бера-

жанкі, кружыліся над вадою, узляталі вышэй і знікалі ў блакіце. На скошаным лузе адскочыла і блішчала прыгладжаная ветрам атава, дагарала пабляклая лотаць, соладка запахла медуніцай.

— А якія прадметы вывучаюць журналісты і што гэта наогул за работа?

— Ад сусветнай літаратуры да стэнаграфіі ўключна вывучаем усе прадметы. Толькі, дзякаваць наркамату, не займаемся матэматыкай. Я яе неўзлюбіў з першага класа.

— Хіба ж можна не любіць матэматыку? — здзівілася Маруся.— Мы і цяпер вывучаем хімію і фізіку, рашаем задачкі, а галоўнае — спецыяльныя прадметы, хоць часам пасля практычных заняткаў кавалак у рот не лезе... А журналіста я толькі аднаго і бачыла: прыбягаў да нас у тэхнікум маленькі, кудлаценькі, увесь у прышчах, штонікі цыліндровыя, пінжачок не разбярэш якога колеру. А шустры, не давядзі гасподзь,— скрозь лезе, усіх распытвае, праточвае шылаваты нос куды можна і няможна, а ў газеце праз тыдзень з'явілася вось та-а-ке-нечкая заметачка пра лепшых студэнтак, ды яшчэ імёны пераблытаў.

— І пра цябе?

— Не, я трапіла ў «іншыя».— Памаўчала, неяк грэбліва зыркнула ў мой бок.— Тожа мне ра-а-бота.

— Усяк бывае. Часам тыдзень збіраеш матэрыял, начамі пішаш, бывае, ужо і набяруць, а потым усё ляціць у сметнік. З людзьмі, якім назаляў, сустракацца сорам. Бываюць такія «ляпы», што гарай пажару. Аднойчы набралі буйным шрыфтам загаловак «Піянеры і школь-

нікі, збірайце металалом!». Чалавек дзесяць чыталі адбіткі, а выйшла газета, і ўсе ахнулі: надрукавана «Піянеры і шкоднікі».

— Тыраж пайшоў пад нож, сакратар, выпускаючы, карэктары і цяпер шукаюць работу. Іх так і завуць «шкоднікі». А наборшчык аднойчы памыліўся на адну літару ў вельмі папулярным прозвішчы, дык у той жа дзень знік, і адрасу яго ніхто не ведае. У кожнай рабоце ёсць свае радасці і чорныя дні. І ўрачы ж не ўсіх выратоўваюць, а то замест гнілога зуба вырвуць здаровы, а бывала, што ў страўніку нажнічкі зашыюць.

Непрыкметна мы адышліся далёка ад мястэчка. Паблізу не было ні душы. На лузе цямнелі падобныя на рыцарскія шаломы ўлежалыя стагі, на другім баку рэчкі ўзнімаўся стромкі, як сцяна, высозны пясчаны бераг, на зломе ракі прасвечвалася пясчанае дно, хвалі дрыжалі пад сонцам і паблісквалі люстранымі зайчыкамі. Увесь Высокі бераг зарос густым маладым хвойнікам. Вецер даносіў адтуль густы смольны дух.

Мы па мелкаводдзю перайшлі рэчку і пачалі караскацца на пясчаны бераг. У вадзе, нібы спіны нейкіх пачвар, чарнелі калоды моранага дубу, чародкамі стаялі і ўздрыгвалі срабрыстымі хвосцікамі ўклейкі, з-пад нашых ног асыпаўся і цурчэў цёплы белы пясок.

У хвойніку было суха і душна, як у смалярні, наўкол цвіў густы верас, на пакатым беразе па атаве хадзіла чарада стракатых кароў, а ўдалечыні цямнелі купы старых ліп і саламяныя, а часам гонтавыя стрэхі зарэчнай вёскі. Мы доўга стаялі і моўчкі глядзелі на наваколле.

— Сапраўды, калі ёсць на зямлі рай, дык ён тут,— сказала Маруся.

— А мы ў ім, як Адам і Ева.

— Толькі змею не ўдасца спакусіць. Ты гэта май на ўвазе.

Марусіны плечы і рукі паружавелі на сонцы, вяснушкі здаваліся гусцейшымі, ад шыі па вузенькай упадзінцы сплывалі цурочкі поту.

Мы сышлі да вады. Я кінуўся адразу і паплыў, а яна асцярожна плёскала нагой каля самага берага і пацепвалася плячыма, паволі ўвайшла, войкнуўшы, акунулася і ўпэўнена паплыла на самы стрыжань, дзе жаўтапесак крута абрываўся ў чорны вір. Я даганяў яе, хацеў паймаць, а яна, як вялікая белая рыбіна, выслізгвала з маіх рук.

Потым мы доўга грэліся на цёплым пяску, дыхаючы сухім смольным водарам. Па верасе слалася павуцінне, на высокія былкі садзіліся стракозы, недзе непадалёк гуў марудны чмель. Маруся выпрастала рукі і заплюшчылася ад сонца. Я разглядаў кожную яе рыску: ад левага вока да скроні ледзь прыкметна бялеў даўні пісяжок, на руцэ ад вялікага да ўказальнага пальца некалі зарубцаваўся прыкметны шрам. Я пяшчотна пацалаваў яго. Маруся схамянулася, села, сціснула кулачок, шрам напяўся і пабялеў.

— Хто ж табе пакінуў такі знак? Відаць, забіякаю была. Вунь як бегаеш і плаваеш,— не дагнаць.

— Што праўда, то праўда. Хлопцаў часам лупцавала. Няхай не лезуць. А гэта? Гэта на грушу ўзадралася. Гадоў дванаццаць не болей было. Сук хруснуў — і паляцела, абдзіраючыся

аб голле. Ледзь вока не выпарала, а руку аб пабітую пляшку на зямлі параніла. Гэты знак заўсёды напамінае: «Не лезь, куды не трэба».

— Відаць, што ты занадта асцярожная.

— А як жа іначай?! Даваць сабе і другім волю нельга. Нагледзелася я за гэтыя два гады сваёй медычнай практыкі на пакуты дурнічак. Не прывядзі гасподзь. Равуць, а то труціцца збіраюцца. І шкода, і злосць бярэ.

Калі сонца звярнула з паўдня, мы перайшлі на другі бераг і дамовіліся сустрэцца ўвечары, а каб не было лішніх плётак, разышліся рознымі сцежкамі.

Увечары мы сустрэліся на старасвецкім удзірванелым вале (ад яго цяпер і знаку няма). На развітанне Маруся мне падаравала зачытаны томік Надсана. На апошняй старонцы быў запісаны адрас яе Магілёўскага тэхнікума. Дамовіліся пісаць адно аднаму. Развіталіся на змярканні, бо заўтра ранелька яна ад'язджала на некалькі дзён у Асіповічы да мамы, а потым — на вучобу.

Перапісваліся мы даволі доўга. У такім узросце прыемна чытаць дзявочыя лісты і самому пісаць лірычную ахінею з шматкроп'ямі, намёкамі і пацалункамі. Пасля зімовых канікулаў лісты прыходзілі радзей і радзей, усё сушэйшыя і абыякавыя. Напрадвесні Маруся перастала адпісваць зусім. Я асабліва не бедаваў: вольнымі вечарамі гуляў з дзяўчатамі ў садзе «Прафінтэрн», асабліва не заляцаючыся і нічога не абяцаючы — праводзіў адну, назаўтра сустракаўся з другою.

Пасля інстытута пайшоў на службу ў Радыёкамітэт. Пачаліся камандзіроўкі, рэпартажы,

перадачы з раёнаў па тэлефонных правадах, сумятня і бязладдзе ў маім халасцяцкім жыцці. Зімою з рэдакцыйным заданнем прыехаў у Слуцкую МТС, пасяліўся ў маленькай утульнай гасцініцы «Случ» і цэлымі днямі ездзіў з начальнікам палітаддзела па калгасах.

Як толькі вывіднела, пад акном затрубіла эмтээсаўская машына. Я выйшаў на ганак. З шафёрам гаварыла высокая жанчына ў кароткім аксамітным жакеціку з белым футравым каўнерыкам і ў гэтакай жа кругленькай шапачцы. Калі я сышоў з ганка, жанчына павярнулася да мяне. Маруся! Аж адхіснуўся я ад нечаканасці. Яна ўсміхнулася, павіталася, не падаючы руку.

— Прашуся, каб падвезлі ў Вясею да хворай, а шафёр без дазволу карэспандэнта не адважваецца. Можа, дазволіце?

— Без карэспандэнта ён бы адразу падхапіў,— кіўнуў я на маладзенькага шафёра,— і давёз бы аж да Мінска... Сядай. Давязём, куды скажаш.

Мы селі побач на халоднае цыратавае сядзенне. Едзем. Маўчым. Нарэшце пытаюся:

— Якім чынам тут, як жывецца? — знарок не ўжываю займеннікаў ні «ты», ні «вы».

— Пераехала сюды да мужа. Ён загадвае аддзелам ў райвыканкоме, а я — па спецыяльнасці. Ратую жанчын. А ты як? — Шафёр зірнуў на нас і пачаў праціраць анучкаю ветравое шкло...

— Як бачыш. Матаюся па раёнах. Дома ніхто не чакае і не сумуе па мне. Жыву, як і жыў, бабылём. Відаць, старым кавалерам і астануся.

— Не прыкідвайцеся сіратою. Такія бабы-

лямі не астаюцца. Толькі кіўні, адразу прыбягуць, і не адна.

— Ты ж нават на лісты адказваць не захацела.

— А навошта дарэмна паперу і час пераводзіць?.. Каб нешта пэўнае напісаў, можа б, усё інакш склалася.

— Спадзяюся, знайшла сваё шчасце?

— Як табе сказаць... Мы ж не ведаем, сваё ці чужое шчасце натрапіла на нас. Не мы выбіраем, нас выбіраюць. А мы ідзём, куды пазавуць.

— Не прыдумляй. Гэта ж — дамастрой.

Маруся спахапілася, зірнуўшы на шафёра.

— Муж у мяне слаўны чалавек. Шануе і даглядае, як малую.

Памаўчалі. Машына ішла па наслізганай саньмі, прыцярушанай сенам дарозе, абапал застылі ў густой срабрыстай шэрані прысады і прыдарожныя кусты, праз пярэдняе шкло відны былі замглёныя прасторы заснежанай Случчыны. Шафёр затармазіў на канцы вёскі і буркнуў: «Прыехалі». Я папрасіў давезці нашу пасажырку, куды ёй трэба. Я выйшаў з машыны развітацца з Марусяй. Яна зняла суконную рукавічку і падала мне цёплую руку. Я толькі дакрануўся вуснамі да памятнага шрама. «А за тую ноч і за Высокі бераг заўсёды дзякую табе»,— сказала і, не азіраючыся, пабегла на ганачак фельчарскага пункта. Мы развярнуліся. Я зірнуў у задняе шкельца: Маруся, падняўшы руку, глядзела нам услед. Мяне агарнуў нейкі сум,— здалося, што замужжа радасці ёй не прынесла, што і дома яна адзінокая, як на гэтым замеценым снегам ганку.



Пасля таго развітання мінула амаль паўстагоддзя. Змянілася ўсё, змяніліся і мы. Вайна выкасіла маіх аднагодкаў, іх дзеці ўсё адбудавалі нанава — я не пазнаю родных мясцін, і мяне ўжо там амаль ніхто не пазнае: пасівелі рэшткі валасоў і барада, сагнуліся плечы, запаволіўся крок. А краявіды нагадалі юнацтва, сяброў і сяброўак, кароткія сустрэчы і горкія развітанні. Пра ўсё гэта думалася, усё ўспаміналася ў невялічкім аўтобусіку па дарозе з майго палескага раёна ў Асіповічы. Я спяшаўся, каб трапіць на вячэрнюю электрычку. На прывакзальнай плошчы ўгледзеў аптэчны кіёск. Дай, думаю, вазьму капсулку свежага нітрагліцэрыну, бо мой за дарогу стоўкся на муку. Верхняе шкло кіёска застаўлена пляшачкамі, пудэлачкамі, у вузкім акенцы толькі пабліскваюць акуляры, відны дзюбачка носа ды шчокі рыхлаватага твару прадаўшчыцы. Я сказаў, што мне трэба. «Трынаццаць капеек»,— пачуў у адказ. Дробязі не знайшоў і падаў рубель. «Так бы адразу сказаў, што размяняць трэба, а то — нітрагліцэрын»,— упікнуў мяне не надта ласкавы голас з будкі.

Набраклая маршчыністая рука, густа прысыпаная «грэчкаю», падала шкляны патрончык і пачала адлічваць рэшту. Зацвярдзелы рубец ад вялікага да ўказальнага пальца мне здаўся знаёмым. Я адышоў на некалькі крокаў, успомніў, памкнуўся вярнуцца, але хрыпаты рэпрадуктар грымнуў на ўсю плошчу: «Электрапоезд да станцыі Мінск адправіцца праз пяць хвілін». А ў мяне яшчэ і білета няма. Махнуў рукою і пабег на перон.

У напалову пустым вагоне я сеў у куточак і да самага змяркання глядзеў, як за акном мільгаюць роўныя елачкі, круцяцца, як на каруселі, і адплываюць пад зялёнай рунню палі, абляцелыя прысады і далёкія жоўта-барвовыя лясы. Адна думка не давала спакою: я ўсё больш пераконваўся, што ў кіёску была Маруся, што ўбачыў шрам на яе руцэ. Чаму ж не затрымаўся? Куды так ляцеў? Праз дзве гадзіны паехаў бы наступнай электрычкай. Трэба было спытаць, назваць сябе, даведацца, як жыла і жыве, расказаць пра свае нялёгкія і радасныя дарогі, знайсці на схіле жыцця яшчэ адну некалі блізкую сэрцу равесніцу. Куды ж мы спяшаемся? А потым шкадуем, што размінуліся з добрым і блізкім чалавекам. Думаю спецыяльна паехаць, але наўрад ці збяруся.

# ТОЕ ДАЛЁКАЕ ЛЕТА

Вера ні разу не напісала, як жыве, што робіць, з кім сябруе. Здавалася, што яна толькі і занятая сваімі перажываннямі і летуценнямі. У кожным лісце былі намёкі, недагаворкі і шматкроп'і. А Павел чакаў адзінага слова, якога і сам не адважваўся сказаць. Колькі разоў памыкаўся, а яно застывала на вуснах. Напісаць лягчэй, чым сказаць, гледзячы ў вочы. І Павел напісаў самы кароткі ліст: «Я цябе моцна, моцна кахаю. Гатовы заўсёды ісці за табою».

Адказ быў яшчэ карацейшы: «А ты прыйдзі. Твая Вера».— «Няўжо сапраўды мая?» Ён хмялеў ад шчасця, па некалькі разоў на дзень перачытваў гэтыя некалькі слоў і зноў хаваў у кішэньку пацёрты канверт, як самую вялікую і дарагую таямніцу.

Павел па некалькі разоў на дзень выцягваў карту, знаходзіў на ёй малюсенькі кружочак з прыгожаю назваю Ніжын, вымяраў адлегласць да яго. Напрасткі выходзіла ўсяго кіламетраў восемдзесят. Лёгка сказаць, усяго, а паспрабуй дабрацца туды. Кіламетраў за сорак ад яго вёскі пачыналіся Загальскія балоты — дрыгва, бездараж, плойма камароў, а далей, да самай Арэсы, не было ні дарог, ні вёсак. І ўсё ж ён не мог не паехаць. Уставаў і лажыўся з думкаю пра сустрэчу з Вераю. Дзесяткі планаў з'яўля-

лася ў яго галаве, а трэба была толькі адна фурманка, каб даехаць хоць да Загалля. Бо тады, на пачатку трыццатых гадоў, на Палессі яшчэ не было ні дарог, ні машын, ні тых саўгасаў і калгасаў, пра якія напісаны паэмы і вершы. Былі балоты, твань і куп'ё, зарослае хмызняком і асакою.

Вясною Вера закончыла меліярацыйны тэхнікум, абараніла дыплом і паехала на асушку палескіх балот. Гэта была работа з усіх работ. Газеты кожны дзень пісалі пра лепшых грабароў і меліяратараў, заклікалі моладзь на Палессе, а камсамол пасылаў атрады моладзі «на штурм», «на прарыў».

Пра ўсё гэта чуў Павел, ведаў прыблізны адрас, куды ехалі яго аднагодкі, а сам зубрыў палітэканомію, чытаў канспекты па антычнай літаратуры і цэлы тыдзень не бачыўся з Вераю.

Чэрвеньскім поўднем яна забегла да яго ў «чыталку», ледзь дакранулася да пляча, і яе загарэлыя тугія шчокі заліліся чырванню. Яны выйшлі ў калідор. Шэрыя вочы глядзелі на Паўла даверліва і крышку сумна. Вера была заклапочаная і ўзрушаная, імклівая і лёгкая.

Яна ні аб чым не пытала ў Паўла, не папракала, што доўга да яе не заходзіў, бо ведала, што такое сесія.

— Ты зможаш сёння прыйсці на вакзал?

— Значыць, едзеш?

— Калі не маеш часу, пройдземся трошкі і развітаемся.

Павел пацісну ў яе руку і ледзь прыкметна пацягнуў да сябе.

А ў поўнач яны стаялі на людным гаманкім пероне. Мужчыны і хлопцы з Верынай групы

грузілі ў вагон нейкія скрыні, каморніцкія трыногі, мяшкі і цяжкія чамаданы. Вера сказала, што адразу напіша, як толькі прыедзе. Яна помніла назву Паўлавай вёскі і сельсавета, куды ён збіраўся на ўсё лета да маці.

Развітваючыся, яны цягнуліся адно да аднаго, але так і не адважыліся пацалавацца пры людзях. У вагон Вера ўскочыла апошняя, а ён бег побач, махаў, паднімаў счэпленыя над галавою рукі і яшчэ раз крыкнуў «пішы». Потым доўга глядзеў услед, аж пакуль не зніклі два чырвоныя агеньчыкі апошняга вагона.

Усё гэта часта ўспамінаў Павел, думаючы пра Веру і ламаючы галаву, як дабрацца да Ніжына. А пакуль што ён жыў дома, адпіваўся сырадоем, спаў у адрыне на свежым сене, памагаў маці ўпраўляцца і разы тры на тыдні хадзіў у мястэчка. Туды з'язджаліся яго сябры з розных гарадоў, тэхнікумаў і інстытутаў. Яны вечарамі збіраліся ў ціхім завулачку на ганку вялікага дома, разам спявалі, гулялі ў перагонкі, а за поўнач разыходзіліся парамі і ледзь не да світання сядзелі на лавачках або стаялі каля веснічак, тулячыся да сваіх каханых. Павел ішоў дадому адзін паўз старыя могілкі, зварочваў на сцежачку, пратаптаную ў жыце, і любаваўся лёгкім туманам, што сплываў у нізіны і зіхацеў пад халодным святлом месяца.

Аднойчы на дзвярах райкома камсамола Павел прачытаў абвестку. Яна заклікала студэнтаў-адпускнікоў скласці агітбрыгаду і выехаць у суседні раён на асушку балот. Павел запісаўся ў першых і чакаў адпраўкі.

Выехалі раніцаю па халадку. На дзве фурманкі склалі чамаданчыкі, пасадзілі дзяўчат,

а хлопцы ішлі пехатою, дурэлі, даганялі адзін аднаго, а калі здарожыліся, прыціхлі і ўсё часцей падсаджваліся на вазы. На невялічкі хутар прыехалі ноччу. Патыхала халоднаю вільгаццю, а ўсё наваколле засцілаў густы белы туман. З яго падніматіся чатыры страхі і вяршаліна высокай сасны. Здавалася, што ўсё патанае ў нейкім белым казачным моры.

Начавалі покатам на сене ў вялікай пуні. Праз шчыліны прабівалася святло маладзіка, было чутно, як кігікаў драч і недзе непадалёк іржалі і тупалі спутаныя коні...

Павел прахапіўся ад яркага святла: праз шчыліну ў сцяне ў вочы біў тонкі сонечны прамень. Устаў і адразу не мог зразумець, як апынуўся тут. Побач храплі ўскудлачаныя хлопцы, а каля другое сцяны пад стракатымі коўдрамі і посцілкамі, прыціснуўшыся адна да аднае, спалі дзяўчаты. Побач ляжалі акуратна складзеныя сукенкі і хустачкі, а на таку стаялі запыленыя і прыцярушаныя свежым сенам туфелькі і чаравікі.

Павел выйшаў з пуні і зажмурыўся ад сонца. Трава зіхацела ў буйной халоднай расе, а над балотам курыўся туман. Каля студні з доўгага пазелянелага карыта пілі коні. З аброццю на плячы стаяў невысокі загарэлы мужчына. На ім быў руды, саматканага сукна фрэнч, пацёртая будзёнаўка і старыя салдацкія чаравікі.

На хутары стаялі чатыры прасторныя хаты, пуні і гумны з тоўстага кругляка. Пры кожнай хаце рос садок, на старых галінастых ліпах віселі калоды з пчоламі. На хутары было пуста і ціха. Дзядзька з аброццю ўзрадаваўся свежаму чалавеку і пачаў распытваць, што добрага ў

мястэчку, ці ёсць юхтовыя выцяжкі, ці ўсе ўжо папісаліся ў калгасы і што будуць рабіць з «нехацімцамі». Павел расказаў пра ўсё, што ведаў, а потым пацікавіўся, хто жыве на гэтым хутары.

— Жылі тут чатыры браты Булаты. Можа, чулі? — расказваў дзядзька з пшанічнымі вусамі.— Як дубы былі мужчыны. Кароў галавы па чатыры трымалі, па парцы добрых коней, свінні, авечкі і ўсялякая там драбяза. Ведама — выгада. На балоце сена касі, колькі ўлезе, а зямля на гэтым лапіку хоць і пясочак, але яны яе так умасцілі, што ў любы год жыта, як гай, гуло. Жылі спраўна, няма чаго богу грашыць, а радасці было мала: лес, балота, камары. Рабілі, каб быць сытымі, а елі, каб рабіць. Так і жылі, пакуль іх не «раскудлачылі». А цяпер я тут гаспадарую — суседні лугавы саўгас наняў. От і пільную гэтыя стадолы. Бывае, па тыдню толькі з коньмі і гавару. А хутка і адсюль пагоняць канавы на Арэсу. Там ужо даўно капаюць — сіла людзей наехала.

— А да Ніжына далёка адсюль? — запытаўся Павел.

— Калі паснедаўшы выйсці, дык да абеду, можа, і дапаўзеш... вярсты чатыры напрасткі будзе.

Павел здзівіўся: чатыры вярсты, а ісці аж да абеду!

— Гэ-э, мілы чалавек, гэта ж дрыгва. Не ведаючы, і захлынуцца не штука. Калі груз які трэба перавезці на той бок, дык даюць круг вёрст на сто дваццаць, а тут рукой падаць — блізка відаць, ды далёка дыбаць.

Памыўшыся каля студні, Павел абышоў увесь хутар. Платы разгароджаны, шулы пахіліліся, пацямнелыя вокны пустых хат паблісквалі матавымі вясёлкавымі разводамі. Толькі з аднаго коміна цягнуўся дымок. Відаць, тут і жыве гэты адзіны «гаспадар» хутара.

Калі прачнуліся ўсе студэнты, Павел ім расказаў усё, што пачуў ад дзядзькі ў будзёнаўцы. Вырашылі паснедаць і рушыць у саўгас, каб там пра ўсё дамовіцца з дырэктарам.

— Сцежку я вам пакажу. Яна адна. Так што заблудзіць няма дзе. А цяпер разбірайце граблі,— загадаў тутэйшы «гаспадар».

— Навошта яны нам? — здзівіліся хлопцы.

— Бярыце, бярыце. Без грабель тут не пройдзеш. Прарвешся ў жужаль — чапляйся граблямі за купіну, трымайся за грабільна і выпаўзай на чэраве.

Пачуўшы гэта, дзяўчаты зусім павесілі насы, а хлопцы яшчэ спрабавалі жартаваць і казырыцца.

Каля «бітай» сцежкі дзядзька расказваў, як па ёй трэба ісці.

— Старайся ступаць на траву і хуценька перастаўляй другую нагу, а правалішся — чапляйся граблямі за купіну або хапайся за куст. Як выйдзеце на гала, граблі складзіце ў алешніку, а нехта прыйдзе з імі сюды. Так і носяць усё лецечка.

На растоптанай сцежцы стаяла рудая вада, цубкая балотная асака здавалася выкачанаю і затаптанаю ў гразь, на мохавых купінах тырчалі маленькія крывыя бярозкі і шэрыя лазовыя кусты. Усе разуліся, падкасаліся і, асцярожна ступаючы, пайшлі. Асака, як сярпы, упі-

валася і рэзала ногі. Паміж пальцамі свістала ржавая вада і раз'ядала парэзы. Месцамі праваньваліся да каленяў, але кожны ратаваўся сам — памагаць не было як: удвaіх маглі праваліцца па самую шыю. Балота ўгіналася і клекатала. Прыпякала сонца, пахла разагрэтаю тванню і бярэзнікам, на плечы і на рукі нaліпалі сляпні, але ніхто не адважваўся скардзіцца і ныць.

Пакрысе сцежка рабілася трывалейшаю, аднекуль далятaлі гамана і гул, а з-за бярэзніку паказаліся вільчыкі дахаў. Перамазаныя тванню студэнты выйшлі на сухі бераг. За алешнікам пачынаўся вялікі пасёлак. Пасярэдзіне вуліцы стаяла аплеценая сухою дзеразою арка, а паабапал — некалькі новых дамоў, далей цягнуліся доўгія баракі, павеці і свірны. Паглядзелі хлопцы адзін на аднаго, ды як зарагочуць. «Ну і артысты пагарэлага тэатра,— заліваўся Павел,— і грыміравацца не трэба. Выстаў такога на сцэну — людзі са смеху парвуцца».

Пасмяяліся, збольшага ацерабіліся і падаліся ў кантору. А калі старшыня рабачкома рассяліў брыгаду ў пустой палавіне барака, Павел сказаў хлопцам, што ў суседняй вёсцы жывуць яго сваякі і ён сходзіць іх адведаць. Хлопцы падміргнулі, усміхнуліся, каб не думаў, што яны нічога не разумеюць.

Павел выйшаў за саўгасную сядзібу і не мог паверыць, што і тут зусім нядаўна была непраходная дрыгва, як тая, што яны сёння мясілі: абапал шырокай тарфяністай дарогі ўсё балота было зрэзана шырокімі і вузенькімі стрэламі блакітных каналаў, недзе ракатаў трактар, цягнучы за сабою хвост рудога пылу, па дарозе

ехалі доўгія абозы грабарак. Цёмна-карычневая зямля здалёк здавалася мяккім аксамітам.

Непадалёк ад дарогі, пад лазовым кустом, адпачывалі дзяўчаты. Каля іх ляжалі блішчастыя рыдлёўкі і клуначкі з полуднем. У стрэчнага грабара Павел спытаўся, ці так ён ідзе, і падаўся па пыльнай дарозе. Чаравікі парудзелі, пад нагамі хрумсталі цвёрдыя тарфяныя грудкі. Нагрэтае паветра дрыжала і плыло, як тонкая шкляная заслона, дзынкалі вялікія авадні, у белаватым небе звінеў жаўранак, а над балотам тужліва кігікалі кнігаўкі.

Спачатку Павел азіраўся, калі яго абганялі фурманкі, а потым перайшоў на ўзбочыну, ішоў і глядзеў на роўныя прасторы асушанай зямлі, на далёкія лясы, на стракатыя фігуркі людзей. Здалося, што нехта яго даганяе. Павел азірнуўся. Следам ішла дзяўчына ў камбінезоне, у рудых кароценькіх ботах, у хустачцы, насунутай на самыя вочы. Нешта было знаёмае ў яе постаці.

— Вера! — ірвануўся насустрач Павел. Ён памкнуўся яе абняць, але яна апасліва азірнулася, працягнула маленькую цвёрдую руку і ўся засвяцілася смуглявай ўсмешкаю.

— Я ўбачыла цябе здалёк. Спачатку не паверыла, бо чакала не адсюль. Думала, прыедзеш цягніком, з таго боку,— яна кіўнула туды, дзе за паласою рудога пылу былі відны стрэхі хат, а за аселіцаю, на пясчаным узгорку, стаяў вялікі дом пад чырвонаю бляхаю.

— Ну, як ты тут?

— Як бачыш.

— Бачу і не пазнаю. Проста дзяўчына з плаката: «Пяцігодку ў чатыры гады».

Вера крышку збянтэжылася. Відаць, ёй не хацелася, каб Павел убачыў яе ў выцертым камбінезоне і ў стаптаных ботах. А камбінезон на ёй сядзеў як уліты, і ўся яна была зграбная, лёгкая і ладная. Яны гаварылі пра нешта будзённае і неістотнае: Павел расказваў, як ехалі сюды, як грузалі па дрыгве, а Вера паказвала магістральныя каналы і вузенькія нітачкі калектараў, поўныя густое тарфяністае вады.

Праз хісткі, збіты на скорую руку масток яны перайшлі на той бок ціхай Арэсы. Вада ў рэчцы была каламутная, як чорная кава.

Вера жыла ў тым самым вялікім доме, што стаяў за аселіцаю. У ім была навуковая станцыя і лабараторыя меліярацыйнага інстытута. Увесь пустыр вакол дома зарос густым, запыленым і пабялелым ад сонца палыном. Вузенькі Верын пакойчык быў падобен на кладоўку. У пазах паміж тоўстымі бярвеннямі тырчаў мох, падлога і сцены пахлі смалою. Пры акне быў жалезны ложак, замест століка на табурэце стаяў чамадан. Гаспадыня накрыла яго вышываным ручніком, паставіла маленькае люстэрка і букецік рамонкаў. Вера зняла са сцяны сукенку і выскачыла за дзверы.

У пакойчыку было ціха і халаднавата. Толькі цяпер Павел адчуў стому ад гарачыні і хады. Хацелася напіцца і апаласнуцца халоднаю вадою. Вера ўбегла ў паркалёвым плацці і ў беленькіх тапачках на босую нагу. Яна зноў была лёгкая, блізкая і знаёмая. Толькі пабялелі валасы і бровы, а залацісты загар густа пакрыў ружовыя шчокі. Яны нагадвалі даспелыя яблыкі-цыганкі.

Вера мітусілася, выскаквала з пакойчыка ў

калідор, было чуваць, як сіпеў прымус, бразгалі талеркі, некалькі разоў падаў відэлец.

Імправізаваны столік паставілі пасярэдзіне пакойчыка і накрылі газетаю. Вера ўнесла пісклівую яешню. Яна пырскала і падскаквала на вялікай чорнай патэльні.

А Павел не зводзіў з дзяўчыны вачэй. Яму здавалася, што гэта першы дзень іх супольнага шчасця, што заўсёды будзе так утульна і хораша, што яны заўсёды будуць разам, хоць пра сваё будучае яшчэ не сказалі ні слова. Толькі ў лісце ён адважыўся напісаць «кахаю», а сказаць так і не змог. Ды і ці трэба было гаварыць, калі і так усё было зразумела.

Потым яны доўга хадзілі па беразе Арэсы. Вера расказвала пра сваю нялёгкую прафесію, пра дзяўчат, якія разам з ёю капалі калектары і каналы, пра тое, як баляць набрынялыя ад вады ногі. Але яна не скардзілася.

Над далёкім борам павісла вялікае чырвонае сонца. На яго можна было глядзець не зажмурваючыся. Па дарогах ляскаталі грабаркі, падымаючы пазалочаны пыл; недзе спявалі дзяўчаты працяжную, нібыта жніўную, песню; на тарфянішчах сакаталі трактары. Павел спыніўся на пясчаным беразе.

— От цяпер бы выкупацца. Давай. А? — Ён павесіў пінжачок на ракітавы куст, не расшнуроўваючы, скінуў чаравікі, пачаў сцягваць кашулю. Вера стаяла крышку збянтэжаная. Павел зразумеў, што яна не збіралася купацца.

— А ты бяжы за кусты і з-за тае лукі выплывеш.

Калі Вера знікла за лазняком, Павел боўтнуўся ў ружаватую ад вячэрняга сонца ваду,

звонка зашлёпаў сажонкамі, лажыўся на спіну і адчуваў, як з яго сплывае стома, як вялікая радасць запаўняе ўсю яго істоту. А калі пачуўся плёскат за кустамі, ён паплыў насустрач Веры. Яны пырскаліся, як малыя дзеці, смяяліся, даганялі адно аднаго, лавілі за халодныя пругкія плечы і ўпершыню былі так блізка-блізка.

У вялікі дом на пустыры вярталіся прыцемкам. Над Арэсаю і над балотамі плыў лёгкі туман, у роснай траве трашчалі конікі, каля дома ціха шапацеў палын. Яны спыніліся на ўзгорку. Павел успомніў і ціха заспяваў іх любімую песню:

> Глянь, моя рибонько,— срібною хвилею
> Стелется полем туман.

Ён пяшчотна прыгарнуў да сябе Веру. Усё было, як у песні: і ціхі вечар, і туман у нізінах, і яны ўдваіх пад высокім месяцам. А як толькі выйшлі на сцежку, Вера адхінулася ад яго, прыціхла, задумалася, нібыта нейкая трывога апанавала яе. Павел хацеў пакласці ёй руку на плячо, Вера адхінулася.

— Не трэба, Паўлік.

— Каго ты баішся? Мы ж дарослыя людзі, і ў нас усё, здаецца, сур'ёзна.

— Так. Але не трэба лішніх плётак. А тут любяць папаласкаць костачкі. Ты паедзеш, а мне тут жыць... Давай дамовімся: ты мой брат, дваюрадны, вядома. Будзеш спаць у маім пакоі, а я пайду да дзяўчат. Заўтра пасля абеду будзем зноў разам. На трасу мы выходзім, як толькі развіднее, і працуем да самае спёкі.

У доме чуліся галасы меліяратараў, смех і брэньканне гітары. На ганку пажылая прыбі-

ральшчыца запраўляла лямпы. Яна Веру і Паўла правяла доўгім дакорлівым позіркам.

У змроку пакоя Вера абхапіла далонямі Паўлаву галаву і моцна прытулілася да яго.

— Як добра, што ты прыехаў. Я так чакала цябе.

— А можа, лепш было не прыязджаць, каб не хавацца пад маскаю дваюраднага брата? Ой ты, мой канспіратар! — і ён прагна пацалаваў Верыны вусны. Яна заплюшчыла вочы, слаба спрабуючы вызваліцца з яго абдымкаў.

— Ш-шалёны! Хіба ж так можна? Пацярпі трошкі, наша ўсё наперадзе,— і выбегла за дзверы. Праз адчыненую фортачку было чуваць, як прыбіральшчыца пыталася:

— Ці не новага работніка прыслалі? Жыць будзе ў нас ці на сяле?

— Не, цётачка, гэта мой дваюрадны брат з камсамольцамі прыехаў, забег адведаць, ды забавіўся. Хай пераначуе, а я да Соні пайду.

Павел упершыню чуў, што Вера ўмее так складна хлусіць, і зрабілася крышку нядобра.

Вера ўнесла лямпу і збанок сырадою.

— Не запальвай, так лепш,— папрасіў Павел.

Яны сядзелі побач, пілі малако з хлебам, спечаным на аеры, і маўчалі. У змроку заўсёды хочацца маўчаць або гаварыць шэптам. На падлозе ад святла месяца адбіўся касы квадрат акна, пад столлю пілаваў шашаль, а недзе на сяле рыпаў гармонік пад дзявочыя галасістыя прыпеўкі.

Вера паслала ложак і паказала, як зашчапіць дзверы. Яны пастаялі, прытуліўшыся адно

да аднаго, Вера моцна пацалавала Паўла ў шчаку і выбегла з пакоя. Адразу зрабілася пуста і сумна. Хацелася вярнуць яе, быць разам, зноў адчуць гарачае дыханне, пах валасоў і цяпло рук. Не, ён не дазволіў бы нічога лішняга, бо вельмі паважаў і любіў яе. Ён ішоў пехатою, грузаў па дрыгве, каб толькі пабачыцца, каб сказаць усё, што думаў і адчуваў, але так і не адважыўся сказаць. А яна чамусьці выдае яго за брата, нечага баіцца і трывожна маўчыць.

Павел доўга варочаўся, курыў і ўспамінаў усё ад першае і да гэтае сустрэчы. Ён заплюшчваў вочы, але заснуць так і не змог: павекі казытала святло месяца, гарачая падушка пахла Верыным цяплом. Здавалася, працягні руку — і дакранешся да яе пругкага загарэлага пляча, але пальцы натыкаліся на шурпатыя бярвенні сцяны, думкі абрываліся, блыталіся і патаналі ў змроку сну.

Далёка за поўнач яго разбудзіў дробны стук у шыбіну. Ён падняў галаву і прыслухаўся да шэпту за акном.

— Верачка, адчыні... Ну, выйдзі на хвілінку, не бойся.— Павел маўчаў, а сэрца калацілася, нібы ў грудзях гула кузня. У шыбіну пастукалі мацней, і асіплы прастуджаны голас ужо не прасіў, а настойліва патрабаваў, каб Вера выйшла на ганак.

Месяц зайшоў на другі бок і кідаў ад дома доўгі цёмны цень, але Павел разгледзеў сілуэт высокага мужчыны ў насунутай на лоб кепачцы.

— Хто тут? Што вам патрэбна? — не вытрымаў ён.

Цень адскочыў ад акна, патупаў узад і ўперад, ухапіўся за галаву, увагнуўся і зноў падбег да акна.

— А-а-а! Вунь ты якая? Хахаля завяла. Чысценькага пусціла... А я, дурань, на цябе маліўся. Ну, ты цяпер папомніш Сашку...— Ён брыдка вылаяўся і, ламаючы крохкі палын, знік за домам.

Павел дрыготкімі пальцамі ледзьве дастаў папяросу і доўга не мог яе прыкурыць — ламаліся запалкі, не слухаліся рукі.

«Дык вось каго яна баіцца! Нейкі п'янчуга, як да сябе дадому, грукае ў шыбіну і просіць, каб пусціла». І сцежку, відаць, ведае добра. Можа, і выскаквала да яго не раз? Можа, і ён сядзеў на гэтым ложку, можа...» Павел да болю сціскаў сківіцы, прагна курыў, а думкі адна страшнейшая за другую гнялі і гнялі яго. Ён спрабаваў разважаць лагічна, але падазрэнні і крыўда былі мацней за ўсякую логіку. Успомнілася, як лёгка Вера схлусіла старой кабеце, назваўшы яго братам, як нешта ўтойвала ад яго, чагосьці баялася і была не такою, як раней. Хацелася апраўдаць яе: «Хіба ж забароніш п'янаму дурню стукаць у вокны?..» А чаму ён стукае іменна да яе? Пэўна, мае падставы. Зноў закруціліся думкі і пацягнулі ў чорны вір сумненняў, недаверу і крыўды. Святое, чыстае пачуццё пахіснулася і заплямілася. Павел доўга не мог заснуць і толькі пад раніцу забыўся кароткім трывожным сном.

Яго разбудзіла сонца. У доме было ціха і пуста. Спачатку здалося, што яму прыснілася нешта агіднае і цяжкае, але ён успомніў усе драбніцы, убачыў скамечаныя недакуркі, стап-

таны пад акном палын, і зноў вярнулася горкае пачуццё абразы, недаверу і крыўды. Ён вырваў з блакнота лісток і, спяшаючыся, каб часам ніхто не зайшоў і не затрымаў яго, напісаў: «Ролю «брата» іграў як мог. Досыць камедый! Прывітанне ад Сашкі. Сёння пастукаецца зноў. Лічы, што мяне няма. П.».

Ён ціхенька выйшаў з пакоя, хацеў непрыкметна знікнуць з гэтага дома. Але, як толькі рыпнулі дзверы, з цёмнага калідора выйшла прыбіральшчыца з вялікім палыновым венікам пад пахаю.

— Мабыць, не даў вам заснуць гэты дурань. Хацела памыямі абліць, дык, чаго добрага, вокны перамалаціў бы. На гэта ў яго розуму хопіць. Бадзяўся недзе дні тры, дык ціха было, а прывалокся — і зноў грукае. Праходу вашай сястрычцы не дае.— Апошнія словы яна сказала так, што Павел апусціў вочы.

— А што гэта за тып? — спытаў ён.

— Сашка? Ат, шалапут. На трактары робіць. І зарабляе багата, і ходзіць чыста, а вып'е, як ад чэмеру, дурэе. Толькі Верачку і слухаецца. Куды ж гэта вы? Малачка папілі б.

— Схаджу на рэчку,— схлусіў Павел.

Праз густы чадны палын з гаркатою ў сэрцы ён выйшаў за вёску. На каго крыўдаваў, і сам не ведаў — на Веру, на п'янага трактарыста, а можа, на сябе. Але вярнуцца не мог — парвалася ў ім нейкая галоўная струна.

* * *

Яшчэ і цяпер пасівелы дацэнт Павел Мікалаевіч часта ўспамінае тое далёкае лета, горкі

палыновы чад і першае сапраўднае каханне. Ён часта гаворыць студэнтам: «Пра ўсё трэба разважаць sine ira et studio — без гневу і прадузятасці», а сам пакутуе і дагэтуль, што не збярог сапраўднага шчасця. Чаму? Быў вельмі малады і не трымаўся гэтага мудрага лацінскага выслоўя.

# МАЛЬВЫ

*Памяці Вольгі Матусевіч*

З утравянелага старасвецкага вала яна ўглядалася ў затуманены зарэчны выган. За павольнаю плыннюю ракі ў паружавелым тумане чуўся конскі тупат, іржанне і перазвон бомаў. З нахіленых над валам дуплістых парэпаных вербаў сцякалі пацяжэлыя кроплі расы. Мальвіна склала дудачкаю вялікія пасівераныя далоні і гукнула ў туман: «Орлік! Орлік! Орлік!» Азвалася доўгае звонкае ржанне. Часта і пругка затупалі спутаныя коні, а неўзабаве на мелкаводдзі захлюпала вада і ў тумане ўзніклі абрысы гарэзнага маладога каня. Ён спыніўся, высока падняў галаву, і над цішынёю росна-туманнага рання пакаціўся залівісты голас.

Мальвіна, стрымліваючы разбег з удзірванелае кручы, павольна ступала пакручанымі раматусам нагамі ў галёшах-шахцёрках.

— Ну, хадзі ўжо, хадзі, басата! — і працягнула Орліку прысолены акрайчык хлеба. Захлюпала пад нагамі вада, блiснула скасавуранае фіялетавае вока, і Орлік аксамітнымі губамі ў рэдзенькіх валасінках далікатна ўзяў з далоні хрусткі акрайчык, а Мальвіна гладзіла яго храпу і гарачую шыю. Ад дотыку далоні на сівай поўсці праступалі пыльныя плямы. Мальвіна прыгнулася, развязала набрынялае вераўчанае пута, выпрасталася, трымаючыся за ўвярэджаны крыж, і павесіла пута Орліку на шыю.

— Патупаем, Орлік, цішэй, цішэй, не вельмі падскоквай: сёння папацягаць прыйдзецца плужок.— І яна пайшла берагам, пакідаючы доўгія сляды на зараселай траве. Без аброці і повада, як паслухмяны шчанюк, следам за Мальвінаю ішоў Орлік.

Яны звярнулі ў вузкую вулачку паміж валам і платамі гародаў, што ўпіналіся ў топкі куп'істы выган. Абапал сцежкі густа разросся запылены лапушысты дзядоўнік, пахла прывялымі рамонкамі, на схілах вала гергеталі чароды гусей з ладнымі, пацямнелымі ўжо гусянятамі. Насустрач ішлі жанкі — хто з каромыслам па рачную ваду, хто на каламажцы вёз паласкаць бялізну; і ўсе ветліва здароўкаліся з Мальвінаю, аклікалі Орліка, і ён у адказ матляў прыгожай, высока паднятай галавою. Светлай, у яблыкі, масці, ён здаваўся ўкрытым лёгкім туманом, даверліва цягнуўся мяккімі губамі да кожнай выстаўленай далоні і далікатна браў драбочак цукру, цукерчыну ці кавалачак батона. Мальвіна верыла, што Орлік разумее кожнае яе слова: калі хваліла і лашчыла, ён цёрся аб яе плячо і выскаляў буйныя пазеленелыя зубы, а ўшчувала — вінавата згінаў галаву і прыплюшчваў вялікія фіялетавыя вочы, ступаў павальней, баючыся гаспадынінага гневу. Мальвіна жартам казала, што праводзіць з ім выхаваўчыя гутаркі, і ён іх засвойвае лепш за любога неслуха.

Мальвіна вынянчыла Орліка з першых дзён, выкарміла з соскі, аб'ездзіла, прывучыла да хамута і аглабель, сядла і плужка, навучыла слухацца таго, хто трымае повад, прыняты з яе рук, асцерагацца чужога.

На першых парах яна клікала яго сірацінкай, шкадавала, як малое дзіця, а як толькі стаў пруткім і порсткім жарабком, ахрысціла Орлікам. Ён прыняў новае імя, заіржаў і пабег за сваёй гаспадыняй.

Да Мальвіны ён трапіў от як.

У мясцовым лясніцтве трымалі немаладую кабылу. На ёй па абходах і кардонах ездзіў ляснічы, вясною даваў аб'ездчыкам і леснікам заворваць соткі, абганяць бульбу, цягаць на гала сена, зімою — прывезці дроў.

Пад восень кабыла ажарабілася, і побач з ёю пабег шустры, танканогі, беленькі сысунок. Аднаго разу ляснічы ноччу вяртаўся з далёкіх дзялянак. Пакрапаў, а потым і добра разышоўся дождж. Дарога раскісла, колы грузлі ў залітых вадою выбоінах, коўзаліся на глiністых схілах. Ляснічы ведаў: у змроку пусці лейцы, і кабыла сама знойдзе лепшую дарогу дадому.

Уз'ехалі на хісткі масток праз нешырокую канаву. Загрукалі пад капытамі і рассунуліся слізкія жардзіны. Кабыла асунулася і прысела на заднія ногі. Ляснічы хвастануў яе ляйчынаю, нокнуў, спадзеючыся, што выскачыць на тупкую дарогу. А кабыла — ні з месца. Валіцца на правую аглабіну і жаласна стогне. Жарабя лёгка пераскочыла масток, адбеглася трохі, азірнулася на маці і залілося звонкім іржаннем. Ляснічы злез, чыркнуў запалку, яна толькі бліснула і патухла на ветры. Але ён паспеў заўважыць, што правая нага правалілася паміж жардзінамі, левая — выцягнулася на гразкім насціле. Кабыла тузаецца, сіліцца ўстаць, але не здолее выцягнуць нагу, а пад заднімі капытамі

круцяцца аслізлыя плашкі скіданага натандэнт мастка.

Ляснічы пацягнуў за аброць кабылу, а яна толькі стогне, матляе галавою і хіліцца на правую аглабіну. Пад'ехалі дзве фурманкі сельпо. Вазакі пазналі ляснічага. Адзін пасвяціў ліхтарыкам:

— А ё-ё-ма-а-ё! Гэта ж гатовая пастка! — загадаў маладзейшаму.— Адскоч, пашукай добрага дрына. Можа падважым пад чэрава і паможам выскачыць.

Знайшоўся мокры слізкі калок. Падвялі яго пад перад, пяліся, пяліся, кракталі, кракталі і сяк-так выбавілі кабылу на масток. Яна стаіць на трох нагах і ні з месца. Сагнутая ў калене правая нага вісіць, як пусты рукаў. Памацалі — капыт целяпаецца.

— Ну, усё. Пішы прапала. Адбегала Сіўка. Во, бачыце,— зламаная. Конскія косці не зрастаюцца. Яны, як шкляныя,— вынес прысуд стары сельпоўскі вазак,— цяпер, шчытай, шкура ды цэнтнер фашыркі. І то старая.

— Што ж, хлопцы, рабіць? — развёў рукамі ў роспачы ляснічы.

— Адна рада — дастрэліць і на камбінат.

І сельпоўцы ўзяліся закладаць, замошчваць дзіркі ў мастку. Папіхаючы вазок ляснічага і прытрымліваючы за аброць атрыножаную кабылу, ледзьве сцягнулі яе на абочыну, асцярожна перавялі сваіх коней і паехалі ў мястэчка.

З-за хмары выкаціўся замурзаны месяц, асвяціў куп'істае балота, чорныя стажкі паміж лазняку, пасохлы аер і сітнік на беразе ржавай канавы. Кабыла ўздрыгвала змакрэлай скурай, бездапаможна вісела перабітая нага, а гарэзлі-

вае жарабятка падбегла да маці, падсунула галоўку пад сцягняк і пачало таўчы ў вымя. Яго злосна адагнаў прыгнечаны і разгублены ляснічы. Ён стаяў на ўзбочыне гразкай дарогі і не ведаў, што рабіць.

Потым усё збылося, як сказаў сельпоўскі вазак: у лясніцтве засталося асірацелае жарабятка. Куды яго дзець, як гадаваць, ляснічы адразу прыдумаць не мог. Жарабок лятаў па прасторным дзядзінцы лясніцтва, голасна ржаў, а як толькі ўбачыць сівага каня, гатоў быў сігануць праз высозны плот (не адолеўшы, бег побач паўз плот), высока задзіраў зграбную галоўку і галасіў, не раўнуючы, як малое дзіця. Ён агаладаў, занудзіўся і пачаў прыкметна вянуць.

Праз колькі дзён у лясніцтва прыйшла кантралёрка з мясцовай ашчадкасы, жанчына ў гадах, ні па апратцы, ні па гаворцы не падобная на канторскую служачую,— Мальвіна Матукевіч. Калі не была на службе, часцей хадзіла ў гумавых ботах, у мужчынскім пінжаку з падкасанымі рукавамі, у гаматной клятчастай хустцы, а на сваім месцы была найлепшым работнікам — з самай маладосці так авалодала ашчаднай справай, так вывучылася лічыць і захоўваць чужыя грошы, што ў яе ахвотна вучыліся выпускніцы фінансавых тэхнікумаў і інстытутаў.

Дастаўся Мальвіне ад дзядзькі, вечнага халасцяка, добра дагледжаны дом з садам і гародам амаль у цэнтры мястэчка, хлеў з адрынаю і склепам, выпешчаная малочная карова, кожны год Мальвіна трымала доўгіх, як луты, кормнікаў, вяліся куры і гусі. Апошнім часам завя-

ла тры вуллі пчол. Сама падглядала з дымаром, адсаджвала матку, пільнавала раі, качала мёд. Словам, была гаспадыня: уставала з пеўнямі, клалася пасля гімна.

У лясніцтва Мальвіна прыйшла выпісаць кубаметры са тры дроў, што пачыналі буцвець на расцяробе пад высакавольтную лінію. На дзядзінцы ўбачыла асірацелае жарабятка і ўжо не ў кантору, а праз фортку зайшла ў двор, працягнула руку з выстаўленым указальным пальцам і ласкава загаварыла: «Кось, кось. Не бойся, дурненькі. Хадзі, хадзі сюды, сірацінaчка». Жарабятка некалькі разоў аббегла незнаёмую жанчыну, стала, натапырыла вострыя вушкі. Мальвіна ціха-ціха падышла да яго, трымаючы выцягнутую руку. Жарабятка асцярожна пацягнулася мяккімі губамі да выстаўленага пальца, паспрабавала пасмактаць. Другою рукою Мальвіна пачухала яго паміж вушэй. А яно даверліва прыгарнулася да незнаёмае жанчыны, пацягнула ружовымі ноздрамі пах малака і свежага хлеба, а можа, і цеста, што зранку мясіла Мальвіна. Дайшло да форткі, а калі яна зачынілася, тыцкалася храпкаю паміж завостраных штыкецін.

Усё гэта бачыў ляснічы. Ён, заўсёды сухаваты і стрыманы, сустрэў Мальвіну як ніколі ветліва — падаў руку, падставіў крэсла і без слова выпісаў білет не на тры, а на пяць кубаметраў.

— А цяпер хачу з вамі параіцца, Мальвіна Юстынаўна, што рабіць з асірацелым жарабяткам? Дзіцячых ясляў пакуль што для іх няма, а вы, даўно ведаю, любіце коней.

— Хіба ж можна іх не любіць і не шкадаваць? Самая патрэбная чалавеку і самая чыстая

жывёліна. Давайце паспрабуем. Можа, і выгадую добрага вам каня. А жарабок, відаць, завадскі. Глядзіце — малы-малы, а вунь якія персі, і шыя, як у таго лебедзя... Стайня ў мяне цёплая, кароўка, дзякаваць богу, малачка дае, а даглядзець дагледзім.

— На чым жа пагодзімся? — запытаў ляснічы.

— Як канём стане, тады будзе відно. А пакуль што дасцё на зіму трохі аўса і сена. Астатняе — мой клопат. Не аднаго ж каня выгадавала.

— А за работу вашу, за гадоўлю, як разлічвацца будзем? У вас жа служба, ды і свая гаспадарка.

— У вашым лясніцтве процьма траўных лапікаў, балацінак і някошаных пеляў. Дасцё дзенебудзь пакошваць на кароўку, і жарабок пры ёй перакідаецца. Сірот жа людзі гадуюць без усялякае платы. Вырасце — аддзячыце, а не — і на тым спасіба. А гэта ж скаціна: не папросіць і не пажаліцца.

Мальвіна накінула на шыю жарабяці павадок, намацала ў кішэні запылены драбок цукру, абшорхала яго аб спадніцу і паднесла да аксамітных губ жарабка. Ён уцягнуў ноздрамі паветра, недаверліва і асцярожна ўзяў з далоні салодкі пачастунак.

— Ну, хадзем,— Мальвіна пагладзіла прыгожую сінявокую морду.

Гэтак у жарабка з'явілася новая «маці». Мальвіна няньчыла яго, як малое дзіця: ноччу ўставала, грэла малачко і выпойвала з соскі. А колькі яна папакутавала пасля канавалавай аперацыі,— лясніцтву трэба быў цягавіты

конь, а не жарабец. І ён стаў вунь які рэзвы ды цягавіты, разумны ды паслухмяны: без аброці і повада, як сабачаня, хадзіў за Мальвінаю. Колькі яна яму папаношвала «цаглін» хлеба, колькі скарміла пачкаў цукру, а колькі доўгімі зімовымі начамі папаношвала цёплай паранкі, засмачанай вобмешкай і пылам з млына.

І вось ідзе за Мальвінаю з пашы з высока паднятаю галавою, танканогі, дужы і зграбны Орлік. Цяпер у яго гарачая пара — абганяць картоплю. А насадзілі яе леснікі на сотках, на лясных палянках, на расцяробах, не шкадуючы ні сябе, ні Орліка. Сёння ён па разнарадцы пойдзе да лесніка з Балашоўскага кардону. Той ужо чакае на лавачцы каля Мальвінінай хаты з белымі аканіцамі і новым шыферным дахам. Пакуль вяла Орліка з пашы, чаго толькі не перадумала Мальвіна — у яе заўсёды нешта круцілася ў галаве. Успомніла, як нябожчык дзядзька Андрон гадоў да сарака ўсё падбіраў сабе пару, ды так бабылём і звекаваў. Жыла пры ім аўдавелая сястра Варвара з дачушкаю Мальвінаю. Маленькую яе звалі то Аляю, то Мальваю, у школе запісалі з метрыкі Мальвінаю, так і была яна адна з такім імем на ўсё мястэчка. Вучыцца Мальвіна не ленавалася: табліцу множання схапіла адразу, нібы аддрукавала ў мазгах, задачкі лузала, як гарбузікі, чытала — рэпу грызла, і кожную весну на радасць маме і дзядзьку прыносіла пахвальныя лісты.

Пасля школы лынды ніколі не біла. Павучыць урокі — і з лясёнкаю па маладую траву, то свінням намяшае, то курэй пакорміць, а ўсё лецечка — у полі і ў полі. Да калгасаў дзядзька меў два маргі зямлі, каня і пару кароў, ды яшчэ

служыў. За Мікалаем — у манапольцы, за Саветамі — у крэдытным таварыстве «Гаспадарка» загадваў складам: выдаваў у растэрміноўку «культурным» гаспадарам жняяркі, веялкі, дыскавыя бароны, у касавіцу і жніво прадаваў косы і сярпы. І да свае гаспадаркі быў падкі, хоць нашто яна яму была, і сам не ведаў. Думаў — усё для Мальвіны. Як толькі яна папрутчэла, скрозь паспявала, а больш за ўсё любіла свайго пястунчыка Варанка. Выпасвала ўсе ўзмежкі і канаўкі, разам з хлопцамі вадзіла на начлег і ніколі не адставала ад іх галопу туды і назад. Варанок азываўся на яе голас, а наскубшыся, спутаны дрыбаў да вогнішча і стаяў каля закручанай у рудую суконную світу Мальвіны. З тае пары яна ўжо ніколі не разлучалася з коньмі. Калі ўжо нельга было трымаць сваіх, бралася даглядаць то сельпоўскіх, то з дарожнага ўчастка, а некалі гады са два трымала пракурорскага перастарка, то вось з соскі выкарміла і не разлучалася з лясніцкім Орлікам. Клопату і траты з ім было куды больш, як таго набытку.

Мальвініны ўспаміны дзяліліся не па гадах і важных падзеях, а па конях: мама памерла, калі яшчэ быў Варанок, вайна пачалася пры наравістым Буяне. Хоць не раз ёй даваўся ў знакі, але часцей выручаў з бяды і верна служыў, пакуль на палаючым мосце не скасіла яго варожая куля. Работу ў ашчадкасе пачала, калі даглядала пракурорскага Кодэкса. Гэтак яна ахрысціла супроць волі гаспадара. І слухаўся. Пакуль вяла Орліка з пашы, чаго толькі не перадумала Мальвіна.

На лавачцы аж круціўся ад нецярпення ба-

лашоўскі ляснік Зміцер. На кожнага, каму давала каня, глядзела Мальвіна з недаверам і затоенай варожасцю, нібы роднае дзіця аддавала ў егіпецкую работу. Яна павяла Орліка ў двор, на Змітра і не глянула, насыпала ў карытца аўса, выцерла травяным вехцем холку і крыж, вынесла лясніку вупраж і барак з пастронкамі, паклала на лавачку і буркнула: «Барак нясі. А будзе валачыцца, барані божа бабкі пазбівае». — «Не бойся, Юстынаўна,— заюліў Зміцер,— усё будзе ў парадку. Тутака наш шофер е, казаў, і хамут з сядзёлкаю давязе».— «Ну, глядзі! Сядзеш палуднаваць — і Орліка не забудзь пакарміць. Гэта ж табе не трактар».— «Усё будзе як часы. Там і работы тае ад сілы на паўдня». Узяў повад і заспяшаўся.

Мальвіна пад умывальнікам, прыбітым да плота, апаласнула рукі і твар, стоячы з'ела аладку, каўтнула з гладышкі малака, надзела чыстую кофту, пацёрты да бляску на рукавах карычневы жакецік, упхнула парэпаныя, пакручаныя ногі ў добра растаптаныя туфлі, абцерла іх трапкачом, паглядзелася ў пацямнелае люстэрка ў паточанай шашалем раме з адбітымі балабешкамі і зноў пашкадавала сябе: «Чаму ж я не такая, як другія бабы майго веку?» Шчокі прыпечаныя сонцам і ветрам, а пад вушамі і на падбародку бледна-жоўтая скура з рысачкамі маршчын, невялікі, востры, як дзюбка, нос, замест шыі, падобнае на гладыш, валлё, тонкія бровы ад пераносся крута спадаюць уніз, рэдкія гладка зачэсаныя валасы, сабраныя на патыліцы ў куксачку, шчодра прыцерушыла сівізна. З дзяцінства пакутавала Мальвіна, што бог не даў хоць трохі зграбнасці і прыгажосці. Таму

цуралася сваіх статных і ладных равесніц, рэдка глядзелася ў люстэрка. Неяк паспрабавала падмалёўваць вусны і бровы,— сама сабе брыдкаю здалася. Выкінула парфуму. Пра ўсе свае пакуты і беды расказвала толькі коням і верыла, што ўсё яны разумеюць і спагадаюць ёй.

Мальвіна прыгладзіла валасы, завязала беленькую хустачку і не вельмі ходка пайшла ў сваю ашчадкасу. Па дарозе падумалася: колькі ж ёй яшчэ хадзіць сюды? Як толькі стрэлка дойдзе да двух пяцёрак, павіншуюць з заслужаным адпачынкам, паднясуць электрычны чайнік, штапелю на сукенку, пашкадуюць, што трацяць такога вопытнага работніка і чулую жанчыну, назаўтра на яе месца сядзе размаляваная, з чырвонымі пазуркамі фіфачка і пачне «чивокаць» на гарадскі манер.

Апошнім часам усё часцей і часцей апаноўвалі Мальвіну ўспаміны. Значыць, набліжаецца старасць.

Летам пуставата было ў ашчадкасе — з кніжкамі чалавек дзесяць — дванаццаць заходзіла, болей здавалі членскія ўзносы, прыходзілі з пералічэннямі, правяралі латарэйныя білеты. Але ёсць людзі ці няма — сядзі, чакай, пазірай у акно, хто куды ідзе, што нясе, хто з кім сустрэўся, хто прыехаў аўтобусам. Ашчадкаса — на рагу местачковай плошчы ў колішняй цаглянай краме. Непадалёк — аўтобусная станцыя, цераз плошчу — райком, а побач — універмаг. Калі што вартае прывозілі туды, у ашчадкасе ведалі раней за ўсіх і па адной бегалі ў чаргу.

Мальвіна ведала ўсіх местачкоўцаў да трэцяга калена, і яе ведалі ўсе. Не толькі ведалі — паважалі старыя і малыя за сумленнасць, пра-

цавітасць, за ласкавую дабрату і нават за любоў да коней. Сядзіць Мальвіна, чакае наведвальнікаў, але адкуль ім быць: гарачая пара ў полі і ў гародах, у краме да канца месяца няма чаго рабіць. Вось і сядзіць сабе, перабірае ў памяці ўсё сваё жыццё. Як праз туман, бачыць невялічкую станцыю, дзе нарадзілася ў жоўтым чыгуначным доме пад стромкімі таполямі. Бацька быў старшым кандуктарам. Ад яго вобліку толькі і засталіся ў памяці казыткія светлыя вусы і два словы «дачушка» і «Мальвачка». Запомнілася яшчэ, як галасіла маці, праводзячы мужа на тую, мікалаеўскую, вайну. Больш яго ніхто не бачыў і нічога не чуў. Тады ж яны і пераехалі сюды, да дзядзькі Андрона. Усю нерастрачаную любоў ён аддаў маленькай пляменніцы: куды б ні ехаў, браў з сабою, гуляючы, прывучаў да рыдлёўкі і капаніцы, маленькую прыахвоціў да лічыльнікаў. А потым год ад году ўпрагалася ў бабскую і мужчынскую работу.

Была Мальвіна і партызанскай сувязной. Адыходзячы ў тыл, раённы ваенком пакінуў ёй на догляд казённага, занадта гарачага Буяна. Развітваючыся, ваенком сказаў: «Вернемся, аддзячым. А калі часам зойдзе чалавек адведаць Буяна і спытае, ці не трэба перавязаць хамут, не бойцеся яго, памажыце, калі чаго папросіць. Вам мы давяраем». Пацiснуў руку і паехаў на райкомаўскай машыне са сваімі паперамі.

І праўда, неўзабаве зайшоў знаёмы ляснік з Лучак і, не вельмі тоячыся, дамовіўся з Мальвінаю, што і як ёй рабіць, каб памагчы «хлопцам у лесе».

Буян карміў яе і дзядзьку ўсю вайну: заворвала людзям гароды, вазіла дровы і сена і на

сваёй гаспадарцы ўпраўлялася. Нанач адводзіла пасвіць за рэчку, у Дубнякі. На досвітку, як і Орліка, клікала, стоячы на вале. Як бы далёка ні быў Буян, бег на гаспадынін голас — ведаў, з пустымі рукамі не прыйшла. Абдыме яго Мальвіна за шыю, намацае пад густою грываю заплецены каснічок, а ў ім у адказ — для яе скручаная пісулька: «Калі збіраюцца ў Заракушу сваты? Чаму трымаюць на прывязі Бобіка?» Гэты няхітры шыфр партызанскага разведчыка Васі Мікіцюка добра разумела Мальвіна і адпісвала пра ўсё, што бачыла і ведала. Надзейным паштальёнам быў Буян. Рызыкоўны, зіркаты, з цыганскім чубам Вася ноччу падкрадаўся да спутанага на выгане Буяна, мяняў пошту і знікаў у тумане. Успамінала і яго. Разануў ён па самым сэрцы, спакусіў неспакушаную Мальвіну, і хлопец — выліты ён.

Гаркавата-салодкія ўспаміны перабіў грукат дзвярэй: у ашчадкасу ўскочыла Мальвініна суседка Антоля Карбуцянка, у суконных тапачках на босую нагу, без хусткі, запыханая. І адразу з парога:

— Юстынаўна, што ж гэта ён, гад, робіць, га? Няўжо ты дала такую волю? Загубіць жа каня. Бяжы барздкэй, даганяй гэнага шкурадзёра. Але дзе ты здагоніш. Каб хіба на легкавушцы...

Мальвіна ўскочыла за шкляною загарадкаю:

— Кажы толкам, куды бегчы, каго даганяць?

Антоля трохі аддыхалася:

— Насіла гэта я да Буячыхі адрэз на сукенку. Ледзьве ўпрасіла пашыць. Не табе ж казаць, якая яна нотная. Ага, толькі выйшла ад яе, аж

бачу: курыць цераз масток «газон», з кузава тырчыць мазгаўня балашоўскага Змітра, а ззаду... што б ты думала? Прывязаны да кузава Орлік. Ледзь паспявае. Повад напяты, як струна. Каб я таго дурня кішкі павыцягвала, а ён, што б ты думала? Курыць сабе ў кузаве і не шманае. Я крычу, махаю рукамі, а ён — пень пнём. Машына, праўда, дабітая, уся лескаціць, і як выскачыць на гравійку, чаго добрага, газане на ўсе застаўкі...

Мальвіна, як апараная, выскачыла з-за свае загарадкі.

— Так бы адразу і казала, а то Буячыха, адрэз... каб яго разачка рэзала,— і ўжо не папрасіла, а наказала загадчыцы: — Надзечка, пасядзі за мяне. Я мігам. Скруціўся ён, няйначай.— І выскачыла з ашчадкасы.

Але куды бегчы? Як яго дагнаць? Гэта ж столькі часу прайшло!

Мальвіна ў роспачы закруцілася на месцы. Але ж нешта трэба рабіць, некуды бегчы. Яна перасекла плошчу, абсаджаную старымі ліпамі і таполямі, і ўгледзела, што якраз каля райкома спынілася «Волга». Адкуль толькі той спрыт узяўся: праз якую хвіліну запыханая Мальвіна спынілася каля машыны. З пярэдняга сядзення сышла сакратарка райкома і нешта наказвала шаферу.

— Вольга Барысаўна, галубачка,— запрычытала Мальвіна,— выручайце, ратуйце!

— Што здарылася? — здзівілася такой трывозе ўжо не надта маладая, падцягнутая, у зграбнай джынсавай суконцы Вольга Барысаўна.

Захлынаючыся, Мальвіна коратка расказа-

ла пра сваю бяду: «Загубіць жа каня, ахламон. Памажыце пераняць».

Сакратарка шырэй расчыніла дзверцы:

— Сядайце. Паўлік, пакуль што паездка адкладаецца. Даганяй. Вернешся, зойдзеш. Шчасліва,— ляснула яна дзверцамі. «Волга» сарвалася з месца.

— Газуй, Паўлічак. Гэты шкурадзёр загубіць та-а-к-к-ога каня!

— Куды ехаць, Юстынаўна?

— Гані на Балашоўскі шлях. Каб яго разачка ганяла.

Хутка праскочылі шчарбаты булыжнік колішняй кавалёўшчыны, мінулі масток праз забрасняевелую канаву, і машына пакацілася па шырокай пясчанай Слабадзе.

Як толькі выскачылі з мястэчка, Мальвіна аж падскоквала з сядзення і ўглядалася ўдалеч. Мільгалі пабеленыя прыдарожныя слупкі, на зарэчным выгане шчыпалі траву чароды гусей, тупалі прыпнутыя козы, а грузавіка ўсё не было відно. Толькі за паваротнаю Мальвіна ўбачыла: матляючы галавою, ледзь паспявае за машынаю Орлік.

— Паўлушачка, гані, галубочак, газуй на ўсе застаўкі,— аж заенчыла Мальвіна. Адлегласць хутка менела. Павел пасігналіў, а грузавік і не думаў стараніцца.

— Абганяй, заходзь наперад. От жа гад, от жывадзёр,— аж падскоквала Мальвіна.

Паўлік не здымаў руку з сігналу. А «газон» валачэ воблака пылу і не шманае сабе. Мальвіна перад шклом гразілася кулаком, гатовая выскачыць і бегчы напярэймы. Як толькі параўняліся з упараным Орлікам, па расчырванелых

Мальвініных шчоках пакаціліся слёзы. Райкомаўская «Волга» заскочыла наперад і перагарадзіла дарогу, а Мальвіна выбегла на шлях, ухапіла на ўзбочыне хлудзіну і кінулася напярэймы грузавіку. Той стаў. Узваліўшыся на кабіну, лыпаў вачыма Зміцер і прыліплаю да губы цыгарэтаю. Мальвіна размахнулася, хацела выцяць яго, але сухая хлудзіна ляснула па борце і пераламалася напалам.

— Ты што, здурэла, Юстынаўна? — адхіснуўся Зміцер.— Усё ж нармальна.

— Ану, злазь, жывадзёр,— з пенай на вуснах аж заходзілася Мальвіна.— Яму нар-мальна, га?! А хіба ж ты нармальны? — І ў роспачы яшчэ раз ляснула аскабалкам па борце, а сама зайшлася горкімі слязьмі.

— Скруцілася баба. Мы ж етта, на першай скорасьці пілуем. Праўда, Грыша? — звярнуўся ляснік да свайго шафёра.

— Каб табе дошак на труну напілавалі. Злазь, кажу!

Зміцер пазнаў райкомаўскую «Волгу» і адразу здрэйфіў. Відаць, Барысаўна ведае, а ў тае не заржавее. Усе мужыкі ў раёне асцерагаюцца яе: барані божа, убачыць каторага пад мухай ці пасля ўчарашняга, адразу мяняй партфель на вілы. Ды і гэтая «конская мама» скруцілася.

— Ну, чаго ты ўжо так, Юстынаўна? Палянь, што яму зрабілася? Не мог я, дальбог, верхам ехаць, не тут казана, скула на тым самым месцы ўскочыла, а пешкі да захаду сонца раскаракаю не давёў бы. Кінь хлудзіну, тады злезу.

Мальвіна адкінула палку і прыхінулася да змакрэлай Орлікавай храпы. Апалыя бакі хадзілі, як кавальскі мех, з ніжняе губы цягнулі-

ся густыя, як патака, цуркі зеленаватай пены, трывожнае сіняе вока, здавалася, набрыняла слязою. Зміцер дрыготкімі рукамі апасліва адвязаў ад кузава повад, кінуў яго Мальвіне, адсунуўся да кабіны і заенчыў:

— Чым жа я картоплі абганю? Злітуйся, Юстынаўна, дальбог, за повад павяду. От табе хрэст,— і ён, не здымаючы шапкі, няўмела пераджагнаўся.

— Каб цябе сляпога вадзілі. Нідзе дзенешся, сам упражэшся, а баба паганяць будзе. А вупраж заўтра на сабе прынясеш. Чуеш? І ў цябе, ёлупня, мазгоў хапіла, а яшчэ шофер называецца. Эх т-ы-ы! Круціць баранку навучыўся, а чалавекам так і не стаў,— Мальвіна горка заплакала. Орлік цяжка дыхаў, нізка звесіўшы галаву. Дзе дзеўся яго спрыт, пастава, жвавасць? Ад хуткага бегу па няроўным местачковым бруку расплюскаліся, як старыя атопкі, капыты, ад газаў, што наглытаўся за машынаю, яго хістала з боку ў бок.

Следам і насустрач ехалі машыны і фурманкі, людзі пазіралі на распатланую Мальвіну, на змардаванага Орліка і спалоханага Змітра ў кузаве. Грузавік доўга не заводзіўся — рыпела, тузалася ручка, потым чмыхнуў, стрэліў і пусціўся наўцёкі.

Мальвіна асцярожна звяла каня на прырэчны куп'істы выган з дробным дзяцельнікам і курослепам. За ракою жаўцелі пясчаныя выдмы з чырвоным ракітнікам, за імі цягнуліся сінія хвойнікі, прагрэтыя сонцам і набрынялыя смаловым духам, што аж сюды яго даносіў паволны слюдзяны ветрык. Орлік увесь калаціўся ад стомы і страху — хвалямі прабягала дры-

готка па змакрэлай скуры, у каленях, нібы памякчэлыя, прагіналіся ногі, а насцярожана-пудкія вочы азіраліся на кожную машыну. Мальвіна пяшчотна гладзіла яго гарачую храпу, пальцамі разбірала злямчаную грыўку, суцяшала, верачы, што ён разумее кожнае слова: «Не бойся, Орлічак, болей цябе ў крыўду не дам. А гэтага дурня, бачыш, і след прастыў. Ёсць яшчэ вырадкі, што душа тванню зарасла, а мазгі ад сівухі, як смярдзючы баўтун».

Яна выскубла жменьку дзяцельніку і паднесла Орліку. Ён лена, губляючы былкі, пачаў пераціраць зубамі. Дажаваў і пацёрся мордаю аб Мальвінін плячук. Яна выпусціла повад. Орлік адышоўся на роўную лагчыну і лёг, выцягнуўшы пярэднія ногі. Мальвіна села побач. Па рэчцы плылі ружовыя воблакі, на перакаце плюскатала, калышучы сіняваты сітнік, жаўтаватая вада. Каля лазовага куста стаяў нечы пачарнелы веласіпед, над берагам тырчала ссунутая на вочы з пасівелай патыліцы маленькая кепачка, час ад часу мільгала і шлёпала па вадзе гнуткая вуда.

Мабыць, не столькі зрокам, колькі сэрцам адчула Мальвіна, ці не ён гэта, яе колішні Вася Мікіцюк. Вася, Васечка, Васілёк. Быў Васілёк, ды выцвіў, звяў і асыпаўся. Акружэнец, аднекуль з Палтаўшчыны, быў адважным і дзёрзкім разведчыкам у атрадзе «Разгром». Гэта ён здымаў пісулькі з грывы Буяна. Паранілі Васю вясною ў блакаду сорак чацвёртага. Вынянчыла, выпесціла яго Мальвіна спачатку ў зямлянцы, а як адкаціліся немцы, у сваёй хаце. Буяна ўжо не было. Прывезла Мальвіна Васю на яго маленькім «манголе», празваным Хаз-Булатам.

Лётаў ён, як вецер, сцелючыся па зямлі, не раз ратаваў свайго гаспадара. Васю з прабітым навылёт плячом у бальніцу Мальвіна не аддала: харчы там былі посныя, палаты цесныя, а дома — і сырадойчык, і маселца, і скварка вялася. Нічога не шкадавала Мальвіна, асабліва пяшчоты і ласкі. Паіла, карміла, перавязвала, бінты парыла, самога ў трусах у балеі купала, часам вазіла да доктара ў амбулаторыю. Камандавала хворым, як малым дзіцём, хацела здавацца грубаватай і абыякавай, каб не паказаць сваіх пачуццяў, а часам, каб суцешыць, шаптала ласкавыя словы і гладзіла смольныя пярсцёнкі валасоў.

Плёткі паўзлі па трох вуліцах, хоць праўды ў іх і каліва не было. Акрыяў Вася, заслужыў медаль «Партызану Айчыннай вайны», і прызначылі яго загадваць нафтабазай, а кватараваў і сталаваўся ў прасторным Мальвініным доме. Яна пайшла рабіць у ашчадкасу і ўпраўлялася ў хаце і ў хляве. Паехалі яны неяк з Васілём на сена. Ён таптаў стог, Мальвіна падавала пласты сена. Толькі накінулі на сцежар віцы, адкуль ні вазьміся, насунулася вялізная хмара з малінавымі беражкамі, кроеная-перакроеная зыркімі стрэламі бліскавіцы, і ўрэзаў суцэльнай сцяною дождж. Мальвіна з Васілём падскублі пад стогам пячурку і схаваліся ў ёй. Узмакрэлыя распараныя целы прytуліліся адно да аднаго. У проразь кофты на потную Мальвініну спіну і шыю насыпалася пацяруха, яна спрабавала вытрасці яе. «Давай памагу». І Васіль асцярожна запусціў руку пад кофту і затрымаў яе, гарачымі вуснамі ўпіўся ў падатлівыя перасмяглыя дзявочыя губы. Мальвіна прытулілася

шчыльней і ахапіла дужую шыю, і тут упершыню адчула боль і радасць жаночага шчасця. З тае навальніцы яны жылі, як муж з жонкаю.

Часам Васіль прыносіў з базы заткнутую кудзеляю пляшку першаку і тлумачыў: «Шафёр замастоцкі запраўляўся, дык от участаваў». Вечарамі патроху «запраўляўся» і сам. Пад восень усё часцей і часцей Вася пачаў адлучацца вечарамі на базу — то «рабіць справаздачы», то «афармляць заяўкі», то «падбіваць накладныя». Вяртаўся позна, падпіты, з пахам незнаёмай салодкай парфумы. Аднаго разу Мальвіна не сцярпела і выгаварыла яму. А Вася і вокам не міргнуў: «Ты ж стайняю і паранкаю смярдзіш. Прачнешся ноччу і не разбярэш, хто спіць побач — баба ці конь. Цьфу! Абрыдла». Ляснуў дзвярыма і знік у цемені ночы. Камень крыўды і жалю прыдушыў Мальвініна сэрца, а слёзы стрымала, толькі болька смылела ўсё жыццё і жальба да сябе, што першы раз пакахала і не ўтрымала такога статнага і вясёлага прайдзісвета з цыганскім чубам і вачамі. А пад сэрцам ужо ўпінаўся ножкамі яго нашчадак.

Ні заўтра, ні пазаўтра Вася не вярнуўся. А людзі раней за Мальвіну ведалі, што ён, туляючыся, прападаў у гладкай, як ласіца, адзінокай медсястры. Калі пасяліўся ў яе, Мальвіна склала на воз яго транты, адвезла на новую кватэру, перакінула іх цераз плот, паляпала ў шыбіну пугаўём: «Забірай пасаг свайго абармота»,— села на воз, сцебанула ляйчынаю Хаз-Булата, і толькі пыл закурэў.

Праз тры месяцы Мальвіна нарадзіла Толіка. Ніхто на яе брыдкага слова не сказаў, пальцам не тыцнуў, не папракнуў. Хадзіла вясёлая і

шчаслівая, а колькі начамі слёз праглынула, ніхто ніколі не дазнаецца. Затое хлопец удаўся ўсім на дзіва.

А Вася патроху співаўся, азыз, спахмурнеў, па тыдню хадзіў няголены. На базе выявілася недастача. Хацелі судзіць, але зжаліўся і заступіўся былы камандзір брыгады, нешта афармілі, нешта скруцілі. Спецыяльнасць у Васі, як кажуць, вузкая — піць, спяваць ды цешыць маладзіц.

Пакуль валаводзіла следства, аціраўся Васіль у «шаткоме», пляшку зарабляў на разгрузцы-пагрузцы, спрабаваў шабашыць з сякераю, але не цярпеў мазалёў. Кінуў. Быў дарожнікам і вартаўніком крамы, пакуль не ўкралі стрэльбу. Цяпер вось на пенсіі. Ат, і пенсіі тае на хлеб ды на «Прыму» ледзьве хапае. Летам — усяе работы шлёпаць вудаю па вадзе, а ўвечары аціраца каля чайной: можа, каму спатрэбіцца трэці.

Пакуль Мальвіна глядзела на кепку над берагам і з жалем успамінала і Васю, і сваё горкае жыццё ні дзеўкі, ні ўдавы, Орлік устаў і ўзяўся асцярожна скубці дробную траўку на сталочаным выгане. Толькі выпнуліся рэбры, ды ямкі над клубамі надзімаліся і ападалі, як пухіры. Гэта ж трэба! За якога паўдня такога каня зрабіць інвалідам... А Вася? Вася сам сябе жывасілам у інваліды перавёў. Ах, такі ж хлопец быў! Чорт чортам у любым дзеле, а розуму, выходзіць,— на адну зацяжку. Адно шчасце, што Толік толькі мордаю ды чубам у бацьку ўдаўся, а сэрца і рукі залатыя.

Мабыць, Васіль здалёк пазнаў Мальвіну, ніжэй нацягнуў кепку, скруціў акунёўку, забраў

свой веласіпед і падаўся берагам за лазовыя кусты, ці на лепшае месца, ці каб не сутыкнуцца з ёю. Мальвіна доўга глядзела ўслед, потым падняла галаву ўгору, каб не скаціліся непатрэбныя слёзы. Высока-высока ў чыстым блакіце адно за адным плылі бусел з бусліхаю на буслянку на старой таполі да сваіх буслянят.

Мальвіна ўзяла повад, і за ёю млява патупаў Орлік. Пасля прабежкі за грузавіком куды дзеліся спрыт, сіла і жвавасць? Глядзіш — Орлік і не Орлік, ён і не ён: нейкая струна лопнула ў ім, ужо не чутно залівістага ржання, гулкага цокату капытоў, ужо не нясе высока сваёй зграбнай белай галавы, толькі па-ранейшаму лашчыцца да Мальвіны і слухае яе.

Але хутка прыйшлося ім разлучыцца: лясніцтва прэміравалі невялічкім універсальным трактарам і «газікам» не першай маладосці. Ляснічаму давялося «пералічыць» Орліка аддзелу камунальнай гаспадаркі. З плачам правяла Мальвіна свайго гадаванца з двара. Ён упершыню паўпінаўся каля варот, быццам ведаў, што пакідае іх назаўсёды.

Калі везлі на Орліку дровы ці дошкі па Мальвініным завулку, як ні тузаў, як ні круціў лейцамі камунгасаўскі вазак, конь станавіўся каля знаёмага двара, падаваў асіплы голас і жывасілам цягнуў воз да брамы, а калі ехалі на ім па плошчы, спыняўся насупраць ашчадкасы і ціха ржаў. Вазак хвастаў яго дубцом, а з дзвярэй ужо выскоквала Мальвіна і коршакам налятала на фурмана: «За што ж ты яго б'еш? Каб цябе падучка біла. Гадаваў ты яго? Га?!» — Вырывала ў вазака дубец і гатова была адхвастаць самога, але не адважвалася, толькі махала

над галавою, а той засланяўся рукамі. Людзі спыняліся і пасмейваліся з аднаго і другога. Мальвіна папраўляла збітую набок сядзёлку, падцягвала церассядзёлак, гладзіла па шыі, пхала ў мяккія губы акрайчык хлеба і, не азіраючыся, павольна ішла назад у ашчадкасу. А там ужо яе чакала чалавекі чатыры ўкладчыкаў, усё бачылі праз акно. Самыя языкатыя пад'юджвалі: «Каня без чаргі ўлагоджвае, а нам стой». Мальвіна прасіла прабачэння і хуценька адпускала ўсіх.

Пасля работы загадчыца не раз выгаворвала ёй за адлучкі: «Жаляцца, Юстынаўна. Кажуць, каб была другая ашчадкаса, туды б панеслі свае грошыкі. А ў нас план, самі разумееце. І даўся вам гэты конь. Возіць смецце, няхай сабе возіць».— «Ён у мяне, не раўнуючы, дзіця малое, соскаю выпаены. Адно што гаварыць не ўмее, а то мог бы сам быць... ого-го!» Камунгасаўскія вазакі аб'язджалі ашчадкасу і Мальвінін завулак, каб не сутыкацца з ёю.

Як толькі выйшлі Мальвіне гады, па заяўцы загадчыцы з фінансавага тэхнікума прыехала маладзенькае дзеўчанё на пасаду кантралёра. Чырванеючы і мнучыся, загадчыца сказала Мальвіне: «Я асабіста супраць вас нічога не маю. Наадварот, удзячная, што многаму і мяне навучылі. Але вось прыслалі па размеркаванню маладога спецыяліста. Самі разумееце, не магу ж яго адправіць назад...» — «Вядома, не можаш. Калі здаваць? Яно і лепш. Пайду на Орліку смецце вазіць».— «Што вы, Юстынаўна! Не сярчайце, пажалуста. Афармім вам пенсію чын чынам. Я ўжо ў сабесе ўсё высветліла».— «От дзякую. І даўно паспела паклапаціцца?» Маль-

віна павярнулася і пайшла. Потым былі сумныя праводзіны, электрычны чайнік і гадзіннік за 27 рублёў. Пасля гэтага нагі не было Мальвінінай у ашчадкасе.

Хоць і падалася, але не здавалася пенсіянерка Мальвіна — скрозь упраўлялася сама: і ў хаце, і ў хляве, на гародзе і на сотках, ледзь дапаўзе на сточаны шашалем бабчын ложак, але дзе ты заснеш, калі сама бабкаю стала. Адслужыў яе Толік у войску, добрым шоферам стаў, казаў, самога палкоўніка вазіў, а вярнуўся дадому, пайшоў шафярыць у дарожны ўчастак. Адразу палегчала Мальвіне. Як ні кажы, машына — у руках: і сена, і дроў, і картоплю з поля ёсць на чым вывезці. А неўзабаве і ажаніўся сынок. І з кім! Каб прыснілася, не паверыла б. З тою самаю «фіфачкаю», што села на Мальвініна месца. Адразу маці была ані блізка, а як разважыла, дык чым жа яна вінавата,— дзеўка як дзеўка. Праўда, прыехала трэска трэскаю, а тут папышнела, раздалася, і з мордачкі нішто сабе.

Вяселле справілі як мае быць. Аж тры дні гулялі — радні развялося, за тры сталы не ўсадзіш. Паладзіла з нявесткаю Мальвіна, а як прыйшоў час, тая прывезла з бальніцы гарластых двайнятак — Косціка і Аленку. Які ўжо тут сон бабе?

Неяк пад восень адвярнулася Мальвіна ад печы, аж нейкая шэрая постаць прасунулася за акном. На парозе адчыненых дзвярэй нячутна прыхінуўся да слесака Васіль. Зняў кепачку з аблезлай галавы, стаіць няголены, у абвіслых, выкачаных у пыле штанах — жабрак жабраком. Ледзь чутна сказаў «здрастуй» і маўчыць.

— Што скажаш, чалавеча? — спытала Мальвіна. Маўчыць. Яна дастала з-пад кужэльнага ручніка цёплую аладку і працягнула Васілю. У таго вочы наліліся слязьмі.

— За што ты так, Мальвіна? Я ж міласціну не прашу. Дай на ўнукаў глянуць, хоць хлопца на руках падзяржаць.

— Адкуль у цябе тыя ўнукі ўзяліся? І сына ў цябе няма. Дзе ж ты быў, як ён у пустой хаце плачам заходзіўся, а суслу не было каму падаць, як ён у адзёры ды ў гарачцы качаўся? А тут ні села ні пала — дзеда прыдбала. Лепш ідзі, чалавеча. Сабе скруціў жытку, хоць нас не труці. Тут жа канём смярдзіць. Бяжы, Васечка, туды, дзе пархумаю пахне. Богам прашу: і пад вокнамі не ацірайся, бо апару. Сэрца не ад'ядай ні сабе, ні нам,— і лагодна, праз слёзы, папрасіла,— трэба ж неяк па-людску век звекаваць, каб без крыўды і злосці. Хто вінаваты, глядзі сам. Я табе даравала. Слязьмі выліла боль. А што сына маю,— яна нізка пакланілася,— дзякую табе.

— А сабе не даруеш.— Васіль шморгнуў носам. І тут у два галасы залемантавалі Косцік з Аленкаю. Мальвіна пабегла да іх з дзвюма пляшачкамі малака. Пачула, як ляпнула клямка форткі, за акном прасунуліся ўвагнутыя плечы Васіля. Пякучы боль перахапіў дух, тугі камяк падкаціўся пад самае горла. Памкнулася зірнуць, куды ён падаўся, а яго і след прастыў.

На вуліцы глуха затупалі капыты. Каля брамкі стаяў спутаны Орлік. Мальвіна ўхапіла ладны акраец і выбегла з хаты.

Заўсёды заклапочаная і паспешлівая, яна толькі цяпер прыгледзелася, як у вузкім га-

родчыку буйна расцвілі цёмна-барвовыя вяргіні з пабялелымі кіпцікамі на кончыках вострых пялёсткаў, як выцягнуліся і пазгіналіся ад ружовых званочкаў светла-зялёныя сцябліны мальваў. Расцвілі мальвы — значыць, не за гарамі восень: трэба барздзжэй упраўляцца, і Мальвіна пабегла на звонкія галасы ўнукаў.

# СУСТРЭЧА З САМІМ САБОЮ

— А ці туды вы мяне везяце, малады чалавек? — спытаў Мікалай Іванавіч у шафёра таксі.

— Куды сказалі, туды і вязу.

— Гляджу і не верыцца, няўжо гэта той самы горад...

Машына імчалася па роўнай асфальтавай магістралі, залітай малочным святлом, мільгалі высотныя дамы, шкляныя акварыумы магазінаў, здавалася, да самых зорак — вокны, вокны, з чырвонымі, зялёнымі, жоўтымі, сінімі абажурамі і гардзінамі. Насустрач і следам імчаліся машыны, праплывалі скверы з раскідзістымі кронамі ліп і клёнаў. Толькі там-сям па правую руку паміж дамамі паблісквалі хвалістыя палосы на знаёмай рацэ.

— Прыпыніся, калі ласка... Ну хоць бы тут.

Мікалай Іванавіч выйшаў з машыны. З Дзвіны цягнула прэснаю свежасцю, а ўнізе, каля самага берага, стаяла адзінокая, сагнутая снягамі і вятрамі, учарнелая сасна.

— Яна! Яна!

Шафёр праз апушчанае шкло глядзеў на дзіўнаватага пасажыра і не разумеў, каго ён там убачыў, каму так узрадаваўся. У доме насупраць ціха іграў магнітафон, на празрыстую фіранку то выплывалі, то знікалі цені танцораў, некалькі вокан свяцілася тэлевізійным блакі-

там. Горад паступова тушыў агні. Пасажыр глядзеў на ўсе бакі, нешта мармытаў, разводзіў рукамі.

— Яна. Яна! Разумееш,— звярнуўся ён да шафёра,— стаіць. Адна асталася, а больш нічога не пазнаю.

— Што мы стаім, а шчотчык працуе, гэта я разумею,— раздражнёна азваўся шафёр,— а больш нікога не бачу.

— І не ўбачыш, малады чалавек... Вунь на самым беразе сасна стаіць. Бачыш? Адна яна асталася ад колішняй вёскі. Апошні сведка. А вёску ведаеш, як звалі?

— Горад ведаю як свае пяць пальцаў, што вёска была, нібыта чуў, а як звалася,— ён паціснуў плячыма,— лепш сядайце. Паехалі. Мне яшчэ трэба на вакзал зматацца.

Мікалай Іванавіч сеў і з сілаю ляснуў дзверцамі, ссунуў на патыліцу капялюш, выцер хусцінкаю лоб.

— А вёска звалася Плаксы. Так, так. Плаксы. Плакалі тут людзі вякамі, і легенду я чуў, але забылася. А цяпер онь які горад... А там, што гэта каля Дзвіны? Не, не там, вунь, наперадзе?

— А, гэта? Гэта спартыўны комплекс. А вы што, бывалі тут?

— З першага катлавана. Не паверыш, тут поле было, ільнішча. Пад тою сасною абедала наша брыгада, а ўвечары дзяўчатам прызначалі спатканні. Тут я ча-лаве-кам стаў.

— А цяпер дзе жывяце?

— Далёка, брат. Адсюль не відаць. Цюменскую нафту качаем. А школу тут прайшоў.

— Дык вы, мабыць, на юбілей горада едзеце? Усіх ветэранаў збіраюць.

— Запрасілі, не забыліся.

Яны ўехалі ў цэнтр горада. На слупах, на дрэвах, пасярод вуліцы пераліваліся ўсімі колерамі электрычныя гірлянды, скрозь мільгалі чырвоныя лічбы 25. Збоку з'явіўся і знік нейкі белы буданчык.

— А гэта што? — спахапіўся пасажыр.

— Гэта? Гэта помнік першай палатцы. Усе ж гарады пачынаюцца з палатак.

— Малайцы. Разумныя, відаць, тут кіраўнікі. Трэба, каб людзі ўсё помнілі. Горад без гісторыі, што чалавек без памяці... А вунь там, каля моста, была наша першая сталоўка: чатыры слупы, на іх нацягнутыя кавалкі толі, укапаныя ў зямлю стол і лавы. Адкуль падзьме вецер, з таго боку зашалюемся аполкамі... А-а-а! Гэта ж першая школа. І тут я бетоніў.

— Цяпер тут такія школы... Што школы! Інстытут свой, тэхнікумы — закачаешся.

Машына рэзка павярнула ўлева і спынілася каля дзевяціпавярховай гасцініцы.

— Прыехалі!

Мікалай Іванавіч разлічыўся, узяў свой лёгкі чамаданчык, пажадаў шафёру шчаслівай дарогі і ўзбег па шырокіх прыступках у светлы вестыбюль. Для ўдзельнікаў свята былі забраніраваны лепшыя нумары, абстаўленыя дарагою і зручнаю мэбляю, з прыгожымі свяцільнікамі, тэлевізарам і тэлефонам.

Мікалай Іванавіч расклаў свае рэчы, памыўся і ў лёгкім спартыўным касцюме выйшаў на балкон. Ён хацеў зразумець, дзе ж стаіць гасцініца. Лес адышоў далёка за возера. Удалечыні

трывожнай чырванню мільгалі габарытныя агні тэхналагічных калон і на коміне электрастанцыі. Гул горада сціхаў. Была поўнач, але спаць не хацелася. Відаць, ад узбуджанасці і мноства ўражанняў. Адзінокая сасна развярэдзіла ўспаміны далёкага юнацтва, прыгадаліся першыя нясмелыя сустрэчы з Надзяй, твань на будаўнічай пляцоўцы, пудовыя боты ў гліне, салодкая стома, юнацкая дурнота і вялікія спадзяванні. Хіба ж можна было тады паверыць, што ў чыстым полі вырасце такі горад?! Гарады будуюць людзі, а новыя гарады ствараюць новых людзей. Вось і з яго, канапатага Колькі, языкатага свавольніка, тут загартаваўся і вырас чалавек, цяперашні Мікалай Іванавіч, спецыяліст высокага класа, адказны за лёс людзей, складанай тэхнікі і важнай работы.

Ён успомніў, што захапіў у падарунак музею горада даўні-даўні маладзёжны часопіс з нарысам пра іх брыгаду, пра Алёшу Акінчыца, пра яго і пра Надзю. Успаміналася ў ім і яго мама. Трэба будзе наведаць яе магілу ў горадзе. На месцы іх хацінкі, казалі, стаіць цяпер новая музычная школа. Гэта добра: мама ж так любіла музыку.

Мікалай Іванавіч дастаў з партфеля стары, пажоўклы і пацёрты часопіс, разгарнуў яго, каб тое-сёе асвяжыць у памяці для выступлення, і зачытаўся.

«У той год раздажджылася з вясны. Дождж ліў трэція суткі. Трэція, гэта калі лічыць ад нядзелі. А так усё лета хвошча без перадыху. І адкуль толькі бярэцца? «Дзірку, ці што, у небе прабілі?» — злуюцца брыгадзіры. А дождж ідзе і ідзе.

Ну якая тут работа? Рубца сухога няма, боты у глею за халявы выцягваеш, гусенічныя трактары крэкчуць і коўзаюцца ў тлустай, як масла, гліне — і ні з месца.

А рабіць трэба: усё ж спланавана і разлічана на кожны дзень. Не запланаваны толькі дождж. О-о, нібыта павесялела: сярод нізкіх азызлых хмар паказалася блакітнае акенца, з яго пырснуў сонечны праменьчык і, як той пражэктар сярод ночы, пабег па мокрым прырэчным лузе, заліў ярка-зялёным святлом лазовыя кусты на тым беразе рачулкі. Яны адразу затрапяталі і засерабрыліся. Вецер прыгладзіў рэдзенькую атаву, яна заблішчала на сонцы. І раптам усё згасла, а блакітнае акенца зноў зацягнулі густыя хмары.

Забарабаніў спорны дождж. На вадзе паўскаквалі бурбалкі.

— Ну, цяпер надоўга! — плюнуў ад злосці перамазаны глінаю, мокры навылет Алёшка Акінчыц. Ён паставіў у гразь цяжкую сасновую стойку, прыпёр яе да пляча, сцягнуў азызлую брызентавую рукавіцу і чырвонымі пальцамі працёр запацелыя акуляры.

— Эй, прафесар, «снимите очки-велосипед» пара збірацца на абед,— выскаляецца Колька. Ён стаіць на рыштаванні, збітым вакол вялізнага блішчастага рэзервуара. На гнуткіх дошках Колька адбіў дробную чачотку, пацешна, як на малітву, склаў рукі і тоненькім фальцэтам заспяваў:

Эх ты, бог, эх ты, бог, што ты ботаеш [1],
Ты на небе сядзіш, не работаеш.

---

[1] Б о т а е ш — *(жарг.)* гаворыш.

Колька падставіў пад буйныя кроплі свой кірпаты вяснушкаваты тварык, ссунуў бровы, нібы і сапраўды кагосьці ўбачыў у нізкіх шэрых воблаках. І так смешна зрабілася Алёшку, што ён ледзьве ўтрымаў слізкую стойку. У гэтую хвіліну ён нават пазайздросціў свайму бесклапотнаму напарніку. Яму заўсёды весела, лёгка, усё зразумела і проста ў жыцці. Ён ніколі не сумуе, ні ў чым не сумняваецца і не пакутуе. Ды і сур'ёзным яго ніколі не бачыў Алёшка.

Колькі яму можа быць? Пэўна, не больш дзевятнаццаці, а ўжо жыццё пацерла, па міліцыях пабадзяўся, цяпер прыбіўся да іх брыгады. Хоць і не вельмі гарачы на рабоце, але [redacted] ім у такую непагадзь весялей, а брыгадзе — яшчэ адзін бал: перавыхаванне даручылі, перакавачкай займаемся. Гэта значыць, з Колькі пыл выбіваем, каб чалавекам стаў.

А ён, руды, канапаты, усё разумее і толькі пасміхаецца: «Што,— кажа,— па Макаранку працуеце? На давер'е, думаеце, клюну? Ініцыятыву і свядомасць развіваеце? Давайце, давайце, я згодзен. Вучыце. На чацвёрку выцягну, а пяцёрак не абяцаю. З пяцёрачнікаў падхалімы выходзяць. Ух — не люблю».

Колька стаіць на самым версе рыштавання. Адсюль яму відаць наваколле на некалькі кіламетраў. Ён бачыць аплеценыя сталёваю арматураю калоны крэкінга, бетонныя эстакады, павуцінне труб і сотні каржакаватых бліскучых рэзервуараў. Усё падабаецца Кольку: брыгада дружная і заработкі добрыя. Што ні кажы, а дзевяноста рублёў нідзе не валяюцца. Адно пагана: дажджы і гразь. «Эх, каб тут была хоць невялічкая страха»,— думае ён, пазіраючы на

нізкія хмары, што варочаюцца, асядаюць і паўзуць над самаю галавою.

Ён бачыць, што брыгада рушыла на абед. Грузаючы па размешанай гліне, ідуць цыбатыя, ускудлачаныя ветрам, як тыя мокрыя вераб'і, знаёмыя хлопцы.

— Хадзем, Лёха, парубаем,— гаворыць Колька свайму напарніку і, насунуўшы на вочы маленькі казырок стракатай кепачкі, па кладках першы бяжыць у бытоўку. Добра, што збілі з аполкаў гэтую будку — хоць абсушыцца ёсць дзе, пагрэцца і пакурыць спакойна. Сюды збіраецца на абед уся іх брыгада. У бытоўцы адно маленькае акенца, пасярэдзіне стаіць бляшаная печка, доўгі, з няструганых дошак стол і дзве хісткія лавы. Над печкаю нацягнуты дрот. На ім сушацца вялікія мокрыя рукавіцы, з іх ідзе пара, пахне сіверам і балотнаю вільгаццю.

Хлопцы ядуць хлеб з кефірам, а Алёшка разгарнуў кужэльную анучку і ножыкам наразае тонкія скрылёчкі ружовага сала. Колька зірнуў на яго, крыва ўсміхнуўся:

— Як стойкі цягаць, дык разам, а сала есці — адзін. Вось і змагайся з такімі куркулямі за званне камуністычнай. Не даспелі яшчэ! Свядомасць нізкая. Феадалізм!

Усе засмяяліся. Лёшка пачырванеў, але не разгубіўся:

— Хлопцы, а Колька праўду кажа. Давайце абагулім авоські, каб не жаваць кожнаму з кулака.

Дзверы адчыніліся, і ў бытоўку ўбегла вясёлая гаваркая ларочніца Нюрка з кашом, поўным «гумавых пончыкаў».

— Свежанькія, цёпленькія! Налятай, хлопчыкі!

— Яны твае равеснікі, толькі ты цёпленькая, а пончыкі яшчэ летась закляклі,— выпаліў Колька. Усе зарагаталі, а Нюрка бойка адрэзала:

— Памаўчаў бы, канапаты. Лепш скажы, што ў цябе, як у таго галыша, толькі кепка ды душа. А па чорнаму спісу выдаваць забаронена.

— От адбрыла! Маладзец Нюрка!

— Ды ну вас,— адмахнулася дзяўчына.— Мясі гразь, каб накарміць кожнага, а ён яшчэ плявузгае.

Нюрка ўзялася за клямку, але нешта ўспомніла і затрымалася каля парога:

— Брыгадзір, там у трэсце цябе нейкая фіфачка чакае. Глядзі, ціхоня, можа, стрыечная жонка знайшлася.

— Ты не пляці абы-чаго, а кажы толкам,— азваўся Сымон Пятровіч.

— Не, сур'ёзна. Чакае ў аддзеле кадраў. Кажа, па лічнаму дзелу. Нібыта сваячка нейкая. Прасілі перадаць, каб зайшоў. Відаць, з раніцы сядзіць.

Красікаў адвярнуўся, нібы гэта тычыцца не яго. Ён запісваў у свой распухлы блакнот заданне на другую палову дня, а думка: «Хто б гэта мог мяне чакаць, ды яшчэ па асабістай справе?» не выходзіла з галавы.

Прыезджая сядзіць з раніцы? Ён перабіраў у памяці ўсіх сваіх знаёмых. Кажа, сваячка, але сваякі выключаліся — іх проста не было ў Сымона Пятровіча. Успомнілася дзетдомаўскае дзяцінства, рамеснае вучылішча, армія. Можа,

якая дзетдомаўская «сястрычка» даведалася і прыкаціла, от было б здорава!

Брыгадзір стараўся не думаць, але пытанне «хто?» не давала яму спакою аж да самага канца работы. Ён хацеў уявіць сабе тую, што чакае маго. Яна здавалася то высокаю і статнаю, то маленькаю і кірпатаю, то бяляваю, то чарнавокаю. Што б ні рабіў, што б ні гаварыў Сымон Пятровіч, але кожны раз лавіў сябе на тым, што думае пра яе. «Цьфу ты, прычапілася! Муляе, як цвік у чаравіку»,— хацеў ён адбіцца ад надакучлівай думкі, але так і не змог.

Дзень канчаўся, а з ім кончыўся і дождж. З-за хмары, што спаўзла за небасхіл, выбліснула сонца. Ад святла адразу ажыло ўсё наваколле: да аскоміны зялёным здаваўся надрэчны луг, ажыў і заіскрыўся недалёкі лес, як лакіраваныя, заблішчалі стрэхі бытовак, складаў, прарабскіх вагончыкаў, а шыбіны наліліся зіхатлівым барвовым бляскам.

«Калі не трэба, і сонца свеціць, і дождж перастаў,— думаў брыгадзір, выходзячы са сваімі хлопцамі на дарогу.— Ну што пісаць у нарадзе? Алёшка з гэтым «выхаванцам» яшчэ нешта зрабілі, а астатнія перацягалі цэлае мора вады з катлавана: помпа загразла зранку, пакруціліся, пакруціліся, узялі вёдры і «запусцілі канвеер». А дзе ты яе адкачаеш, калі зверху лье, гліна набракла— наступіш, аж з-пад абцаса свішча.

Кожны натупаўся за дзень, як конь у малатарні, а што зарабілі? Нуль цэлых і два нулі дзесятых? Вось і пішы ў нарадзе: «Пераліванне з пустога ў парожняе, разгонка дыму і затрымка

сонца». А ўсё «аб'ектыўныя прычыны», усё дождж, каб ён спрах».

Ідзе па лужах і думае Сымон Пятровіч. Гэта яго так для саліднасці завуць, нават крышку з гумарком. Ну які ён там Пятровіч? Дваццаць шосты год, ростам, як кажуць, аршын з шапкаю, адукацыя — восем класаў. Газеты, праўда, не скупіліся на пахвалу — і заметкі, і партрэты друкавалі, і нарысы пісалі. А што ён зрабіў? Нічога асаблівага: працаваў бетоншчыкам, а далі брыгаду — хлопцы падабраліся адзін у адзін, па паўтары нормы давалі. Толькі гэтыя дні дажджы пасадзілі. І Кольку трэба рашпілем шабрыць і наждаком зачышчаць. Але абатрэцца, паразумнее і яшчэ якім чалавекам будзе! Гэтыя блатнаватыя вельмі ж башкавітыя і спрытныя бываюць.

Брыгада Красікава спынілася каля дарогі, каб дачакацца якога-небудзь самазвала і даехаць на ім да шашы. Не мясіць жа гразь яшчэ тры кіламетры, намясіліся! Хлопцы перакульваліся праз жалезныя барты самазвалаў у гулкія кузавы, перамазаныя бетонам або цагляным пылам, і выязджалі на магістраль. З машыны добра відаць уся будоўля. І сёння за гэты кароткі дажджлівы дзень тут нешта прыбавілася, нешта змянілася. Што — адразу не ўбачыш, а пройдзе тыдзень, і ўжо многага не пазнаеш.

Сымон Пятровіч пастукаў па кабіне і, як толькі самазвал прытармазіў, саскочыў і падаўся ў трэст. Ён узбег на трэці паверх і пайшоў па доўгім гулкім калідоры.

На ўслончыку каля аддзела кадраў сядзела дзяўчына ў цёмна-чырвоным паліто, у новенькіх

сацінавых шараварах і ў туфельках на высокіх абцасіках. Убачыўшы Сымона Пятровіча, яна паднялася і пайшла насустрач.

— Прабачце, ці не вы таварыш Красікаў?

— Я.

— Сымон Пятровіч?

— І гэта праўда. Адкуль вы мяне ведаеце?..

Кадравік за дзвярыма пачуў голас брыгадзіра і крыкнуў яму:

— Колькі ж можна чакаць? Заходзь, Пятровіч!

Дзяўчына памкнулася затрымаць брыгадзіра, хацела яму нешта сказаць, але дзверы адчыніліся, і на парозе з'явіўся Асмаловіч.

— Ну вось і дачакалася сваяка. Заходзьце, калі ласка,— ён паціснуў руку Сымону Пятровічу, прапусціў дзяўчыну ў кабінет, ухапіў яе цяжкі фанерны чамадан і ўнёс следам за ёю.

Красікаў нічога не разумеў: чаму «сваячка»? Чаму перад ёю так увіхаецца Асмаловіч? Наогул, што ўсё гэта значыць?

Дзяўчына першая ўвайшла ў кабінет, пачырванела і разгубілася. Моўчкі пазіраў на яе і Сымон Пятровіч. Не, ён яе бачыў упершыню!

— Вы, калі ласка, прабачце,— загаварыла яна.— Я сказала няпраўду, што ваша сваячка. Ведаю вас толькі па газетах. Таму і прыехала ў вашу брыгаду.— Яна вінавата ўсміхнулася, збянтэжылася і па-дзіцячаму наіўна дадала: — А вы мне здаваліся высокім, дужым і чамусьці чарнявым.

— А ўбачылі і расчараваліся? — спытаўся Красікаў.

Дзяўчына не паспела нічога сказаць. Яе перабіў начальнік аддзела кадраў:

— Адразу б так і сказала. Даўно б афармілі, і быў бы поўны парадак.

— Баялася, што пашляце ў іншую брыгаду. Вось і чакала Сымона Пятровіча.

Брыгадзір заўважыў, што як толькі гэтае дзеўчанё перастала быць яго «сваячкаю», адразу знікла ўсё далікацтва кадравіка. Ён ужо да яе звяртаўся на «ты», тон стаў службовы, нібыта аднекуль пацягнула скразняком.

— Як вас хоць завуць? Адкуль вы? А то прыбег да «сваячкі» і нічога пра яе не ведаю.

— Надзя. Прозвішча Радкевіч. Родам з Баранавіч. Скончыла адзінаццаць класаў, паступала на факультэт журналістыкі, але туды без стажу не бяруць. Кажуць, жыцця не ведаеш. Вось я і прыехала да вас вывучаць яго.

— А можа, вам толькі даведка патрэбна? — нахмурыўся Красікаў.

— Мне трэба работа... у вашай брыгадзе. Я многа ў газетах чытала пра вас, па радыё чула... вось і прыехала.

— У газетах пра нас складна пішуць. Кожнага такім анёльчыкам размалююць, што самому сорамна чытаць. Эх, і ўмеюць жа яны: «Усмешачка, здымаю! Дзякую. Наступны». Вось і выглядаем мы, як тыя Мурамцы, з-пад мантажніцкага шалома. І адзяём мы яго толькі, калі фатограф прымусіць ды на дэманстрацыю. А так нязручна ў ім. Начытаецеся і думаеце — рамантыка. А вы зірніце ў акно на гэтую рамантыку: гразь па самую рэпіцу, мокнем, як тыя вадзянікі, і «ўкалваем», бо ведаем, што за нас ніхто не зробіць. План ёсць план, а дзеці ёсць дзеці, яны есці хочуць. А вам стаж патрэбен і моднае імя «будаўнік Нафтаграда». Гу-

чыць! Пачуе камісія і растане. А да нас праз некалькі год прыедзе яшчэ адзін карэспандэнт. З магнітафонам ці фотаапаратам?

Надзя зразумела ўсё і, хаваючы крыўду, сказала:

— Я працаваць хачу, а даведка — неабавязкова. Вазьміце мяне, Сымон Пятровіч.

— Памокнеце, памерзнеце разам з намі, пабоўтаецеся ў гразі, тады сапраўднаю журналісткаю станеце. Душу рабочую зразумееце. А яна не такая просценькая, як некаторыя думаюць.— Брыгадзір падвёў Надзю да акна. Асмаловіч нецярпліва барабаніў худымі валасатымі пальцамі па стале. Яму хацелася хутчэй аформіць і выправадзіць гэтую дзяўчыну, а Красікаў ёй чытае лекцыі:

— Зірніце, у якой багне працуем. Вунь электразваршчыцы ідуць. Бачыце? Слаўныя дзяўчаты, прыгожыя, начытаныя, сціплыя, ім бы ў туфельках на шпілечках, у капронах ды ў нейлонах там розных хадзіць, а яны ў брызентавых робах ды ў гумавых ботах гразь месяць. Для стажу, думаеце? Тут нешта вышэйшае ёсць. Папрацуеце — зразумееце...— Яны памаўчалі.— Ну, дык як, не страшна? Людзі нам патрэбны. Афармляй, Леанід Кандратавіч.

— Не тушуйцеся — навучым. Класная бетоншчыца выйдзе, а там і журналістка будзе свая.

* * *

Праз два дні Надзя выйшла на работу. На пляцоўку яе вёў брыгадзір.

Зграбная, лёгкая і чысценькая, яна пера-

скоквала калюжыны, каб не вельмі перавэдзгаць свае бліпчастыя гумавыя боты.

Хлопцы сядзелі ў бытоўцы, курылі і пакеплівалі адзін з аднаго. Праз акно нехта ўбачыў брыгадзіра з «новым папаўненнем». Сказаў хлопцам. Колька ўсхапіўся першы:

— Нішто тавар. Цікава толькі, каму дастанецца.— Алёшка праз верх акуляраў зірнуў на яго доўгім дакорлівым поглядам, а Юрка папярэдзіў:

— Ты, хлопец, свае блатныя кепікі кінь і не палохай дзяўчыну. Разумець трэба.

— Няўжо паспеў урэзацца? — зарагатаў Колька, але ўсе сурова маўчалі. Збянтэжаны рагатун «папоўз на тармазах».— Будзьце спакойны, забяспечым галантарэйнае абыходжанне,— ён зняў маленькую кепачку і нязграбна, як у дрэнным спектаклі, зрабіў рэверанс.

Дзверы адчыніліся, і Сымон Пятровіч спачатку прапусціў Надзю. Яна прывіталася і стала ў парозе.

— Знаёмцеся, хлопцы. Папаўненне нашай брыгады, Надзя Радкевіч.

— Да ручкі падыходзіць па старшынству ці па алфавіту? Хоць так і так Акінчыц першы,— не вытрымаў Колька. Хлопцы пырснулі ад смеху. Усміхнулася і разгубленая Надзя. Яна працягвала сваю маленькую чысценькую ручку і кожнаму гаварыла «Надзя». Апошні падышоў Колька. Ён цырымонна расшаркаўся перад ёю: «Мікола. Да сённяшняга дня лічыўся «новенькім», а цяпер «новенькая» ты. Дзякую. Выручыла. Адзьюl» — ён тэатральна крутнуўся, дастаў з-за вуха папяроску і закурыў.

Надзя не ведала, куды прыткнуцца, і стаяла пасярод бытоўкі. Усё было не так, як ёй здавалася. Яна бачыла твары, падобныя на тыя, што былі на газетных здымках, але хлопцы тут, на рабоце, выглядалі прасцей. І панарама зусім не такая. Больш прастору і ўсё сапраўднае: і дождж, і раскоўзаная гліна, і луг за рэчкаю, і Красікаў зусім не волат, а чалавек ніжэй сярэдняга росту. А хлопцы? Вось пазнаёмілася з імі, а ўсіх не запомніла. Вунь той, у акулярах, здаецца, Аляксей, гэты, з прыгожымі цыганскімі вачыма,— Юрка, а вяртлявы жартаўнік, зусім хлопчык, Коля. Іх яна запомніла. А каторы Роберт, Валодзя і другі Валодзя, Антон і Стась — не разбярэш адразу.

Яна абвяла позіркам цьмяныя сцены. На цвічках віселі авоські з полуднем. А яна ж нічога не ўзяла з сабою — і пачырванела. Прыйдзецца хлусіць, што зусім не хочацца есці. Яна яшчэ раз абвяла позіркам усіх хлопцаў і падумала: пройдзе тыдзень, ну няхай месяц, і яна будзе ведаць і характары, і звычкі, і біяграфію кожнага, напэўна, пасябруе з імі. І тут жа дала сабе слова — быць аднолькаваю да ўсіх. «Буду весці дзённік,— думала яна,— а пасля напішу нарыс пра сваю брыгаду». Яна яе ўжо называла сваёю.

Сымон Пятровіч разгарнуў на стале складзеную ў дзесяць столак сіньку. Алёшка і Юрка адразу звесілі чубы над чарцяжом.

Брыгадзір кожнаму сказаў, што рабіць, зірнуў на наручны «будзільнік» і скамандаваў: «Пайшлі».

Надзю ён паставіў разбіраць арматуру. Чула гэтае слова і раней. Ведала, што ёсць арматур-

шчыкі, арматура, а ніколі не думала, што гэта ржавыя пераплеценыя жалезныя прэнцікі.

Колька мімаходзь кінуў ёй свае брызентавыя рукавіцы:

— Трымай, намесніца, а пальчатачкі схавай — не па сезону.

Надзя нагнулася над іржавымі жалезнымі пляцёнкамі і пачала іх разбіраць. Было ветрана і няўтульна. Нізка вісела шэрае неба. Добра яшчэ, што не ішоў дождж. Успомнілася матчына цёплая хата вось у такія дні позняй восені. Патрэскваюць дровы ў печы, вецер дзынкае шыбінаю, чэкаюць ходзікі на сцяне. І так зрабілася сумна, так захацелася дамоў, аж нешта даўкае заказытала ў горле.

Яна глядзела на рабочых у пакамечаных, заляпаных глінаю спяцоўках, бачыла напружаныя постаці і твары без «газетных» усмешачак. Усе спяшаюцца, мітусяцца, цягнуць бярвенні і дошкі ў нейкі катлаван, грузаюць у перамешаной трактарамі багне. Гэта нялёгка. Вось і пісалі б так, як ёсць. Няхай бы кожны ведаў, як цяжка трапіць на Дошку гонару, на газетную старонку, як нялёгка заслужыць працоўную славу.

Надзя ўспомніла, што сёння субота, кароткі дзень. Яна рана прыйдзе дадому, скіне цяжкія боты, гаматную целагрэйку і ў лёгкіх туфельках пабяжыць у кіно. І тут жа ловіць сябе на думцы: гэта ж першы рабочы дзень у яе жыцці, а ўжо хочацца хутчэй у цёплы пакойчык у інтэрнаце, яна марыць пра свой беленькі ложак, пра туфелькі і кіно.

Можа, сумна таму, што яна яшчэ нічога не ўмее рабіць, што ніколі не рабіла і не любіць

аднастайнай работы, пра якую кажуць: «падмі і кінь».

* * *

Перад самым канцом работы да брыгадзіра прыбег пажылы чалавек і пачаў упрошваць разгрузіць чатыры вагоны шчэбеню.

— Дзве гадзінкі — вашых нет,— угаворваў ён.— А то прастой запішуць, акты складай, штрафы плаці, а вам раз плюнуць, і вашых нет. Ды і шчэбень (ён правёў далонню па шыі) во як патрэбен.

Брыгадзір згадзіўся.

Рухавы чалавек, што так упрошваў брыгадзіра, выскачыў на дарогу, спыніў самазвал, усю брыгаду Красікава пасадзіў у мокры халодны кузаў, сам прыляпіўся недзе каля шафёра, і... паехалі.

— Я так і думаў, што кіношка сёння пойдзе бортам,— абураўся Колька.— Тар-р-ракан гэты вусаты! Апрача нашай брыгады, нікога больш не ведае. Ішакоў знайшоў!

— А якое кіно сёння? — спытаў хтосьці з хлопцаў.

— Каляровы ў дзвюх серыях: «Разгрузка шчэбеню»,— выпаліў Колька.

У тупіку каля складаў, прыцярушаных цэментавым пылам, стаялі скрэмзаныя крэйдаю вагоны.

— Начальнічак, а плаціць колькі будзеш за каробачку? — не стрымаўся ўсё той жа языкаваты Колька.

— Ёсць дзяржаўная расцэнка,— нехаця буркнуў дзесятнік.

— Ты не цямні, баця, кажы праўду.

Пакуль Колька часаў языком, Юрка з Алёшам адсоўвалі цяжкія вагонныя дзверы, хлопцы падцягвалі трапы, пад колы падкладалі калодкі, здымалі целагрэйкі і хавалі іх пад вагоны, каб не замачыў дождж.

— Гэта ж не ваенная тайна. Ну, скажы, баця.

— Сціхні ты, Маневіч, без цябе разбяромся,— суцімаў яго брыгадзір.

Надзі было сорамна за гэтага настырнага хлапчука, за яго жаргон, за непачцівасць да старога чалавека.

— Сем дваццаць за вагон, і адчапіся, смала,— злосна кінуў дзесятнік.

— Фю-і-і-ць,— свіснуў Колька.— Дык ты да раніцы, баця, можаш адхваціць 28 рублёў і яшчэ 80 капеек. Перабіваць не будзем. Разгружай сам, а ў нас няма дурных. Праўда, хлопцы? — ён прытупнуў і заспяваў: «Субота, субота, харошы вечарок».

— Ніяк не пайму, Красікаў, цырк ці вар'яцкі дом у тваёй хваленай брыгадзе.

Брыгадзір маўчаў.

Хлопцы ўсцягвалі трапы, разбіралі насілкі, разыходзіліся па вагонах. Колька стаяў збоку адзін. Ён падміргваў то Алёшку, то Юрку, нібы гаварыў: «Давайце папалохаем старога». Але ніхто на яго не зважаў.

Ужо тарахцелі па шчэбню шуфлі, угіналіся трапы, калі хлопцы праходзілі па іх з цяжкімі насілкамі. Толькі Надзі не было пары. Яна ўзяла вялікую саўковую лапату і спрабавала ёю дакінуць шчэбень да вялікай кучы. Калі

вярталіся хлопцы паражняком, яна хуценька загружала іхнія насілкі. Страшэнна ныла спіна, на далонях ускочылі і палопаліся вадзяныя пухіры. Яны прыліпалі да цубкіх брызентавых рукавіц, і калі аддзіраліся ад іх, здавалася, з рук злазіць скура.

Вечарэла. Паміж нізкіх цёмна-сініх хмар прабілася малінавая палоска, потым выкацілася вялікае барвовае сонца і павісла над далёкім задзвінскім борам. Ад вагонаў, ад слупоў электраліній, ад штабеляў дошак пацягнуліся доўгія цені. Праз шчыліны ў вагон прабівалася чырвонае святло, і твары хлопцаў заружавелі, нібы ад полымя кавальскага горна. За стосам мяхоў з цэментам мільгануў нечы цень. Гэта Колька. Яго кепачка. Значыць, ён бачыць, што Надзя засталася без напарніка, што пустуе яго месца. Не разгружае і не едзе дахаты.

Потым Колька павольна ўвайшоў у вагон. Відаць, яму было няёмка туляцца за мяхамі і сорамна адступаць. Але ён здаўся. Павольна ўвайшоў у вагон, узяў насілкі і пачаў у іх насыпаць шчэбень.

— Панеслі,— сказаў ён Надзі такім тонам, нібы яны ўжо аднеслі не адну сотню насілак. Яна ўзялася за доўгія ручкі і пайшла ўслед за Колькам.

— Прыдумалі машыны, што кніжкі перакладаюць, у космас лётаем, аўтаматыка і кібернетыка кругом, а шчэбень насілкамі цягаем. Гэта яшчэ маліна. А цэмент, вось гэта разгрузачка. Родная мама не пазнае. Лёгкія бетоннымі плітамі робяцца. Дзве гадзіны разгружаеш, а месяц растворам плюешся. Любата! А што б падвесці шланг — і пампуй з вагона ў бункер.

Цэмент жа, як вада. Зручна, выгадна і надзейна, як у ашчадкасе.

— Ты б падаў рацыяналізатарскую прапанову. Гэта ж сапраўды здорава,— ажывілася Надзя.

— Ха-ха-ха! Колька Маневіч рацыяналізатар, першая прэмія, партрэт у газетцы: «Раўняйцеся на перадавіка вытворчасці!» Цырк, дый толькі.

— Што ж тут смешнага?

— Давай пайшлі. Пасля разбяромся.

Неяк адразу насунулася асенняя ноч. У вагонах запалілі ліхтары. Ад іх на сцены і на століь падалі вялізныя зламаныя цені. Мітуслівымі агеньчыкамі паблісквалі Алёшкавы акуляры, ды было чуваць, як грукаюць у апусцелых вагонах насілкі. Постаці знікалі ў чорнай прорве ночы. Высока ў небе дрыжалі блакітныя зоры, але ад іх не станавілася ні святлей, ні цяплей.

Гразь пад нагамі падшэрхла і пацвярдзела. Лягчэй дыхалася і хадзілася. Па дарозе перад грузавікамі паўзлі доўгія снапы святла, а за імі, нібы даганяючы, беглі чырвоныя агеньчыкі. З цемрадзі выпаўзаў вялікі светлы аўтобус. Ён здаваўся ўтульным і цёплым.

— Ну, як у вас? — зазірнуў у вагон змакрэлы брыгадзір. Валасы выбіліся з-пад кепкі і прыліплі да светлай палоскі лба.— Можа, памагнуць?

— Спасібачкі, заканчваем. Па руб восемдзесят адхапілі, і вашых нет.

— Твая работа і тры капейкі не варта. «Прафілоніў» за штабелем, ды яшчэ руб восемдзесят.

— А ўнутраная барацьба, брыгадзір? Пакуль вырашыў «быць або не быць», Надзя ўкалвала за мяне. Ёй і пішы дзве нормы. З першага дня — ударніца.

Сымон Пятровіч памахаў высока паднятым ліхтаром. Брыгада сабралася каля апошняга вагона. Хлопцы закурылі і, паблісквасочы ў змроку цыгаркамі, пайшлі па шпалах на дарогу. Праз кюветы, па калюжынах, праз бетонныя бэлькі, раскіданыя тут і там, брыгада прыйшла на аўтобусны прыпынак. Яго пазналі толькі па чорным сілуэце слупа. Хлопцы засланілі Надзю ад ветру. Яны моўчкі курылі. Маўчаў і Колька.

У аўтобусе Надзя ледзь не задрамала. Здалося, што яна ляціць у нейкую зорную бездань: чырвоныя, сінія, жоўтыя агеньчыкі мільгалі паміж соснамі і ляцелі ёй насустрач. Толькі за паваротам здагадалася, што гэта агні гарадка. Нават не верылася, што яна тут жыве, што ў інтэрнацкім пакоі яе чакае чысценькі ложак, цікаюць ходзікі, што там светла і цёпла.

Агні набліжаліся. Яны станавіліся вялікімі вокнамі з фіранкамі і фікусамі, з незнаёмымі сілуэтамі на шыбах, з адкрытымі фортками, з абрыўкамі музыкі, што вырывалася ў асеннюю ноч. Надзя пазайздросціла людзям, што жывуць у гэтых дамах: у іх ёсць сем'і, блізкія, а яе ніхто не чакае, ніхто не ведае, ніхто не спытае, як прайшоў яе першы працоўны дзень.

Аўтобус спыніўся супроць універмага. Вітрыны здаваліся вялізнымі акварыумамі, у якіх плаваюць капелюшы і чаравікі, веласіпеды і стракатыя сукенкі. Тут з аўтобуса высыпалася ўся брыгада Красікава. Хлопцы паспешна раз-

віталіся і разбягаліся ў розныя бакі пасёлка: кожнаму хацелася хутчэй скінуць мокрую спяцоўку і пасядзець у сухім цяпле.

Надзя ў інтэрнат бегла адна. Яна апусціла галаву, схавала ў кішэні рукі. Пальцы з непрывычкі набраклі, смылелі і нылі ад стомы і першых мазалёў. У новым, толькі што заселеным доме было асабліва светла і шумна. Гармонікі стараліся заглушыць адзін аднаго, «Падмаскоўныя вечары» перапляталіся з «Агурочкамі», а на чацвёртым паверсе ўжо «Шумеў камыш». Відаць, увесь дом спраўляў наваселле.

Надзя прайшла паўквартала і пачула, што нехта яе даганяе. Зрабілася страшнавата, але яна азірнулася.

— Надзя, пачакай, гэта я... Хвіліначку.

Яна не спынілася, а толькі прыцішыла крок.

— Ты мяне можаш лаяць, колькі хочаш. Ведаю, што па глупству затрымліваю, але, апрача цябе, мне няма з кім параіцца. Ты ж у шмотках сячэш?

— У чым, у чым? — перапытала Надзя.— Наогул, цябе, Мікалай, без перакладчыка не зразумееш.

— Ну, як табе растлумачыць? Адным словам, у бабскім абмундзіраванні ты ж разбіраешся. Мне трэба купіць нейкую добрую рэч, а што, і сам не ведаю.

— Нічога не разумею, Коля. Кажы толкам, навошта табе жаночыя рэчы?

— Хоць бы адну добрую. Толькі паміж намі. Заўтра ў мамы маёй дзень нараджэння. Разумееш?

— Разумею.

— Мы яго заўсёды адзначаем удваіх, чаем з пячэннем або тортам, але ніхто ніколі ей нічога не дарыў.

— Колькі гадоў тваёй маме?

— Сорак адзін.

— А якая яна?

— Вельмі харошая,— зусім па-дзіцячы адказаў Колька.

— Мамы ўсе харошыя. Але каб купляць завочна, трэба ведаць, якія ў яе валасы, высокая яна ці нізкая, поўная ці худая, нават які колер вачэй, трэба ведаць, ну і размер, канечне.

— Адбіткі пальцаў не трэба? — змрочна пажартаваў Колька.— Ну дык як, паможаш? І дай слова — нікому ні гу-гу. Заўтра ў дванаццаць каля магазіна. Добра?

— Калі так, прыйду. Пакуль! — Надзя павярнулася, прабегла яшчэ некалькі крокаў і знікла ў доўгім калідоры інтэрната.

Колька пастаяў каля ганка, пакуль не рыпнулі за Надзяю дзверы. Праз хвіліну загарэлася яшчэ адно акно. Колька падышоў да яго.

— Ага, значыць, у восьмым пакоі.

* * *

Назаўтра яны сустрэліся каля магазіна. Здалёк Надзя ледзь пазнала Кольку. На ім было моднае кароценькае паліто, чорны касцюмчык і белая хрусткая кашуля. Старанна прычасаныя валасы здаваліся не рудымі, а проста светлымі. Ну, хто яго цяпер пазнае?

Чакаў ён, відаць, даўно, хадзіў каля дзвярэй, курыў і пазіраў на ўсе бакі. А ўбачыў —

пабег насустрач. Сёння ён увесь быў нейкі далікатны і стрыманы. Яны хадзілі ад прылаўка да прылаўка, пераходзілі з аддзела ў аддзел, разглядалі нейлонавыя блузкі і шарсцяныя кофтачкі, модныя туфелькі і імпартныя сумкі. А Надзя так нічога і не выбрала. «Гэта не модна», «гэта не практычна», «вельмі ж маркая», «для сталай жанчыны — легкадумна», «абутак, не памераўшы, купляць нельга».

Колька пачынаў трывожыцца, што так яны нічога не купяць.

На іх пазіралі дзесяткі вачэй. Адны дакаралі, другія спачувалі, трэція двухсэнсоўна падміргвалі Кольку, а ён чырванеў і адварочваўся. «Падлабуніўся рыжы да новенькай», «Глядзі, глядзі, ужо і падарункі купляе», «За што б гэта?!» — перашэптваліся дзяўчаты. Ад іх поглядаў Колька бянтэжыўся, рабіўся нязграбны і маўклівы, хацелася хутчэй выскачыць з-пад перастрэлкі позіркаў. Ён баяўся, каб іх не заўважыла Надзя і не пакінула яго аднаго. І хацелася, каб усе бачылі яго поруч з гэтаю дзяўчынаю, светлаю і чыстаю, прыгожаю і не падобнаю на тых, што шапталіся і з дакорам пазіралі на іх.

Яны выйшлі з магазіна, нічога не купіўшы.

— Ну, што будзем рабіць? Без падарунка мне ніяк нельга.

— Ты ж сам бачыў: купіць абы-што — толькі грошы выкінуць. Падарыць трэба такое, каб на ўсё жыццё памяць была.

— Прыдумаў! Толькі давай з'ездзім у горад...

Колька заўважыў, што Надзя насцярожылася, і пачаў упрошваць яе, як малое дзіця:

— Гэта ж зусім побач, аўтобусы ідуць праз кожныя дзесяць хвілін, сёння ж выхадны, толькі зойдзем купім, і прыедзеш назад. Ну, прашу.

Надзі было шкада часу. Хацелася сёння напісаць пісьмы, схадзіць у бібліятэку і наогул крыху агледзецца. Ды і няёмка адной ездзіць з гэтым малазнаёмым хлопцам. Але хіба можна адмовіцца? Гэта ж не абы-што, а падарунак маме. Надзі ўспомнілася яе маці і зрабілася крышку сумна.

Яны дабеглі да прыпынку і на хаду ўскочылі ў аўтобус. У ім было людна, весела і шумна. Ехалі такія ж, як і яны, юнакі і дзяўчаты і, мабыць, былі рады, што ў аўтобусе цесна і што ён не вельмі спяшаецца ў горад.

Надзя з Колем прыйшлі ў ювелірны магазін. Яны прабегліся вачыма па радочках маленькіх гадзіннікаў, раскладзеных у вітрыне. Надзя глядзела на форму, марку, на цыферблат, а Колька яшчэ прыглядаўся і да цаны. Нарэшце яны выбралі маленькі зіхатлівы гадзіннік «Слава», купілі і раменьчык да яго.

— Памерай, калі ласка,— папрасіў Колька.

Надзя прыклала гадзіннік да свае тонкае рукі, сама паглядзела на яго з усіх бакоў і ціха сказала: «Добра».

— Пры-гожа! — нейк мнагазначна пацвердзіў Колька.

Яны выйшлі на людную вуліцу. Надзя разглядала незнаёмы горад. Ён увесь быў новы, прасторны і нават у гэты асенні дзень здаваўся светлым і чыстым. А Надзі калісьці ён уяўляўся старым і замшэлым, з вузкімі вулачкамі і змрочнымі саборамі часоў Сімяона Полацкага,

Івана Грознага або Скарыны. Пра даўніну нагадвалі толькі стромкія белыя званіцы Сафіі, а пашчапаныя вежы колішняга кадэцкага корпуса — пра пекла апошняй вайны. Вось і ўсё, што засталося ад старога Полацка.

Надзя і не заўважыла, як яны апынуліся ў маладзенькім скверыку. У ім было светла ад асенняй пазалоты, здавалася, недзе ў вяршалінах таполяў і ліп прытаілася затуманенае сонца. Над клумбамі звесілі чырвоныя і сінія галоўкі прыбітыя дажджом буйныя астры, апалыя лісты ўсыпалі сцежкі і мокрую траву. На душы было па-святочнаму светла.

— Давай пасядзім хвілінку. Зірні, як тут хораша.

— Хіба толькі хвілінку,— адказала Надзя, і яны пайшлі да зацішнай лавачкі, што стаяла паміж кустамі парудзелай акацыі.

— Надзя, я нават не ведаю, як табе дзякаваць, што ты ледзь не ўвесь выхадны...— Колька не знаходзіў патрэбнага слова,— ну, ходзіш са мною.

— Па-мойму, ніхто б не адмовіўся выбраць падарунак для мамы.

— Думаю, што будзе рада. Яна ж ад мяне мела толькі непрыемнасці. З трэцяга класа яе цягалі ў школу за мае фокусы, а потым і ў міліцыю не раз «запрашалі». Цяпер і самому смешна, якія дурні былі. Разумееш, вучыліся ў сёмым. У кіно хочацца, а грошай няма. Думалі, думалі і дадумаліся. Непадалёк ад нас ларок стаяў. Так, фанерная будачка, штурхні — паваліцца. Віно, кілбасу, цукеркі і кансервы там розныя прадавала цётка Сіма. Нагледзелі

мы гэты ларок. Як добра змеркла, падкапаліся пад яго. Залез туды адзін пацан, падняў масніччыну і падае нам пляшку за пляшкаю... Пакаштавалі, віно — кіслае, як воцат, аж у роце сцягвае, пакаштавалі з другой — крыху саладзейшае, пацягнулі ўсе па разу, а рэшту вылілі. Носім бутэлькі да канаўкі, адкаркоўваем і выліваем, а пляшкі ў сетку складаем. Штук дванаццаць так апаражнілі. Сетку схавалі ў густых лопухах за нашым агародам. А назаўтра панеслі здаваць бутэлькі. Тут нас і застукалі. Ну — міліцыя, КПЗ, допыты: «Хто кіраваў? Куды схавалі грошы?» — «Якія грошы?» — пытаемся. Мы ж яшчэ не паспелі іх выручыць за пляшкі. А нам кажуць, што мы дзве тысячы з касы забралі. Ну ж і пакруцілі нас вакол гэтых дзвюх тысяч. Гэта таўстуха Сіма выдумала — разбагацець хацела. А нас у суд цягнуць — пакража з узломам. Патрабуюць выдаць кіраўніка, у камеры трымаюць. Ледзь выпуталіся. Добра, што школа ўступілася. А мама пасівела за гэтыя дванаццаць бутэлек. І ў мяне жыццё пайшло з перакосам. У школе «ларочнікам» пачалі дражніць. Двойку схаплю, зноў папракаюць: «Гэта табе не бутэлькі цягаць». І так мне ўсё агоркла, так абрыдла, што пасля дзевятага класа кінуў усё і пайшоў на льнозавод сушыльшчыкам. А сёлета да Сымона Пятровіча паступіў. Харошы ён мужык, справядлівы...

Надзя слухала, прыцішаная і задуменная. Пасля зірнула з-пад густых залацістых вейкаў на Кольку. Ён быў наіўны і лагодны, паслухмяны і мяккі, а ўчора здаваўся ваўчанём, задзірыстым, нахабным і непачцівым. Бадай самым непрыемным і самым прыкметным у брыгадзе.

Надзя нават пабойвалася яго. А сёння зусім іншы. Ён нібы ўгадаў Надзіны думкі.

— Вось і дзякую, што згадзілася пайсці з «падонкам», як некаторыя мяне называюць. А чаму? За язык. Ведаю, што не пушкінскім стылем гавару.

Надзя ўстала з лавачкі, і яны пайшлі па замеценых лістамі дарожках. Над імі кружыліся і коса падалі пад ногі пажоўклыя асінавыя лісты.

Кольку было лёгка і добра, што ён ідзе з гэтаю харошаю, светлаю дзяўчынаю. Яму хацелася, каб іх убачылі знаёмыя, каб пазайздросцілі сябры. І ён павёў Надзю да аўтобуса па самай люднай вуліцы. Яны ішлі каля магазінаў. Колька скоса пазіраў у вялікія вітрыны. У іх ён бачыў сябе і Надзю.

— Коля-я! — пачулася зусім блізка. Яны азірнуліся. Следам бегла невысокая жанчына з поўнаю сеткаю і з тортам у руках.

— Гэта мама,— паспеў сказаць Колька.

— Добра, што цябе ўбачыла, а то не данясу адна,— і яна падала сыну набітую пакупкамі доўгую сетку.

— Пазнаёмся, мама, гэта Надзя... з нашай брыгады.

Колева мама сказала, што яе завуць Кацярына Рыгораўна і што ёй вельмі прыемна. Яна радавалася, што вырас сын, што побач з ім гэтая дзяўчынка. Маці агледзела яе з ног да галавы. Надзя заўважыла гэта і пачырванела. Яна гатова была бегчы адсюль, каб нікога не бачыць, ні з кім не гаварыць. Але стрымала сябе. Толькі ў думках паўтарала: «Дурніца, дурніца, і панёс жа мяне чорт з гэтым Колькам».

Кацярына Рыгораўна ўзяла Надзю пад руку, і яны пайшлі, нібыта даўнія сяброўкі. Коля ішоў следам. Ён не ведаў, што рабіць: адправіць маці дадому адну, а самому праводзіць Надзю да аўтобуса? Пакінуць яе і пайсці з мамаю? Што ж рабіць? Колька разгубіўся, праз квартал ім трэба разыходзіцца — Надзі направа, а маме налева — к самай Дзвіне. А куды ж яму ісці? Што рабіць? Сёння няможна пакрыўдзіць маму і нельга пакінуць у незнаёмым горадзе Надзю. А змяркае ўвосень вельмі рана. Ён запаволіў крок. «Эх, хоць бы пяць хвілін лішніх пасядзець на скверы, дык не трэба было б цяпер галаву ламаць». Колька нават сам сябе не пазнаў. Куды дзеліся яго вынаходлівасць, развязнасць, балбатня.

На рагу яго чакалі мама з Надзяю.

— Вось прашу Надзю, каб зайшла да нас. Пасядзелі б, выпілі б чаю з тортам.

Колька ледзь не падскочыў ад радасці.

— Сапраўды. Надзя, хадзем. Гэта зусім блізка, а потым я цябе да самага інтэрната правяду.

Надзя аднеквалася, але не вельмі настойліва і рашуча. Яна ведала, што ў дзень нараджэння нельга крыўдзіць чалавека. Кацярына Рыгораўна энергічна ўзяла яе пад руку і павяла ўніз ад плошчы ў вузкі завулак, што збягаў да самай ракі.

Колька ішоў ззаду і ўсміхаўся.

* * *

Яны пілі чай у маленькім драўляным доміку. На сцяне вялікі даўнейшы гадзіннік шыпеў

і адбіваў час. На падлозе ў цэбрыку рос лапушысты фікус. Ён упёрся ў столь і сагнуўся. На сцяне вісела рэпрадукцыя з рэпінскай карціны «Не чакалі». Усё тут было проста і сціпла: стол, ложак за шырмачкаю, каля другой сцяны — вузкая канапка, над ёю — каляровая паштоўка з партрэтам Германа Цітова.

Праз паўгадзіны Надзі ўжо здавалася, што яна даўно ведае гэты пакой і даўно бачыла гэтыя саматканыя палавічкі на вышараванай падлозе, і гэтую жанчыну ў сіняй шарсцяной кофтачцы з зацыраванымі рукавамі, з добраю, крышку сумнаю ўсмешкаю. У яе яшчэ зусім малады твар і чырвоныя выразныя вусны. Толькі каля вачэй разбегліся гусіныя лапкі зморшчынак ды на скронях валасы крыху святлейшыя, чым за вушамі. Відаць, яна вельмі добрая і даверлівая. Пакуль Колька бегаў у магазін па чай, яны сядзелі, як даўнія сяброўкі, і Кацярына Рыгораўна расказвала пра сваё нялёгкае жыццё.

Колькавага бацьку, марака, забралі ў сорак дзевятым годзе. Азваўся ён з Поўначы двума лістамі і змоўк.

Усё гэта прайшло, але самая вялікая крыўда засталася на сябе самую, што сына не дагледзела, не давучыла, што ледзь яго не страціла зусім.

Надзя разумела ўсё і спачувала гэтай яшчэ маладой кабеце. У яе было вельмі мала радасцей, звычайнага чалавечага і жаночага шчасця і вельмі многа гора і слёз. Надзя падумала, што людзі з цяжкім лёсам ад гора не чарсцвеюць, а робяцца чуллівымі і вельмі спагадлівымі. Такою была Кацярына Рыгораўна. Надзя

расхвалявалася, калі Колька зашпіліў раменьчык з гадзіннікам на тонкай матчынай руцэ. Такога падарунка Кацярына Рыгораўна не чакала. Спачатку яна спалохалася, адхапіла руку, відаць, ледзь стрымалася, каб не спытаць: «Дзе ты ўзяў?» І Колька ўсё зразумеў. Ён усміхнуўся і сказаў:

— Разам з ёю выбіралі. Табе падабаецца, мама?

Яна прыцягнула сынаву галаву, моцна яго пацалавала і выскачыла ў кухню. Колька стаяў разгублены, як хлопчык.

Надзя адчувала, што яна замінае ім шчыра парадавацца, можа, пасмяяцца, а можа, і паплакаць у гэты дзень. І наогул, пры чым яна тут? Як яна трапіла ў гэтую чужую сям'ю? Кольку яна ведае толькі адзін дзень. Нават пабойвалася яго, лічыла блацяком. А ён зусім не такі. І мама яго — вельмі ж добрая жанчына.

На вуліцы змеркла, і Надзя заспяшалася дамоў.

— Сапраўды, вас Коля правядзе да інтэрната.

А Коля ўжо трымаў Надзіна паліто, як самы далікатны кавалер.

— Я вельмі рада, што пазнаёмілася з вамі,— гаварыла на развітанне Кацярына Рыгораўна.— Заходзьце да нас, калі ласка, да мяне заходзьце,— папраўлялася яна.— Я вам буду заўсёды рада. І дзякую, што дапамаглі гэтаму шалапуту купіць такую слаўную рэч, а то сам прывалок бы які-небудзь будзільнік.— Яна ласкава паглядзела на сына і ўсміхнулася добраю ўсмешкаю.

Надзя развіталася з Колем на аўтобусным прыпынку. Па слаба асветленай плошчы вецер гнаў і кружыў апалае лісце, згінаў верхавіны маладых таполяў. Напалову пусты аўтобус разварнуўся і хутка памчаўся па вуліцы. Надзя зірнула ў акно: на прыпынку ў крузе электрычнага святла гайдаўся адзінокі цень. Сёння Колька быў зусім другі чалавек: далікатны, мяккі, чулы, як і яго маці. А той, блатнаваты хлапчук, здавалася, недзе застаўся пад дажджом каля пустога вагона з-пад шчэбеню. Няўжо гэта бравада? А які ён будзе заўтра? «І чаго гэта я думаю пра яго? Што ён мне, брат, сват?» — спахапілася Надзя і, каб адагнаць думкі, пачала чытаць плакаты, правілы і абвесткі, расклееныя ў аўтобусе.

«Дадатковы прыём на першы курс вячэрняга нафтавага тэхнікума».

Яна дачытала да канца абвестку і задумалася. Задумалася пра ўсё разам: то перад яе вачыма раздвойваўся Колька, то бачыла сумныя вочы Кацярыны Рыгораўны, то ўспомніўся пусты сквер і на дарожках пажоўклае лісце... І пра тэхнікум думала Надзя: «Ну што я буду рабіць вечарамі? На танцульках збіваць падноскі? А ў тэхнікуме ўсё ж нечаму навучуся. А можа, з мяне выйдзе лепшы хімік, чым журналіст? Ды што я ведаю пра гэтую журналістыку? Не болей, як і пра нафту. Чула, што журналісты многа ездзяць, бачаць шмат цікавага. Ды яшчэ невядома, які з мяне журналіст выйдзе. А тэхнікум не перашкодзіць і ва універсітэт паступіць. Трэба будзе Мікалаю параіць падаць дакументы. А як будзе рада маці! Цьфу ты! Зноў тое ж самае лезе ў галаву».

У інтэрнаце сяброўкам па пакоі Надзя сказала няпраўду:

— Паехала ў Полацк, паглядзела горад і трапіла ў кіно.

Яе суседка, маленькая, шустрая электразваршчыца Паша, паківала галавою і разанула ў вочы:

— Кі-і-но-о! Раскавай маме — яна паверыць. Ты глядзі, дзеўка, закруціць табе мазгі гэты рыжы. Бач ты, з першага дня падарункі купляе. А ты і клюнула, дурнічка.

Надзя ледзь не заплакала ад крыўды, але і апраўдвацца не магла, і расказваць нічога не хацела. Раздзелася і лягла. Яна толькі цяпер адчула, што стамілася, і заплюшчыла вочы, але ўсё адчутае, убачанае і перажытае не давала ёй заснуць. Яна не шкадавала, што так прайшоў гэты дзень, што сустрэла Кацярыну Рыгораўну і Кольку, што ведае іх лепш, чым усе іншыя, што ўбачыла абвестку ў аўтобусе, што ўсё жыццё пачалося не так, як яна думала. А як? Будзе відаць!

І людзі сустракаліся добрыя. І нават Колька. А што за людзі Сымон Пятровіч, Алёшка, Юрка? Чалавека, як кнігу, па вокладцы не пазнаеш. Цярпліва чытай, журналіст. А можа, і не журналіст? Ат, усё роўна. Хоць бы заўтра толькі дажджу не было.

Які вялікі дзень прайшоў.

За чорнай шыбінай Надзя ўбачыла буйныя блакітныя зоры. Значыць, будзе пагода».



Была другая гадзіна ночы. «А ў нас, у Сібіры, ужо світае,— падумалася Мікалаю Іванавічу.— Трэба пазваніць Надзі, пакуль на работу не збегла, бо там ужо не зловіш. Тэлефаністкі злучаць не раней як праз гадзіну». I ён заказаў свой сібірскі гарадок, а сам, не распранаючыся, прылёг на канапцы і задрамаў... Снілася нешта светлае і прыемнае. Сон перарваў настойлівы прарэзлівы званок. Здалося, звоніць будзільнік. Пара на работу. Мікалай Іванавіч прахапіўся і не мог уцяміць, дзе ён. Быў чужы пакой, гарэў прыглушаны незнаёмы таршэр і заходзіўся тэлефон. Ён ухапіў трубку:

— Таежнае заказвалі? Гаварыце,— пачуўся таропкі голас тэлефаністкі. Маўчанне і трэск. Трэск і маўчанне. «Алё! Алё! Слухаю. Надзя! Надзюша, ты? Гэта я. Я, Коля. Так, так, на месцы. Усё нармальна. Цудоўна, кажу. Горад? Горад ашаломіў. З кім сустрэўся? Кольку канапатага сустрэў. Не помніш якога? Таго самага. З самім сабою сустрэўся... і з Надзяю, толькі трошкі маладзейшымі. I сасна наша стаіць. Адна яна засталася. Як ты там упраўляешся? Ну і добра. Свята пачнецца заўтра. А як Колька-маленькі? Як унучак, пытаюся. Ну, і добра. Перадам усім. Будуць лаяць мяне, чаму ты не прыехала...» — У трубцы нешта трэснула: «Заканчвайце. Засталася хвіліна»,— папярэдзіла тэлефаністка. «I ўсё астатняе жыццё»,— паправіў яе Мікалай Іванавіч. У трубцы пачуліся кароткія гудкі.

# РУЖОВЫ ВЕТРАЗЬ

Позняй восенню ў пісьменніцкім Доме творчасці было ціха: гаварылі напаўголаса, ледзь чутна ступалі па дывановых дарожках. Толькі ў некалькіх пакоях стракаталі машынкі. Рэшту — займалі шахцёры. Відаць, многія нудзіліся без гучнай музыкі, танцаў і вясёлых песень. Толькі вечарамі ў падобным на вялізны акварыум холе дазвалялася ўключаць тэлевізар. Нават на перадачах футбола і хакея гарачыя балельшчыкі стараліся стрымліваць эмоцыі, каб не перашкаджаць аўтарам будучых кніг. За шклянымі сценамі гайдаліся стромкія сосны, даносіўся прыглушаны хлюпат прыбою і трывожны крык чаек.

Перад захадам сонца па пругкім прыбярэжным пяску курортнікі гулялі парамі, групкамі і па адным: дыхалі марскім паветрам і «нагульвалі» апетыт. На водмель марудна накочваліся хвалі. У промнях вечаровага сонца затока здавалася то ружовай, то бэзавай. На небасхіле гусцела сінеча і разлівалася па ўсёй прасторы, а праз нейкі час бляклі фарбы, і мора залівалася сырадоем у скалачках залацістых хваляў.

Чайкі з крыкам кружыліся над берагам, імкліва падалі на ваду, састрыгалі крыламі загусцелую плынь, узляталі ў пабляклае неба, губляючы з пер'я буйныя кроплі вады.

Вузкая паласа пляжа пераходзіла ў хвалістыя пясчаныя дзюны, зарослыя чырвоным ракітнікам, ядлоўцам і старымі счарнелымі хвоямі. Зменліва-хісткі прастор затокі зачароўваў кожнага: хацелася ісці і ісці, глядзець, як мяняецца марское бязмежжа, і дыхаць настоем жывіцы.

Насустрач мне ішоў невысокі, заўсёды маўклівы Іван Фёдаравіч. Мы з ім тройчы на дзень сустракаліся за адным сталом, жадалі адзін аднаму прыемнага апетыту, раіліся, што заказаць на заўтра, і разыходзіліся да наступнай сустрэчы ў сталовай. Пагаварыць ці бліжэй пазнаёміцца ўсё неяк не выпадала. Часцей за ўсё ў дамах адпачынку людзі разгавораццца і пасябруюць, калі пара ўжо раз'язджацца.

Было Івану Фёдаравічу гадоў сорак пяць. Густыя бровы крыламі разляталіся над круглымі антрацытавай чарнаты вачыма, а густа прысоленая сівізною галава здавалася ўціснутаю ў шырокія плечы. Землякі з Іванам Фёдаравічам віталіся з падкрэсленаю павагаю, а ён часцей трымаўся ў сціплай адзіноце.

Па беразе мы пайшлі разам. Гаварылі пра надвор'е, любаваліся зменлівымі фарбамі затокі, сачылі за лётам чаек. Я прызнаўся, што ніколі не даводзілася бываць у вугальных шахтах і не ўяўляю сабе працу сучасных шахцёраў.

— Усё механізавана з верху да нізу. Я і працую якраз галоўным механікам шахты,— коратка адказаў ён і змоўк.

Хацелася разгаварыцца, пачуць нешта цікавае, невядомае мне.

— Скажыце, а цяпер часам здараюцца аварыі ці выбухі ў шахтах?

— Бываюць... хоць не часта.

Памаўчаўшы, Іван Фёдаравіч паглядзеў на мяне і загадкава ўсміхнуўся:

— Мне, напрыклад, ужо была заказана труна, пірамідка з імем і прозвішчам і дзве даты праз рысачку. Вянкі з чорнымі стужкамі стаялі ў шахткоме. Адным словам, нарабіў я клопатаў прафсаюзу: доўга не маглі спісаць сродкі, адпушчаныя на маё пахаванне.

Я зірнуў на Івана Фёдаравіча як на жартаўніка ці чалавека з таго свету. Мне ўпершыню давялося гаварыць з тым, хто бачыў сваю дамавіну. А ён не спяшаўся расказваць — заінтрыгаваў і маўчыць сабе. Прыспешваць пытаннямі не выпадала, хоць ведаў, што не адступлюся, пакуль усё не распытаю.

Моўчкі прайшлі па вільготным пругкім пяску, і Іван Фёдаравіч загаварыў:

— Выклікалі мяне неяк да сапсаванага камбайна. Палазіў, пакорпаўся. Бачу, аднаму не даць рады. Загадаў хлопцам разбіраць транспарцёр, а сам пайшоў да тэлефона выклікаць слесара. Толькі ўзяўся за трубку, чую — стойкі трашчаць і накочваецца глухі гул. Не паспеў азірнуцца, а яно як вухне, як загрукоча, і—і паляцеў я адразу ў самае пекла. Хацеў крыкнуць хлопцам,— язык адняло, ні рук, ні ног не чую, толькі ўсярэдзіне агнём смаліць. Сам не ведаю, жывы ці мёртвы. Але калі смаліць, значыць, жывы. А хлопцы? Што з імі? Думаю, а крыкнуць не магу.

Потым ужо даведаўся, што іх дасталі ў той жа дзень. Ні сіняка, ні драпіны не было ні на

адным: парода асунулася на камбайн, а яны як ляжалі каля транспарцёра, так і засталіся ў закутку. Да мяне ж дабіраліся аж трое сутак. Ніхто і не спадзяваўся, што жывы механік. Нават дамавіну да клеці падвезлі. Тады і ўбачыў яе.

— Уяўляю, колькі за гэтыя дні перажыла ваша жонка,— не ўтрымаўся я. Іван Фёдаравіч нібы не пачуў мяне.

— А замест могілак прыйшлося везці ў бальніцу: разрыў страўніка, пералом чатырох рэбраў... Што хаджу з вамі і любуюся гэтаю прыгажосцю, абавязаны нашаму хірургу Алегу Карпавічу. Тры аперацыі мы вытрымалі з ім: я пад наркозам нічога не чуў, а ён, казалі, з ног валіўся. Дзесяць дзён нават кроплі вады не давалі. Вось гэта была разгрузачка. Язык зашэрх, як суконка, смага агнём паліла, але трываў. Доктар папярэдзіў: «Глыток вады — смерць». Калі з пекла вылез, другі раз памірáць неахвота. А трохі ачуняў, першымі прыйшлі хлопцы, з якімі разам заваліла. З парткома, з прафсаюза наведвалі. Не прыходзіла толькі жонка. Пачаў дапытвацца, што з ёю. Кажуць, з перапалоху занядужала. Гавораць, а самі адварочваюцца.

Аднойчы зайшла ў палату мая былая практыкантка, выпускніца горнага інстытута. Тоненькая — двума пальцамі перашчыкнеш. Сядзе на табурэцік, расказвае пра шахту, бядуе, што мой намеснік закруціўся зусім, што ўсе чакаюць мяне. Зачасціла, ледзь не кожны дзень: булёны і кампоты прыносіць, кветкі на тумбачку ставіць. Прычэша, часам так пяшчотна правядзе далонькай па маёй асцюка-

ватай шчацэ, што аж дрыжыкі проймуць. Але, бачу, і яна нечага тоіцца.

Калі трохі акрыяў і пачаў садзіцца, Алег Карпавіч паляпаў па плячы і кажа: «Вы, відаць, у кальчузе радзіліся. Дзякую, што добра нам памагалі выцягваць вас з таго свету. Каб не ваша вытрымка, наўрад бы справілася медыцына. Цяпер вам жыць і жыць. Лічыце, другі раз нарадзіліся... Спадзяюся, хопіць у вас вытрымкі яшчэ на адзін удар. Не хвалюйцеся, не такі і страшны, як першы... Бачыце, сябры вашы не адважваюцца сказаць, таму даручылі мне гэтую непрыемную місію. Адным словам, жонка вашая не вартая турбот і хваляванняў. Як толькі здарылася гэтае няшчасце, яна забрала дачку і рэчы, замкнула кватэру і некуды з'ехала з нейкім чалавекам. Так што трымайцеся, Іван Фёдаравіч...»

Прызнацца, я і сам здагадваўся, што не хвароба трымае яе. З ёю мы даўно былі чужыя: я да ночы прападаў на шахце, а яна любіла хораша прыбрацца і пагуляць у вясёлай кампаніі. Працавала яна ў гандлі. Часта прыходзіла расчырванелая ад віна — то ўдала прайшла рэвізія, то адзначалі дзень нараджэння дырэктара магазіна. Таму навіну гэтую вытрымаў спакойна. Адно хвалявала: што з дачкою, дзе яна, як ёй там?

Выпісалі мяне позняй восенню. Пустыя пакоі зараслі пылам, у шафе целяпаліся парожнія вешалкі, на кухні стаяла закарэлая талерка і дзве нямытыя шклянкі. Горкая адзінота агарнула мяне.

Але доўга сумаваць не прыйшлося. Надвячоркам асцярожна дзынкнуў званок. На парозе

стаяла Зоя, тая самая мая колішняя практыкантка. Разгубленая, нясмелая. І я разгубіўся: стаім і маўчым. Яна трымае ў руцэ поўную авоську і нібы апраўдваецца: «Зайшла ў бальніцу, а вас, кажуць, выпісалі. Ведаю, хадзіць яшчэ нельга, значыць, седзіцё галодныя. Дык вось тут перакусіць прынесла».

Нарэшце правёў яе ў кухню. Агледзела яна ўсё, пакруціла галавою, закасала рукавы сіняй спартыўнай кашулі, адшукала анучу, наліла ў мядніцу гарачай вады і ўзялася наводзіць парадак. Я памкнуўся памагаць, а яна і не блізка — выправадзіла мяне ў другі пакой і загадала не заходзіць, пакуль не пакліча.

Я чуў, як бразгаюць накрыўкі, хлюпае вада і тупаюць босыя ногі. Праз паўгадзіны Зоя паклікала мяне. Усё аж зіхацела на кухні. У шклянках дыміўся чай, на талерцы раскладзены бутэрброды. За вячэраю яна пераказвала пасялковыя навіны, гаварыла пра справы ў аддзеле і ні слова не сказала пра маю адзіноту. Пасля вячэры зазірнула ў астатнія пакоі. «Лічыце мяне сваім цімураўцам. Калі дазволіце, заўтра навяду парадак і тут. А раніцай прынясу сняданне».

Я, напэўна, выглядаў круглым ёлупнем перад ёю. Нават падумаў, можа, сапраўды камсамол даручыў ёй даглядаць адзінокага хворага механіка.

Іван Фёдаравіч спыніўся. З-за воблака выкацілася вялікае барвовае сонца і падпаліла ўвесь небакрай густым полымем. Марская далячынь залілася растопленай меддзю, да ног падкочваліся загусцелыя хвалі. Недзе па радыё піскнулі тры кароткія сігналы дакладнага часу.

Мы заспяшаліся на вячэру. Іван Фёдаравіч змоўк.

— А што далей? — пацікавіўся.

— Далей? Хутка пераканаўся, што быў сляпы і дурны. Ледзь не страціў сваё шчасце. Праз тыдзень Зоя асталася ў мяне, не чакаючы разводу, не заручыўшыся шлюбным пасведчаннем. Я ўпершыню адчуў дома цеплыню і святло, адкрытасць і шчырасць, давер і павагу. Раней ніколі не спяшаўся з работы, каб не чуць папрокаў і звадак. Цяпер адразу бег дадому: мяне чакала, мне заўсёды радавалася яна.

У нас з Зояю двое дзетак — сын і дачушка. Праўду кажуць: «Не было б шчасця, ды няшчасце памагло». А так бы пакутаваў увесь век.

— А з першаю дачкою сустракаліся?

— Праз паўгода яна прыехала да мяне і засталася з намі. Не, на маці яна не скардзілася. Адно сказала: «Больш не магу. Кожны вечар гулянкі, песні і скокі пад магнітафон. Збіраюцца толькі «патрэбныя» людзі, а мне гідка глядзець на іх. І займацца не даюць».

Цяпер яна вучыцца ў Варашылаўградзе на інжынера. Таксама будзе гарняком. Вельмі любіць брацікаі сястрычку, а з Зояю найлепшыя сяброўкі: сукенкі адны носяць, і сакрэты ў іх свае. Так дружна і жывём...

Да самага дома мы маўчалі. Некалькі разоў прыпыняліся паглядзець, як згасае, мяняе колеры і блякне мора. Далёка на небасхіле гайдаўся тоненькі пругкі ветразь. Іван Фёдаравіч доўга глядзеў яму ўслед і ціха сказаў:

— Падобен на яе.

Мне ўявілася неспакойная, імклівая, як ружовы ветразь, жанчына. Я глядзеў на дачасную сівізну на скронях Івана Фёдаравіча, на яго камлюкаватую постаць. А побач праходзілі незнаёмыя людзі. У кожнага сваё жыццё, свой лёс, магчыма, варты рамана ці паэмы. Толькі трэба ўважліва прыглядацца і ўмець слухаць кожнага чалавека.

# СВАЕ

Каля Пракопавай хаты спыніўся запылены блакітны «Масквіч». І пакацілася па вёсцы пагалоска: Пракопаў пляменнік сыскаўся. Гэта ж колькі год ні слыху ні дыху не было. Нават родны дзядзька толкам нічога не ведаў. А тут як пярун з яснага неба — шась у двор на сваёй машыне, чысты, гладкі, і, кажуць, начальнік вялікі.

— Раз на машыне, значыць, начальнік. А каторы гэта пляменнік? Той, што авечак некалі пасвіў, нябожчыцы Волькі сын? Паўлік? А-я-яй, гэта ж трэба, з недаростка мурзатага такі чалавек выйшаў! — дзівіліся і доўга яшчэ гаманілі каля студні бабка Хрысціна і Пракопава суседка Сцепаніда. Яны ўспомнілі, што Паўлікаў бацька ў першы ж дзень вайны пайшоў у салдаты, і больш пра яго ніхто нічога не чуў. Прыгадалі, што маці была прыгожая працавітая маладзіца. Але, відаць, кароткі век суджаны ёй. Захварэла пры немцах на тыф. Тыдні тры пакідалася ў гарачцы і памерла. І от дзіва: гэты самы Паўлік, ма-а-ленечкі яшчэ быў, і карміў і паіў яе начамі, не адыходзіў — і хоць бы што — ніякая хвароба да яго не прыстала. А як пахавалі маці, бацькаў брат, Пракоп гэты самы, забраў да сябе Паўліка і яго меншанькую сястрычку. Так яны і гадаваліся пры ім. А як прыйшлі нашы, Паўлік авечак

ганяў на пашу: пяты парэпаныя, шапка дзіравая, штаны ўсе ў дзядах. Затое вочкі, як чорненькія вугалькі, так і блішчаць, так і бегаюць. Давучыўся ён недзе мо да якога класа сёмага і ў рамеснае вучылішча падаўся. Разы са два прыязджаў дзядзьку адведаць, а потым як з'ехаў, дык от гадоў... мо не меней як дванаццаць і чуткі пра яго ніякай не было. Сястра таксама некуды ў людзі падалася. Кажуць, на доктарку вывучылася і вельмі ж далёка недзе жыве.

А яго, бач ты, усё ж пацягнула ў родныя мясціны. Птушак і то кожную вясну дадому цягне, а гэта ж чалавека! Як бы недзе добра ні было, а ўсё роўна да свайго гнязда горнецца.

Пакуль гаварылі кабеты, з сенцаў Пракопавай хаты выйшаў высокі чарнявы мужчына. Рукавы белай кашулі закасаныя, каўнер расшпілены. Твар і грудзі загарэлі. Здаецца, дакраніся да іх — зазвіняць. З пустым вядром у руках ідзе да студні. Бач ты, усміхаецца. Няўжо старых пазнаў?

— Дзень добры, цётка Хрысціна! — весела гаворыць Павел і працягвае дужую, у залацістых валасінках руку.

Цётка Хрысціна выцірае фартухом вялікую, з пакручанымі пальцамі далонь і неяк нязграбна і сарамяжа працягвае яе Паўлу.

Гэтак жа ён вітаецца і са Сцепанідаю.

— Ну, як жывецца, цётачкі? Здароўе як? — пытаецца ён.

— Авой, глядзі ты, і гаварыць па-нашаму не забыўся,— смяецца цётка Хрысціна.— Як жа ты, дзіцятка, жывеш? А-я-яй, вырас які. От мамка паглядзела б, не нарадавалася б.— Ка-

бета ражком хусткі выцірае слязінкі, што набеглі на вочы.

Павел сціскае сківіцы, ссоўвае бровы і некалькі імгненняў маўчыць.

— Дзе ж вы цяпер хоць жывяце, Павел Рыгоравіч?

— Ды вы мяне, цётка Стэфа, завіце проста Павел, і ніякі я не вы. А жыву недалёка ад Полацка. Можа, чулі, завод там вялікі пабудавалі. Нафту пераганяем, бензін, газу і ўсякую ўсячыну робім. Вось я і працую там інжынерам. Вучыўся ў Маскве, самастойна жыць пачынаў на Волзе, каля Куйбышава. А потым сюды папрасіўся, ахвота бліжэй к дому быць.

— Ну, а сям'я? Дзеткі, мабыць, маленькія яшчэ? — дапытваліся кабеты.

На Сцепаніду і Хрысціну з-за веснічак пазірала то адна, то другая жанчына, потым хапалі пустыя вёдры, а калі не было парожняга, вылівалі ваду на грады і барзджэй беглі да студні.

Павел усміхаўся і думаў: «Ну, пачынаецца прэс-канферэнцыя». Ён ветліва вітаўся з жанчынамі, помніў кожнай імя, распытваў пра іх сыноў і дачок.

— А мой ты галубок, глядзі, не забыўся. І Змітра і Антолю помніць, і мяне, старую. Каб табе даў бог здароўечка. Не суджана было мамцы парадавацца на цябе, дык хоць мы ўжо нацешымся, што і наш без бацькі і маці ў людзі выбіўся, што вунь якім чалавекам стаў.

У Паўла то падкочваўся да горла тугі камяк, то яму рабілася смешна, што суседкі лічаць яго нейкім вялікім начальнікам. Ён разумеў, што галоўным вінаваўцам быў ягоны

«Масквіч». Ды хіба ж ім раскажаш, колькі ён збіраў на яго, колькі прыйшлося пазычаць, каб выкупіць у тэрмін.

Павел выцягнуў вочапам вядро вады і, адыходзячы, сказаў жанчынам:

— Сёння ўвечары, цётачкі, прыходзьце да нас. Пасядзім, пагамонім, колішняе ўспомнім. Дык глядзіце ж, прыходзьце ўсе.

Жанчыны разыходзіліся па дварах. А Павел паласкаў сваю машыну, праціраў фары, шараваў колы і дзверцы.

Каля яго тупаў на сваёй кульбе дзядзька Пракоп. Ён быў у новай сацінетавай кашулі, у саламяным брылі, увесь нейкі святочны, рухавы і гаваркі. Толькі чорная барада крыху заінела.

— Дык кажаш, Паўлік, свая машына. Здорава, брат, ты сігануў. Грэшны чалавек, каюся, ніколі не думаў, што дапнеш да такой навукі і ваабчэ: падумаеш, аж смех, колькі таго хлопца было, эт, вераб'ю раз каўтануць. А цяпер — ого-го, і адкуль усё ўзялося?

Паўлу было няёмка, што ўсе глядзяць на яго, гавораць пра яго, і дзядзька ж вельмі ім задаецца. Павел нават пашкадаваў, што прыехаў на гэтым драндулеце. Прыйшоў бы са станцыі пехатою, і ўсё было б прасцей, шчырэй, будзённей. А то форс паказаў, глядзіце, які я! Сваю машыну мае былы аўчар. А вы? Зайздросце яму. «Цьфу ты»,— аж плюнуў ад злосці на самога сябе.

— Ты чаго злуеш? На мяне, ці што? Я ж праўду кажу,— усхапіўся дзядзька Пракоп.

— Ды не, што вы. Я на сябе злую, што пры-

гнала нялёгкая на гэтай тарахцёлцы, а цяпер палашчы і шаруй яе, а яна ў дарозе возьме ды занатурыцца, поўзай тады пад ёю і хоць на сабе каці.

Пакуль мужчыны тупалі каля «Масквіча», у хаце трашчала печ. Пракопіха з дачкою пяклі і смажылі, адкрывалі кансервы, што навёз Павел, кроілі хлеб і гарадскі сыр.

Увечары ў Пракопавай хаце было людна і тлумна. Сышліся старыя і кабеты сярэдняга веку, а Паўлавы аднагодкі раз'ехаліся хто куды, равесніцы павыходзілі замуж. Вось і балюй са старымі. А яны, як пасядзелі — разышліся, разгаманіліся, адна перад адною ўспаміналі, што было і чаго не было. І паўздыхалі, і паспявалі, і паплакалі. Адной успомніўся сын, што не вярнуўся з вайны, другой муж, трэцяй зяць. А колькі перагаварылі за вечар, колькі дабра пажадалі Пракопу і яго пляменніку.

Стары сядзеў побач з Паўлам, расчырванелы, вясёлы, гаваркі і шчодры на словы, на прыказкі і пачастункі.

— Госцейкі, даражэнькія, піце і ешце! Падай яшчэ, дачушка, квашаніны! Кум Анікей, скажы і ты пра нашага дарагога Паўла Рыгоравіча!

Пляменніку рабілася сорамна ад дзядзькавай пахвальбы.

Пакуль гаманілі ды частавалі адзін аднаго, а цётка Хрысціна маўчала, маўчала, ды і зацягнула звонкім голасам:

Ой, пад дубам, дубам
Чабор расцвітае,
А ў новай крыніцы
Вада прыбывае.

Жанкі падхапілі песню з падгалоскамі, з пералівамі, з узлётамі і спадамі да шэпту, спявалі, аддаючы песні нерастрачаную сілу дачасна завялай маладосці, усё хараство жаночай душы. Песня растрывожыла Паўла. Успомнілася: ідзе з поля маці, абветраная і загарэлая, з букецікам васількоў. Колькі ёй тады было гадоў? Пэўна, меней, чым цяпер яму. Ён спахмурнеў і маўчаў.

Госці пакрысе пачыналі разыходзіцца, дзякавалі за пачастунак, прасілі, каб заўтра ж Павел прыйшоў да іх, а больш хітрыя дзядзькі прыдумалі розныя пільныя патрэбы і справы да яго, якія можна вырашыць толькі ў іх дома.

Калі ў хаце асталіся адны свае, дзядзька Пракоп утаропіўся Паўлу ў вочы і спытаў:

— А як цяпер твая фамілія?

— Што вы, дзядзька, забыліся, як наша фамілія?

— І... І... не,— пакруціў стары пракураным пальцам,— ты мне скажы, як твая фамілія.

«Ну ж і жартаўнік...» — падумаў здзіўлены Павел.

— Унь Хведзька Міронаў з Мухі Мухіным стаў, забыўся, з якога боку кабылу запрагаюць, бацькі выракся. А Матроніну Ганну Жанаю завуць, ха-ха-ха, у спёку, кажуць, з парасонам і ў чорных акулярах ходзіць і сваіх не пазнае. А ты?

— А я Павел Воўк.

— Пакажы пашпарт, тады паверу.

Пляменнік усміхнуўся, дастаў пашпарт і па-

даў Пракопу. Той пакруціў яго з усіх бакоў, нібы бачыў упершыню, паслініў палец і разгарнуў:

— Воўк Павел Рыгоравіч... А я думаў, чаго добрага, ты ўжо Валковіч які-небудзь.

Пракоп абняў пляменніка і моцна прыціснуў да сябе.

— Малайчына. Не цурайся свайго роду, хлопча!

# СЫН

— Можа, пусціш, цётка Ганна, чалавека пераначаваць, а то куды ні ткніся — дзяцей пад самую завязку, а ў цябе і прасторна, і чыста, і ціха.

— Не бог ведае якія і ў мяне палацы,— азвалася немаладая жанчына, адхінуўшыся ад печы.— Калі няма дзе, хай начуюць, месца хопіць.— Яна паглядзела на мяне, нібы ацэньваючы, ці варта пускаць у хату незнаёмага чалавека. Хваліць самому сябе няёмка, прасіцца няма патрэбы, калі за цябе гэта робіць нехта іншы.

Цётка Ганна выцерла фартухом доўгую лаву каля стала і запрасіла сесці. Брыгадзір, відаць, быў рады больш за мяне, што збыў клопат і можа спакойна ісці дадому. Але адразу павярнуцца і пайсці, напэўна, было не зусім ёмка. Ён дастаў пакамечаны пачак «Прыбою», пакруціў у парэпаных пальцах пагнутую тоненькую папяроску і са смакам закурыў. Я распрануўся і сеў на лаве каля акна.

Гаспадыня доўга мяне разглядала і лагодна спытала, дзе жыву і кім служу.

Я расказаў, хто і адкуль, чаго прыехаў у іх калгас, і адразу супакоіў яе, што заўтра раніцаю падамся ў суседні раён.

Брыгадзір дакурыў цыгарку, патаптаўся ў парозе, развітаўся і пайшоў. Цётка Ганна ўпраўляецца каля печы. Мы маўчым. Я агля-

даю хату. Яна нагадвае тую, дзе некалі вырас і я: замазаныя глінаю пазы неатынкованых сцен са слядамі дужых шырокіх пальцаў, чыста вышараваная падлога, на стале — саматканы абрус з шырокаю прошваю. У хаце пахне рошчынаю і сырымі смалякамі. На тумбачцы стаіць невялічкі прыёмнік, а над ім у зграбнай рамачцы адзіны ў гэтай хаце партрэт маладога сяржанта. Прыгожы бялявы хлопец нечым нагадвае Ясеніна.

Каб неяк завязаць гаворку, пытаюся ў гаспадыні:

— Сын?

Яна толькі кіўнула галавою.

— Відаць, служыць яшчэ?

— Прыйшоў, дзякаваць богу, а цяпер на шофера ў раёне вучыцца, трэці месяц, як там. У суботу вечарам прыбяжыць, дроў наколе, вады наносіць, двор падграбе, а ў панядзелак на досвітку — зноў паляціць. Скора вернецца зусім, тады і мне весялей будзе. А то дзень пры дні адна, як той таўкач, сноўдаюся па хаце, і слоўца няма каму сказаць. Пакуль служыў, толькі і жыла яго пісьмамі, а цяпер, пакуль прычакаеш тае суботы, усе вочы прагледзіш.

— Прыедзе з курсаў, а там, глядзіце, і нявестку прывядзе, унукі загугукаюць. От тады весела будзе,— пажартаваў я.

— Дай жа божачка... Родная мамка не прычакала, дык, можа, я дажыву.

Я крыху разгубіўся, не ведаючы, што казаць. Распытваць, кім даводзіцца хлопцу яна, не адважваўся, каб не ўразіць самае балючае ў сэрцы гэтай немаладой спрацаванай жанчыны, змаўчаць, прыкінуцца, што не пачуў ці не

зразумеў, што яна сказала, таксама няёмка. Падумалася — распытаю заўтра ў суседзяў, але і абразіць яе абыякавасцю ніяк не выпадае. Мнуся і маўчу, думаю, як далікатней пачаць гаворку.

Цётка Ганна тупае каля печы. На прыпечку на трынозе ў маленькім чыгунчыку булькае бульба, патрэскваюць смалякі, на сцяне, супроць печы, дрыжыць няроўны бляск агню. У гэтым аранжавым крузе то з'яўляецца, то знікае сагнуты цень гаспадыні. Я бачу яе вялікія вузлаватыя рукі з набрынялымі жыламі, з-пад белай хусцінкі выбілася пасма шэрых валасоў. Відаць, некалі яны былі чорныя, а цяпер да іх прымяшалася густая сівізна. Цётка Ганна падобна на ўсіх тых адзінокіх вясковых кабет, што зведалі многа працы і гора і так мала бачылі радасцей.

У хаце цішыня і змрок, пад акном, у гародчыку, гойдаюцца чорныя сілуэты вяргіняў і шуміць тонкая вішанька, асенні вецер трымціць незакітаванаю шыбінаю. У такую шарую гадзіну ўспамінаецца далёкае маленства, робіцца цёпла і крышку сумна на душы.

— Чаго ж мы сядзім упоцемках? — спахапілася цётка Ганна, падышла да сцяны, пстрыкнула выключальнікам. А мне яшчэ хацелася пасядзець упоцемках асенняга надвячорка, паслухаць, як шуміць вішанька і трымціць шыбіна ў акне.

На стале ў вялікай паліванай місцы дымілася сопкая бульба, на сподачку ляжалі скрылёчкі ружовага з прорасцю сала і стаялі крамяныя салёныя агуркі. Яны моцна пахлі кропам і вішнёвым лісцем. Я хацеў падзякаваць

і сказаць, што павячэраў у сталоўцы, але хіба можна адмовіцца ад такога пачастунку! Мы селі за стол. Цётка Ганна астудзіла бульбіну, зірнула на мяне добрымі глыбока запалымі вачамі, мабыць, адчула, што мне не даюць спакою пытанні, а можа, і таму, што кожнаму чалавеку рады ў гады хочацца расказаць пра самае запаветнае. Яна спакойна, нібы працягваючы толькі што перапыненую гаворку, пачала:

— Дзяцей у мяне ніколі не было. І сям'і сваёй няма. Адзінокая я. Так бы адна і звекавала. А ў вайну як дачуліся нашы мужчыны, што немцы ўжо ў раёне, пабралі пілы і пачалі валіць лес на шлях — крыж-накрыж, сасну на сасну. За двое сутак загацілі дарогу да самага сяла, а самі, хто з дубальтоўкаю, хто з сякераю, падаліся ў лес. Пазней у іх і аўтаматы і кулямёты аднекуль узяліся. А дзе яны ў першыя дні тых мінаў набралі, ніхто не ведаў, але начаплялі іх ледзь не пад кожную дзеравіну. Паткнуліся немцы на дарогу, ды назад, бачаць — без галоў астануцца. Тады пагналі паліцаяў. Ну ж і палягло гэтых бобікаў, пакуль дапялі да нас. Уварваліся ў сяло, а следам за імі ідуць гэтыя вылюдкі з трупімі галоўкамі на шапках. Перавярнулі ўсе хаты, пуні абшасталі, стагі развярнулі, а мужчын — трасцу, аніводнага няма. Тады за баб узяліся. Відаць, падтыкнуў нехта — чые падаліся ў лес.

На вуліцу павыганялі босых і проставолосых. Толькі ўдоў і незамужніх не чапалі. А ў Алены, царства ёй нябеснае, дзіцятка маленькае на руках.

Накінула яна доўгі кажух, затуліла ім хлоп-

чыка, грудзі дала, каб не плакаў, і стала разам з усімі. А на двары ўжо добра падшэрхла, і сняжок пачаў церусіць. Стаяць, гаротніцы, апусцілі галовы, маўчаць. А нейкі маленькі тоўсценькі немчурок па-нашаму ўсё дапытваецца:

— Куды пахавалі сваіх бандытаў? Паказвайце, а то пастраляем.

А жанкі зноў за сваё:

— Ні сном ні духам не ведаем, куды яны скруціліся.

Да змроку біліся з імі, тыя з труп'імі галоўкамі на шапках, так нічога і не выпыталі. Потым, мабыць, старшы, у акулярах, нешта каркнуў, і паліцаі пачалі рулямі папіхаць жанок у спіны, прыкладамі біць і пагналі ўсіх на той канец сяла, у хвойнічак. Сэрца ў мяне так і зайшлося, хата кругам паплыла, хацелася кінуцца ўслед, енчыць, прасіць, маліць, каб злітаваліся. Ды хіба ж іх упросіш: не людзі гэта — ваўкі кручаныя.

Цётка Ганна ўздыхнула, памаўчала з хвіліну, адсунула астылую бульбіну.

— Толькі дайшлі яны да ўзгорачка, нешта бліснула, нібы засвяцілі сярнічку, і адразу — бах, бах! Чую лямант, глухі крык, потым затарахцела нешта, як гарох па блясе, і ўсё змоўкла. Я як стаяла ля акна, так і спаўзла на падлогу, нібы куля звaліла і мяне. Колькі так праляжала, і сама не ведаю! Адышла, як ужо добра сцямнела. Глянула — хоць бы табе дзе агеньчык, хоць бы іскарка бліснула — чарната. Як вымерла сяло. Страшна стала, за глотку нешта душыць, у роце высахла. Паціхеньку выйшла на вуліцу. Бачу — храпу на дарозе

размясілі шырокія колы грузавікоў. Значыць, паехала нячыстая сіла...

Як апынулася ў хвойнічку, і сама не ведаю. Усё калоціцца ўсярэдзіне, ногі не слухаюцца. Узышла на ўзгорак, а там — покатам ляжаць маладзіцы, ужо і сняжок іх пачаў прыцярушваць. Не плачу, а слёзы вочы заслалі і самі цякуць, губы скусала да крыві, скамянела ад страху. Хто ж мог падумаць! Яшчэ ў абед мы з Аленаю разам на жорнах ячмень абдзіралі, збіраліся кросны снаваць... і на табе. Як глянула, нешта варушыцца пад кажухом і ціхенька ўсхліпвае. Падпаўзла бліжэй, думаю, жывая, расхінула кажух — аж хлопчык, жывенькі, прытуліўся да схаладзелага матчынага цела, толькі ножка з пялёначкі вытыркнулася і пабялела.

Ухапіла я Лёнечку, скінула з сябе світку, загарнула яго і бежкі дадому. Усю дарогу хукала на яго. Ускочыла ў хату, запаліла ў печы, нагрэла чыгун вады, паздымала пялёнкі, што зліпліся ад матчынай крыві, абмыла яго, загарнула ў чыстае прасцірадла. Так ён на руках у мяне і заснуў.

А раніцаю сабраліся ўсе нашы кабеты, выкапалі адну доўгую магілу, залілі яе слязамі і пахавалі няшчасных.

Там цяпер помнік стаіць і дзве рабінкі растуць, можа, бачылі? Гэта іх Лёнька пасадзіў, як падрос.

А пакуль акрыяў, усяго нацярпелася. Кароўкі ў мяне не было, сама нішчымніцу ела ўсю вайну, а малое дзіця без малачка на ножкі не паставіш. Дзякуй ім, бабы кожны дзень прыносілі, хто шклянку, хто паўшклянкі, а хто і

смятанкі сподачак. Так і паднялі хлопца ўсёю вёскаю.

Пра бацьку казалі, што недзе пад Варшаваю галоўку склаў. А мы так з Лёнем удваіх і гаравалі. Усяго было. Вучыўся ён добра, дзесяць класаў скончыў. Прасіла, каб куды далей падаваўся, на інжынера ці хоць якога агранома, дык не, і слухаць не хоча. Відаць, мяне кідаць шкадуе. От так і жывём удваіх.

Яна змоўкла. Даўно ў місцы астыла бульба, на прыпечку дагарэлі смалякі. Ад іх засталася толькі грудка белага попелу. Цікалі ходзікі ды шумела пад акном тонкая вішанька. Відаць, і яе пасадзіў Лёнька.

Больш не хацелася ні пра што распытваць цётку Ганну, не хацелася гаварыць ні пра што іншае: усё здавалася мізэрным і дробным пасля таго, што яна расказала.

Мы доўга сядзелі моўчкі. Толькі было чутно, як у шыбіну стукаюць мокрыя галінкі і барабаніць спорны дождж.

# ТРЫВОГІ

У сонечным асеннім скверы ледзь чутна ападае лісце і шамаціць, шамаціць пад нагамі. На суседняй не вельмі зручнай лаўцы маладзенькая мама на руках пагойдвае дзіцятка, нешта гаворыць яму, угукае і смяецца. Побач стаіць чырвоная з блішчастаю аблямоўкаю каламажка.

Маці шчаслівая, аж свіціцца.

Можа, толькі што ўсміхнулася яе дзіцятка, можа, пралепятала нешта невыразнае, а ёй пачулася доўгачаканае «мама». А можа, рэжацца першы зубок,— круціцца ад болю, енчыць малое, а маці пакутуе падвойным болем, гатовая ўзяць на сябе любыя пакуты, абы дзіцятку добра было. А барані божа, захварэе каторае, здаецца, нічога страшней і на свеце няма. Каб можна было, жыццё б аддала за сваё дзіцятка. Не спіць начамі маці. Няхай сабе не спіць, абы спала спакойна, калі сыну ці дачушцы стукне семнаццаць.

З першага дня мацярынства ў кожнае маці трывог і пакут болей, чым радасцей. Пакаўзнуўся сынок, скрывавіў носік, матчына сэрца ледзь не парвецца. Першая двойка — гора для маці. А яна ўсё чакае радасцей і ўцех.

Паступілі сын ці дачка ў інстытут,— пасвятлела наўкол, маці вышэй падняла галаву, а ў валасах ужо бліснула першая павуцінка ран-

няй восені. А як чакае маці кожнага ліста з трыкутнай пячаткай салдацкай пошты: усё прыслухоўваецца, усё прыглядаецца, куды зверне, што прынясе паштальён. З трывогай слухае маці кожную перадачу радыё і тэлебачання: недзе ж юнакі забіваюць адзін аднаго, хоць зроду не бачылі тых, па кім страляюць з гарматаў. А за што? Навошта? — думае і бядуе кожная маці.

Дачушка паехала ў вялікі свет,— не спіць маці,— хоць бы ніхто не ашукаў і не пакрыўдзіў яе. І так да скону будуць побач любоў і радасць, боль і трывога ў адным сэрцы.

Як жа яны месцяцца ў ім? Месцяцца. Яно ж матчына! А большага сэрца няма.

Маладзенькая мама з дзіцяткам у каламажачцы не заўважае мяне — яна аж праменіцца ад радасці за сваё дзіця. А яно светлае, ласкавае, лагоднае, здаволена пускае бурбалкі з ружовых вуснаў і ўсміхаецца маме і сонцу. Шчаслівая мама!

Я гляджу, зайздрошчу. І раптам падумалася: адкуль жа бяруцца нягоднікі, ашуканцы, ачмурэлыя п'яніцы і прайдзісветы?

Не адмахвайцеся, мацеры, не заплюшчвайце ад жаху воч — ваша дзіця нягоднікам не будзе, а калі ім стане чужое, хіба лягчэй?

Глядзіце, мацеры, як ваша дзіцятка зробіць першы крок. Сачыце, куды яно пойдзе.

# «ЧУЖАЗЕМЕЦ»

Я ўпершыню пасля вайны цёмным дажджлівым вечарам позняй восені прыехаў у роднае мястэчка. Тут, апрача матчынай магілы і ўспамінаў маленства, бадай, нічога не засталося. Спыніўся я ў скасабочанай хаце, прыстасаванай пад «гасцініцу». У чатырох пакойчыках з пукатаю падлогаю звычайна начавалі шафёры рэйсавых аўтобусаў ды два-тры камандзіровачных. Некалі гэтая стадола належала мнагадзетнаму краўцу. У вайну ўсю сям'ю разам з сотнямі такіх жа пакутнікаў фашысты пастралялі пад Мыслачанскаю гарою толькі таму, што іх продкі былі іншае веры.

Цяпер насупраць тае развалюхі стаіць сучасны трохпавярховы гатэль, з дыванамі, люстрамі і люксамі, ваннамі і гарачаю вадою.

А тады, у мой першы прыезд, дзяжурная ў целагрэйцы і гаматной суконнай хустцы (відаць, па прозвішчу здагадалася, што я з тутэйшых) пасяліла ў невялічкі асобны пакойчык. Я здаў на прапіску пашпарт, пакінуў партфель і пайшоў на Галоўную вуліцу, каб дзе перакусіць. Чайная прывабіла ўсімі асветленымі вокнамі. Некалі тут была цырульня з устойлівым пахам адэкалону і вежаталю, цяпер цягнула перасмажаным алеем і паранаю капустаю. За буфетнаю стойкаю з жоўтымі плямамі на рукавах і на грудзях халата стаяла сытая кірпатая

жанчына з вузенькімі шчылінкамі вачэй. Яна ляскала на лічыльніках і не звяртала на мяне ўвагі. Праз запацелае буфетнае шкло я разглядаў злінялыя вінегрэты, грудкі шэрага халадцу і яшчэ нешта не надта апетытнае. Буфетчыца заўважыла мяне.

— Так нічога і не нагледзеў? — усміхаючыся, фамільярна запытала яна.— Даўно ж пра цябе ні слыху ні дыху не было...— Я сумеўся. У абліччы і пагрубелым голасе было нешта знаёмае, а назваць, каб не памыліцца, не адважваўся.

— Ая-яй! Няўжо не пазнаеш? У трэцім жа класе, у Сыцькі, на адной лаўцы сядзелі.

Ну, канешне, Насця. Але як раздалася, налітыя шчокі шырэй вушэй, а была ж тычка тычкаю: ножкі — цыркуль, тварык з кулачок, а цяпер халат па швах раз'ехаўся.

— Дзе ж ты цяпер? Што робіш? Набадзяўся, відаць, па свеце.

Я коратка расказаў.

— У буфет не глядзі. Праходзь, садзіся. Накармлю па-зямляцку. Падцягло ж цябе, як таго харта,— хіхікнула яна, і вейкі зліпліся ў тоненькія шворачкі. Я прайшоў у даўно не белены пакой з увагнутаю падлогаю. У тытунёвай смузе за накрытымі аблезлымі цыратамі столікамі мужчыны пілі піва, здзіралі луску з вяленых плотак і акунькоў, голасна гаварылі і спрачаліся, размахваючы хрыбтамі абглыданых рыбін, надпітыя куфлі далівалі сіняватым самагонам. Словам, усё было, як мае быць такою пароюў пасляваеннай местачковай чайной.

Я сеў за вольны столік, перакінуў сваё шэрае букліраванае паліто і такую ж кепку на

спінку хісткага крэсла і, чакаючы абяцанага пачастунку, прыглядаўся да прысутных: а раптам убачу каго знаёмага. За суседнім сталом длубаў відэльцам шэры халадзец хударлявы ў выцертым да белых рубцоў скураным паліто і ссунутай на вочы кепцы чалавек сярэдняга веку. Перад ім стаяў куфаль светленькага піва, а побач за сталом сядзела двое дужых мужчын з бурымі абветранымі тварамі: адзін у зашмальцаванай, некалі зялёнай целагрэйцы, другі ў аблемаваным шэраю аўчынкаю кажушку сваёй работы і ў салдацкай вушанцы. Хударлявы нешта ім тлумачыў, а яны, відаць, падначаленыя, асалавела слухалі і лісліва ківалі галовамі. Да мяне далятаді толькі асобныя словы: «...факцічаскі з парашутамі скінулі недзе за Капаткевічамі. Казадоеў бажыўся, што аблава і ў яго хляве трэсла...» — «Нідзе не дзенуцца,— загуў мужчына ў салдацкай шапцы,— там жа была парцізанская зона. Людзі вунь якія вушлыя: чужога, як шклянога, наскрозь бачаць. Летась я там па грыбох аж два планы зрабіў. Паверыш, урадзіла іх, хоць касою касі...»

— Зрабіў, зрабіў. Не плявузгай абы-чаго. Пра свае планы каму хочаш расказвай, а не мне,— перабіў яго чалавек у скуранцы і ўчапіўся вачыма ў мяне. Доўга зіркаў, круціўся на крэсле, нешта шапнуў суседзям і голасна сказаў: «Апаражняйце. Яшчэ па куфлю зробім».— «Можа, хопіць, Давыдавіч?» — «Слухайся старшых і не вякай»,— загадаў чалавек у скуранцы і, азіраючыся, з пустою пасудаю выйшаў з пакоя.

Тым часам у залу зайшлі двое і накіравалі-

ся да мяне. Адзін у салдацкім бушлаце і артылерыйскай шапцы з вяслом сушак у руцэ, другі ў перамазанай іржою целагрэйцы, ватных штанах і бахілах. Я іх пазнаў і запрасіў за свой стол. Ну і пачалося: «Як жывеш, дзе што робіш, колькі аграбаеш?» Якім служыў у пажарнай, Сенька — у сельпо рабіў грузчыкам. Па яго целагрэйцы відно было, што прывезлі на базу. Мы не бачыліся гадоў... колькі ж гадоў? Мно-о-га. Усе пастарэлі, Сенька зусім ссівеў, а Якім абяззубеў.

Чалавек у скуранцы прынёс піва, нешта сказаў сваім застольнікам, каб было чуваць: «Піце, піце, хлопцы. Я толькі здачу вазьму». Да буфета ён ішоў павольна, а потым урэзаў з грукатам па ганку і тратуару. Гэта я ўспомніў пасля, калі зразумеў, чаму ён выскачыў, як апараны.

З Якімам і Сенем мы перабралі ўсіх знаёмых — жывых і мёртвых, успомнілі, хто загінуў на фронце і ў партызанах, хто падаўся на Поўнач, хто сталярue і бандарыць у мясцовай арцелі. Каб неяк «сагрэць» нашу сустрэчу, я папрасіў у Насці па куфлю піва, узяў вантрабянкі, вараных яечак і хлеба. Мы так захапіліся ўспамінамі, што нічога не заўважалі наўкол. Нейкім бакавым зрокам на парозе я прыкмеціў скураное паліто. Кепка з'ехала на патыліцу, дробны шылаваты твар расчырванеўся. Давыдавіч цвёрда і рашуча ішоў да нашага стала. За ім неяк нерашуча ступаў маладзенькі ружовашчокі міліцыянер і, не даходзячы да сярэдзіны, спыніўся. Я адчуў пах стайні і сырамятнай скуры: перада мною стаяў той жа чалавек у скураным паліто.

— Гражданін, хто вы такой?.. Кім будзеце, спрашваю.

— Вы да мяне звяртаецеся? — пацікавіўся я.

— А да каго ж яшчэ?!

— Кім буду, пакуль сказаць не магу. А хто ёсць, калі ласка: я — грамадзянін Савецкага Саюза.

— Прад'явіце пашпарт! — аж засопся мой цікаўны субяседнік і азірнуўся на міліцыянера.

— Слухай, Мірон, твой жа стол побач. Ідзі дапівай піва з прычэпам і не тлумі галаву,— аж рагатнуў Якім.

— Памалквай! Вашы дакументы, кажу! — зычна загадаў Мірон.

— А хто вы такі? І па якому праву правяраеце дакументы? — спакойна запытаў я. Ён высмыкнуў з кішэнькі новенькае пасведчанне дружынніка на імя Падлушоўскага Мірона Давыдавіча.

— На жаль, у мяне такога няма. А пашпарт у гасцініцы. Калі парушыў парадак, можам прайсці ў міліцыю разам з сведкамі.

— Ты што, Мірон, здурэў? — не вытрываў Сенька.— Гэта ж наш, местачковы. Часам у радзіва гаворыць. Можа, чуў?

— Хутчэй па рацыі, чым па радыё. А што я казаў? Няма дакуменцікаў,— аж захліпаючыся ад радасці, звярнуўся Падлушоўскі да міліцыянера. Толькі цяпер да мяне дайшло, за каго мяне прымае пільны дружыннік. Пэўна, за таго, што скінулі з парашутам каля Капаткевіч. За сталамі сціхла гамана, астываў чай, асядала ў куфлях пена. У дзвярах затрымалася некалькі цікаўных і пад'юджвалі Падлушэў-

скага: «Хапай, каб не ўцёк. На папружку. Вяжы яго!» Мяне гэта развесяліла, а Мірон Давыдавіч распаляўся да вышэйшага градуса. Як яму хацелася, каб я быў тым, каго трэба злавіць. Пасля вайны хадзілі чуткі, што яшчэ недзе сноўдаліся розныя недабіткі, а то і закінутыя з-за мяжы лазутчыкі і дыверсанты. А тут, можна сказаць, дома, прымаюць мяне за шпіёна. Чым жа я здаўся падазроным гэтаму звышпільнаму дружынніку? Каля мяне ён падскоквае і аж якоча, а міліцыянер неяк нерашуча за ўсім назірае.

— Вы, калі ласка, не мітусіцеся перад вачыма і не псуйце нам апетыт. Павячэраем, калі не лянуецеся, сходзім у гасцініцу і паглядзіце мой пашпарт... За ваша здароўе, хлопцы. Налягайце на вантрабянку.

Падлушоўскі, відаць, адчуў свой правал: з куткоў пакеплівалі з яго.

— Таварыш старшы сяржант, прыміце меры. Мне ён не падчыняецца.

Міліцыянер падышоў да нашага стала, казырнуў:

— Прабачце, грамадзянін. Паступіў сігнал. Я абавязаны ўстанавіць лічнасць. Разумееце, розныя людзі трапляюцца. Даруйце. Служба.

— Што ты, Пеця, слухаеш гэтага чмута,— усхапіўся Якім.— А ты, хвастакрут, пшоў адгэтуль, каб і смуроду не было!

Я асадзіў Якіма.

— Праўду кажаце, таварыш сяржант, розныя людзі трапляюцца, і дзівакоў хапае. Растлумачце гэтаму дружынніку, што шпіёнаў забяспечваюць дасканалымі «ліпамі» і шукаць іх трэба ў другіх месцах.— Я дастаў з кішэні рэ-

дакцыйнае пасведчанне. Слова «орган» я прыкрыў, а наступныя адціснутыя золатам пяць літар адштурхнулі Падлушоўскага на некалькі крокаў. Ён шлёпнуў стаптанымі абцасамі, узяў пад казырок і задам-задам падаўся да дзвярэй. Міліцыянер пакруціў галавою, папрасіў прабачэння і выйшаў з чайной... Мы закончылі вячэру. Я надзеў паліто, зацягнуў пояс, узяўся за кепку.

— Ведаеш, чаму ён да цябе прысукаўся? — спытаў Якім.

— Чаму?

Ён тыцнуў пальцам у паліто:

— Апранаха падазроная, на заграністую падобна, і кепка... адным словам, «чужаземец»,— рагатнуў ён.

Смешна стала і мне:

— Віцебская фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі». Цана 80 рэ. Цяпер палавіна горада ў такіх палітонах ходзіць.

Назаўтра ўсё мястэчка рагатала і расказвала, як Падлушоўскі лавіў «шпіёна». А мне было прыкра, што тут, дзе я вырас, дзе некалі ніводзін шчанюк на мяне не брахаў, палічылі за чужаземца.

Назаўтра зранку схадзіў на клады. Там, дзе была матчына магіла, зарасла асотам і бур'яном глыбокая варонка ад фашысцкага снарада. Я паклаў на беражок познія вяргіні і вярнуўся ў мястэчка: хадзіў з вуліцы ў вуліцу, з паточанымі шашалаем старымі хатамі сустракаўся, як з даўнімі знаёмымі, а многае было незнаёмым і новым.

Пад вечар задажджыла. У пустой і няўтульнай гасцініцы стала вельмі ж маркотна і туж-

ліва. Я развітаўся, забраў пашпарт і пайшоў на аўтастанцыю. Аўтобус быў напалову пусты. Па даху барабаніў дождж і сцякаў пакручастымі цуркамі па шыбах. Я вяртаўся з дому дадому. А дзе той сапраўдны дом, так і не ведаў. Угледжу ў горадзе аўтобус з назваю свайго мястэчка, засмыліць сэрца, хочацца ўскочыць у яго, вярнуцца ў далёкае маленства, дзе ўжо ніхто мяне не ведае і не чакае.

# СЛЁЗЫ

Наўрад ці паверыце, што плача карова. А я веру. Сам бачыў — плакала.

Некалі я настаўнічаў у глухім таежным сяле. Хата мая стаяла за ваколіцай, паміж глыбокім ярам і пакручастаю крынічнаю рачулкаю Біязінкаю, за ёю шумела тайга, зялёная ўлетку, барвовая і бронзавая ўвосень, зімою маўклівая, закуржавелая, нібы адлітая з чыстага срэбра. Наўкол была выгода — задзірванелыя груды, травяністыя лагі і выгараджаная паскоціна: выпускай скаціну, і пасвіць не трэба. У сяле кожнага бескароўнага лічылі лайдаком і пустадомкам. Купілі і мы не не надта малочную, крутарогую, чорную з белаю плямкаю на лбе кароўку. З ёю перайшла і мянушка ад ранейшых гаспадароў — Нюрка.

Кожную вясну даводзілася вадзіць яе на повадзе на другі канец сяла ў ветэрынарны ўчастак на прышчэпкі ад бруцэлёзу, сібірскае язвы і яшчэ нейкіх невядомых хвароб. Яна хадзіла заўсёды следам, як паслухмянае сабачанё, нават не напінаючы повада. А ўвосень станавілася зброднаю: як толькі ўмерзне зямля, а высокую сакаўную рунь яшчэ не прыцярушыў сняжок, мая Нюрка сыходзіла на свежую рунь немаведама куды. Бывала, шукаеш, шукаеш, а яе і след прастыў. Часам вазакі сена ці ляснік скажа, што бачыў маю кароўку недзе аж на

бяргульскім полі, а гэта кіламетраў за дзесяць ад дому. Поле вялікае, з кустамі, з лажкамі, з пералескамі, колкамі, па-сібірску. Ходзіш-ходзіш, углядаешся-углядаешся, аж яна ў зацішку ляжыць сабе, пукатая, як дзяжа, і меле сабе жвайку. Азавуся, нехаця ўстане, вінавата апусціць галаву і брыдзе следам дадому.

Тым летам я не касіў сена: мяне пераводзілі ў суседні раён, і прыйшлося расстацца з Нюркаю. На такую «малочніцу» купца не знаходзілася. Прыйшлося яе здаць нарыхтоўшчыку спажывецкай кааперацыі. Дзеці і жонка з плачам праводзілі Нюрку з двара. А яна, мабыць, нешта нядобрае адчула: у фортцы задрала галаву, уперлася, як сталюгамі, пярэднімі нагамі — і ні з месца. Цягну за повад, а яна толькі галавою круціць і ўпінаецца з апошніх сіл. Прашу жонку сцебануць хлудзінаю. Вытне, шкадуючы, а Нюрка — задам-задам адступае ў двор.

Добра, сусед памог сяк-так выпхнуць за весніцы. Давёў да крутаяру, а ўгору аніяк не ідзе, хоць ты яе рэж. Што сталася з кароваю? Як здурнела. Бегла ж следам, а тут ані з месца. Неяк усё ж дацягнуў да таго нарыхтоўчага двара. За высокаю загарадкаю з абгрызеных жэрдак ледзьківаліся дзве худыя каровы. Нюрку з нарыхтоўшчыкам мы ледзьве ўпхнулі за вароты. Яна адразу пярэднімі нагамі ўскочыла на высокае прасла, ды як зараве, трывожна і жаласна, як заматае галавою, нібыта хоча сказаць: «Не хачу, вазьмі назад!» А вочы! Вялізныя сінія вочы з цёмнымі глыбінямі глядзяць на мяне з такою пакутаю, з такім дакорам, нібыта на самага страшнага здрадніка. І тут я

адразу вачам сваім не паверыў: па цёмнай поўсці пакаціліся буйныя, як гарошыны, слёзы. Яны капалі [illegible] мысы, а Нюрка матала галавою і раўла, як на пажар, як на пагібель, скакала на самую верхнюю жардзіну і плакала горкімі слязьмі. Пла-ка-ла...

Я кінуў налыгач і ад сораму, жалю, ад дакору выбег за браму і, не азіраючыся, затыкаючы вушы, па гулкай настылай сцежцы задамі падаўся дадому. Доўга яшчэ чуў Нюрчын рык, і ў самога камяк сціснуў горла.

Бывае і цяпер, як убачу, што цягнуць сілком залыганую скаціну, сціскаецца сэрца, чуецца той жаласны рык і ўспамінаюцца слёзы на чорнай мысе.

# ВАРНАК [1]

Я заблудзіўся ў тайзе. Ліпнёвае сонца ледзь прабівае лясны гушчар — змрочна, парна і вусцішна. Сінявата-зялёныя хвашчы з чорнымі падпалінамі на суставах выцягнуліся ў чалавечы рост, шастае і хапае за рукавы трава-разун, на колішніх выгарах разлапушыўся і ківае ружовымі султанамі скрыпень. Мітусіцца, гудзе і дзынкае плойма сытых аваднёў. Нячутна прыліпаюць шэрыя сляпні і тупым болем праціналоць змакрэлыя плечы. Замшэлыя выварагні пазавальвалі ледзь прыкметныя лясныя сцежкі.

У такой гушчэчы апаноўвае страх. Нават самаму разважліваму чалавеку пачынаюць верзціся лесуны і страшыдлы: разгаты выварацень здаецца ўчэпістым павуком, сухая галіна — яшчарам, струхлелы пень — зеленабародым лесавіком. Тахкае, аж заходзіцца сэрца. Падыдзеш бліжэй, усміхнешся, а на цябе з таежных завалаў ужо глядзяць новыя пачварныя прывіды.

Трымціць гонкі асіннік, лена пагойдваюцца цёмныя верхавіны кедроўніку, шапацяць мяккія лапы лістоўніц, пырхаюць сініцы, ціньюкаюць дразды, іржавым рыпам скігоча сіваграк, а недзе на верхавіне глуха, як у дамавіну,

---

[1] Варнакамі да рэвалюцыі ў Сібіры называлі катаржнікаў і ссыльных пакутнікаў.

грукае дзяцел. Нямераная, няходжаная тайга жыве, шуміць, стракоча і дыхае далёкім прыглушаным водгуллем. Але колькі ні гукай, колькі ні крычы — ніхто не пачуе і не азавецца.

Няўжо так нікуды і не выб'юся? Куды ж тут выб'ешся, калі на сотні вёрст ні жывое душы, ні сяла, ні заімкі — тайга і тайга. І панесла ж нялёгкая шукаць тыя нікому невядомыя дзялянкі, каб накасіць на бясконца доўгую сібірскую зіму сена на каня і двух валоў. А каму ж ісці, як не мне? Наняўся гаспадарнікам у сяміісці, як не мне? Наняўся гаспадарнікам у сямігодку, от і ламай галаву, як пракарміць сваіх падапечных, каб навазіць дроў школе і настаўнікам, вытраляваць бярвенне на прыбудоўку да інтэрната.

Эт, адна толькі назва — «загадчык гаспадаркі», а так — конюх, стальмах, рымар, адным словам — папіхач, хто куды пашле. Каб трымалі, трэба прыкідвацца майстрам на ўсе рукі. Як толькі наняўся, дырэктар загадаў зрабіць вось да старога зламанага воза. Што будзеш казаць? «Зраблю». А як яе рабіць, ліха яго ведае. Так-сяк вычасаў плаху з кручанаеперакручанае бярэзіны, пракруціў у падушцы дзірку пад шворан, абстругаў канцы, а загваздкі паставіў наўскасяк. Можа, і цяпер нехта ездзіць на тым возе і кпіць з недалужнага «стальмаха». З работай неяк выкручваўся, а з тайгі ніяк не выцерабіцца. Замарачэнне, дый толькі. Як ні глядзі на сонца — вісіць над галавою: кажуць, па свежых пнях можна ўбачыць, дзе поўдзень, а дзе поўнач, але ж знайдзі той пень! Тут, відаць, ніколі не ступаў чалавек. Адны вываратні ды буралом.

Зноў лезу ў гушчар: няхай трохі пахвошча

вецце ссечаную сляпнямі і аваднямі спіну. Перапаўзаю цераз аслізлыя, замшэлыя вываратні. Ой! Здаецца, наперадзе трошкі пасвятлела. Прадзіраюся праз калючы шыпшыннік, густы падлесак, расхінаю вецце — і спыняюся расчараваны. Над маленькім, зацягнутым слізкім жабурыннем, азярцом прабілася сонца, берагі абступіў густы сіняваты чарот, і, як змяіныя галоўкі, пагойдваюцца аксамітна-карычневыя таўкачыкі. У цёмную ваду плюхаюцца і крумкаюць спалоханыя рапухі. За азярцом густа сплёўся малліннік. Буйныя ягады згінаюць вецце і п'яняць салодкім духам. Тут, відаць, ніхто не сарваў ніводнае ягадзіны: пераспее, асунецца і датлее на волкай зямлі. А малін — аж чырвана. Жменямі сасмыкваю халаднаватыя замглёныя чашачкі, каб хоць трохі прагнаць смагу, адысці ад стомы і супакоіцца.

А можа, недзе побач, у гэтым малінніку, шастае іх спрадвечны гаспадар — мядзведзь? Куды тады дзецца, як ратавацца? Успамінаюцца таежныя выпадкі і здарэнні, але нічым не магу суцешыцца. Прыгадалася, як надоечы наша селавая бабылка цётка Дуня пайшла ў маліны, убілася ў такі ягаднік — канца-краю не відно. Набрала вядзерца, а маліны, чым далей, тым буйнейшыя і спялейшыя. Прагны чалавек на дармаўшчыну. Ну як тут пакінеш? Брацъ няма куды, а яна ўсё латошыць ды жменямі ў рот, у рот: дай, думае, хоць наемся ўволю. Аж чуе, нехта шамель-шамель па малінніку. Толькі падумала: «Няўжо і сюды дапялі кардонаўскія ягадніцы?» — проста на яе прэцца нешта вялізнае і калматае; нагне лапаю куст — сасмоктвае сабе ягады. Падхапіла баба вядзерца

ды ходу. Выцерабілася з гушчэчы. Куды кінуцца? Аж тут, як на тое шчасце, стаіць сагнутая бярэзіна. Шкода кідаць вядзерца, а хіба ж з ім уздзярэшся? Паставіла каля камля і спрытна, нібы каланок, узлезла на самую сярэдзіну. Адкуль тая і сіла ўзялася? Бярэзінка гойдаецца пад ёю, рукі дрыжаць, ледзь ліпіць старая. А ён, крывалапы, валюхаецца з боку на бок і павольна ідзе да яе. Задраў пысу, панюхаў, чмыхнуў, глядзіць, нібы ўхмыляецца маленькімі вочкамі, пакаціў вядзерца, лёг на траву і трушчыць сабе маліны на поўную зяпу, выграбае лапай і хрумстае. «Што ж ты робіш, гультай? — сварыцца старая.— На гатовенькае ласы. А назбіраць хвор?» Мядзведзь аблізаўся і, не раўнуючы, як малое дзіця, пакаціў вядро, біў, біў лапаю па баках, пакуль не спляскаў у аладку. Зірнуў на бабку і давай куляцца цераз галаву. Ляжа на спіну, перабірае лапамі, пераваліцца з боку на бок, стане на заднія лапы і «служыць», як тое шчанё. Малады яшчэ, дурэць, відаць, любіў.

Рукі ў старой дранцвеюць, а сядзіць, трымаецца. Так да змяркання пацяшаў бабку Дуню гаспадар таежных малліннікаў. Потым устаў, атросся, пазяхнуў і падаўся ў гушчар.

Усё гэта ўспомнілася ў адну хвіліну. І я сабе нагледзеў сагнутую бярэзінку, пастаяў, прыслухаўся. Толькі шамаціць чарот над возерам ды крумкаюць жабы. Зырка смаліць сонца, соладка пахне маліннікам і настоенай на леташнім лісці вадой азярынкі.

Але любавацца дзікай прыгажосцю няма калі — трэба некуды прабівацца, каб хоць завідна выйсці з гэтае гушчэчы. Расхінаю мяккае

лісце з белай падпушкай і лаўлю губамі спелыя ягады.

«Тук-тук-тук...» Пэўна, дзяцел. Насцярожваюся. Не, стукат замаруджана глухі. Вушы выцягнуліся, як у зайца, хвіліну не дыхаю. Раптам зашумела, затрашчала і вухнула, аж зыбанулася пад нагамі зямля. Усё сціхла. Потым зноў тонелька, са звонам — «тук-бразь, тук-бразь». Няйначай, нехта валіць лес, абсякае суччa. Няўжо ёсць жывая душа ў гэтых непралазных нетрах?

Як праз калючы дрот, прадзіраюся цераз пераплецены маліннік: асыпаюцца, трушчацца пад нагамі ягады, хвошчуць па твары дубцы, спатыкаюся аб сапрэлыя пні, лезу пад вывараткі, з-пад ног выпырхваюць патрывожаныя птушкі. А стукат усё бліжэй і выразней. Ад радасці хочацца закрычаць, каб пачуць жывы голас у адказ, але стрымліваю сябе: чаго добрага, яшчэ напалохаеш лесаруба, падумае, ці не ляснік, часам зашыецца пад вываранень — і не знойдзеш.

Я ўжо не адбіваюся ад заедзі, хоць яна гудзе, гойдаецца густою сеткаю і працінае цела нясцерпным свербам. Смыляць пасоленыя потам драпіны на руках, ледзь варочаецца шорсткі, як суконка, язык. За кустамі светла-зялёнымі струнамі трымціць асіннік, цягне курадымам, выразна чуваць, як цюкае сякера па хрусткім суччы. Паказалася нечая спіна і сівая кудлатая галава. Радасць перахапіла горла, але сцішваюся, выціраю шапкаю пот, стараюся ісці паважна, нібы ніколі і не блудзіў.

Высокі і тонкі, як тычка, дзед цярэбіць гонкую, з адламанаю верхавінаю асіну.

— Гах-гах-гах!..— пакрэктвае ён, спорна махае звонкай сякеркаю, і, відаць, не чуе, як шапаціць і патрэсквае пад маімі нагамі сухое вецце. А можа, толькі прыкідваецца. Я ведаю стрыманасць сібіракоў і не здзіўляюся іх маўклівай суровасці. Спыніўся побач, а ён сабе і не шманае. Павітаўся. У адказ толькі — гах-гах-гах — адлятаюць белыя, як скрылі рэпы, трэскі. Няўжо глухі? Потым дзед павярнуўся, уваткнуў у пянёк сякерку, зірнуў злінялымі вачыма:

— Здарова, па́ря. Калі памагаць, бяры сякеру, а палудневаць — прыпасай лыжку.

Над пасівелым ад попелу вуголлем у закураным кацялку даправала варыва. У тайзе чалавека звычайна корміць тайга. Не толькі ягадамі і грыбамі. У гушчарах растуць тоўстыя саладкаватыя дудкі з парасончыкамі, як на кропе. Завуць іх чамусьці «піканамі». З іх здзіраюць ружавата-зялёную скуру і са смакам грызуць малыя і старыя. Крышаць пікапы ў шчаўе і крупнік, параць у чыгунках і гаршчэчках. Тоўстыя цырубалкі плавалі і ў дзедавым кацялку.

Я ўзрадаваўся, пазнаўшы ў лесарубе дзеда Данілу. Ды дзе яго было адразу пазнаць? Звычайна сагнуты, завялы і шэры, з патухлымі слязлівымі вачыма, шаркаў ён па сяле латанымі-пералатанымі чыркамі — хадзіў часам ад аднае да другое нявесткі. Чацвёра яго сыноў не вярнуліся з фронту, жонкі даўно не было на свеце, і адзінокі дзед Даніла дажываў век у невялічкай лазні, перарobленай пад хату. Бывае, зойдзе да нявесткі, сядзе на парозе, смокча адну за другою цыгаркі з моцнага самасаду, маўчыць, толькі жмурыцца ад едкага дыму, а

можа, і так ад чаго. Вытра карычневым закураным пальцам вочы, глядзіць на ўнукаў і толькі часам уздыхае. Відаць, успамінае сыноў у такім веку, як гэтыя хлопцы, а можа, перабірае ў памяці сваё доўгае, ухабістае і каструбаватае жыццё.

Дзеда Данілу часам называлі «варнаком». Мянушка катаржніка ніяк не стасавалася да яго мяккага, зрэзанага глыбокімі разорамі, рахманага аблічча. Цяпер ён быў не такі: выпрастаўся, ускудлаціўся, расчырванеўся, у росхлісце задубелай ад поту палатнянай кашулі аж ільсніліся змакрэлыя вузлаватыя грудзі. На скручаных, як старое карэнне, руках набраклі тоўстыя жылы. Лязо вострай сякеры паблісквала, калі ён, нібы гуляючы, абсякаў свежае кучаравае голле. Пахла вільготнаю асінаваю гаркатою.

Дзед спляжыў ладную грыву гонкага асінніку, адмяраў і адсякаў шасціметровыя бярвенцы і без натугі вібіраў паз, высякаў чашку вугла, здзіраў з бервяна доўгія палосы тоўстай, мяккай кары, аж пырскала ад слізкай дзеравіны. Усё рабіў павольна, але вельмі спорна. Захлісне на чашку пятлю, перакіне цераз плячо вяроўку — слізкія бярвенні, здаецца, самі бягуць следам туды, дзе ўжо складзены свежыя вянцы зруба. Ніжнія бярвенні прывя́лі і пажоўклі.

— Што гэта вы робіце, дзядзька Даніла? — пытаюся я.

— Хіба не бачыш? — і, памаўчаўшы, дадае: — Хату.

— Якая ж з асінніку хата?

— Гэ, паря, краснае дзерава перад асінаю

не дакажа. Зальецца сокам, усохне, закасцянее — сякера адскоквае. Ні шашаль табе не паточыць, ні грыбок не завядзецца. Звон звонам хата будзе. А свежую, неакораную асіну што капусту шаткуеш. Даўней толькі з асінніку і стаўлялі.

Ён уваткнуў сякеру, сеў на слізкі хлыст і пачаў раскручваць доўгі скураны капшук. Побач прысеў і я. Плойма аваднёў лезла ў вочы, секла рукі і плечы, а каля дзеда толькі круціліся і ніводзін не садзіўся. Ён з ухмылкаю глянуў, як я адбіваюся ад заедзі:

— Адразу пазнаеш, што з Расеі. Любяць тутэйшыя павуты свежага чалавека.

— А чаму вас не чапаюць?

— Слова ад іх, ірадаў, ведаю, ды і скура на мне тоўстая — смаку таго няма,— хітра ўсміхнуўся стары.

— Не, праўда. На мне жывога месца няма, а да вас — ані блізка.

— Гэта ты ў школу хазяйсцвеннікам наняўся? Граматны, мабыць. Па табе відно. А толку з твае граматы? Павуты з'ядуць, і знаку не астанецца. Наш брат месяц тут пражыве, і ніякая трасца не бярэ,— дзед пацмокаў цыгаркаю. — Хочаш — навучу. Слухай сюды. Прыйшоў, значыцца, у тайгу. Першым дзелам кладзі агонь. Нацягай парахні, каб жа́лела толькі і дыму болей давала, лажыся і качайся ў куродыме, пакуль добра не ўвэндзішся. Акурыўся — чашы смела, ніякая халера не зачэпіць. Круціцца будзе, а сесці не адважыцца. Вычхаецца, павут знак падасць — зноў акурвайся. Онь, бачыш трухлявы пень, падкінь на вуголле і пакруціся ў дыме.

Я паслухаўся дзеда. Дым выядаў вочы, душыў і апякаў твар. Нялёгка давалася таежная навука. А як толькі вылез з куродыму, ніводзін авадзень не сеў на мяне.

Даніла не распытваў, чаго бадзяюся па гушчары і як трапіў сюды. Відаць, здагадаўся, як прыбіўся да яго. Ён закарэлаю лыжкаю зграб з варыва попел, пабоўтаў у кацялку, падаў мне з торбы новенькую бярозавую лыжку. Я памкнуўся падзякаваць і адмовіцца.

— У тайзе даюць — бяры, просяць — апошнюю скарынку разламай. Іначай тут бы і людзі пераваліся... Цяпер што? Машыны ходзяць, лектрыка гарыць, гэтыя стракозы-верталёты лётаюць. А даўней — на сотні вёрст ні жывое душы. Толькі мядзведзя ды сахатага і стрэнеш,— дзед высыпаў з торбы на траву вараную бульбу, падсунуў мне кацялок:

— Сёрбай, байкамі сыт не будзеш,— а сам адышоўся і пачаў выдзіраць з карэннямі нейкае доўгае зелле. Атрасе, патрэ аб траву і хрумстае маленькія белыя зубочкі. Запахла часнаком.

— Што гэта? — запытаў я, сёрбаючы не то крупнік, не то кашу з аўсянай мукі і піканаў.

Дзед кінуў мне жменьку зелля.

— Чарамша. Скусная, халера. Хто есць — да ста гадоў зубы як часнок. А ты малады і ўжо шчарбаты. Мне дык не верыцца, як гэта могуць зубы балець. Костка — і баліць. Дзіва! — ён вышчарыў трохі з'едзеныя але роўныя і цэлыя зубы.— А яшчэ серу трэба жаваць. Не тую, што карослівых коней парашь. Ад піхты смолкі накалупай, дай ёй прывянуць і чмякай у роце.— І заключыў: — Усё навука, браце.

Я адсунуў кацялок і хацеў падзякаваць за пачастунак. Дзед паставіў яго назад і сеў побач:

— Сёрбай, сёрбай. Абодвум хопіць, не на аднаго ж варыў.

— А на каго ж яшчэ? — спытаўся я, баючыся, што ем нечыю порцыю.

Дзед усё бачыў, усё разумеў і хуценька супакоіў:

— Вары заўсёды з паходам. Смачна запахне, глядзіш, некага бог і прынясе. Каб ты не прыбіўся, чаго добрага, і гаварыць развучыўся б. Тыдзень як тут, і хоць бы табе жывая душа.

— Не страшна тут аднаму?

— Яшчэ мой небарака бацька, царства яму нябеснае, некалі казаў: «Баючыся воўка, і ў лес няма чаго хадзіць». А я пужаны-перапужаны.

Я здзівіўся: дзед загаварыў па-беларуску. Тут, за некалькі тысяч кіламетраў ад дому, ад замшэлага дзеда пачуць родную мову! Можа, у маёй гаворцы загучала нешта знаёмае ці пачулася роднае і яму?

— Адкуль вы ведаеце нашу прымаўку, дзядзька Даніла, і гаворыце, як у нас?

— Так ужо і твая? Я от такенечкім яе чуў,— дзед спакойна сёрбаў варыва, на вусах і барадзе завісалі аскабалкі піканаў і кроплі густой аўсяніцы. Насёрбаўшыся, адклаў лыжку.— Можа, прачуваў калі, ёсць такі Барысаў-горад. Адтуль я. Зембінскай воласці, дзярэўні Сухадол. От дзе праўда: сухадол дык сухадол. Не дурны нехта прыдумаў. Пясок — як прысак. Ракіта і асот толькі і родзяць.

— Выходзіць, мы з вамі землякі,— узрадаваўся я.

— Па аднэй зямлі ходзім, значыць, землякі і ёсць. А ты ж адкуль?

Я сказаў, што мы амаль суседзі, і спытаў, ці даўно сюды дзед пераехаў.

— Чорт бы яго паехаў, каб Мікалашкавы стражнікі не прывезлі. Катаргі от пасюль нахлябаўся, а на закуску на вечнае пасяленне саслалі. Пажыў, агледзеўся і карэнні пусціў тут. А скінулі Мікалая, куды дзенешся? Дзеці абселі, кубло звіў, сваім духам сагрэў яго, карчы рваў на лядах, зямлю ўрабіў, хоць ты на хлеб маж.— Ён памаўчаў.— Усіх перажыў, адзін астаўся, як былка ў полі. Горка аднаму. А хлопцы ў мяне былі — камель у камель. З'ела вайна, і сам той ірад апруцянеў ад крыві праведнай.

Злінялыя вочы старога завільжэлі, зноў сагнулася спіна. Мы маўчалі. Толькі было чутно, як трапятала, нібы прывязаныя матылькі, асінавае лісце. Мне карцела дазнацца, за што дзеда ўпяклі на катаргу і ў вечную ссылку, але ў гэтую хвіліну няёмка было распытваць. Дзед Даніла нібы пачуў маё маўклівае пытанне і сам на яго адказаў:

— Тады, брат, ссылалі за дзела. От хоць бы я. Думаеш, увесь век быў такі рахманы? Бушаваў ззамаладу. Шайку дзяржаў. Чаго глядзіш? Не бойся! Было, ды сплыло. Не ведаў, куды сілу дурную дзець. А можа, і не дурную, ліха яго разбярэ. Пэўна, у тым Сухадоле лапці даўно адкінуў бы ці на вайне галаву б склаў. А так яшчэ калываюся. Цікава паглядзець, што са светам робіцца... Шайка мая ад Барысава да

самае Оршы грымела. Паязды чысцілі. Панкоў з першага класа ператрасалі, паштовыя і багажныя вагоны паражнілі. А з простага чалавека і волас не ўпаў. Разбіраліся. Бывала, пасвецім чырвоным ліхтарыкам, пасажырскі і стане. Тут ужо ўпраўляйся, пакуль дойдзе да станцыі і трывогу падніме. Трасянём, на коней — і дай бог ногі. Ад'едземся вёрст за дваццаць, спутаем коней, а самі спаць. Начлежнікі — паспрабуй прысукацца. А аднаго разу выпусцілі са сталыпінскага вагона арыштантаў. Казалі, паліцічаскія былі. Тут і ўзяліся за нас. Стражнікі з жандармамі ўвесь павет сталачылі. Сядзелец з манапولькі прадаў, хоць і даход яму давалі; прадаў, сука, а ў сведкі ісці пабаяўся,— стары смачна плюнуў і замоўк.

— А што далей?

— А далей — доўгая песня, браце. За тыдзень усяго не абскажаш. Прыходзь у мой катух, пагаворым, а цяпер няма калі.— Стары схадзіў да копанкі, апаласнуў кацялок і лыжкі, паклаў іх сушыцца на свежы пянёк і зноў узяўся за сякеру.

— Навошта вам так рвацца? Хатка такая-сякая ёсць, жылі б сабе паціху.

— Думаеш, сабе стараўся б так? А да дзерава я прывычны, за свой век настаўляў пяцісценак, лазень, прыгонаў, шчытай, на цэлае сяло. Усім сынам будавацца памагаў. Думаў, на старасці аддыхну і парадуюся. Аж трасцу! Цяпер унукам памагаю — сіроты ж! Разлятацца рвуцца. Адзін Гошка, можа, ведаеш, што канюшыць пры маладняку, зямлі трымаецца. І Таіска Матроніна дзеўка ў яго добрая. Пажэняцца, а са свякрухаю доўга не нажывеш. Люб-

лю яго, шэльму,— выліты бацька. Дай, думаю, хату зрублю. Мабыць, апошнюю. От закончу, складу, размечу кожнае паленца, плашак на столь начашу, тады і скажу: «Забірай, унучак». Перавязём, зробім помачы, за дзень і хату паставім. Можа, хто ўспомніць дзеда.

Ён папляваў на далоні — цюкаў, нібы гуляючы, а бервяно да бервяна прыставала, як улітае. Я залыгаў вяроўкаю слізкі акораны камель і пацягнуў да зруба, потым другі, трэці. Заедзь болей не секла мяне, на душы было спакойна і добра. Але хочаш не хочаш, а дадому трэба ісці. Я ўжо ведаў, у які мне бок кіравацца, хоць і пабойваўся, каб не збочыць і не заблудзіцца ізноў. А дзед нібы лавіў мае думкі:

— Усё адно ўсяго не перацягаеш, ды і загуляўся ты. Чаго добрага, каб шукаць не пачалі. Чашы-тка ты, міл чалавек, дадому. Сам упраўлюся.

Я чарпануў берасцяным карцом з копанкі рудаватае вады, напіўся, рэшту выліў на рукі і апаласнуў твар, адчуў свежасць і сілу.

— Дарогу хоць ведаеш? — хітра зірнуў дзед Даніла.

Я маўчаў.

— Выходзь во-о-о-нь на тую візіру, з левай рукі будуць залысіны, проста і чашы. Лажок пяройдзеш — халадком ад рэчкі пацягне, яна да паскоціны і выведзе.

Я падзякаваў дзеду і падаўся ў гушчар.

— Ты ж толькі нікому не кажы, што бачыў мяне тут. І пра хату ні слова. Кончу, сам аб'яўлюся і ўнука парадую. Па сонцу ідзі — ніколі не саб'ешся,— крыкнуў услед дзед Даніла.

Я памахаў яму рукою і выйшаў на візіру. Дым, мабыць, паспеў выветрыцца, і авадні ўсё смялей даймалі мяне. Я адбіваўся ад іх галінкаю і ішоў, жмурачыся ад сонца. Цяпер і лес павесялеў і пасвятлеў. Далёка было чуваць, як стукае дзедава сякера, а ў вушах усё яшчэ гучаў яго глухаваты голас.

# А МАЦІ НЕ СПІЦЬ

## КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ ДОЎГАГА ЖЫЦЦЯ

### *Перад засевам*

Даўней сейбіт ва ўсім белым выходзіў у поле, кленчыў у баразну, маліў зямлю і неба, каб добра ўрадзіла жыта і кожнае зерне дайшло да засекаў, чапляў на плечы сявеньку, і з шорсткай далоні ў цёплую вільготную раллю веерам разляталася адборнае насенне.

Ішла вясна — таямніца апладнення зямлі дабром, жыццём, палітым мужычым потам. Сейбіт з надзеяю і трывогаю шаптаў сваю малітву, каб узышоў, закаласіў, наліўся і выспеў ягоны засеў, каб не памалаціў град, не спаліў сухавей.

Так і я, як колішні сейбіт, укленчыў перад сваім познім засевам. Зерне да болю прарасло ў душы, што нельга далей трываць. Яно ўзышло, а ці стане лустачкаю, акрайчыкам ці хоць бы скарынкаю хлеба, замешанага на чыстай праўдзе, салёнай слязінцы і кроплях веснавога сонца.

Ці вырасце з майго засеву тое каліва, якога шукае і прагне добрая і шчырая душа?

1

У гэты світальны час усе пасажыры ў аўтобусе спалі. Хто абапёрся на сумку, напакаваную батонамі і сушкамі, хто схіліў галаву на плячо незнаёмай суседкі, хто падклаў рукі пад

лоб на жалезную спінку пярэдняга сядзення і калываўся на выбоінах яшчэ не расталай, у калатушы мокрага снегу дарогі.

У шафёрскай кабіне, каб не задрамаў вадзіцель, то гучна, то ціха іграў невялічкі транзістар. Толькі на апошняй лаўцы, сціснутая шыракаклубымі суседкамі, не спала невялічкая сухенькая бабка. Тонкія запалыя вусны часам варушыліся, нібы нешта шапталі, быстрыя, глыбока пасаджаныя вочы боязна азіраліся. Калі аўтобус падыходзіў да прыпынку, бабка выцягвала шыю і з апаскаю ўзіралася ў кожнага новага пасажыра. Рушыў аўтобус — яна спакайнела, а сон усё роўна не браў.

Абапал дарогі праплывалі голыя прысады, унізаныя сытым да бляску вараннём, мільгалі сустрэчныя грузавікі, абганялі вёрткія легкавушкі, здалёк у смузе праплывалі вёскі і вёсачкі з пасмамі дыму над комінамі, пахілыя стажкі сена, пры дарозе адскоквалі назад добра дагледжаныя аднолькавыя дамкі дарожных майстроў. Бабулька зайздросціла кожнаму, хто едзе ў свой дом, да радні, да добрых знаёмых, у цяпло светлых пакояў, дзе смачна пахне варывам, каго чакае мяккая пасцель, радасць сустрэчы з блізкімі.

І ўспамінаецца бабцы яе колішняя хата, стопка і хлеў, гародчык з вяргінямі пад акном, лапушыстыя грады, кучаравыя сланечнікі і чадны канапляны дух на ўзмежку, а яна бяжыць з даёнкаю па колкай расе. Падласка смачна меле жвайку. «Ану, уставай, галубачка». Ей і цяпер, у сонным аўтобусе, пачулася, як звоняць у дно даёнкі цёплыя струмочкі малака, а ў загарадцы рохкаюць два падсвінакі,

як з хлява цягне нашатырным духам гною і дажджавой вадой з пазелянелай кадушкі.

Гайдаецца аўтобус, цяжэюць павекі. І ўжо нешта вярзецца знаёмае на колішнім падворку: над ёю плыве ружаватая аблачынка, на сцежцы сустракае, трэцца аб ногі кот, пачуўшы пах сырадою. Зазвінела ўвушшу. Гэта ж яе Анікей кляпае касу і пускае колцы сiняватага дыму ад самасаду з саладкаватым пахам вішнёвага лісту. Прыгадалася, як у печы полымя ліжа чалеснікі і закіпае перад ім чыгунок дробнае бульбы, і сябе, неяк здалёк, угледзела, маладую, пруткую, быструю на нагу і прагнаю да работы: як упраглася ў яе недзе гадоў з чатырох, так увесь век і не вылазіць.

Аўтобус затармазіў, і яна прахапілася. У пярэднія дзверы ўсунулася шыракаклубая кабета ў зялёнай балонневай куртцы, з чырвонаю зашмальцаванаю стужкаю на рукаве. Яна трымала цыратовую кніжачку, нешта папытала ў шафёра, запісала, зычна і весела загаварыла:

— Пара ўставаць, граждане. Дома адаспіцеся. Хуценька прад'явіце білеты,— і пайшла ад сядзення да сядзення надрываць скручаныя і скамечаныя білеты.

Бабка замітусілася, замаргала маленькімі слязлівымі вочкамі, намацала ў кішэні старога паліто з аблезлым каўняром пакамечаны, ужо двойчы прастрыкнуты білет.

— А ваш, гражданачка, бялецік.

— Ёсцека, ёсцека, дзеткі, от, здэцца, і ён,— яна падала рабенькую паперчыну, падобную на магазінны чэк.

— Ты што, бабка, праспала ці прыдурваеш-

ся? Табе ж трэба было сысці дзве гадзіны назад. У-у-га! Куды закаціла.

— Відаць, такі праехала... а калі праўду казаць, на болей грошай не выстарчыла. Усяго і было дзевяноста капеек. Можа, злітуешся, галубачка, з бальніцы ж я. Хачу дагрэбціся да свае стараны. Не скідай хоць да Новага Двара, а там, можа, як і дакалываюся.

— Ох, і хітры ж народ пайшоў: усе безбілетнікі з бальніцы едуць. Бачылі вы яе? Ды на табе яшчэ араць можна. Усё на дурынку ды на дармаўшчыну папрывыкалі,— і яна выцягла з кішэні раскудлачаную квітанцыйную кніжку.— Плаці, бабка, штраф! Вунь, чытала? Што напісана? «За безбілетны праезд узімаецца штраф у размеры 5 рэ». Усякла? — і яна растапырыла тлустую шэрую далонь.

— У мяне за душэю і капейкі нямашака. Трасі не трасі,— нічога не вытрасеш. Не гані мяне, начальніца, бо не дапаўзу, саўюся дзе-небудзь у полі. Не бяры грэх на душу. Не здалею ані. А гасударству я нічагусенькі не вінная. Спаўна адрабіла за палачкі да вайны, і пасля яшчэ колькі год...

— Ты тут агітацыю не разводзь. Тваё шчасце, што не той час. За такія разгаворчыкі чырвонец шпілялі строгага рэжыму... Як твая фамілія, дзе жывеш? Гавары! Не хочаш мне плаціць, міліцыя спагоніць.

— Нашто табе мая хвамілія? Што яна табе зрабіла? Ну, Кастрыцкая я, Аўдоццяю прызываюся, а тату Анісімам звалі. А дзе жыву? І сама, галубка, не ведаю дзе. Пішы — нідзе. Была хата, ды сплыла, была і радня, ды збегла да дня. У Новы Двор хачу дапаўзці, можа, хто злі-

туецца, пусціць пад страху, а там і да Балашоўкі недалечка.

— Таварыш кантралёр, не чапайце жанчыну. Колькі трэба, я даплачу,— азваўся хударлявы мужчына ў вайсковай шапцы і ў шынялі без пагонаў.

— От і адвакат тут як тут! Самі разбяромся, не маленькія. Білетаў я не прадаю. У мяне толькі квіткі на штраф,— і яна патрэсла разбухлаю ружаватаю кніжачкай.— Лёня, звярні на абочыну. Давай, бабка, бягом на свежы воздух!

Бабуля заткнула пад хустку сівы касмык валасоў, узяла торбачку і пайшла да расчыненых дзвярэй, спынілася, глянула на пасажыраў:

— Шчаслівай вам дарогі, людцы добрыя. І вам дзякую, чалавеча,— яна пакланілася быламу вайскоўцу, ледзьве злезла з прыступкі, знізу зірнула ў расчыненыя дзверы.— А табе, служка, дажыць да мае старасці. От пабачыш, і цябе некалі выкінуць у чыстым полі.

За ёю з ляскатам зачыніліся дзверы, аўтобус рaўнуў і выехаў на дарогу. Кантралёрка падышла да кабіны і нешта засакатала вадзіцелю. Пасажыры глядзелі на яе з пагардаю і папрокам, а былы вайсковец запытаў:

— Таварыш кантралёр, дазвольце звярнуцца.

— Ну, што табе?

— Мы з вамі бачымся ўпершыню, і я вас называю на «вы»...

— Ну няхай «вы», «вы». Завыкаў. Што яшчэ?

— Скажыце, калі ласка, у вас маці ёсць?

— А табе, цьфу ты! вам, што да таго?

— Вы б і яе так выкінулі ў полі?

— Няхай не ездзіць зайцам. Прывыклі абіраць гасударства.

— Дзяржава гэтай старой, мабыць, больш вінна, чым той рубель, на які яна мусіла праехаць і якога ў яе не было. Я б заплаціў колькі трэба. Вадзіцель, спыніце машыну! Я патрабую. На бліжэйшым прыпынку куплю ёй білет.

— А за тое, што лішку праехала, хто заплоціць?

— Мы заплоцім. Спыніце! Вярніце старую,— загулі пасажыры. Аўтобус пачаў запавольвацца.

— Лёня, газуй! Бо я табе за гэтую зайчыху прыпішу такую іжыцу... Бач ты, заступнічкі... самі, відаць, зайцамі папаездзілі. Я ўсё законна. Чулі? Цяперака парадак трэ-э-ба...

— Не ўяўляю, як можна абдымаць такую... ведзьму,— нібыта сам сабе, але выразна сказаў той жа мужчына ў шынялі.

— Ну-ну, лягчэй на паваротах, разжалаваны. Магу за аскарбленне пры іспалненні і ў суд пацягнуць. Унь колькі сведак.

— Гэтая мажэ. А сведак у цябе, квактуха, не будзе,— секанууў юнак у штучнай дублёнцы.

Аўтобус прытармазіў, кантралёрка шуснула на абочыну, заўсміхалася і шматзначна памахала шафёру.

— Чаму вы не паслухаліся нашай просьбы, вадзіцель, і не ўзялі гэтую няшчасную бабульку?

— Ого, паслухай! Гэтая чувырла накатае такую цялегу, хоць бяжы з работы, а прагрэсіўку і трынаццатую забудзь.

— Як яе прозвішча? Я гэта так не пакіну.

— А чорт яе ведае. Сцерва, адным словам. Зінкаю, нібыта, завуць. Яе ўся шафярня баіцца. А бабку ўжо не вернеш. І мне яе шкода. Машына жалезная, ёй чалавек не ў знак. Хай бы сабе ехала.

Пакуль жыве чалавек — думае, пакуль думае — жыве. Дзе б ён ні ішоў, што б ні рабіў, думкі не пакідаюць ніколі: круціцца ў галаве незабыўнае далёкае і ўчарашняе, светлае і балючае, як верад.

Пастаяла ў снежным брудным жужалі на прыпынку Аўдоцця. Грузавікі, аўтобусы і легкавушкі распырсквалі мокрыя снежныя камякі. Мільгалі спакойныя, задаволеныя, а то і сонныя аблічча ў цёплых і ўтульных кабінах. Вецер шкуматаў на бабулі канцы зношанае шаліноўкі, пранізваў выцертае паліто, пачыналі стынуць ногі ў суконных бурках з галёшамі.

Яна паныла глядзела на дарогу, не ведаючы, куды падацца. Убіцца ў які-небудзь аўтобус і праехаць яшчэ колькі кіламетраў не адважвалася, каб зноў такая ж не выкінула, як стары атопак, на дарогу, ды яшчэ, чаго добрага, здасць у міліцыю, а там спавядайся: хто ты, што ты і адкуль. Яшчэ пра Паўліка дапытаюцца і нашкодзяць яму. Як-ніяк, а роднае адзінае дзіцятка. Хай яму бог даруе, а яна, мажа, і не прападзе: недзе ж ёсць добрыя людзі.

Пастаяла, падумала, куды падацца. У прыдарожных паселішчах людзі звераныя, асцярожныя да чужога чалавека, ляпнуць перад носам клямкаю, і тупай далей. У дальніх сялах яшчэ трохі ёсць спагады і жалю. Можа, дзе і ўдасца прыхінуць галаву. Але ні злева, ні справа ніякіх паваротак не было. Надумала

дайсці да першай бакавое дарогі, будзе ж нейкі знак, і падацца ў бліжэйшае сяло.

Яна ішла паўз самую канаву, забітую наздраватым, набрынялым у адлігу снегам. Азірнулася, ці далёка адышла ад таго прыпынку, дзе яе выпхнулі з аўтобуса. Як ні ўглядалася, а ў шэрай каламуці ўсё яшчэ быў відзён слупок з бляшанаю дошчачкаю, падобны на крыж, а каля яго ўжо стаялі дзве невыразныя постаці. Ногі прамоклі і заходзіліся ў старых бурках, ад ветру слязіліся вочы і казытала ў носе, клуначак з яе дробным скарбам цяжэў і цяжэў, яна яго прывязала за спіну, увагнула галаву супроць ветру, а ён з шоргатам хвастаў мокрымі махрамі спадніцы, раздзімаў канцы хусткі, як пер'е на лядашчай вароне, а ў галаве татахкалі і звінелі малаточкі.

У памяць наплывалі з туману мінуўшчыны асобныя дні яе маладосці, кароткага і горкага замужжа, у чырвоным зарыве і дыме, галашэнні, стрэлах і выбухах, неадольным страху і цярпенні накочваліся ўспаміны вайны. Яна адмахвалася ад іх, як ад жахлівых прывідаў, спрабавала засланіцца нечым святлейшым, але так і не здолела ўспомніць нічога радаснага ў сваім доўгім і горкім жыцці.

З нізкай цёмна-шэрай хмары пасыпаліся буйныя снежныя крупы. Яны балюча секлі шчокі і закляклыя рукі. Толькі цяпер агледзелася, што рукавіцы, пэўна, забыла ў тым аўтобусе. Яна ніяк не магла ўцяміць, куды ідзе — уперад ці назад,— усё было замглёнае і невыразнае, у рáгах снежных круп часам мільгалі ўключаныя фары машын. А колькі да таго Новага Двара, і спытаць няма ў каго, толькі сякуць шчокі снеж-

ныя пісягі ды мільгаюць крывавымі вочкамі габарытныя агеньчыкі. Стаяць, адвярнуўшыся ад ветру, лягчэй, але ж трэба ісці, каб хоць да ночы дагрэбціся да якога прытулку. Аўдоцця зноў пайшла насустрач ветру. Ёй здавалася, што яна адна, як тычка, на гэтай дарозе і на ўсім свеце. А нехта ж гэтаю парою сядзіць у цёплай хаце і не дбае, што недзе адзінокая душа не можа прыбіцца ні да якага прытулку.

За што такая горкая старасць выпала ёй за ўсе пакуты, за дабро, якога яна ніколі не шкадавала людзям? Тут секанула балючая думка: «Сама вінаватая, дурніца, паверыла, паддалася на ўгаворы, захацела лёгкае жыткі, а, нічога не робячы, і чалавек нічога не варты. Захацела на сынавым ды нявестчыным хлебе давекаваць... Казалі ж колісь, што бог карае за дурнату і залішнюю дабрату. От і пакараў: ні двара, ні кала, рук няма за што зашчаміць. А ў сваёй хаце яны б яшчэ пракармілі яе. Чаго ж цяпер бедаваць, і ўпікнуць няма каго, і не пажалішся нікому. Нічога не вернеш і не перайначыш. Да горла падкаціўся тугі камяк, што і не пракаўтнуць, а па шчоках плывуць ці то кроплі расталага снегу, ці слёзы. Але трэба некуды ісці, каб на гэтай бязлюднай дарозе зусім не звіцца ад холаду. І яна пайшла далей, не адважваючыся папрасіцца, каб падвезлі, а сам ніхто і не думаў спыняцца.

Так яна са сваімі думкамі прайшла яшчэ кіламетры са тры і ўбачыла слупок з працягнутым, нібы рука, указальнікам: «Маленчыцы 2,5 км». Ёй здалося нешта знаёмае ў гэтай назве. Ці не сюды гэта некалі ездзіў яе Анікей на кірмаш? Здэцца, адсюль прывёз котную авеч-

ку. Яна дала добры прыплод. Тады і разжыліся на воўну і на кажухі, баранінай паскароміліся. Калі ж тое было? Ого-го! І не ўспомніць. Маладая была, скорая ў рабоце, а ручачкі чаго толькі не папаварочалі. Тады гаспадару паталаніла, можа, і ёй пашанцуе хоць заначаваць пад страхою ў гэтых Маленчыцах. І пайшла па расхлюпанай палявой дарозе.

Снежныя крупы ўжо білі не ў твар, а ў правы бок. У снежнай калатушы намоклі буркі, у галёшах хлюпала вада, дрыжыкі праціналі ўсё суханькае цела, гарэў толькі твар і не сціхалі ў скронях звонкія малаточкі. Белая мітульга засцілала ўсё перад вачыма: ні тае вёскі не відно, ні лесу, што звычайна аблямоўвае ўсе палескія паселішчы. Часам выплывалі з белай крутаверці замеценыя кусты і прысады.

Аўдоцця з торбачкай за плячыма цаляла ў цвярдзейшыя каляіны, па якіх, відаць, зранку яшчэ ніхто не праехаў. Ісці было ўсё цяжэй і цяжэй: трымцела ўсярэдзіне, ногі станавіліся, як наліўачы. Ці вецер, ці стома, ці нейкая немач хісталі Аўдоццю з боку ў бок, і яна маліла бога, каб толькі не зваліцца ў мокры снег, не зайсціся ў чужым полі, і ёй зноў успаміналася цёплая хата, дух свежага хлеба ў зырка напаленай печы, гул ветру ў коміне; а на чарэні дасыхалі яловыя трэскі — пахла смалою і лесам, на нізкім зэдліку перад лаваю перавязваў хамут яшчэ зусім малады яе Анікей.

Не сказаць, каб яна тады без памяці была закаханая ў яго, але так ужо выйшла, што не да доўгіх любошчаў было, паслухалася і стала з ім пад шлюб. Потым прысохла да яго, бо іншых не ведала, тройчы раджала яму дзетак...

Астаўся адзін Паўлічак. Усю душачку яму ўклала, усё дачыста аддала, як той казаў, і хату, і лапату, а цяпер адна аднэю, як хлудзіна ў полі, калываецца пад ветрам на незнаёмай дарозе. Куды яна ідзе і куды прывядзе. А ісці трэба, бо нічога не выстаіш: прысядзеш пачакаць адхлання, заклякнеш і не ўстанеш, замяце снегам, як тую купіну, да вясны ніхто не знойдзе і шукаць не будзе. Яна ж, як тая парушынка, згубілася ў гэтым вялізным свеце.

Шлёп-хлюп, хлюп-шлёп — ідзе Аўдоцця Кастрыцкая ў Маленчыцы... Як праз радно, паказалася антэна на даху. Прынюхалася — пацягнула з коміна бярозавым дымком.

Разбітая гусеніцамі трактароў і коламі грузавікоў селавая вуліца цягнулася на ўзгорак. Над голымі прысадамі стаяла высозная таполя з буслянкаю на саменькім версе. Амаль усе хаты былі пад шыферам, ашаляваныя і памаляваныя ў блакітны, зялёны і жоўты колер. Ад іх, здалося, пасвятлела вуліца, сцішыўся вецер, больш не хвастала шчокі снежная сечка. Уздоўж вуліцы замест студняў стаялі чыгунныя калонкі, бадай на кожным даху тырчала тэлевізійная антэна. Значыць, вёска не апусцелая, не занядбаная,— уцяміла змардаваная дарогаю і немаччу бабка Кастрыцкая. Можа, тут сельсавет ці цэнтр саўгаса. Іх жа цяпер куды болей, як калгасаў. Раней саўгасы былі толькі ў колішніх маёнтках, а цяпер усе заняпалыя гаспадаркі дзяржава ўзваліла на свае плечы і неяк сточвае канцы з канцамі. А ў гэтых Маленчыцах, відаць, канцы моцныя.

Стукацца ў якую-небудзь хату Аўдоцця не адважвалася і саромелася. Што яна скажа?

Хто яна? Куды ідзе? Жабрачка? Не паверадь — жабракоў у нас няма. Бесхацінец? Куды ж дзелася хата? Дзе жыла дагэтуль?

Няўжо расказваць усё, як ёсць? Адны паспагадаюць, другія не павераць, трэція скажуць: «Так табе і трэба, дурная баба. Сама сябе абакрала, цяпер сноўдайся, як таўкач у ступе». Ды яшчэ нараяць судзіцца, спаганяць ліменты. З кім судзіцца? З родным дзіцем? Не, лепей ад сцюжы зайсціся ў гэтым полі, чым нарабіць такога сораму. Ды і дзе яго шукаць? Гукай — не дагукаешся, крычы — не дазавешся. Сама вінаватая. Сама. Сваімі рукамі ўсё чысценька аддала. Каб была разумнейшая, жыла б у сваёй хаце, на калгаснай пенсіі, і горачка б не мела... Не, што не кажы, а яе Паўлічак добры. Гэта тая падкалодзіца збіла яго з панталыку, забрытала і тузае, як неаб'езджанае жарабя.

Па увліцы, валюхаючыся з боку на бок, у блішчастай ад мазуту целагрэйцы, гэтакіх жа ватніках, азызлы і няголены, у перавернутай на патыліцу шапцы ішоў мужчына няпэўнага веку, нешта мармытаў сам сабе, размахваў рукамі, а ўгледзеўшы на вуліцы незнаёмую кабету, растапырыў абдымкі, нібы хацеў злавіць яе:

— Кы-ы-ш, старая квактуха! Куды прэшся ў чужы гарод? Ха-ха-ха,— зарагатаў шырокім, як халява, шчарбатым ротам.

Аўдоцця папраўдзе спалохалася, штурханула брамку ў двор першай жа хаты і нерашуча ўзышла на ганак. «Ах, каб ты сінім полымем гарэў, мачыморда»,— прашаптала бабуля, а той яшчэ гучней зарагатаў: «А-а-а, і ты да Нюр-

кі. Не баісь. Раз барматуху ўжываеш,— свая». І асіпла заспяваў:

Не дасі мне барматухі,
Каб цябе стапталі мухі,
А не курыш і не п'еш,
Дык здаровенькім памрэш.

У хаце нехта адхінуў цюлевую фіранку, мільгануў шчакасты жаночы твар. Аўдоцця хацела сысці з ганка і тупаць далей, але яе ўбачылі і немалад што могуць падумаць, можа, зладзейкаю палічаць, даганяць пачнуць. І бабуля ўвайшла ў сенцы. Яна ўпоцемку намацала дзверы і ціха пастукалася. Дзверы адчыніліся з сярэдзіны. На парозе стаяла высокая чарнявая маладзіца ў зялёным шарсцяным плацці.

— Што скажаце, гражданачка?

— Смага замучыла... Можа...

— Ідзі, ідзі, бабка. З дзвюх гадзін адпускаю, а дома не трымаю. Онь і той сквалыга заяўку песняком падае.

— Ды не, галубачка, я не ўжываю. Мне б вады глыток.

— В-а-ады? А калонкі хіба замерзлі? Ну, не выстуджвай хату. Туды ці сюды.

Аўдоцця пераступіла парог чыстай прасторнай кухні.

— Мне б вады глынуць, смагу перабіць,— хоць не так піць, як есці хацелася ёй.

— А куды гэта ў такую нягоду нялёгкая гоніць?

— І сама толкам не ведаю. Можа, тут дзе прыстанішча найду: дзіцятка каму паняньчыць, хату дагледзець.

Маладзіца зачарпнула кубачак вады:

— Пі, бабка, ды правальвай. Ні нянькі, ні

пакаёўкі не трэба. На работу тараплюся. О-о-о,— зірнула яна на вялікі насценны гадзіннік,— пара магазін адкрываць.

Аўдоцця нехаця дапіла цеплаватую ваду, каб не пакідаць недапіткаў, падзякавала, выцерла губы тыльным бокам жылаватай рукі, спытала нясмела:

— Можа, нараіце да каго зайсці.

— Не, не, нічога не ведаю. Ступай, ступай, бабка.

— Дай вам бог, здароўя.

Маладзіца зачыніла за ёю дзверы. Пакуль Аўдоцця намацала клямку ў цёмных сенцах, пачула з хаты грубы мужчынскі голас: «Хто гэта там бразгаўся?» — «Нейкая валацуга. Відаць, пахмяліцца закарцела. Зранку ледзь на нагах стаіць. А трасцу. Мяне не купіш. Вучаная. А ты спі».

Ад абразы і крыўды падкаціла пад горла, па шчоках паплылі слёзы, бабка выцірала іх пакручанымі ад даўняга раматусу пальцамі і адчула, як гарыць яе твар, а ў скронях звініць і коціцца пошчак. Ногі гнуліся, як распараныя лазіны, у галёшах і бурках чвякала вада. У галаве бытта лопнула і тонка-тонка зазвінела струна, у вачах закруціліся зялёныя, чырвоныя, сінія знічкі. Яны выляталі з глыбіні зрэнкаў, мільгалі, разляталіся, меншалі і знікалі, іх даганялі іншыя і раставалі імгненна. Але яна трымалася на нагах, хапалася рукою за штакеціны гародчыкаў, перастаўляла набрынялыя стомаю ногі, не ведаючы, куды ідзе.

2

Некалі маленькай Аўдотцы здавалася, што ўвесь свет стаіць на балоце, а пасярод яго, на астраўках — хутары, як іхні, а за імі — дрыгва, хмызнякі, куп'ё, рудая ржа булькае ў «воўчым воку», квокча, пускае бурбалкі; угінаецца твань, дзе станеш, а паперадзе надзімаецца пухіром. Ступай барзджэй на рэзкую асаку і хуценька пераскоквай на хісткую купіну. А не паспееш,— сарвешся ў тарфяны халодны жужаль. А яму і дна няма. Колькі люду пазасмоктвала дрыгва. Каб не гінуць у балотнай твані, з хутара на хутар, на журавінавае куп'ё хадзілі з граблямі за плячыма: заграз па самае «годзе», кідай перад сабою граблі, чапляйся імі за купіну або куст і сам сябе старайся выцягнуць. Добра, калі ў лапцях, а як у ботах,— сарвуцца з ног, і памінай як звалі.

На хутарах абыходзіліся ўсім сваім — куплялі толькі соль, цвікі ды шкло на шыбы. Можа, раз у дзесяць гадоў, у самыя лютыя маразы, калі ўсе зласесныя прадухі замуруе тоўсты лёд, бацька прабіваўся па цаліку некуды аж за край свету — у Глуск або ў Любань. Дні праз тры варочаўся з гасцінцамі і двума кулямі солі, скруткамі паркалю, прывозіў стаўбунаватую галаву цукру ў сіняй паперы. Абгортку да дзірак вылізвалі дзеці. Бацька загадваў зажмурыцца і выцягваў з-пад світы доўгія цукеркі, загорнутыя ў ружовыя стужкі з кутасамі, для маці — шаліноўку, Антолі, трохі старэйшай за Аўдотку,— чырвоныя і жоўтыя каснікі. Гэта было самае чаканае і доўгае свята. І час адлічвалі да таго і пасля таго, як татка ездзіў у мястэчка.

А з першых праталін аж да снегу — работа і работа ад цямна да цямна. Зімою трашчыць на прыпечку лучына, да поўначы смакчы кудзелю, ляскай кроснамі, зранку цягай каровам і коням сена, рэж старою касою сечку, цягай з крыніцы ваду, каб напаіць статак, адкідай снег са сцежак, пілуй дровы, навожаныя яшчэ з зімы. І зноў гадоў дзесяць, пакуль не звядзецца соль, бацька нікуды не выберацца. Да апошняй на хутары Аўдотчынай зімы ў хаце ўсё яшчэ вісеў партрэт цара Мікалая, а пад бэлькаю ляжалі перавязаныя дратваю «кацярынкі». Чуў недзе бацька, бытта скінулі цара, але не вельмі верыў, што могуць ляснуць такія грошы.

Зямля была вакол хаты — тарфянікі і пяскі, падзол, а дзе-нідзе і добры лапік. Гною не шкадавалі, і радзілі жыта і грэчка, картоплі і проса, а грады лапушыліся, як гай. На нізкую саламяную страху хаты звісала голле старое дзічкі. Гнілак хапала на ўсю зіму: замерзнуць на вышках, грымяць, як каменні, а растануць — саладзей за цукар. І журавіны, як ружовыя каралі ў інеі, ляжалі на кулявой саломе на гарышчы. Слівы і вішні раслі за хатаю. Сена рабі, колькі ўправішся. І рабілі, калі выпадала сухое лета: падсохнуць блізкія балаціны, касі, толькі не лянуйся. Як мурашкі, дружна жылі і рабілі на хутары, жылі, каб рабіць, свету божага не бачачы. І сямейка была ладная: двое сыноў і дзве дачкі. У меньшанькай Аўдоткі хапала сілы і спрыту, як толькі стала на свае ножкі, на работу ў хаце, на загоне і пры скаціне. І бацькі, не перастаркі, улягалі ад цямна да цямна, забываліся пра святы, лепшым святам быў добры ўмалот, поўныя засекі і кубельцы. Шынкі і па-

ляндвіцы сохлі ў падстрэшшы. Добрыя жорны з чыгуннымі набойкамі малолі як на пытляванку. Так і жылі — лепшага не бачылі, а горшага не было.

Цяпер гэта ўсё ўбачыла Аўдоцця, нібы зноў была маленькаю, потым падлеткам, а там і паненкаю налілася. Бацькоў бачыла яшчэ не старых, пахі бацькавага тытуню і матчынага нейкага асаблівага поту адчувала так, нібы яны былі побач. Лазні на хутары не было. Каб памякчэлі валасы, мылі ў гарачым лузе, а самі пялёскаліся ў ночвах пасярод хаты. Перш жанкі, пасля мужчыны.

Раптам усё закруцілася, паплыло і знікла ў нейкай чорнай прорве. Кажуць, перад смерцю ў чалавечай памяці прамільгне ўсё яго жыццё — яшчэ раз усё перапакутуе, пацешыцца кароткімі радасцямі, перш чым развітаецца з белым светам. Усё пражытае здавалася яваю, а мяккі ложак з сеткаю, тумбачка ў галавах, падсіненыя марлевыя фіранкі і галубіныя стогны ў паддашшы здаваліся трызненнем, нечым неіснуючым, несапраўдным, пустою мараю.

Расплюшчыўшы вочы і добра ўгледзеўшыся, Аўдоцця пачала здагадвацца, ці не ў бальніцы яна, а як трапіла сюды, успомніць не магла. Ныла ўсё схуднелае цела, нібы яго мялі ў цёрніцы.

У палату ўвайшла невысокая чарнявая маладзіца з белым стаўбунком на галаве, у хрусткім халаце. Вузкія броўкі ўзняліся, як ластаўчыны крылцы, цераз шыю закінуты гумавыя трубкі з блішчастымі наканечнікамі, спынілася каля ложка, ласкава ўсміхнулася, павіталася па-простаму «дабрыдзень», падняла з коўдры

лёгкую Аўдоцціну руку, доўга слухала, пад паху паставіла тэрмометр, мяккую халаднаватую далоньку паклала на лоб, прысела на ложак.

— Ну, як мы сябе адчуваем?

— Здэцца, яшчэ дыхаю. А дзе гэта я, галубачка? А? Чаго гэта мяне сюды занесла, ніяк не ўспомню.

— Не хвалюйцеся. Вы ў бальніцы. Даставіў наш шафёр. Вы на вуліцы страцілі прытомнасць, з высокаю тэмператураю паступілі да нас. Паглядзім, якая цяпер,— доктарка дастала тэрмометр.— Ну, вы зусім малайцом: за суткі жар упаў на два і адну дзесятую. Цяпер скажыце ваша прозвішча, як зваць, год нараджэння. Хворая назвала сябе, сказала, што нарадзілася на другі год, як пачалася тая, першая, вайна з германцам. Доктарка ўсё запісала.

— А дзе жывяце?.. Адрас пытаюся ваш.

— Няма ў мяне, дзеткі, адрасу.

— Вы ж недзе жывяце.

— Цяперака тут, з тваёй ласкі, а выжанеш, пайду шукаць прыстанку...— уздыхнула, памаўчала,— быў і адрас, і хата свая была, усё было, ды сплыло.

— Можа, тут радня якая ёсць?

— Не, нікога.

— Як жа трапілі сюды?

— Звярнула з шляху, ішла, пакуль ногі трывалі, ухапілася за нейкі плот, павяло ў бакі, адале — замарачэнне нейкае і... нічагусенькі не помню, ані нічагусенькі.

— Добра, вы стаміліся. Адпачывайце,— сказала доктарка і знікла за дзвярыма.

У Аўдоцці самі апалі павекі: яна сапраўды адчула стому і млявасць. У скронях усё яшчэ татахкала маленькая кузня, а сон не браў. У заплюшчаных вачах плылі то сінія, то ружовыя туманы, то яснела неба над іх балотным хутарам — за вясною прыходзіла парнае лета: з дрыгвы ўзнімаліся хмары камарэчы, здракоў і машкары, усё ныла і гайдалася ад іх звону, як шалёныя, пазадзіраўшы хвасты, гізавалі каровы, а коні, ссечаныя аваднямі, раўлі і падалі ў аглоблях. Заедзь бязлітасна секла і людзей, працінала прапацелыя зрэбнікі; рукі, шчокі і плечы, нібы ў каросце, былі ў пухірах. Успомнілася, і раптам тут, у чыстым ложку, засвярбела ўсё цела.

Аўдоцця маліла бога, каб тут прыбраў яе, каб нікуды болей не ісці, нічога і нікога не шукаць, і яе ніхто ніколі не знойдзе на невядомым пагосце. А памяць, як той звадыяш, вяла і вяла яе ў далёкую маладосць, і ўсё было такое выразнае, нібы яна зноў вярнулася туды, дзе з твані плылі сівыя туманы, цягнула балотным чадам і хмельным духам пераспелага багуну. Успомнілася пякельная работа з досвітку да змяркання, салодкі сон на пахкім сене, і зноў работа і работа без загаду і прымусу прыспешвала палоць проса, жаць запалавелае жыта, касіць, грэбці і стагаваць сена, выбіраць картоплі — усё само падганяла і прыспешвала.

А зімы?! Бясконцыя цёмныя зімы на замеценым снегам хутары: заінелая ліпа, нібы ў летнім убранні, далёкае зорнае неба і злавеснача чырвоны месяц над хмызнякамі, доўгія вечары пры лучыне за прадзівам і кроснамі. Хоць далей хутара яна нідзе не была і нічога не бачы-

ла, а душа ўсё некуды рвалася, нечага прасіла і чакала. Бацька часам расказваў, як недзе людзі жывуць у вялікіх сёлах — хата пры хаце, ходзяць разам на попрадкі і вечарынкі, ездзяць на кірмашы, а ёсць яшчэ мястэчкі з цэрквамі і крамамі, а ў іх — усё, што душачцы заўгодна.

Так і жыла яна да тае лютае зімы, пакуль на іхні хутар не дапяў балашоўскі старшыня Піліп Барсюк з маладым леснікам Анікеем. Піліп вельмі ж грозна сварыўся на бацьку, чаму ён не запісаў свой хутар у сельсавеце, чаму не плаціў ні падатку, ні страхоўкі, ні самаабкладання, не здаваў збожжа ў закуп. А бацька, той ніколі і не чуў пра іх. Жыў сабе, як жылося: яго не чапалі, і ён нікому не замінаў — рабіў, каб пракарміцца, карміўся, каб рабіць.

Вельмі ж усхадзіўся той сельсавецкі начальнік, як угледзеў на покуці побач з Георгіем Пабеданосцам у раме, шурпатай ад мушыных слядоў, партрэт цара Мікалая. Піліп аж заекатаў ад злосці: «А гэ-т-та хто ў цябе такі? Мікалашка? Га? Неплацельшчык і контра, значыць — маёнтак сярод дрыгвы схаваў ад Савецкай уласці і думаў, не знойдуць». Старшыня рвануў з крука Мікалая, бразнуў аб падлогу, нібы кручаны, заскакаў па ім, толькі з хрустам пасыпаліся з-пад абцасаў шкляныя пырскі. А ціхмяны Анікей падпёр плячом слясак, утаропіўся на спалоханую Аўдотку і не зводзіў з яе вачэй.

Яна і сама часам заглядалася на сябе ў пачарнелае люстэрка або ў празрыстую калюжыну: на пругкія грудкі спадалі дзве тоўстыя касы, вочы гарэлі, як асеннія знічкі, шчокі крамяніліся даспелым яблыкам, уся яна была лёг-

кая і статная, гнуткая, з маленькімі зграбнымі ножкамі. Уся яе імклівая душа трымцела ў незразумелым чаканні і стоме. Яна часта прачыналася ноччу, глядзела на марозныя ўзоры на шыбах, усыпаныя каляровымі бліскаўкамі, азораныя блакітным святлом месяца. Чула, як варочаюцца, шэпчуцца і сапуць на палку за печчу тата з мамаю, тады Аўдотка знарок пачынала храпці. Пад бэлькаю трашчаў цвыркун, недзе далёка вылі ваўкі, а Пудлік толькі скавытаў ад страху ды грымеў ланцугом каля свірна.

Божа літасцівы, гарачка столькі наблытала ў галаве! І ўсё было. І жаласны погляд Анікееў успомніла, і як Піліп бушаваў за сталом: запісваў, колькі зямлі. А хто яе мераў? Колькі кароў, свіней і коней, колькі коп жыта нажаў, колькі капцоў картоплі. Бацька пакорліва адказваў і ніяк не мог уцяміць, чым ён вінаваты перад гэтым чалавекам. Раптам Піліп злосна запытаў: «А бандзюкі часта сюды заходзяць пагрэцца і пашамаць?» Бацька хрысціўся, што ні сном ні духам нічога не ведае пра бандзюкоў. «Ну, ну! — ляпнуў па стальніцы Піліп.— Бабцы расказвай, нам усё ізвесна. Акапалася тут контра, зашыліся ад Саветаў і думаюць перасядзець да новага Мікалашкі. Трасцу! Думалі, сам прыдзеш у Савет, а ты затаіўся і маўчыш».

«Не хаваўся я, чалавеча, нікуды. Паспрабуй з гэтай дрыгвы куды вылезці, боўтнеш, і ваўкі не знойдуць. А тут і дзед і бацька звекавалі, ляды карчавалі, жылы рвалі, пакуль разжыліся, і пахаваны о-о-нь там у хвойнічку. А мне што? Кінуць-рынуць усё мазалём нажытае? Пятуюся як Марка ў пекле, і яны,— кіўнуў на сям'ю,— адхлання не бачаць. Чужога і каліва

тут няма, ні крадзенага, ні купленага — усё сваім гарбом загаравалі. А ты, чалавеча, крычыш. Каму вінен, няхай прыйдзе скажа, расчытаюся да каліва»,— асмялеў бацька. «Дурня не строй, стары. Гасударству вінен за столькі гадоў. Дэзерцір прадналогавы. Гэта ж трэба, а? Неучцёны сельсаветам...»

А той Анікей маўчыць і з Аўдоткі вачэй не зводзіць. Унь Антоля — старэйшая і пазарнейшая, дык на тую і не гляне, а да яе, як прыліп. Загадаў Пілiп Анікею распрэгчы каня, даць сена і паставіць у стайню. Бацька нешта шапнуў маці і пайшоў памагаць Анікею.

На прыпеку верашчала яечня на дванаццаць вочак. Доўга прыезджыя начальнікі вячэралі, гаманілі, курылі папяроскі. Сёстры пасламіся на печы, гасцям саступілі ў каморы ложак.

Піліп пад галаву паклаў наган і наказаў, калі хто ноччу зойдзе ў камору, прыстрэліць на месцы. Браты Уладзік і Зміцер спалі пад старым кажухом на падлозе.

Праз тыдзень зноў прыджгаў на хутар Анікей, і не адзін, а з лясніччым, такім паважным, акулярыстым, з люлькаю, і гаварыў неяк не папростаму. На стол паставілі пляшку, высыпалі больш за фунт цукерак, ёй Анікей накінуў на плечы квяцістую шаліноўку, на палец узаткнуў пярсцёначак, стаў перад татам і мамаю на каленцы, нізка пакланіўся і ўсчаў прасіць, каб аддалі за яго малодшую дачку. Для ўсіх гэта было як пярун сярод яснага неба. Адгаворваліся, што перш трэба аддаць старэйшую, Антолю, а Аўдотка яшчэ маладзенькая, дурненькая, нідзе на людзях ніколі не была, чужых цураецца, ды і рабіць не будзе каму, а яна ж здатная і жаць,

і ткаць, і малаціць, і стагі вяршыць, усё аж гарыць у яе руках.

Анікей і слухаць не хоча, і ляснічы ўгаворвае, хваліць свайго лесніка, а ляснік божыцца, што на руках будзе насіць жонку, не дасць, каб і слязінкі было ў яе вочках, каб і волас упаў з галавы. Бацькі ўпінаюцца, але не вельмі, відаць, цану набіваюць, кажуць, што падумаць трэба і пра пасаг падбаць. Анікей — на сваім: яму і пасагу не трэба, абы Аўдотка пайшла за яго, а ў нявесты ніхто не пытае, нібы на рынку старгоўваюць нейкую рэч. А ёй і хочацца вырвацца з гэтае багны, да людзей бліжэй, з гэтай егіпецкай работы хоць трохі вылузацца.

Доўга бацькі саймаваліся, думалі і так і гэтак, пакуль не здаліся. У мясаед такі прапілі Аўдотку. Паплакалі з мамкаю і Антоляю, і паехала яна ў вялікае сяло Балашоўку — у хату чужую, да маткі чужое, да чужых людзей. А яна ж была дзікаватая і палахлівая, не ведала, як з кім абыходзіцца, што казаць, як каму дагаджаць. Праўда, Анікей яе вучыў і настаўляў, што да чаго, угаворваў ласкава і песціў, як малое дзіця. І маці яго была добрая кабета — далікатна паказвала, што рабіць. А сяло было доўгае і людное. Па суботах гулялі вечарынкі, у буднія вечары [illegible] прасніцамі ды песнямі дзяўчаты і маладзіцы да суседзяў ішлі на попрадкі.

Анікей часта толькі цёмначы варочаўся з абходаў, то ў лясніцтва ездзіў, то аб'ездчыкам кляйміў лес і адводзіў дзялянкі. Аўдотка нудзілася адна, чакала і выглядала яго неўпрыкметкі цераз акенца. Анікей быў ласкавы і вясёлы, з твару відны, у касці шырокі і дужы. Бялявыя валасы непаслухмяным крылом падалі на лоб,

вочы ясныя, усмешлівыя, а рукі мяккія, як спавівачы, абдымалі яе. Маці часам усміхалася і бурчала: «І не абрыдла. Як маленькія, ліжацеся». Анікей абдымаў і маці і ціха гаварыў: «За службаю, мамачка, і жонку можна страціць, а яна ж у мяне адна на векі вечныя. Татку, зямля яму пухам, не было калі вельмі мілавацца, от вам і за́відна. Ха-ха-ха!» — заліваўся смехам і ішоў на дрывотню калоць яловыя цурбаны.

Хутка Аўдотка пачула невядомае слова «калгас». Анікей ёй тлумачыў: «Калі ў сям'і кожны будзе сам па сабе, ні хаты, ні лапаты не агораеш, а як усе разам возьмуцца, і лягчэй, і спарней работа пойдзе. Гэта сям'я, а тут усё сяло разам выйдзе на ворыва ці на жніво, можна горы звярнуць. От Савецкая ўласць і робіць калгасы, каб людзям лягчэй было ўсю зямлю абрабляць разам, коней — у адну стайню, кароў — у адну абору, на работу — талакою, што заробіш — палучы: усё агульнае, толькі жонка ў кожнага свая»,— і Анікей зноў абдымаў сваю Аўдотку. А яна ніяк не магла ўцяміць, як гэта можна некуды аддаць сваю кароўку, каня, свінчо, застацца з пустым хлявом, не ведаць, каторы твой загон. Гм, усё агульнае. Гэта ж не кожная сям'я ў злагадзе жыве, а тут столькі людзей! Хто з імі зладзіць?

У тую зіму кожны вечар загадвалі на сходы. Нехаця ішлі мужчыны ў колішні папоўскі дом. У ім два пакоі займаў сельсавет. У іншых — паразалі сцены і зрабілі вялікую зборню.

Гаспадары стараліся зашыцца ў які цёмны кут, каб не вытыркацца, не кідацца ў вочы, туляліся адзін за аднаго, прыглушана гаманілі, смалілі лютым самасадам. Як толькі за чырво-

ным сталом з'яўляліся старшыня сельсавета Піліп Барсюк і невялічкі, кудлаценькі, у хромавай тужурачцы раённы ўпаўнаважаны таварыш Белкін, усе змаўкалі і каторы ўжо раз слухалі адно і тое ж. А кудлаценькі Белкін хуценька трашчаў, як наняты, і ўсё трос маленькім бледным кулачком, абзываў мужчын сабатажнікамі, падкулачнікамі і падпяваламі, а ўсіх разам — несазнацельным элементам. Гразіўся прыціснуць цвёрдым заданнем, індывідуальным падаткам, раскулачыць.

Удвух з Піліпам яны кожную ноч мардавалі мужчын. Тыя прэлі ў кажухах, хаўкалі, як рыбы на пяску, ад задухі, аж лямпа хліпала і тухла, тады на шкло клалі трэсачку дзеля цягі і зноў насядалі, каб хто запісаўся першы. А пісацца нешта ніхто не спяшаўся. Піліп то гразіўся, то ўпрошваў: «Хочаце ці не хочаце, а калгас будзе, дык не мардуйце сябе і нас. З нас жа атчот патрабуюць. Працэнт давай, а вы, як бугаі неразумныя, упінаецеся. Нічога, добрая дратаванка зрушыць!»

Мужчынам цяжка было аддаць усё, нажытае дзядамі і бацькамі, зробленае крывавым мазалём, палітае горкім потам. А тут аддай скаціну, свірны звязі ў адно месца, насенне ссып у адзін магазін. У аднаго яно чыстае, як сляза, у другога напал з гірсою, а кароўка падпускае толькі сваю гаспадыню, у другое даёнку выб'е за парог і палавіны малака не аддасць. Як жа жыць пустадомкам, калі ў парожнім хляве будзе толькі вецер скавытаць. Як яно разам рабіць давядзецца: адзін ніводнага досвітку не праспіць, пры зорах толькі ў хату ўпаўзе, а другі — лайдак лайдаком, што муху сагнаць лянуецца з

уласнага носа, спіць, пакуль сонца ў зад не прыпячэ, а то па фэстах ды кірмашах гойсае, коней мяняе: за адну падлу прывядзе дзве, потым шкуры сушыць на плоце. Ён — вечны бядняк, нямоглы і самы сазнацельны, ён падасца, каб ехаць на чужым гарбу, хоць сёння абагуліць старую дугу і пабітыя калёсы, а сам будзе туляцца ў халадку, як сабака ад мух.

А чаму бедны, каб спытаў? Саветы ўсім роўна зямлю раздалі — гектар на душу, коней, кароў панскіх слабшым гаспадарам за паўцаны паступілі. Адны за якія два гады разжыліся, пабудаваліся і поўныя свірны напакавалі, хлеб і да хлеба маюць. Іншыя ж на тым жа надзеле галотаю і асталіся. Яны ў камбедзе, у перадавіках, сазнацельныя, гатовыя апошняга ката абагуліць. Яны папісаліся, а гаспадары рагочуць: «Такі калгас не заробіць і на квас».

А Піліпу мала тых лайдакоў, працэнт яму трэба, от ён і трасе наганам і аж сіпне, крычучы: «Гэта класавая контра завялася, агентура міравога капіталу палкі ў калёсы ставіць, а калі ўраг не здаецца, тады што робяць? Га? Уніста-жаюць як клас. І ўністажаць будзем, не паглядзім ні свайго, ні чужога, а сплош калекцівізацыю правядзем, духі вон і кішкі на целях вон! Панятна?»

Часам мужчыны не змоўчваюць на тыя абразы: «Дзе ты бачыў тых ворагаў у нас? Гэта мы ворагі Савецкай уласці? Яна ж нам зямлю дала, хлебам во-о так накарміла, вочы расплюшчыла, а ты — ворагі! А хто з пілсудчыкамі ды балахоўцамі біўся? Унь Амяллян у самога Будзённага ордзен палучыў, а Цімох Салянскі цераз што на дзераўяшцы скача? А гаспадар!

Кожнаму тое мецъ, бо жылля не шкадуе, бо жыць хоча як чалавек. Дык гэта ты яго кудлачыць будзеш?» Піліп аж якоча: «Агіціруеш, перараджэнец і факцічаскі падпявала, на кулацкі млын ваду льеш?» Потым падыходзіць да кожнага з ліхтарыкам, бліснe кожнаму ў вочы. Той круціць у бакі галавою, а ён загадвае: «Пішы, таварыш Белкін, сабатажніка». Тут ужо апаноўвае страх, каб папраўдзе не загрымець у тую Сібір. Прыязджалі і з раёна ўпаўнаважаныя, дык тыя распісвалі такі калгасны рай, што і паміраць не трэба. Каб жа тады людзі ведалі, як потым разжывуцца калгасы, паглядзелі на цяперашнія «Аснежыцкія», «Рассветы» ды «Верцялішкі», хто б упінаўся? Самі бегма беглі б. А пад прымусам, куды б ні гналі, а падавацца боязна. На добрае чалавек ідзе самохаць, невядомага — апасаецца, а калі сілай цягнуць,— упінаецца і выкручваецца. Яму на слова цяжка верыць — паглядзець трэба, тады другая рахуба.

У тую зіму ні ў адной хаце ніхто спакойна не спаў, лыжка рот драла, кавалак у горле ўпоперак станавіўся. Ведалі гаспадары, што не адкруцяцца, а цягнулі, не маглі ніяк расстацца з нажытым крывавым мазалём.

Неяк досвіткам Аўдотка выскачыла ў склеп, а як толькі вылезла з міскаю салёных гуркоў, аж чуе: сусед Гарасім у некага пытаецца:

— Чуў?

— А ты хіба што казаў?

— Я-то не казаў. А чаго ўсю ноч сабакі заходзіліся?

— Можа, дзе воўк падкрадаўся ці ліхога чалавека пачулі.

— Кажаш, не чуў? Гэта ж у Барсюка стралялі.

— І такі застрэлілі?

— Дзе ты бачыў! Кажух толькі шротам пасеклі нейкія партачы.

— От шкода...

— Чаго табе шкода?

— Кажуха. Чаго ж яшчэ? Барсюк жа цэлы.

— І дзякаваць богу, а то ўсё сяло ператрэслі б. І так бяды будзе. Кажа, от каб на столечкі лявей — капцы б Піліпу.

— Кажух новы, а стралок храновы, не пачакаў, пакуль здыме.

— Табе ўсё смешкі з дзедавай булавешкі. Праўда, стралялі,— пераконваў Гарасім, а той, што стаяў за дрыўмі, зноў выскаляўся:

— Матрона хоць папаласкала яго галіфэ, каб смуроду меней было?

— Ты б, Канстанцін, калі бога не баішся, людскіх вушэй і языкоў асцерагаўся. За такія разгаворчыкі сам ведаеш, куды падаянкі возяць.

— А я што? Я ж нічога. Кажуха пашкадаваў, і толькі, а Піліп няхай сабе жыве. Калі не ён, другі ноймецца, і яшчэ, калі хочаш, мудрэй узачне.

І пакацілася па сяле погаласка: ноччу цераз акно нехта страляў у Піліпа Барсюка. Онь і шыба падушкаю заткнута. Гэтую размову Аўдотка запомніла на ўсё жыццё, бо з таго дня пачалося і яе гора. Тады ж у Балашоўку наехала міліцыя і з ёю нейкі важны брытагаловы начальнік. Прывезлі рудога з натапыранымі вушамі ваўкадава. Пакруціўся ён пад акном Піліпавай хаты і ўсё лапамі ў дзверы драўся. Казалі, што цюцька следу не ўзяў, быццам той стралок

на лыжах падкраўся, стральнуў і — драла, а цяпер шукай ветру ў полі: колькі па той дарозе прайшло і праехала, не злічыш.

Піліп аж заходзіўся, што кулакі ўжо ў Савецкую ўласць страляюць, што даўно пара іх усіх — пад корань, падтыкаў тых, на каго зуб меў. Іх цягалі ў цёмную, дапытваліся, дзе быў, што рабіў тою ноччу. А што робяць ноччу? Ведама,— спяць. Дваіх такі ўпяклі на тры гады па падазрэнню, а праз нейкі год выпусцілі. Барсюк ужо насіў наган на папружцы зверху, дзірку на рукаве не даваў цыраваць, паказваў ён яе, як баявую рану, і расказваў, як стрэлілі, а кажух быў накінуты толькі наапашкі, гэта і ўратавала.

Пра стрэл у Балашоўцы пісалі газеты, пра мужнасць і самаахвярнасць у барацьбе за новы калгасны лад Піліпа Барсюка гаварылі на сходах, а ён адставанне ў калектывізацыі тлумачыў супраціўленнем класавых ворагаў і агітацыяй варожых элементаў.

Начамі ў сельсавеце збіраўся актыў. Клікалі туды і Анікея. Толькі тады дазналася Аўдоцця, што ён партыйны. Прыходзіў позна, доўга не мог заснуць, уздыхаў, варочаўся, выходзіў курыць. Жонка дапытвалася, што з ім, а ён аднекваўся і маўчаў. Потым прызнаўся, што хочуць яго сарваць з леснікоўства і пасляць у калгас брыгадзірам. «Не ведаю, як яно будзе далей, а пакуль што добрага мала. Спісы ўсё нейкія складае Піліп, да вашых загальскіх хутароў дабіраецца».

І дабраўся-такі: наехалі з раёна ў шынялях і ў хромаўках актывісты і апошнім, ледзь трывушчым зімнікам падаліся на балотныя хутары.

Загадалі ўсім збірацца ў дарогу, браць адзежу, харчы, посцілкі, коўдры, збожжа выграбалі да зярняці, ссыпалі ў мяхі і скрыні, цяглі кублы сала, усё грузілі на сані, залыгвалі кароў, вязалі свіней і авечак і кідалі ў палукашкі. Рову, віску, мэкання і галашэння было болей, як на пажары. Жанкі біліся лбамі аб вушакі і сцены, цалавалі парогі, ірвалі на сабе валасы, пхалі ў клункі зёлкі з роднай зямелькі, выносілі абразы, а іх вырывалі з рук і кідалі ў студні.

Піліп з памагатымі ўсіх прыспешваў: «Давай, давай барзджэй! Што, прыпякло кулацкім выпладням?! Марш бягом!»

Сані і капыты правальваліся на падталым зімніку, людзі ішлі пехатою з малымі дзецьмі на руках. Пасля балота на Балашоўку паехалі спарней. Там толькі пакармілі коней перад дальняй дарогай. На дзесяць падвод далі аднаго актывіста з вінтоўкаю.

Аўдотчына свякруха праз акно ўбачыла гэты пакутніцкі абоз, пляснула рукамі: «Палянь, дачушка, ці не вашы гэта едуць?» Ухапіла Аўдотка хустку, накінула на плечы паўкажушак, а на вуліцы плач і галашэнне. Адшукала сваіх, кінулася да мамы, да Анатолі, цалавала, залівалючыся слязамі: «А на каго ж мяне пакідаеце, а за што ж вас гоняць за свет?» — «За тое, дачушка, што гаравалі свой век, як чорныя валы, што свету божага не бачылі. Хоць ты застанешся на роднай зямельцы, будзе каму памянуць нас. Ой, на пагібель вязуць нас». Браты сядзелі, як скамянелыя, бацька толькі шморгаў носам, безнадзейна разводзіў рукамі, нібыта яму мову адняло.

Аўдотка хацела ўсё кінуць-рынуць, кульнуц-

ца ў сані і ехаць са сваімі ў тую халодную Сібір. Але дзе ты кінеш, калі ўжо ўсярэдзіне варушыцца нешта жывое і жаданае. Ды і Анікей такі ласкавы і спрытны, свякруха, як маці родная. А ці ж можа быць, каб людзей, спрадвечных гарэтнікаў, ні за што ні пра што зганялі з дзедаўскай зямлі? Думалася, разбяруцца разумнейшыя за Піліпа і ўсіх вернуць назад. Аж і ён ад сораму не згарэў — паявіўся-такі з тым кудлаценькім Белкіным каля таго пакутніцкага абозу. Наслухаўся праклёнаў і галашэння і ўцёк у сваю кантору.

Снег пачарнеў і асеў, набрыняў талаю вадою — дарога ні санная, ні калёсная. Піліпу карцела хутчэй выпхнуць з сяла абоз, каб часам не затрымаўся тут надоўга. Ён зноў выскачыў і загадаў рушыць. Тут ён угледзеў Аўдотку, цыкнуў, не паднімаючы галавы: «А ты чаго тут круцішся?» І — да Белкіна: «Яўственна кулацкая дачка. Онь як заліваецца. Можа, і яе прыабшчыць? Хітрая — за нашага лесніка сваяўрэменна выскачыла. Между протчым, у настаяшчае ўрэмя ён яшчэ парцейны». Белкін нешта буркнуў, Піліп махнуў рукою і загадаў: «Марш дадому, а то і ты загрыміш!»

Не паслухалася Аўдотка пагрозаў Барсюка, пайшла за бацькавымі санямі за аселіцу: нагаласіліся, панадрывалі сэрцы ўсе разам. Доўга яшчэ, як тычка, стаяла яна далёка за вёскаю на разбітай абозам змакрэлай дарозе, пакуль у сівой мітульзе не прапалі апошнія сані. Памкнулася рынуцца ўслед, закрычала «ма-а-а-мачка!» і загаласіла наўзрыд. Яе захістала з боку ў бок нейкае замарачэнне: звалілася б, каб не абняла прыдарожную аблузаную хвою. Колькі пра-

стаяла і як прыплялася дадому, не помніла, звалілася ў чым была на ложак і залілася слязамі. Свякруха зняла з яе паўкажушок, развязала хустку, пагладзіла па галоўцы: «Паплач, паплач, дачушка, лягчэй будзе, а гору ўсё адно не паможаш. Можа, разбяруцца большыя начальнікі, можа, і вернуцца твае. Гэта ж Піліп пасля таго стрэлу як кручаны стаў. Сваю Матрону грызе да чарнаты, на ўсіх крычыць: «Пад корань!» А як самога сekануць, дык і не агледзіцца».

Можа, каб Піліп не ўгледзеў каля абозу, усё б і абышлося, а то, хоць і таварышавалі з Анікеем, на яго напусціўся — навошта з кулацкім адроддзем злыгаўся і не перавыхаваў жонку ў класавай непрымірымасці. Кажа: «Сам перараджэнец і яму не месца ў радах парцейцаў. Жонку да бацькоў адправіць, а яго з партыі склюзыць».

На што добрае, а на злосць Піліпка быў здатны: выключыў-такі Анікея з парцейных. Але і той не паддаўся: дайшоў аж да саменькага верху і дабіўся свайго — усё яму вярнулі, а Барсюку наківалі, каб не вельмі заядаўся з людзьмі, адзін час нават перагібшчыкам лічылі, а ён выкручваўся як уюн — да самае вайны бушаваў: усё ворагаў вынюхваў. Бывала, хто што вякне па дурноце, Барсюк прылжэ, напляце, чаго таму і не снілася, глядзіш — загрымеў чалавек, як у пельку боўтнуў. І Матрону сваю без дай прычыны папругаю хвастаў. Залье зенкі чужым самагонам, уваліцца ў хату і давай бушаваць, чаму дзяцей няма, яе, няшчасную, вінаваціць, а сам, кажуць, нутрэц недапечаны.

Неяк перад вялікаднем збіў Матрону на чорны яблык. У сінякаx, у распаласаванай кофце прыбегла яна да Аўдоткі спагады шукаць. У бядзе ж кожны хоча, каб яго пашкадавалі, каб хоць выслухалі яго горачка, не памаглі, дык хоць паспагадалі. Доўга расказвала Матрона пра свае пакуты, прызналася, што не раз думала рукі на сябе налажыць, потым прыхінулася і зашаптала ў саменькае вуха. Аўдотка аж аслупянела ад пачутага. Піліп сам страляў праз акно па сваім кажусе: прыпнуў яго да рамы, далёка за поўнач выйшаў з хаты, на дарозе стаў на лыжы, стрэліў у акно, сам з'ехаў на дарогу, па якой сена возяць, лыжы да-а-лё-ка закінуў у кусты, у хату вярнуўся ў нейкіх атопках ад валёнак, укінуў іх у печ і спаліў, каб і знаку не было. А Матроне ўклаў у вуха халодную рульку нагана і наказаў, калі пікне каму — капцы на месцы. Сказала і спахапілася бедная кабета: «Аўдотка, здуру прызналася. Цяпер жытка і смертачка мая ў тваіх руках. А сказала — і на душачцы палегчала, нібы камень зваліла. Думаю, кончуся, ніхто і ведаць не будзе, а так няхай застаецца. Пакляніся, што нікому не скажаш, дзіцяткам, што носіш, пакляніся».

Паклялася Аўдоцця і стрымала слова, але ніяк не магла ўцяміць, навошта трэба было Піліпу дзіравіць свой кажух. Растлумачыла Матрона: «Заеўся з людзьмі, дык у калгас не надта спяшаюцца, а яму трэба апраўдацца, што ворагі замінаюць, што ўжо страляюць у Савецкую ўласць, гэта ён — тая ўласць, значыць, трэба іх нішчыць. От і пазнаходзіў кулакоў, падкулачнікаў і контру. Усё начамі спісы спісваў — на каго зуб меў. А любіць ён толькі сябе ды таго,

каго баіцца, хто над ім. Пасля таго стрэлу яму пачот за верную службу. Онь якім асэсарам ходзіць. Слова скажаш — «дурніца», «варона», «заткніся». Божа, божа, як ад яго адкасацца? Кінуць-рынуць? А дзе дзенешся? Гэты з-пад зямлі дастане: баіцца мяне, як чорт ладану, бо ведаю пра яго такое, што не прывядзі гасподзь. Гэты і ў мяне мажэ праз акно стрэльнуць. Скажа, кулакі забілі замест яго, такога важнага. Ён на ўсё здатны».

І праўда — на ўсё.

Перад вайною выгналі Піліпа адусюль. Цягаўся па вёсках на сляпым кані — косці, шкуры збіраў. Матрона сышла ад яго ў мястэчка. Ткала там асінавую стружку. Тым і кармілася. Ён пакідаўся трохі, пашукаў і заціх. Такі ж лагодны стаў: усё апраўдваўся, што яго прымушалі так рабіць, а замест падзякі, от — сляпы конь і караўкі на возе. Хацеў то да аднае, то да другое ўдавіцы прыстаць, але каму ён такі трэба? Пакуль быў пры пячатцы ды нагане, кожнаму гарачага сала за шкуру заліў. Ад злосці піў да ачмурэння, часам нейкія заваляшчыя бабы з сінякамі на мордзе цягаліся за ім. Спусціў з хаты ўсё — стол, тапчан ды лава асталіся, а п'яны ўсё яшчэ казырыўся ды кулакамі трос: «Чакайце, Піліп яшчэ сваё пакажа! Няпраўда, вернуць усё, што аднялі! Я яшчэ па-а-а-кажу!»

І паказаў-такі. Ды яшчэ як.

Як толькі ў тую чорную нядзельку ўкацілася шэрае вараннё з чалавечымі чарапамі на шапках, калі куродымам пайшлі сёлы, а смерць полымем пакацілася ад свірна да свірна, ад хаты да хаты, матухна мая, адкуль спрыт узяўся ў таго Барсюка?! То ледзьве сноўдаўся зарос-

лы і пратухлы падлаю, а то збрыў казлінную барodку, прычапурыўся, улез у воўчую шкуру і завыў на ўсю зяпу: «А-а-а! Бальшавіцкія морды, паплачаце ды паенчыце цяпер у мяне. Усіх выкажу». І праўда, бегма пабег да нямецкага каменданта на сабачую службу наймацца, выказваць, дзе хто быў, што рабіў, чые мужы парцейныя, а сыны ў камсамоле састаялі. Пакалацілася ж і яна. Анікея перад самаю вайною ў войска на зборы ўзялі, так да саменькага канца і дабыў. А ў яе ўжо двое дзетачак прыбыло, свякруха — спрацаваная нездалека. Не прызнаваліся адна адной, што ўсё калоціцца ўсярэдзіне ад страху. А гэты ірад унадзіўся да яе, бач ты яго, любошчаў закарцела, а калі не, кажа, заяўлю, што бальшавічка і гаспадар парцейным састаіць, а ты ў яго дудку іграла, выказвала, каго раскулачваць трэба на Загальскіх хутарах.

Ах, думала, каб цябе разачка рэзала, як жа ты не апруцянеў ад слёз людскіх, ты ж і выкаціў усіх самых гарэтнікаў, што ні дня ні ночы адхлання не мелі, што зямельку сваімі ручачкамі пеставалі. От гэта былі б калгасныя работнікі, яны за зямлю жытку б паклалі. Думаць думала, а хіба ж скажаш? Ён жа зноў з нaганам, ды яшчэ аўтамат на шыі боўтаецца. Выкручвалася, як магла, тулялася па чужых хлявах і гарышчах. Пыталася, хіба мала яму бяздзетных маладзіц? А ён сваё: «Як убачыў цябе на тым хутары, каб не было тае торбы-Матроны, адбіў бы ў Анікея. Усе гады з галавы не выходзіш, перабірайся да мяне, а бальшавічаняты няхай са старою жывуць. Сілаю браць радасці мала, сама прыйдзеш — азалачу. Даю табе срок тры дні. Не прыйдзеш, крумкачы твае костачкі

на Бярозавым балоце расцягаюць». Бачу, нявыкрутка. Немцы ўжо па падтычках Барсюка страляюць і вешаюць, у Германію гоняць. А ён вераю служыць і клянецца начальству, што шкодзіў Саветам, таму і выключылі адусюль.

Свякруха і кажа: «Не адчэпіцца, ірад. Ратуйся з дзеткамі. Хоць у лес падавайся. Там жа людзей нашых поўна, а я, можа, хату дапільную, пакуль вернуцца нашы».

Паслухалася. Звечара сабрала торбачку прыпасу, абулася як трэба, тры кофты — на сябе, дзве хусткі. А ноч выдалася туманная, хоць у вока пары, і падалася шукаць ратунку, каб потым дзетак забраць. Далёка ў пушчы жыў стары палясоўшчык Дубінчык. Некалі з Анікеем служыў, і таварышавалі доўга. Калі жывы, думала, не выгане, дасць хоць агледзецца. Пакуль дзеці з бабаю дома, можа, і не змікіцяць, што маці сышла. Пад раніцу прыбілася да тае леснічоўкі. Трасцу, думала, цяпер не дастанеш. Ужо і немцы баяліся ў лес паткнуцца: усё часцей пастрэльвалі нашы па іх. Дык гналі бобікаў. Толькі сунуцца тыя — назаўтра хаўтуры.

Дубінчык жыў удваіх са старою. Гародчык мелі пры хаце, калод з пяць пчолак, кароўку, свінчо. Узрадаваліся яны Аўдоцці, усю ноч распытвалі, што там на сяле. Дзівіўся стары, што Піліп прадаўся гэтай навалачы, юдам стаў, сваіх людзей даядае, хоць і раней быў шэльмаю без розуму і сумлення.

Днём Аўдотка памагала на гародзе і ў хляве ўпраўляцца і ўсё думала, як сюды перабавіць малых Змітрыка і Волечку. А што са старою і хатаю будзе? Пачакае, а там падцікуе момант, скокне дадому і прывядзе дзетак. Барані божа,

дазнаецца гэты аспід, дзетак і старую са свету звядзе. Хату, можа, не спаліць, каб і свая не занялася, а там у такой цеснаце і ўсё сяло дымам зайграе.

З тыдзень пакутавала Аўдотка ў леснічоўцы. Дубінчык некуды часта адлучаўся, а куды хадзіў, і баба яго не ведала. Начамі лес гуў, старая хвоя шаргацела веццем па страсе, дзіцячым плачам заходзілася сава, а Аўдотцы здавалася, што недзе побач галосіць яе Волечка і гукае яе. На світанні да стажка падыходзяць ласі. Дубінчык ім ставіць карытца з вадою, дзікам сыпле бульбы, каб не паласкаліся ў разорах.

Цёмнай поўначчу нехта ціха-ціха пастукаўся ў шыбу. Сэрца ў яе ўпала: ну, думае, канцы. Дапяў і сюды ірад. Ускочыла з палацяў, нацягнула спадніцу, хацела схавацца ў склепе пад падлогаю. «Не бойся, дачушка. Гэта свае. Чужыя прыкладамі гасяць у дзверы, а гэта нашы». Стары ў споднікаx выйшаў у сенцы, два разы кашлянуў і адкінуў завалу. У хату ўвайшлі тры цёмныя постаці. Нехта шэптам спытаў: «Чужых няма?» — «Ад чужых бог мілаваў, а свая адна прыбілася».— «Хто такая?» — «Анікея, можа, чуў, Кастрыцкага баба. Гэты Пілiп-жывадзёр ёй не дае збыту, дык сюды прыджгала. Трэба неяк ратаваць маладзіцу. У сяле свякруха з дзецьмі засталася, і іх трэба неяк вывесці адтуль. Тут, відаць, доўга не ўседзіш: не фрыцы, дык бобікі дапнуць у мой «маёнтак».

— Дзе яна, таварыш Кастрыцкая? — спытаў прастуджаны голас.

Нехта падышоў, бліснуў у вочы ліхтарыкам. Яна заплюшчылася. «Прабачце, што патрывожылі. Калі можаце, падыдзіце, калі ласка, да

стала». Яна хуценька сабралася, прыгладзіла валасы, падышла да стала, а зуб аб зуб ляскае, як у ліхаманцы. Той жа сіплы голас спытаў: «Вам холадна? Надзеньце што-небудзь».— «Не, не холадна. Сама не ведаю, чаго калачуся». І раптам супакоілася. Тым часам праз шыбы працадзіўся слабы досвітак. Аўдотка прыгледзелася: за сталом сядзеў высокі чалавек у вайсковай фуражцы, худы і вусаты, у целагрэйцы, перацягнутай цераз плячо папружкаю. Нешта знаёмае было ў яго абліччы і трохі асіплым голасе. Невысокі хлопец з аўтаматам падпіраў плечуком слясак, другі сядзеў каля акна, а нехта, чуваць, тупаў за хатаю.

— Прыпомніце, таварыш Кастрыцкая, усё, што бачылі і чулі ў Балашоўцы. Ці многа там немцаў, дзе стаяць, якая ў іх зброя, колькі машын, дзе размясціліся камандзіры? Каго ўдалося завербаваць ў паліцыю? Што Барсюк прадаўся, нам вядома.

Аўдотка моўчкі прыглядалася да чалавека за сталом.

— А хто ж вы будзеце, ніяк не пазнаю?

— Не бойся, маладзіца. Кажы ўсё, як на споведзі,— супакоіў Дубінчык.— Нашы яны. Парці-за-ны. Паняла?

— Завуць мяне дзядзя Сцёпа, а болей нічога і ведаць не трэба.

Тым часам добра развіднела, і яна пазнала, што распытвае яе ніякі не Сцёпа, а раённы партыйны сакратар таварыш Краўчанка. Ён жа яшчэ пры Анікею заходзіў неяк да іх. І Аўдотка ўсё да парушынкі расказала, дзе што ў Балашоўцы стаіць, у чыёй хаце камендатура, дзе за аселіцай укопаны кулямёты, у чыіх свірнах

стаяць машыны. Дзядзя Сцёпа ўсё запісаў, а потым у блакноціку намаляваў селавую вуліцу, квадрацікамі адзначыў кожную хату, хлеў і свіронак. Аўдотка сказала, дзе хто жыве, ён панапісваў прозвішчы, крыжыкамі і кружочкамі нешта паадзначаў. Падзякаваў і скамандаваў: «Світае. Будзем збірацца, хлопцы».

— А што ж мне рабіць, таварыш секратар?

— Ніякага тут сакратара няма. Запомніце — Сцёпа, дзядзька Сцёпа. А што вам рабіць, падумаем і дадзім знаць. Дзяцей трэба будзе забраць, і вас перавесці ў надзейнае месца. Вы нам будзеце патрэбны.— На тым і развіталіся.

3

Пасля запалення Аўдоцця ачуньвала ходка. Як толькі стала на свае ногі, па сваёй і суседняй палаце маленькай селавой бальнічкі пачала снаваць, як чаўнок: слабым падавала піць, ляжачым — неабходную пасудзіну, знаходзіла анучы з швабраю і перацірала падлогі ў сваёй і суседняй палаце, мыла вокны, прыносіла з тытана гарачую ваду.

Дакторка, Арына Аляксееўна, сварылася на яе, каб не вельмі шчыравала, бо можа адкінуцца хвароба, што вось і гарачка пад вечар падскочыла. Сварыцца сварылася, а сама была рада, што ў палатах яе ўчастковай бальніцы зіхаціць усё. Санітарку на мізэрную зарплату было не наняць, таму догляд разлічвалі на самаабслугу хадзячых хворых. А тут знайшлася такая бабулька, што ні прымушаць, ні прасіць не трэба — за ўсё бярэцца сама, ды так, што прыходзіцца ўкарочваць яе спрыт.

Таму Арына Аляксееўна не спяшалася яе выпісваць. Як жа без Анісімаўны абысціся? Яна і ў амбулаторыю, як мышка, прашмыгне, усё ператрэ, перамые, паставіць на сваё месца, нібы так і было, прытупае ў палату, шмыг пад коўдру, нібы нікуды і не выходзіла.

Пры ўчастковай бальніцы — амбулаторыя, дзве палаты для першай гаспіталізацыі цяжкіх хворых; штат — урач, сястра, акушэрка, месца санітаркі пустуе. Арына Аляксееўна падумвае, каб мець такую работніцу, як Кастрыцкая, але пакуль што гаварыць пра гэта не адважваецца, бо толкам не ведае, адкуль яна, куды збіраецца пасля выпіскі. На пытанні яна адказвала неахвотна і няпэўна: ехала з ваенага гарадка, адстала ад аўтобуса, звярнула на Маленчыцы пагрэцца і адпачыць, бо вельмі ж калаціла яе, і галава расколвалася. Як трапіла ў бальніцу, не памятае. А куды ідзе? Адзін адказ — у сваю старану. Вось і ўсё, што дазналася дакторка ад Аўдоцці. У вольную часіну Арына Аляксееўна запрасіла Аўдоццю Анісімаўну ў свой невялічкі кабінецік. Агледзела, паслухала, абстукала ўсю, знайшла яшчэ хрыпы, раіла быць у цяпле, ужываць больш тлушчаў, піць малако з мёдам, берагчыся ад прастуды.

Аўдоцця слухала, ківала галавою, часам уздыхала і глядзела ў акно сухімі злінялымі вачыма, нібыта яна недзе далёка-далёка, слухае дакторку і не чуе яе.

— Вам зразумела, Еўдакія Анісімаўна?

— Чаму ж не? Толькі дзе ўзяць тое маселца ды малачко з мёдам? У мяне ж пакуль што — ні кала ні двара, ні прыстанішча. Іду ў белы свет як у капейку. Дзякаваць богу, снег сышоў,

пакуль тут вылежвалася ў вас, дай вам бог здароўечка. Каб не вы, звілася б недзе ў завейным полі, груганы даўно б костачкі расцягалі. Мо і лепш было б, не замінала б нікому. Але што ні кажы, а і старому жыць хочацца: такой добрай жыткі прычакалі, хоць парадавацца, як людзі добрыя жывуць.

— Радня ў вас ёсць?

— А як жа, е, е. Сынок у мяне. Гэтым, як яго, прапаршчыкам работае, і ўнучачка е.

— Дык вы да сына ішлі?

Доўга маўчала Аўдоцця, глядзела, як за акном у лужыне купаецца верабейка, як на галінцы, усыпанай зіхоткімі кроплямі, гайдаецца сінічка... Уздыхнула і ціха загаварыла:

— Маніць, галубачка, грэх, а праўда такая, што зразу не раскажаш, ды і развучыліся людзі праўду казаць, усё хлусяць і хлусяць, выхваляюцца адно перад адным, прыхарошваюцца, як васпаватая дзеўка перад кавалерам: я і такая, я і сякая, лепшых і ў свеце няма, а замуж усё адно ніхто не бярэ. Потым адумаемся, што хлусня з панталыку збіла, павойкаем, паб'ем сябе ў грудзі, што не будзем больш, а забудземся і зноў вярзем адно аднаму німалад што і вачэй ад сораму не заплюшчваем — абыралі. Хлусім, аж самі пачынаем верыць, а збоку відно. Калісь жа казалі: «Бог не цяля — бачыць круцяля». І я, старая, даруйце ўжо мне цяжкі грэх, нешта пляла вам не тое, што трэба. А расказаць усю маю жытку — і веку не хопіць. Пакуль качалася тут на казённых падушках, усё перадумала, усё з саменькага маленства пе- ражыла ды перапакутавала, а расказаць... Цяперашнія наўрад ці і веры дадуць. Адным сло-

вам, праўду кажучы, бабылка я. Ісці няма куды і прыхінуцца няма дзе. А ісці трэба. Не бойся, не застануся. Я пайду. Пайду, як скажаш. Дзякую за спагаду,— Аўдоцця памкнулася пацалаваць руку дакторцы.

— Што вы такое надумалі? Гэта ж наш абавязак — лячыць і спагадаць.

— Ой, галубка, да абавязку трэба яшчэ душачку мець.

— А вам хачу прапанаваць застацца пакуль што ў нас. Вы нам во-о так патрэбны, ды і акрыяеце тут.

— З мяне ж, галубачка, як з таго казла,— ні воўны, ні малака.

— Вы зробіце вялікую ласку і хворым і мне. Гэта бачаць усе: як толькі сталі на свае ногі, ніхто не прасіў, самі навялі такі парадак у палатах і ў амбулаторыі. Падумайце і згаджайцеся.

— А дзе ж мне жыць?

— Пажывяце пакуль што ў мяне. Мы цяпер засталіся ўдзвюх з дачушкаю. Муж на курсах, а яна ў мяне хваравітая. Смешна, праўда? У доктара і хваравітае дзіця. Мяне часта і ноччу выклікаюць, дзяжурыць даводзіцца, а мая Галінка адна баіцца, плача, не пускае. Спадзяюся, вы пасябруеце з ёю. За работу дадзім зарплату санітаркі, і я не пакрыўджу.

— Ой, галубачка, і сама не ведаю, што тут казаць.

Угаварыла Арына Аляксееўна папрацаваць у бальніцы і пажыць у яе.

Дамок урача стаяў побач з бальніцаю. Сцены з тоўстага смольнага бруса зіхацелі кроплямі загусцелай жывіцы. Каля вялікіх акон ла-

пушыліся фікусы, на падаконніках тырчалі калючыя стаўбункі кактусаў; ашаляваны ганак зіхацеў ружовымі, зялёнымі і жоўтымі шкельцамі. У трох прасторных пакоях было ўтульна і чыста. На сцяне вісеў прыгожы дыван з жоўтымі, зялёнымі і чорнымі ўзорамі па чырвоным полі. Паміж кухняю і залаю быў невялічкі цёмны калідорчык. У ім паставілі вузкі тапчанок для Аўдоцці Анісімаўны.

Яна не стала развітвацца са сваімі аднапалатніцамі, бо цяпер тут была яе работа: пакуль хварэла, прыбірала за так, цяпер будзе ўсё рабіць па абавязку, бо нанялася на службу і сіні мультановы халат змяніла на белы, шапачку выдалі такую, як у доктара. Жанкі з палаты пацяшаліся: «Прафесар». Аўдоцця толькі ўсміхалася.

На работу яна прыходзіла рана. Перш прыбірала ў амбулаторыі, грэла ў бачку ваду, кіпяціла шпрыцы і пінцэты, выцірала пыл, з мыльным парашком вышароўвала падлогу, тады ішла ў палаты. Там яшчэ ляжалі дзве яе знаёмыя кабеты — адна, як і яна, з запаленнем лёгкіх, другая, сухенькая сівая, даўно пакутавала ад язвы страўніка. У мужчынскай ляжаў трактарыст з адкрытым пераломам нагі. Ледзь не штодня мурзатыя члены яго брыгады разам з кавалкам сала і галоўкаю часнаку пранасілі ў пакеце з-пад малака «гаручае». Ад яго трактарыст дурнеў, плёў несусвеціцу, аднойчы выпусціў з-пад пахі мыліцу і так грымнуўся, што ледзь не прыйшлося сточваць другую нагу.

Аўдоцця завяла свой парадак: дзверы — на зашчапку, «падаянні» хворым брала толькі сама, усё правярала, а пакет з «гаручым» двойчы

выкідала ў памыйніцу. Ледзь не з кулакамі накінуўся на яе маладзенькі трактарыст: «Што ж ты робіш, старая карга? Не хочаш малако перадаць? Вярні, самі спажывем. Ух ты, варона з мінулага стагоддзя. Жызні не панімаеш. Я т-т-абе зенкі выкалупаю»,— і тыцнуў пад самыя вочы растапыранымі пальцамі. Аўдоцця хвастанула па руцэ мокраю анучаю і працягнула на далоні дванаццаць капеек на пакет малака. Болей той хлюст не прыходзіў у водведкі.

У палаце яшчэ ляжаў хлапчук пасля апендыцыту і дужы, з рудою чупрынаю, хлопец з прапоратым фінкаю бокам. Казалі — даскакаўся на вечарынцы, лез да ўсіх сляпіцаю, пакуль нехта ўпоцемку не парнуў пад рабрыну. А хто — так і не знайшлі. Усе хворыя слухаліся новую санітарку, бо яна глядзела за імі, як за малымі дзецьмі.

Управіцца і бяжыць дадому. А там яе ўжо чакае не дачакаецца Галінка. Яна параскладала на канапе свае лялькі, здымае з іх сукенкі і загадвае спаць. Пачула, як рыпнулі дзверы, і бегма бяжыць насустрач бабцы.

— Ну, што мне рабіць з імі?

— А што?

— Не слухаюцца, не хочуць спаць.

Бабка павесіла на цвік каптанік і хустку, скінула буркі і ў адных суконных шкарпэтках пайшла следам за Галяю.

— Ім жа распранутым холадна. Панакрываць трэба і ката паспяваць, каб заснулі.

Галінка павесялела, папрыносіла хустачкі, насоўкі, накрыла лялек, села на нізенькі зэд-

лік, падперла шчаку рукою так, як рабіла бабка, і тоненька заспявала:

А-а-а, люлі, люлі,
Дзеткі ўсе даўно паснулі,
У нару зашыўся крот,
У запеччы дрэмле кот,
Збеглі куры са двара,
Дык і вам заснуць пара.

Бабка расчулілася, што Галінка запомніла яе калыханку, пацалавала дзіця ў беленькую кучаравую галоўку і зашаптала, каб не пабудзіць лялек:

— Зас-ну-лі. А мы хадзем на кухню ўпраўляцца. Скора мамка прыйдзе, абед падагрэем,— і яны разам на дыбачках выйшлі з пакоя.

Галінка памагала бабулі выціраць кубачкі і талеркі, шаравала вечкі табурэтак і пыталася, што рабіць яшчэ. Яна адразу прыгарнулася, даверылася гэтай чужой, але ласкавай бабулі, слухалася яе і старалася рабіць тое, што робіць яна.

Аўдоцця ўспомніла сваё маленства і аднойчы [redacted] бульбін і трэсачак зрабіла «пільшчыкаў», паставіла іх на край стала, і яны давай калывацца ўніз-уверх. Аж заскакала ад радасці Галінка. Зрабіла бабка і кароўку [redacted] трох бульбін, каня і сабаку. Дзяўчынцы абрыдлі пластмасавыя цацкі, а тут яны разам з бабуляю стварылі нешта новае, і яно ажывала, рухалася, як жывое.

Асабліва Галінка любіла бабчыны казкі. Казала яна павольна, працяжна, нібы песню спявала. Там, дзе страшна, сама заплюшчыцца, дзе смешна, рагоча. І відны дробныя, з'едзеныя пажоўклыя зубы.

Як толькі ўправяцца і нагуляюцца, Га-

лінка садзіцца поруч з бабкаю на канапе і патрабуе: «Казку!»

Усё, што ведала, пераказала Аўдоцця, часам блытала пачатак аднае казкі з канцом другое, а то прыходзілася і самой прыдумляць.

— Раскажы казку,— просіць Галінка.

— Пачакай, трэба ўспомніць.— Памаўчала бабулька і пачала прыдумляць:

— Адсюль недалечка цякла чыстая рэчка, мыла пясочак, бегла ў лясочак. У тым лясочку жыла бабка Ведзіца, на дачушку сваю не нагледзіцца.

— Можа, ведзьма, а не Ведзіца? — перабіла Галінка.

— Не, дзеткі, Ведзіца была ласкавая і добрая, усё яна ведала, далёка бачыла, далёка чула. Шэптам скажа слова, а яго за сотню вёрст дапачуе той, каму трэба. Жылі яны дружна з дачушкаю ў хатцы пад дзікаю грушкай. А на ёй раслі грушы, што давалі сілу і маладзілі душу. Дачушку яе звалі Ясачка, і была яна, што лясная красачка, высокая ды сінявокая, роўная, як клён, валасы, што лён.

Ведзіца збірала травы і карэнні для прыправы, і суніцы, і брусніцы, і аер каля крыніцы. Што варыла, што сушыла, што малола і таўкла, каб была ў целе сіла, а душа святлей была. І дабру дачку вучыла, а людзей за так лячыла, як твая мамка.

Раз у поле выйшла Ясачка, у прыпол набрала красачак. Села Яска на мяжы, да яе ляцяць стрыжы, свішчуць і спяваюць, віць вяночак памагаюць.

Поле пыл заслаў густы, б'юць дарогу капыты. Схамянулася дзяўчына, бо ўцякаць была

прычына: змалку ёй было вядома — не хадзіць нікуды з дому, а яна пайшла адна з лесу ў поле давідна. Толькі ўстала, бачыць — полем напярэймы едзе пан, а з ім чорны басурман.

Прыпыніў каня гнядога, запытаў, куды дарога выведзе яго праз лес, і [redacted] каня адразу злез. А на ім не проста світа,— уся адзежа з аксаміту, боты новыя [redacted] саф'яну, шапка ўся гарыць на пану. Чуе дзеўчына трывогу: засланіў ёй пан дарогу. Просіцца яна: «Паночак, я сплялa табе вяночак, ён тваю прагоніць стому, толькі адпусці дадому».

Не паслухаў Яску пан, падхапіў за тонкі стан, сцебануў каня гнядога — закурылася дарога.

Праляцела дзён нямала, як у Ведзіцы прапала ненаглядная дачушка — прыгажуня, весялушка. Ведзіца ідзе на ўзгорак і пытаецца ў зорак: «Зоры, зорачкі, скажыце, дзе дачушка, можа, у жыце заблудзілася высокім ці ўракнулі кепскім вокам? Ты скажы, начная птушка, дзе цяпер мая дачушка?»

Зорка ў небе задрыжала — паляцела на ўсход. Птушка ці-і-хенька сказала: «Дзе сянгі і вечны лёд, там у пана-басурмана Ясачка твая схавана. Выйдзі з посахам да дня, і ўбачыш след каня. Ён гарыць заўсёды ў змроку, ты з яго не збоч ні кроку, не спыняйся анідзе,— след у замак прывядзе».

Па дарозе больш за год Ведзіца ішла на ўсход і зайшла ў такую даль, што не снілася ніколі: там гарэў у снежным полі з лёду замак, як крышталь.

Ведзіца прыйшла ўначы. Чуе — бразгаюць мячы. Посахам яна махнула, варта грозная за-

снула, а калі зайшла ў пакоі, засланілася рукою, бо сярод халоднай ночы ёй святло сляпіла вочы, і ўгледзела на троне Ясачку сваю ў кароне. Ведзіца сказала смела, што пара ісці дамоў, а дачка не зразумела матчыных забытых слоў. Маці на калені ўпала і, каб разбудзіць дачку, калыханку заспявала і калыску прыгадала, што вісела на сучку цёмнай расахатай ёлкі, дзе сядзелі перапёлкі, пелі песні ёй дразды ў дзіцячыя гады.

Ясачка прагнала стому, скінула на дол вянец: «Мама, я хачу дадому». Вось і... казачцы... ка-не-ц.

Галінка слухала, не зварухнуўшыся.

— Ох, і складна ж.

— Складна ці не складна, абы было ладна.

— А яны назад вярнуліся?

— А як жа! Вярнуліся і цяпер жывуць у сваёй лясной хатцы. От так, дзіцятка, хто слова матчына забыўся, той і ад маткі адрачэцца. А чалавек без маці — сірата сіратою, пустадомак бязродны. Чужое слова разумей, а сваё не губляй да скону, як маці і татку, як родную хатку, як зямельку, дзе радзіўся і век векаваць.

Рыпнулі дзверы, у пакой убегла вясёлая, расчырванелая на веснавым сонцы Арына Аляксееўна.

— Чаго вы тут сумуеце? Уключылі б тэлевізар. Можа, мульцікі ідуць.

— Мне бабуля такую казку расказала! Мудрэй за ўсе мульцікі, і складную, як песня. Яшчэ раз паслухаю і табе слова ў слова раскажу... А ты, мамачка, болей не пойдзеш?

— Прыйдзецца яшчэ, дачушка, скокнуць да цяжкахворай.

— А ты зробіш, каб яна лёгкая была?

Маці засмяялася. Аўдоцця пагладзіла Галінку па галоўцы.

У той вечар Арына Аляксееўна забавілася ў сваёй маленькай бальніцы. Галінка заснула, не дачакаўшыся маму, Аўдоцця Анісімаўна ляжала з расплюшчанымі вачыма і, як ніты на кроснах, перабірала сваё доўгае і нялёгкае жыццё.

4

Вечарамі Арына Аляксееўна прыходзіла стомленая пасля вячэрняга прыёму хворых і абходу сваёй маленькай бальніцы. Часам затрымлівалася ў сельсавеце па дэпутацкім абавязку, хадзіла на ферму гутарыць з жанкамі. У парозе сцягвала блішчастыя гумавыя боты, развязвала квяцістую хустку, шморгала «маланку» лёгкай балоневай курткі.

Дома быў поўны парадак: да бляску выцерта памаляваная падлога, разасланы вясёленькія саматканыя палавічкі, на пліце паруе каструлька бульбы, закіпеў чайнік. Старанна заплецены коскі ў Галінкі. Яна сядзіць на нізенькім зэдліку і расфарбоўвае пеўня. Аўдоцця цыруе калготкі і ўсміхаецца гаспадыні. У бальніцы яна ўправілася яшчэ завідна, а ноччу, калі што трэба, паможа дзяжурная сястра.

Здавалася, жыві і не тужы: работа не дужа цяжкая, гаспадыня добрая і ўдзячная за ўсе яе клопаты, Галінка слухаецца і палюбіла яе, а ўсё адно — у душы муляе балючая стрэмка, крыўда і няпэўнасць. Не будзеш жа тут век векаваць. Аўдоцця ведае, што доўга не нажыве ў гэтым

утульным доме, у ласкавай і мілай дакторкі. Рана ці позна прыйдзецца некуды падавацца, шукаць сабе прыстанішча, неяк дажываць век самой, каб толькі не назаляць добрым людзям. Пакуль варушыцца, дык і яна патрэбна, а зваліцца, хто ёй падасць глыток вады? Думы, думы, думы. Прачнецца ноччу, слухае, як на кухні чэкаюць ходзікі, як недзе пратарахцеў матацыкл, сарвалася і захлынулася нецвярозая песня, а ў галаве круціцца і круціцца яе доўгае і горкае жыццё.

Пра колішні хутар, пра тату з мамаю, пра Антолю і братоў яна ўспамінае і часта расказвае Арыне Аляксееўне ахвотна і падрабязна. Бывае, і цяпер часам падступяць слёзы, як успомніць, што мама, яшчэ не старая кабета, прастыла ў першую сібірскую зіму ў зямлянцы і аддала богу душачку. І магілка недзе згубілася ў тайзе. Уладзік загінуў у сваім танку пад Кенігсбергам, Антолю абселі дзеці, і яе гаспадар не вярнуўся з вайны. Недзе, мабыць, дажывае век у сібірскім сяле з дзіўнаю назваю Бяргуль. Адным-адзіны з радні астаўся Змітрык. Таму пашанцавала: хоць і скалечаны, жывенькі вярнуўся з вайны, вывучыўся на інжынера, быў нейкім начальнікам на заводзе «Амурсталь», пісаў рэдка, а цяпер і пісаць няма куды.

Калі Аўдоцця заставалася адна, вымала са свайго мяшэчка маленькі абразок у блішчастым абкладзе і давала волю слязам. Малілася за ўсіх родных і блізкіх, хоць і ведала толькі «Отча наш» і «Багародзіца, дзева, радуйся». Малілася за Антолю і Змітрыка, за іх дзетак, хоць ніколі не ведала тых пляменнікаў і пляменніц. Малілася за сыночка Паўліка, за сваю гадаванку —

унучачку Анжэлу. «Божа, божа, чаму не ўразуміў бацькоў даць ёй людскае імя, а не гэтае, што адразу і не запомніш, і не выгаварыш адным духам, скажаш, а слова джыкае, як угневаны чмель». Хоць не вельмі часта ўспамінала нявестку Іначку, але малілася і за яе, каб настравіў усявышні на дабро і спагаду людзям, каб не грызла яе Паўлічка, чаму не выбіўся ў большыя чыны. І яшчэ малілася, каб ніколі не ішоў брат на брата, чалавек на чалавека, народ на народ. Няхай усё будзе як ёсць, абы не горай.

Аднаго разу Арына Аляксееўна прыйшла раней, ціхенька распранулася і ўбачыла: на канапе стаіць маленькі абразок, а перад ім уклянчыла Аўдоцця Анісімаўна. Доктарка спынілася ў нерашучасці, каб не напалохаць і не перапыніць ціхі шэпт бабулі. А тая, мабыць, адчула, што нехта прыйшоў, павярнулася, убачыла гаспадыню, схапіла абразок, схавала пад кофту.

— Чаго ж вы спалохаліся, Анісімаўна?

— Ат, дурная баба і цёмная, як бот. Гэта ж перабірала свае транты і намацала гэты абразок, яшчэ з бацькавай хаты, дык яго і берагу, бо пахне ён домам і воскам ад нашых пчолак, гляджу і ўсіх сваіх успамінаю.

Калі вам, парцейным, няможна, каб абразы ў хаце былі, дык я яго так запратору, што ніхто і не дазнаецца.

— Што вы, Анісімаўна, не бойцеся. Калі хочаце, маліцеся, толькі на сцяну вешаць не варта. Самі разумееце, людзі ёсць усякія: убачыць каторы і пакоціцца пагаласка, што доктар веруючая, абразы павесіла, апраўдвайся тады. Я з маленства ведаю, што ніякага бога няма, што чалавек усяму бог, а бога ён прыдумаў, каб

трымаць у страху слабейшых, што спіну гнуць на яго, і суцяшаць раем на тым свеце. Яму рай на зямлі. А ні таго свету, ні раю, ні пекла не было і не будзе. Толькі людзі могуць стварыць сапраўдны рай на зямлі, калі паверацць адзін аднаму, калі не ракеты і танкі, не бамбардзіроўшчыкі і бомбы будуць рабіць, а ўсё аддаваць чалавеку, тады і будзе рай. Той жа чалавек можа ператварыць свет у суцэльнае пекла, у геену вогненную, як сказана ў вашым пісанні. Усё — у руках чалавека. Ён — бог і д'ябал, дабро і зло, ён можа стварыць і знішчыць. Усё залежыць ад розуму і сумлення,— сказала і аж засаромелася Арына Аляксееўна сваёй прамове.

— Во, во, галубачка, сумленне — наш бог. Няма сумлення, няма і бога. Думаеце, я вельмі веру таму, маляванаму ды распятаму, не, а малюся, каб душы слабадней было, бо вельмі ж думкі гнятуць. Даўней дык да споведзі хадзілі. Выходзіць, патрэба была расказаць некаму ўсё, што сэрца паліла і душу вярэдзіла. А цяпер каму раскажаш? Папы настаяшчыя звяліся. На іх месца папрыходзілі нейкія маладзенькія з казлінымі бародкамі, а то голеныя саўсім як ксяндзы. Адным словам, за-ра-бот-чыкі. Нятрудныя даходы ў іх. Чэша каторы нешта з евангелля, а сам на маладзіцу пазірае. Цьфу! Прасці, госпадзі, цяжкі грэх. Каб не бачыла, не казала б. Да такога хто пойдзе ў споведзь? Я — бронь, божа!

Як пагляджу, дык думаю: гэты папок у джынсіках сам ні богу, ні д'яблу не верыў і не верыць. А чалавек без веры, што гаўяда. Адзін клопат — напхаць кіндзюк. Брыдзе, куды вочы глядзяць: двара свайго адцураўся, хаты свае

не мае, роду-народу выракся, абы нажлукціцца ды салодкім заесці. Без веры і чалавека няма. Верыць, галубачка, трэба хоць у што, а найлепей, калі будзе верыць чалавек чалавеку. Маліся хоць засланцы, абы душа чыстая была.

А то пагляджу на сваю колішнюю Балашоўку, плакаць хочацца. Даўней сяло было, як вяночак, у садах ды гародчыках цвіло, маладзёж, як выйдзе на сена, бывала, ці на жніво... ад песень ды ад смеху аж гай гудзе, і работа кіпіць ад цямна да цямна. Сваімі рукамі саграваді зямельку, дык і яна не скупілася на хлеб і да хлеба. А цяперашнім часам распаўзліся маладыя і старых у нянькі пазабіралі. Як пападростаюць унукі, дык дзеткі стараюцца як спраўней выпхнуць старых у той дом інвалідаў і гадамі вачэй не кажуць. Вера трэба, галубка, ой, як трэба, ва ўсім вера. Не паверыла б мне,— пазамыкала б усе шуфлядкі. Верыш, дзякую табе: на душы лягчэй. У бывалешнія часы ў чалавека была адна характарысціка — совесны чалавек або... лайдак. Цяперака і слова «совесны» забылася, а лайдакі нібы і саўсім звяліся, можа, іх як іначай завуць. А іх жа — процьма, усе рабоцькі языкамі, а рукі, шануючы вас, онь куды глядзяць. От і вер такім, што, ні хварэючы, ні балючы, за траіх жаруць, грабуць толькі пад сябе.

Калі я яшчэ ў сына жыла, адна маладзіца ў тым ваенным гарадку расказвала, што хавалі ў горадзе некага ў добрым касцюме, дык, перад тым як забіць труну, жонка таго чалавека парэзала на ім пінжак і штаны, каб, чаго добрага, не адкапалі і не раздзелі нябожчыка.

— Кепскага чалавека, Анісімаўна, далёка

відаць, а добрага не заўсёды і заўважаем. Ён непрыкметна робіць дабро. Хулігана ўсе бачаць і крычаць: «Куды глядзіць міліцыя?» А праходзяць сотні добрых, сумленных юнакоў, ніхто і не зважае, бо так і трэба.

— Можа, і твая праўда, галубка.

— А мне вы верыце?

— Чаму ж не? Яшчэ не зверылася.

— Калі вам будзе цяжка, хоць я не поп, спавядайцеся мне. Доктару спавядаюцца многія, і мы ўмеем хаваць тайну. Клятву давалі такую. І я вам пра свае беды, можа, калі паспавядаюся. А ў каго іх няма.

Муж у мяне добры чалавек, сумую па ім, а прыедзе з курсаў — і зноў закруціцца ў сваіх калгасных клопатах; прыйдзе позна, вячэрае і дрэмле за сталом, а летам і нядзелі яму няма...

Часта вечарамі зусім розныя жанчыны спавядаліся адна адной.

Аўдоцця ахвотна расказвала, як жыла даўней, пра пакуты ў вайну, пра нэндзу пасля яе, а пра апошнія гады і пра сына часцей змоўчвала.

У сілу бралася вясна. Падсохлі дарогі і сялавыя сцежкі, над полем курыўся сіваваты парок, лясы ахутала зялёная смуга, вербы над Маленчыцкім гасцінцам распушыліся жоўтымі коцікамі, досвіткамі і надвячоркамі з трубным жаласным крыкам праплывалі ключы жураваў, чыркалі празрыстае паветра вострыя крылы падстрэшных ластавак, каля лужын скакалі і заліваліся свістам шпакі. Надвячоркі былі празрыстыя і ціхія.

Такою парою ўсё часцей маркоцілася Аўдоцця: яе ўсё нешта цягнула ў дарогу, хацелася

некуды ісці, каб не жыць з ласкі ў гэтай добрай дакторкі, хоць і прывыкла да яе і да ласкавай Галінкі, а калі тая абдымала яе і звала бабуляю, ледзь не плакала ад радасці.

І пакідаць не выпадала гэтых добрых людзей — яе старанне і клопат у амбулаторыі і бальніцы во-о як былі патрэбны, і дома была чысцёхаю, да ўсяго даходзіла сама, усё бачыла, што трэба. У суботу Арына Аляксееўна толькі збярэцца мыць бялізну, а яна ўжо даўно памытая, выпрасаваная і складзена ў шафу. Адскочыць Аўдоцця ў краму,— у халадзільніку ўжо сваежае маселца ляжыць, у хлебніцы — батон, а Галінцы цукерачак і пернічкаў прынясе за свае невялікія грошы, што плацілі па ведамасці і часам неўпрыкмет падсоўвала дакторка. Казала: «Гэта вам прэмія».

Арына Аляксееўна часта дакарала яе, што дарэмна траціцца, а Аўдоцця толькі ўсміхнецца дый кажа: «Хто бярэ, той і класці мусіць».

Пасля вячэры, як сцішыцца і засне Галінка пасля бабіных казак, Арына Аляксееўна любіць навесці Аўдоццю на ўспаміны і гатова слухаць да поўначы. А тая ахвотна расказвае:

— Ага, я ж казала, як уцякла ад таго Барсюка ў Дубінчыкаву леснічоўку. І пра таго дзядзю Сцёпу, пра секратара нашага Краўчанку казала. Ог-го-го! Якім яшчэ камандзірам быў. Войска цэлае пад ім у лесе стаяла. Мо меней за тыдзень прайшло ад таго, як прыходзілі, аж пастукаліся ноччу два хлопцы з аўтаматамі. «Збірайся, Аўдотка, адна нага тут, другая — там». І павялі цераз нейкія завалы на далёкі востраў. Туды мы і не дапіналі зроду. Там і была партызанская сталіца. Прыйшлі на досвітку. Гляджу:

зямлянкі, крытыя бяростаю і дзёрнам, з зямлі вытыркаюцца, аднекуль дымком пацягвае, за хвоямі варта пахавалася.

Летавала я ў жаноцкім будане. І з дзецьмі ў нас былі кабеты: кухарылі, шылі, латалі, мылі, споднюе байцам, бінты перамывалі. У мяне тады памяць была онь якая — раз гляну,— усё, як на картачку зніму, і камандзіру перакажу ўсё да парушыначкі. Убяруся ў такую старызну, у такія транты, завяжу дзіравую хустку, валасы мукою прыцерушу, абвешаюся торбамі і падалася міласціну прасіць па чужых сёлах. У сваю Балашоўку так карцела зазірнуць, хоць на дзетачак глянуць. Але дзе ты бачыла. Няможна. Не толькі пра сябе дбала.

Дазналася я ў суседнім сяле, што ўжо маіх няшчасных на месцы не было. Справадзіў той ірад дзетак разам са свякрухаю ў раён. Марылі іх там голадам і холадам у склепе, а потым, казалі, разам з усімі, можа, чалавек з трыста, пагналі на станцыю, загналі ў цялятнікі і паперлі...— Аўдоцця ражочкам хусцінкі выцерла скупыя слязінкі, уздыхнула, памаўчала.— Тамака яны і галоўкі склалі. Колькі потым ні шукалі, колькі ні пісалі — і знаку няма. А я ўсё чакала, можа, азавецца каторае, да варажбітак хадзіла, а яны ведалі маё горачка, кінуць на карты і ўсё ўсцешваюць: «Чакай з далёкай дарогі дваіх крэўных». Чакала, пакуль чакалася. Цяпер і чакаць няма куды.

Дом у нас быў ладны, леснікоўскі. Калі будаваліся, я ўсё ўшчувала Анікея, навошта такую стадолу разбухаў, а той, царства яму нябеснае, толькі ўсміхнецца, абдыме і, знай, выскаляецца: «Мы з табою,— кажа,— столькі дзетак

нараджаем, каб багацейшымі за ўсіх быць. Не каровы і коні,— дзеці — багацце з багаццяў».

— Як проста і як мудра,— здзівілася Арына Аляксееўна. Яна ўважліва слухала і хацела ведаць усё да драбніц.

— Адале, што б вы думалі, той вісус Піліп сам перабраўся на ўсё гатовенькае ў наш дом. А там і скрыні і кубельцы не пуставалі. Матрону сваю ў мястэчку знайшоў і разам з селавымі справадзіў у тую Германію, казаў: «Хай едзе свету пабачыць, культуры падвучыцца». Райскую жытку ім там дакляравалі. Яму трэба было тую гарэтніцу з рук збагрыць, а сам знайшоў нейкую навалач, што і гаварыла не па-нашаму. З тою лярваю, прасці госпадзі, і ўехаў Барсюк у нашую хату. Там, казалі, онь як раскашаваўся, а людзям дыхнуць не даваў. Паліцыю ўсё сабе набіраў. А дзе яе возьмеш? Толькі самыя ўрвіцелі туды ішлі ды душагубы, зладзеі, п'янюгі. А з яго немцы спаганялі, каб больш было паліцаяў. Самастаяцельныя мужчыны і хлапчукі ў лес падаліся, а тыя, што ні туды ні сюды, нечага ўсё чакалі. Дык што той гад надумаў: прыйдзе ў хату, а там ужо хлапчанё высунулася гадоў на шаснаццаць, загадвае браць вінтоўку і чапляе той белы нарукаўнік. Маці галосіць, боты цалуе: «Злітуйся, Піліпка, яно ж у мяне адненькае, горкае дзіця. Бяры, што заўгодна, толькі хлопца не губі».

А ён гоніць па снезе босае дзіця ў двор, прыстаўляе да сцяны, наводзіць пісталет і камандуе: «Або пішыся служыць Германіі, або тут табе і капцы!» Калоціцца беднае хлапчанё, маці ў нагах поўзае, а ён яе выспяткам, выспяткам. Цэліцца ў саменькую галоўку. Бах! Маці і зві-

лася. Куля каля самага вуха ў сцяну ўпілася. Дзе тут дзенешся? Каму ў шаснаццаць гадкоў паміраць ахвота? Маці галосіць: «Пішыся, дзіцятка, а то і праўда заб'е». Як падпісаў, лічы, сам сабе пятлю накінуў. Пойдзеш на сваіх — партызаны зашмаргнуць, туляцца будзеш — Піліп са сваёю бражкаю прыбярэ. Так і назбіраў сабе падлеткаў. Няпраўда гэта, што ахвотна ішлі ў паліцаі,— жывасілам перлі. Многія, праўда, паўцякалі да нас, з аўсвайсамі і поўнаю амуніцыяю. Яшчэ якія партызаны былі.

Думалі-думалі нашы камандзіры, як прыбраць таго Барсюка, каб людзей не губіў. Падцікаваць і застрэліць, немцы за гэтую псіну паўсяла выкацяць. Аж нейчая разумная галоўка дадумалася. Быў у той паліцыі наш пасланец Прахор Солтан. Праз яго ведалі ўсё, што робіцца ў Балашоўцы. Пра гэта я дазналася толькі пасля ўжо.

Дык той Прахор падклаў у ніжнюю шуфляду Піліпу савецкую гранату і нашыя лістоўкі, а калі добра ўпіліся, прыштукаваў пад крысо шыняля «ахоўную граматку», быццам таварыш Барсюк выконвае заданне савецкага камандавання і каб яго не чапалі партызаны.

Потым Прахор падкінуў каменданту тую самую ананімку, што Піліп Барсюк знарок выключаны з партыі перад вайною, а папраўдзе камуніст, выконвае заданні партызан...

Што вы думаеце, усё выйшла як па пісаным: жандармерыя знайшла ў Піліпа і гранату, і лістоўкі, і пісульку тую. Збілі яго на чорны яблык, дапытвалі, каб сазнаўся, той выкручваўся, кляўся ў вернасці, але не паверылі. Праз колькі дзён свайго вернага служку павесілі на плошчы

перад колішнім сельсаветам. Потым прывезлі аднекуль з-пад Смаленска новага начальніка. Людзей ён не ведаў, усіх баяўся, але неяк спаўняў сваю сабачую службу.

Як толькі пратурылі тую навалач, павыходзілі і мы з лесу. Ад таго канца сяла, што да лесу, адны каміны засталіся. Ані парасяці, ні цяляці, ні табе шчанюка, анічагусенькі не пакінулі. Аж вусцішна ў сяле. Хоць якое там сяло, меней палавіны ацалела. Мужчыны і партызанаў у войска падаліся, палавіну самых работнікаў і падлеткаў той юда Піліп у германскія печы адправіў. Апусцела Балашоўка. Адны старыя сноўдаюцца па пагарэлішчах ды каля сваіх комінаў грэюцца. Толькі тут мне і пataлaнілa — засталася наша хата. Праўда, ні шыбачкі, ні ўсярэдзіне анічога не пакінулі. Пазатыкала трантамі вокны, пагарэльцаў пусціла, жылі, пакуль зямлянкі не агоралі.

Наша шчасце, што ў тое лета ягад урадзіла, шчаўе аж пабуяла, садавіна, дзе не пагарэла, даспявала. Так і перабіваліся. Бяда бядою, а рабіць нешта ж трэба: от цяпер толькі калгасам і можна стаць на ногі. Што ў каго было, абагулілі, упрэгліся на ўсе пастронкі. А наш камандзір, таварыш Краўчанка, ужо зноў сваё месца ў райкоме заняў. Прыгналі нам тры трафейныя кані, а яны жаруць за васьмярых, зда-ро-о-выя ардэны, далі васьмёра адбітых у немцаў каровак. З таго і пачыналі. Дзе канём, дзе самі плуг пацягаем, так і пазаворвалі, што змаглі.

А восенню, якраз на Кузьму-Дзям'яна, змяркацца пачало, чую, нехта ў сенцах хапаецца за клямку, а ніяк не адчыніць. Сама не ведаю, ад чаго ўсё зайшлося ўсярэдзіне і ногі не слу-

хаюць. Аднак дзверы насцеж, грукае нешта, і ў хату сунецца мыліца, а за ёю чалавек у шынялі і ў пілотцы. «Есцяка тут хто жывы?» — пытаецца. А божухна, Анікееў голас, а я ж яго і памянула не раз. Ускочыла, а ногі, як з кудзелі, тады я рачкі папаўзла насустрач, ашчаперыла яго адну ножачку ў абмотцы і зайшлася слязьмі. Чую, і ў яго, як боб, гарачыя кроплі коцяцца з вачэй. Каб калі хто сказаў, што мой Анікей плакаць мажэ, не паверыла б. Ускараскалася з падлогі, абняла за плечы, давяла да лавы і пасадзіла.

Анікей мой, хоць і без нагі, першы з вайны прыйшоў. За ім яшчэ чацвёра бязрукіх ды бязногіх, а адзін увесь з сінім тварам вярнуўся. Яго, беднага, ледзь жонка прызнала.

Старшынёй у калгас з раёна прыслалі самастаяцельнага мужчыну — увесь тыдзень цвярозы. Зайздросцілі нам суседзі: іх старшынькі ад сяўбы да замаразкаў не прасыхалі і ўсю зімачку грэліся знутра. Адна ў іх малітва была: «Давай, давай!» Так на тым «давай» з году ў год палачкі ў ведамасці і зараблялі. А ў нас, няма чаго богу грашыць, абжыліся неяк вельмі скора. Хоць і кок-сагыз, і кукурузу сеялі, а хлеб да вялікадня цягнуўся. Анікея майго старшыня ў кантору пасадзіў костачкамі ляскаць. А ён ніводнага досвітку не праспаў: устане, мыліцу прывяжа папругаю, каб не падала, і рамы новыя парабіў, сенцы перасыпаў, і зажылі мы з ім душа ў душу, толькі ўсё вярзлося, што вот-вот прыбягуць з вуліцы нашы дзеткі. Вінавацiла я сябе, што не забрала адразу, але хто ж думаў?

Цераз два гады нарадзілася ў нас з Анікеем дзіцятка. Як людзі кажуць: «Сам сіў-сіў, а дзет-

кі ціў-ціў». Так і ў нас было. Гляджу, мой гаспадар аж памаладзеў, галіцца разы са два на тыдзень стаў, гоцкае нашага Паўліка, ката спявае, ноччу калыша, а днём возьме на лано і пайшоў па вуліцы, каб бачылі, што і ён не зломак. Казырыўся, а сам чэзнуў, як свечка: яму ж і лёгкае прабілі, і двух рабрын не было.

Толькі Паўлічак навучыўся лепятаць «татка, татка», як не стала ў нас таткі.

Аўдоцця пачала хапаць губамі паветра, буйныя слёзы пакаціліся па разорках зліналых шчок.

Арына Аляксееўна абняла яе за плечы і пачала суцяшаць.

— Прабачце, Анісімаўна, гэта я вінавата, што спакусіла вас на ўспаміны. Зараз накапаю валяр'янкі, і ўсё пройдзе.

— Нічога ўжо, дзеткі, не пройдзе і нічога не паправіш,— Аўдоцця выцерла тыльным бокам рукі шчокі.— Пра далёкае гора расказваць лягчэй, як пра бліжняе, а на яго ўжо і слёз не хапае.— Памаўчала.— Але пра гэта я вам другім разам паспавядаюся. Больш няма каму. Няхай хоць адна душачка пачуе. Нельга на той свет сваю больку зносіць.

5

Арына Аляксееўна заўсёды перад сном нешта чытала. Пакуль гарэла святло, Галінка варочалася ў сваім ложку. У яе часта балела горла, распухалі залозкі, сохлі вусны. Яна ціхенька злезла з пасцелі, сунула ножкі ў суконныя тапачкі.

— Ты куды гэта?

— Т-с-с,— прыклала пальчык да губ Галінка.— Калі не спіць бабка Дуня, хачу ёй сказаць нештачка,— і патэпала ў бабчыну баковачку. Галінка спынілася на парозе.

— Чаго ж табе не спіцца, мая ясачка? — прашаптала бабуля.

— Я ўсё думаю, чаму вы раней да нас не прыходзілі. Дзе былі?

— Далёка была, адсюль не відаць. Там у мяне была свая ўнучка. Анжэлачкаю зваць.

— А я?

— І ты мая.

— Мне холадна.

— Лезь пад коўдру.— Галінцы толькі гэтага і трэба было. Яна стрэсла з ножак тапачкі і хуценька зашылася ў цёплую пасцель, прытулілася да бабкі і моцна яе абняла. Аўдоцця пачула, як каля боку роўненька стукае маленькае сэрца, адчула гарачае дыханне і прыпомніла, як гарнуліся яе дзеткі, як чакалі яе з поля і фермы, якія былі яны цёпленькія і ласкавыя. Каб перабіць свае думы, запытала:

— Кім жа ты будзеш, Галінка? Як мама, доктарам?

— Касманаўтам, як Савіцкая.

— Чаму ж так высока? І на зямлі рабі, ніколі не пераробіш.

— Толькі спачатку трэба лётчыцай стаць.

— А хіба адразу нельга?

— Не. Лятаць многа трэба. Я ўжо і цяпер сонная лятаю.

— Гэта ж ты расцеш, Галачка.

— А мне дык некалі мой сынок Паўлічак казаў, што ў вайну адзін самы глаўны етым е-ру-салі-сімусам стаў, а ў салдатах ані дня не

служыў. I спраўляў сваю работу. Вучыцца будзеш старанна, і ты паляціш. Хоць на зямлі яно лепей, спакайней. Зямелька нам сілу дае, нельга ад яе далёка адрывацца.— Сказала і зноў падумала: «А мае ж разляцеліся — і не знойдзеш. Першанькіх Барсюк са свету звёў, а Паўлічак, не можа быць... павінен азвацца. Можа, даўно шукае яе, а яна аціраецца па чужых кутах». І зноў камяк перахапіў горла. Каб ведала, дзе костачкі тых, рачкі б папаўзла,— зірнуць бы толькі на тое неба ды зямельку, што прыняла іх.

— Бабка, не маўчы, мне сумна,— паварушыла Аўдоццю і зашаптала ў самае вуха Галінка.

— Што ж табе казаць?

— Хоць са-а-менькую маленькую казачку. Толькі не страшную.

— Казкі ўсе добрыя. Жыццё бывае страшнейшае за казку. Ну, слухай.— І зашаптала: — Жыў-быў цар, зямлі і мора ўладар. У яго была цароўна, нікому не роўна. Ды за трыста тры вярсты да яе прыйшлі сваты, знатныя, багатыя, статныя, чубатыя...— яна шаптала цішэй і цішэй, бо Галінка замоўкла і дыхала пад самае вуха.

У пакоі Арыны Аляксееўны патухла святло, на кухні правурчаў халадзільнік, мокрая галінка старой ліпы шаргацела па даху.

Пад раніцу глуха забарабаніў першы дождж. Аўдоцця ціхенька адзелася, падаткнула пад Галінку коўдру і выйшла на ганак. Па вадасцёку ў пазелянелую кадку струменіў зіхоткі прамень вады, зямля закурылася цёплаю параю, пахла прэллю і нашатырным духам гною,

клейкімі тапалёвымі пупышкамі і адталай зямлёю. Недзе на далёкай ферме рыкалі каровы — пачулі вясну і пах першых травінак; на суседнім двары гарланіў певень, за сялом у нізінах плыў блакітны туман.

Аўдоцця з ганка ўзіралася ў вясновыя палі і ўспамінала першую пасляваенную вясну, упрэжаных у плуг баб, калі аралі адна адной соткі, ш то і калгасны палетак...

Аўдоцця па пустой і гразкай вуліцы выправілася на сваю асноўную работу — перамыць падлогі ў амбулаторыі, дагледзець хворых у палатах, развесяліць іх, перакінуцца жартам, саскрэбці з ганка натаптаную ўчора гразь. Пакуль прыйдзе дакторка, у яе ўсё аж зіхаціць. А па дарозе ўсё круцяцца ў памяці тыя пасляваенныя вёсны, і Анікей успамінаецца ўсё часцей і часцей. Колькі яна папаплакала ўпотай, мыючы ад сукравіцы бінты з яго зморшчанай куксы, і як радавалася, калі ён усміхаўся і туліў яе да сябе; запомніўся пах яго горкага поту і дотык шорсткай рукі, але такой ласкавай і пяшчотнай. І Паўлічак, толькі маленькі, стаяў перад яе вачыма ў кароценькай зрэбнай кашульцы, пафарбаванай альховай карою. Калі не было на каго пакінуць, несла з сабою на ферму, а каб, барані божа, не запоўз каторай карове пад капыты, прывязвала паскам да шула, затое пасля адпіваўся цёпленькім сырадоем.

Успомніла, як аўдавела, а дурненькае дзіця не разумела, куды гэта нясуць яго татку, і ўсё прасілася да яго ў «калыску».

Дзе б ні ішла, што б ні рабіла, а ўсе думкі сыходзяцца на Паўліку. Як яна радавалася, калі ён падрос, выцяг бацькаў малаток і ржавымі

цвікамі папрыбіваў адарваныя штакеціны, а праз які год ці два і не агледзелася, як сын памочнікам стаў: сам сабе не даваў лынды біць — і чаргу адпасваў, і прычэпшчыкам хадзіў, картоплі капанічыў і дровы рэзаў, і ў школе не апошні быў. Чым больш сталеў, тым больш Анікея нагадваў: узлуецца, бровы ссуне, якраз як бацька, а зарагоча — з аблічча і голасам — выкапаны Анікей.

Бывала, не нагледзіцца, не нарадуецца на сыночка: і статны, і разумны, і да работы здатны. А калі заенчыў жыватом і патарабанілі ў бальніцу, ды па жывому жывое дзіцятка парэзалі, колькі яна папаенчыла, колькі паклонаў адбіла і людзям і абразам.

Круцяцца ўспаміны, не раўнуючы, як тое кіно. Ачуняў Паўлік, радасць вярнулася ў дом. Пасля школы прыбягаў на ферму, памагаў чысціць стойлы, цялятак адпойваў, сілас падвозіў — такі быў спрытны ў любой рабоце. Спадзявалася Аўдоцця, што сын прырасце да зямлі, да бацькавай хаты, да матчынай ласкі, вывучыцца на трактарыста ці якога заатэхніка, бо за кожную жывацін душачку быў гатовы аддаць. А то не агледзішся — нявестку прывядзе, а тады і ўнукі пасыплюцца.

Так думала Аўдоцця — з сынам, нявесткай і ўнукамі век звекаваць у сваёй хаце; на радаўніцу ўсе хадзілі б на Анікееву магілку з велікоднымі яечкамі, скочкі саджалі б, дзёрнам абкладвалі. А цяпер хто яе дагледзіць?!

Аж на табе, усё пераіначылася, усё стала дагары нагамі. Каб жа толькі ў яе аднае. Але ад гэтага нікольکі не лягчэй. Скруціліся мала-

дыя, зямлі роднай цураюцца. Бывала, за баразну, за паўмежак брат на брата з калом ішоў, кожны вяршок быў дагледжаны. А цяпер? Колькі гуляе зямлі — лес парос на колішніх прасянішчах. Даўней на зарэчных лугах палкі не знойдзеш, усе купіны пазразаныя, а цяпер тыя лугі лазою ўзяліся, кусты, як гай, параслі. Раней копы стаялі большыя, як цяпер стагі. Чаму ж так? Куды распаўзліся людзі, як спуджаныя авечкі? Даўней зямлю любілі, цяпер яе баяцца. Нават местачкоўцы чалавека з вёскі часам грэбліва абзываюць: «Эх ты, калхознік!» Раней хлебаробамі звалі, і вуліцы былі Хлебаробская, Гаспадарская, Пахатная. Даўней паны ды шляхта вясковага чалавека «мужыком» дражнілі, а цяперака дык кожнага мужчыну чамусьці мужыком завуць, і тыя не крыўдзяцца.

Куды ж гэта селавыя ляцяць за свет ад бацькоў і матак, ад родных хатак? Усе, бач, вучаныя пасталі: давай ім асфальты, ціятры, «Жыгулі» за бацькавы грошыкі, каб спраўна хадзіць, смачна есці, а рабіць? Кот наплакаў тае работы. Праціраюць увесь дзень за сталамі штаны ды спадніцы, усё нешта пішуць, а каму тая пісаніна трэба? А пра што дбаюць? Пра футболы ды гітары. Паўцякалі з сяла, панапіналі на тоўстыя клубы джынсікі і кожны тыдзень да матак па сальца ды тваражок джгаюць, і грошыкамі не грэбуюць, што на гнаі выраслі.

Прыпрэ няўпраўка, з горада нашых жа вязуць, толькі ў другія калгасы. Учарашніх селавых ужо не гаспадарамі, а шэфамі завуць. І длубаюцца тыя шэфы ў баразне, абы да адбою пра-

целяпацца. Пасля іх станавіся і ў два разы картоплі навыбіраеш.

Так і Паўлічак. Пасля школы з год да арміі неяк яшчэ пратрымаўся ў калгасе, а прызвалі — пішы прапала: згубіў дадому сцежку — і дзела з канцом. І куды іх толькі не заносіць? На БАМы, абы не да мамы, на домны, абы не дадому. Паўліка, праўда, пасля дзяйсцвіцельнай паслалі на камандзірскія курсы. Ён і змалку быў башкавіты: усё ў таго Чапая гуляў. І дагуляўся-такі да камандзіра. От і шчасцейка да мяне завітала — адзінае дзіцятка ў людзі выбілася. Бывала, прыскочыць на колькі дзён на пабыўку, спраўны, ладны, абмундзіраванне аж рыпіць, значкі — у два рады, дзеўкі аж млеюць за ім, а ён ужо па-простаму і гаварыць бытта не ўмее, усё па-гарадскому. Дзіва што! Вучаны. Ужо не мамай, а мамашай заве. А то, кажа, за нешта яго камандзір пахваліў, паляпаў па плячы і кажа не «таварыш курсант», а «Павел Анатолевіч». Думала, што недачула. Пытаюся: «Як, як ён цябе, сынок?» А ён і вокам не міргнуў, кажа: «Павел Анатолевіч». «Чаму ж так? Твайго ж татку Анікеем звалі».— «Відзіш, мамаша, невдобна. Рабята услышалі, началі Анікай-воінам дражніць. Я і стал Анатолевіч. Ты толька пры людзях не ўдзіўляйся і не утачняй».

Тут у мяне ўсё і захалонула ўсярэдзіне. Слязінку неўпрыкмет выцерла, а як камяк пракаўтнула, наважылася і кажу: «Як жа ты, сыночак, бацькі роднага выракся? Ён жа, небарака, цябе на аднэй ручачцы па сялу насіў, усё пахваляўся сыночкам сваім. Ён жа і быў воін, ды яшчэ які! Онь жа ў прыскрыначку ўсе яго

ардзяны з медалямі ляжаць і тыя крывавыя нашыўкі за ножачку яго, за рэбры перабітыя, за дзірку навылёт, а ты застыдаўся бацькава імя прыняць. Можа, душачка яго недзе тут слухае нас, дык ёй адхлання не будзе на тым свеце». А ён сваё верне, быццам няма ў чалавека ніякае душы. Косці, кажа, ды цела толькі. Пахавалі — і канцы. Прах адзін. Тут і я не змоўчала:

«Праўда, дзеткі, без душы і совесці і чалавека няма. Прах і страх адзін. Онь колькі на фронце палегла. Праўда ці не, кажуць, дваццаць мільёнаў. А хто іх лічыў? Можа, і болей. Там, дзе яны пахаваныя, курганы панасыпаны ды лес онь які парос. Думаеш, і ўсё на тым? Не, не, сыночак, не грашы. Душачкі не зваліся і зямелькаю не засыплеш. У нашыя яны перайшлі: таткава ў тваёй жыве, і ў маёй яе частачка ўсё трапечацца, і ў кожнай сям'і так. Душачкі тых воінаў белымі зданямі на курганах закамянелі, яны ў званы тае Хатыні б'юць і па ўсім свеце ў людскія сэрцы паразляталіся. Колькі, думаеш, у маім сэрцы душачак? Га? І мамка мая, і татка, і брацельнік, што галоўку недзе ў Германіі склаў, і твой татка Анікей, і брацік твой з сястрычкаю і бабкаю, што ірад на чужой старане спапяліў,— усе ў маім сэрцы месцяцца»,— сказала і залілася слязамі.

«Ну, брось, мать, не растраівайся. Пускай будет по-твояму, душа, душа. Толькі её ніхто лічна у глаза не відел».

Маці выцерла слёзы і напаследак сказала: «Чалавек без душы да-а-дёка відзён, а з душою часцяком і не прыкмячаюць».

Так яны тады пагаварылі.

Яшчэ колькі разоў прыязджаў на пабыўку Паўлічак, але ўсё рабіўся чужэйшы і чужэйшы. Спытаеш, бывала: «Як жа табе жывецца, сыночак?» Адзін адказ: «Нармальна». А дзе простай бабе паняць, што гэта за нармальна: норму выконвае ці нормы ўстанаўляе. Неяк аднаго разу спытала, ці нямала на прыкмеце нявесткі. «Намячаецца адін вар'янт». А хто гэта такі, перапытваць не пасмела. З'едзе сынок у тую сваю школу, а маці не спіць начамі, усё думае, усё гадае — яе гэта ці не яе Паўлічак. Такі ж ласкавенькі быў маленькі, ад прыполу, бывала, не адарвеш, а падрос, гаспадаром у хаце стаў, усё лецечка калгасную работу на працадні варочаў. А тут чужы нейкі. Усяе і гаворкі: «нармальна», «мамаша», «факцічаскі», «вар'янты» нейкія. Без тлумача і не разбярэш. Мажа, і праўда — перавучыўся. Думаць думала, а радавалася кожнай вестачцы, хоць і не часта яны прыходзілі. Граматы ў яе было — адна зіма лікбезу: навучылася распісвацца, збольшага чытаць друкаванае, а пісаць, як бог пашле,— каракулі. І ўсе з вялікай літары. Каб не сараманіць сына, адрас пісаць хадзіла да суседчынай дачушкі — васьмікласніцы.

А кончыў вучылішча, прыехаў у сіне-зялёнай новенькай форме, з blішчастымі пагонамі. Ад радасці маці расплакалася: такі ўжо матчын лёс — гора і радасць слязамі заліваць. От каб Анікей пабачыў сыночка, такога спраўнага, важнецкага, і пах ад яго нейкі не тутэйшы ідзе. Чамадан скураны, а ў ім шаўковыя штаны і куртачка такая паласатая, а прычындалля — брыцца, мыцца — і не бачыла такіх зроду.

Дні са тры папіў з хлопцамі ўволю. Дзеўкі

па падкаванню ўсё шнуравалі, нібы незнарок. Заскаквала і Еўка Кернажыцкая. Чырванела, бедная, як запытаўся Паўлік, што яна цяпер робіць. А ёй сорам прызнацца. Гэта ж трэба, цьфу на іх, да чаго здзек над жывацінаю дайшоў — асемяненне з жалезнае трубкі. Вывучылася Еўка на таго заатэхніка і робіць гэты гвалт над кароўкамі. Хіба ж прызнаешся ў такой рабоце кавалеру? А зубаскалы ўжо расказалі Паўліку пра яе должнасць, ён і пацьвельваўся са свае колішняе ўхажоркі. Еўка пырснула за дзверы, толькі і бачыў яе.

Незадоўга да ад'езду загаварыў Паўлічак, што ў горадзе ў яго дзеўчына завялася. І не абы-якая. І неяк не па-нашаму завецца, Інаю. Бацька ў яе, кажа, нейкі в-я-я-лікі начальнік. Кватэра аж на тры палавіны, дываны — ад столі да падлогі, серванты і пыласосы, пасуда аж хрумсціць. Усё ёсць, і дачка на выданні. Нібыта з Паўлікам маім яны так палюбіліся, што жыць адно без аднаго не могуць, і дзела на вяселле выкіравалася. А вяселлі, кажа, цяпер па тры дні гуляюць у рэстаране. І чаго там толькі няма. Гасцей больш за сотню, і гэты, як яго, адзін дэфіцыт.

Кажа сынок, што з боку маладое ўсё будзе ў поўным парадку, а з нашага... вапрос імеецца: фінансы пяюць рамансы. Пад'ёмныя свае ён з хлопцамі ў Нюрчыным магазіне прасадзіў да рубліка апошняга: усё зорачку замочвалі, каб новыя раслі, кажа.

На вяселле, выходзіць, раскашэліцца трэба, каб перад новаю раднёю і перад людзьмі ў лужыну не пляснуцца. «Так што,— кажа,— ма-

маша, фінансавая помагч трэбваецца. Карацей — грошы. Панімаць нада».

«Панімаць,— кажу,— дзіцятка, панімаю, а дзе тыя грошыкі ўзяць?» А ён, не доўга думаючы, тут жа і знайшоў. Кабанчык, кажа, сотні на чатыры пацягне, бычок за лета выгуляўся, таго ж варты. Для зачэпкі ўжо нешта ёсць.

І як насеў, як насеў — махалам не адмахаешся. Колькі слёзачак выліла, не памагло: звёў-такі кабанчыка і бычка-гадаванца. Пост прыйшоў — гаршка няма чым засмачыць. Ледзьве кароўку адстаяла. Мацеры хоць бы на карабок запалак пакінуў. Дзе там! Грошыкі ў кішэню — і пасвістаў у свой горад.

Каб на вяселле прыехала, казаў, тэлеграму адаб'е, толькі каб плюшаўку не адзявала, бо сорамна. А за што справіш што лепшае? Падчысціў жа ўсё чыста да капеечкі. Колькі ночачак не заснула ні на волас: усё думала, як яно там будзе, як паглядзіць і ці прызнае нявестка, ці захочуць тыя сваты радніцца з простаю бабаю. Згару, думала, ад сораму: як там сесці, што чым есці, пра што з тымі сватамі гаварыць, каб Паўліку не нашкодзіць. Думала, думала і так і гэтак — і такі надумала: не паеду. Прыйдзе тэлеграма, адаб'ю назад, што занядужала і прыехаць не здалею, прапішу, што блаславуляю, жалаю і так і далей.

Дзень у дзень пыталася ў паштаркі, можа, што ёсць. «Пішуць, пішуць, цётачка»,— адказвала тая, а апошнім часам хату мінаць пачала, толькі здалёк крутне галавою і пайшла далей. Добра, што так і не дачакалася тае тэлеграмы: жыць стала спакайней, сны толькі напаўзалі адзін на адзін. То ўсіх сваіх траіх дзета-

чак у адных начоўках купае, а яны ружовенькія ды гладзенькія. Паўлік выскачыў і пабег, а тыя двое гарэтнікаў паплылі ў начоўках па разводдзі. Гукае, гукае — голас прапаў, губы варушацца, а не чутно ані слоўца. Ускочыла па шыю ў ваду, зірнула туды-сюды, а на вадзе ні начовак, ні бурбалкаў не відаць.

А то ні з таго ні з сяго Анікей прысніцца, такі, як да вайны, малады і харошы, і лашчыцца да яе, дыхае горача, шкадуе, абдымае, і ёй так добра, так соладка сэрца татахкае. Прахопіцца і шэпча: «Прасці, госпадзі, цяжкі грэх. Гэта ж сон, сон толькі. Цьфу на яго»,— а сэрца і праўда татахкае. Яна ляжыць з расплюшчанымі вачыма, слухае, як у запеччы трашчыць цвыркун, як трымціць ад ветру незакітаваная шыба.

Дашаравала Аўдоцця падлогі, вымыла сталы і вокны, перАслала пасцелі ў абодвух палатах, пагаманіла з кожным хворым, падвесяліла слабейшых. Сухі, як леташняя тычка, чорны дзед, што ўсю ноч гупае на ўсю бальніцу сухім кашлем, прасіў купіць яму тры пачкі «Прымы». Бабка яго ўшчувае: «Задушышся сам, чалавеча, і суседзей патруціш. Бач, дакурыўся, што ўсярэдзіне арганы іграюць. Лепей за тыя грошы куплю табе маселца». А той ледзь не на каленях просіць: «Дзе ты кінеш, калі тут усё засмалена»,— і ён стукае кулаком па рабрыстай, як сціральная дошка, грудзіне. Аўдоцця ўзяла з яго зрэзанай маршчынамі далоні дробныя манеткі і пайшла з бальніцы. А думы не пакідалі яе.

Успомніла, як на чацвёрты год пасля жаніцьбы заявіўся на пабыўку Паўлічак з жонкаю

і дачушкаю. Сказаў, што аслабела дзіця ў гарадской задусе. Сырадойчык трэба, свежанькія яечкі і смаловае паветра. Чаго добрага, а гэтага ў нас не бракуе. Іначка яго ў вузенькіх штоніках, у басаножках на высокіх цвічках, пазногці на руках і нагах, нібы ў крыві, на галаве цэлая капа з нейкіх нежывых рудых валасоў. А з мордачкі нішто сабе, грудасценькая і губы маляваныя. Увайшла, паздароўкалася. Аўдоцця руку аб фартух выцерла, а нявестка сваёй не падала. Доўга круціла носам, што для яе няма асобнага пакоя. Прыйшлося посцілкамі запяць палавіну хаты, у суседзяў ложак папрасіць для ўнучкі. А яна такая харошанькая, беленькая ўся, і коскі, як лянок чэсаны, у сукеначцы ружовенькай і жоўценькіх сандаліках. «Як жа цябе зваць, унучачка?» — «Анжэла»,— кажа. Мне і не выгаварыць за раз гэтак. «А божухна, хіба людскага імя не было? Гэта ж нейкае не нашае». Іна толькі фыркнула, а Паўлік і кажа: «Адсталі вы, мамаша, культуры не панімаеце».— «Можа,— кажу,— і не панімаю, а выгаварыць не выгавару». Я яе цішком Анэлечкай звала, а каб бацькі не сварыліся, пры іх — толькі ўнучачкай. Ласкавае дзіцятка, да мяне гарнулася. Я з ёю і ў грады хадзіла, паказвала, дзе што расце, сунічак набірачак штодня прыносіла, казкі баяла. Толькі бяда — не ўсё яна па-нашаму разумела.

Іна, тая мяне ніяк не звала: «вы» і «вы». Часам, калі нявыкрутка, «Анісімаўна» скажа. Дзе ж гэта відана, каб свякруху ніяк не зваць? Можа, цяпер такая завядзёнка?

З месяц папілі ў мяне сырадойчык, з'елі ўсіх куранятак і пачалі збірацца ў дарогу. Аднаго

разу за вячэраю сын і кажа: «Што ты, мамаша, тут будзеш адна векаваць? Забалееш, вады падаць некаму. А мы скора кватэру палучыць можам. На траіх — дзве комнаты ад сілы, а на чатырох можна і тры. Састарэлым нібыта асобая плошчадь палагаецца. Так што рашайся, мамаша».

Тут мяне як варам абдало: «Куды ж хату, кароўку,— пытаюся,— усё, што з таткам тваім нажывалі?» Тут і Іна падала галасок і ні з таго ні з сяго першы раз мамаю назвала. Нібыта спагадае, што мне адной упраўляцца цяжка, што гады выйшлі, што і Анжэлачка да мяне прывыкла. А ў іх на ўсім гатовым будзе так добра, так добра. Хату з усім, што ёсць, прадаць працей простага: іх цяпер за добрую цану на дачы купляюць.

Слухала я, слухала ды як загалашу: «А дзетачкі ж вы мае, хіба можна сваё гняздо пакідаць, а самому ісці невядома куды лёгкага хлеба шукаць. Я ж без работы зачахну. Тут мяне ўсе ведаюць, і я ўсім свая. У хаце кожны цвік тваім таткам, царства яму нябеснае, забіты, маснічыны аж дасюль цёплыя ад яго ручачак. І кінуць-рынуць усё, аддаць чорту лысаму?! Не, мае дзеткі, не сагласная я, як сабе хочаце».

А яны ўмалёгваюць, каб пра іх падумала. Кажуць, грошы мне на кніжку пакладуць, а яшчэ лепей машыну купяць на маё імя, бытта мая, а ездзіць будзе ён і мяне, як пані, будзе катаць. Гаварылі, гаварылі, ледзь не пасварыліся. Так надзьмутыя і паехалі.

А я ўжо прысохла да ўнучачкі. Сніцца яна мне і сніцца. Убачу чыё дзіцятка, здэцца, мая

Анэлечка. А як пра хату падумаю, такі страх апаноўвае, нібы знялі з цябе ўсё да рубца, выгналі ў поле ў чым маці радзіла, і няма табе прыстанішча, хоць воўкам вый. Дзень і ноч думкі не даюць збыту: і так і гэтак прымяркоўваю. Падумаць, дык і праўда, адзін сын застаўся, яму жыць, а мне аджываць. Няхай яму добра будзе, для сябе ж стараецца. Мы нагараваліся, няхай дзіцятка параскашуецца, а я неяк перакідаюся. Няхай бы, як людзі, калі так хочацца, і машыну тую меў, і кварціру людскую. Свая ж крывіначка, сваё ж дзіцятка, і не зломак які, і сямейка ладная. А прыгледжуся на соннага — Анікей і Анікей. Хіба ж можна шкадаваць свайму дзіцяці? Маці ж з рота скібку апошнюю аддасць яму. Ды і чым Паўлічак горшы за людскіх дзетак? Вунь і Халімон свайму гарадскому хлопцу справіў «Жыгулі», і Лаўрэніха зяцька «Масквічом» надзяліла. А я што, хіба не маці?

А прайдуся па двары, зірну ў варывеньку, стрэну Падласку з пашы, здаецца, і яна глядзіць і просіць: «Не кідай ты нас». Успомнілася, як Анікей, ужо на мыліцах, заганяў крукі ў шула і выцяў па пальцы, здэцца, і кровачку яго дасюль дажджы не змылі; патупаю, патупаю па хаце, умыюся слязьмі і шапчу: «Уразумі, госпадзі, старую дурніцу — за сынам ісці ці самой па сабе жыць? А ён жа ў мяне аднечкі...» Толькі што з ім сталася? Калі так зачэрствела яго душачка?.. А ці часам не сама вінаватая? Каб жывенькія былі Волечка ды Змітрачок, на ўсіх траіх дзяліла б сваю ласку, кожнаму пароўну: акрайчык і драбочак цукру, скварку і кубачак малачка — на ўсіх. А Паў-

лічак жа рос адзін. І ласка, і клопат, і самае смачнейшае — усё яму, каб і сыты, і апрануты быў не горай за людскіх дзетак. А ён яшчэ і перабіраў: гэта не так, тое не гэтак. Малы прасіў, енчыў, а падрос — дай, хоць з калена вылamі. От тады і трэба было прывучаць па адной маснічыне ступаць. Дык дзе там! Ад сябе адрывала, абы яму добра было. Так і прывык: «дай» і «дай». Хоць бы раз сказаў: «На, мама». Зроду не было. Кажуць жа: «Адно і тое нелюдно».

Але ж хіба ён адзін такі? Онь колькі хат пазабіваных стаіць. Разбрыліся дзеці, і мацяркі падаліся хто куды. Але ад гэтага не лягчэй.

Аўдоцця спахапілася, што ўжо не думае, як жыць далей, а толькі перабірае ў памяці пражытае, перабачанае, перапакутаванае.

Праўда, калі калгас стаў на ногі, старшыні людскія траплялiся, дык онь як разжыліся: кублы і клеці поўныя, разбудаваліся, грошы сотнямі лічыць пачалі, адзежу не горшую за гарадскую паспраўлялі. Ідзеш вуліцай, хаты, як велікодныя яечкі, маляваныя, матацыклы ў кожным двары плот падпіраюць, машыны свае завялі, тэлевізары над кожнаю страхою рожкі вытыркнулі. Добрыя людзі дзяцей павывучвалі, гарадскіх унукаў гадуюць, ведаюць, дзеля чаго і дзеля каго жывуць. Падумала і пастукала сухім кулачком у лоб: «Пільна трымайся свайго селішча, кораню свайго пільнуйся. Чалавека без свае зямлі ганіць вецер, як сухую траву па полі».

## 6

Дакторчын гаспадар адбіў тэлеграму, што едзе. Замітусілася Арына Аляксееўна: сама ўзялася прыбіраць у сваіх пакоях, а ў абліччы то радасць, то прамільгне трывога — ссуне броўкі і замрэ на месцы з анучаю ў руках. Галінка скача на адной ножцы і прыпявае: «Едзе татка на казе і гасцінец прывязе...»

— Што ты пляцеш, дачушка? Чаму на казе? Да станцыі цягніком прыедзе, а туды па яго машыну пашлюць...

— «Казла»? — хітра ўсміхаецца Галінка.— Можа, ён не казёл, а зусім каза. Бабка Дуня ўсе казкі складна гаворыць, і я так умею: «Баба Дуня шафу суне», «Пашлю маму ў краму да цёткі Веркі па цукеркі».

Арына Аляксееўна ад замілавання смяецца і цалуе дачушку ў белую галоўку, спрытна ўскоквае на табурэтку, напружвае высокія статныя ногі, выгінаецца спіна, высока выцягвае белыя круглыя рукі, каб пачапіць новую фіранку з прыгожымі каляровымі паўлінамі.

Аўдоцця Анісімаўна любуецца ёю — прыгожаю, статнаю, ад яе заўсёды вее свежасцю, часам пахне лякарствамі. «От каб у мяне такая нявестка была»,— думае сама сабе Аўдоцця, гледзячы на дакторку, што ўратавала яе ад пагібелі, прытуліла ў сваім доме мудрэй за родную дачку. Не, такая не выраклася б маці, не ўцякла б, не тулялася б ад яе.

— Чаго вы ўздыхаеце, Анісімаўна? Можа, вам кепска?

— Што вы, галубачка! Лепей мне ніколі і не было. Цяпер ні рукі, ні сэрца не рву, не

вінна нікому нічагусенькі, ды і мне няма з каго спаганяць. А бывала — адны нядоімкі. Бабы абедзве должнасці спраўлялі — мужчынскую і жаноцкую, а на іх толькі пакрыквалі: «Давай, давай!» Знай — і дзень і ноч давай.

І Арына Аляксееўна ўспомніла сваё пасляваеннае дзяцінства. У іх на Гродзеншчыне трохі сытней жылося: старшыні людскія траплялія, часцей свае, селавыя. І хлеб быў, і да хлеба. Прыгадалася ёй спакутаваная, зжаўцелая маці. Яна павольна канала, не енчыла, не стагнала, не назаляла нікому, толькі да крыві кусала ссохлыя вусны ды на дзетак глядзела праз слёзы. А іх у яе чацвёра — адно пад адным.

Нагледзелася Арына на маміны пакуты і дала сабе слова вывучыцца на доктара, каб ратаваць людзей... Даеў-такі маму рак. Пагаласілі дзеці, стагнаў начамі бацька, яшчэ не стары мужчына. Досвіткам круціўся каля печы, удзень — на калгаснай рабоце, увечары — на сваіх сотках. Дзетак прывучыў даглядаць адно аднаго, у хаце і ў гародзе ўпраўляцца. Так і снавалі яны, як тыя мурашы.

Праз год прывёў тата ў дом не надта маладую кабету, сабраў дзяцей і кажа: «Цяжка нам, дзеткі, без мамы. У цёткі Алены гаспадар з вайны не прыйшоў. Вы ведаеце, якая яна сумленная і добрая. Згадзілася яна ў нас за гаспадыню быць, вас на свае ногі паставіць. Шанаваць будзеце, палюбіце, можа, і мамаю назавеце, а не,— будзе ў нас цётка Алена». І яна пакланілася дзецям і на чатыры куты даўно не беленай хаты. З ёю дабро і цяпло прыйшлі ў асірацелы дом. Праз паўгода ўсе дзеці цётку Алену мамаю звалі. Усю душачку сіротам ад-

дала, выгадавала, вывучыла ўсіх. Мамчыну магілку і цяпер даглядае. Кажа: «Гэта ж мамка маіх дзетак».

Але ці не больш за ўсіх яна любіла яе, меншанькую Арышу. Калі ўжо вучылася ў інстытуце, кожны месяц прывозіла з дому падмацунак і наказвала: «Ты ж, дачушка, не таіся ад суседак, не жуй з кулака. Не скупіся аддаваць, саромейся прасіць і браць. Хто дае, той і мае. Совесна жыві. Чалавека шануй, і табе ласка будзе».

І цяпер яны з бацькам, як белыя галубкі, у згодзе век дажываюць, дбаюць пра дзетак і ўнукаў сваіх.

Арына Аляксееўна лёгка саскочыла з табурэткі.

— Давайце лепей піць чай.

— Калі не грэбуеце, я вас сваім участую,— і патэпала Аўдоцця на кухню. Там развязала мяшэчак, доўга нечым шамацела, а калі чайнік закіпеў і імбрычак настояўся, пазвала Аляксееўну і Галінку за стол. У шклянках іскрыўся бурштынава-малінавы водарны чай.

— Адкуль гэта? Што за гатунак? — пакаштаваўшы, запытала Арына Аляксееўна.

— Гатунак «Балашоўскі» завецца. Онь з таго майго мяшэчка. Гэта я, як выбіралася з дому, назбірала святаянніку і мяты,чабару і сунічніку, бурнэлькі і душыцы, бруснічніку і ліпавага цвету. Думаю: няхай хоць часам пахне мне роднаю лугавінаю. Прабавала нявестку прывучыць, дык дзе ты бачыла! Фыркнула і — у памыйніцу. Як, Галачка, ніштто?

— Смачны. Толькі мне яшчэ лыжачку цукру пакладзіце.

Цмокала і хваліла чай дакторка і казала, што ўсе травы лекавыя. Жывёлы іх ведаюць лепей за людзей. Калі занядужаюць, самі шукаюць, што трэба, і ачуньваюць. Памаўчаўшы, нечакана спытала:

— Вы мне прабачце, Анісімаўна, усё неяк не адважвалася спытаць, дзе ваш сын цяпер?

— Ох, галубачка, каб жа ведала,— раптам пасуровела Аўдоцця.— Чакала ўсё, што азавецца, усё суцяшаў: «Мамаша, жджы. Устроюся на новым месцы і тут жа вызаву». Ждала, ждала, усе жаданкі паела, а яго — ні слыху ні дыху. От і асталася падкідышам,— яна горка ўсміхнулася,— маці-падкідыш,— ражочкам хусцінкі выцерла вочы.

Арына Аляксееўна абняла яе за плечы:

— Ну, не трэба. Даруйце, што дакранулася да самага балючага.

— Нічога, не шкадуй мяне. Ужо адбалела. Я ж казала: паспавядаешся — палегчае. Можа, і мне прыйшла пара паспавядацца. Часам бачу — карціць табе нешта ў мяне запытаць, а не наважышся. Мабыць, думаеш, што за баба без роду, без племені ўбілася ў хату, можа, зладзейка ці ашуканка якая.

— Што вы, што вы, Анісімаўна? І ў думках ніколі не было. А пра сына з нявесткаю спытаць хацелася. Вы мне ўсё сваё жыццё расказалі, а як да апошняга часу даходзілі, нешта недагаворвалі, пераводзілі на другое.

Анісімаўна нізка апусціла галаву, потым высока яе падняла, утаропілася ў самую душу сваёй добрай гаспадыні.

— Прызнацца, сорам не даваў. І шкада сваё дзіця ганіць, і болька вот тут,— яна пастукала

кулачком у грудзі,— збыту не дае. Казала ж ужо вам, як Паўлічак з тою Інаю і Анжэлачкаю наведаўся ў Балашоўку і з нажом да горла падступіўся: пераязджай і пераязджай, мамаша. І кватэру на цябе большую дадуць, і на сваёй машыне куды заўгодна паедзеш.

І ўгаварыў-такі дурную бабу. Каму верыць, як не роднаму дзіцяці? Хто ж ведаў, што свае так аблапошаць родную маці? Збыла і кароўку і дом. Дзякаваць богу, Падласка ў добрыя рукі дасталася. Дом,— яна ўздыхнула,— на знос пайшоў. А як выбіраліся адтуль, адзін божачка ведае. Хацела куфар, што ад мамкі з пасагам прывезла, забраць, і слухаць не захацелі. «Ён жа ўвесь шашалем паточаны,— кажа тая Іна,— на трэскі яго толькі,— у нас жа ёсць сервант». І нарумзалася ж я, пакуль душачку адарвала ад свайго парога. Колькі мы некалі на ім з Анікеем папаседжвалі пасля работы. Патрэт яго, царства яму нябеснае, да-а-ў-но вісеў у раме пад шклом. Зняла яго, працерла, у чыстую сурвэтку загортваю, а нявестачка як хвастане: «У гэтай жа раме клапоў, як сернікаў у карабку. Картачку можаце ўзяць, а гэта — у печ». Тут я не вытрымала, зайшлася плачам. А выйшла ўсё адно па яе. Тут я і змікіціла, пад чыю дудку мне скакаць аж да смертачкі. А Паўлік хоць бы азваўся. Э, думаю, сынок, і цябе яна, не раўнуючы, як таго жыўца, водзіць на акунёўцы. Памкнулася было ўзбунтавацца, адкруціць усё назад і дажываць век у сваёй хаце. Але дзе ж ты адкруціш, калі і бумагі ўсе казённыя з пячаткаю, і грошыкі ў яго ў кішэні. Так я паражагнала свой двор, параўла і паехала на бабыльскую жытку ў тыя ДОСы.

— А што гэта такое? — спытала дакторка.

— У тым гарадку так дамы афіцэрскія называюцца. Гэта ж людзям усё часу не хапае, дык і словы пакалечылі. Ужо маломy і маму няма калі мамаю назваць, дык «м-а-а!» крычыць.

Ага, ізноў убок звярнула. Прыехалі. Я думала, горад і праўда, аж тыя ДОСы паміж хвойніку стаяць, а за імі — салдацкія казармы, нейкія гаражы і адзін магазінчык. Там і хлеб, там і крам, там і драбяза ўсялякая.

Кватэра, няма чаго богу грашыць, людская была,— тры палавіны, светлыя і не так высока, на трэцім этажы. Усё было: газ, і ванна, і, шануючы вас, туалет прама ў кватэры. Мне нанач у зальчыку ставілі раскладушку: качалася ў ёй, як у начоўках, а днём калі-нікалі на канапе падрамлю, пакуль дзверы не рыпнуць. Грашыць не буду, харчамі не забіжалі. Паўлічак з цёмнага да цёмнага, а то і ўсю ночачку — на рабоце. Іна — днюе ў сваім буфеце, а ўвечары ў клубе скача і спявае. Унучку адводзіла і забірала з садзіка я. Колькі разоў казала, няхай сядзіць дома. І ні блізка. Кажа, будзе няправільнае васпітанне: ёй дзецкі калякціў трэба, а ў гэты калякціў з плачом цягну беднае дзіця, і ўсё просіцца, каб раней забірала.

А я ўвесь дзень прыдумляю сабе работу: навару, напяку, перамыю калготачкі, шкарпэтачкі, панчошкі і маці і дачушцы пацырую. А вечарамі — целевізар. Мы дык больш з Анжэлачкаю тыя мульцікі глядзелі, а што яны там гавораць, страляюць і паляць, проста страх бярэ. Пагоду яшчэ слухала. Часам я лепш угадвала. Так і жыла з ласкі, калгасную пенсію палу-

чала 26 рублёў і 48 капеек. Мне от так хапала. Хоць і дагаджала як умела, усё адно нявестка фыркала: тое не так, гэта не гэтак. А Паўлічак маўчыць, як вады ў рот набраў. Бачу — і яму не соладка: маці шкадуе, а жонку баіцца. У казарме — камандзір, а дома — папіхач папіхачом.

Леташняя зімачка ўвалілася, што і качкі адляцець не паспелі. Пабегла ў магазін па малачко, а яго доўга не прывозілі. Пакуль дастаялася, добра-такі заклякла — ні рук ні ног не чую. Назаўтра гарачка такая ўкінулася, што і сваіх не пазнаю. Пакідалася, пакідалася на сваёй раскладушцы,— замінаю, усе абходзяць мяне. І адтарабанілі ў бальніцу. Там добра было. А дзён праз колькі прыходзіць адведаць сынок. Кампоту слівовага прынёс і яблыкаў купленых, памыляўся, памыляўся дый кажа: «Такая, мамаша, сітуацыя. Срочна мяне пераводзяць на Урал. Прадпісанне выехаць з сям'ёю нямедлянна. Вас цяпер забіраць нельзя, каб у дарозе не пацярацъ, да і врачы не разрашаюць. Так што не беспакойся, мацъ, як толькі ўстроюся, вызаву тэлеграмай. А з КЭЧ дагаварыўся: выйдзеце, у прэжняй кварціры пажывяце да вызаву».

Паплакала я: на каго ж ты мяне, сыночак, адну, як бабылку, кідаеш, куды ж мне цяпер дзецца, калі няма свайго ні кала ні двара.

І Іначка прыджгала. «Мамаша (гэта, значыць, я ўжо мамаша), мамаша, не валнуйцеся, абязацельна забяром. Паўлік прыедзе нарочна».

І паехалі.

Чаго толькі не перадумала, пакуль качалася ў той бальніцы. А як тэмпература спала,

доктар і кажа: «Далечвайся, бабка, дома. От табе рэцэпты і парада: пі гарачае малако з мёдам, грэлкі і гарчычнікі на левы бок стаў, а нам,— кажа,— койка трэба». З тым і выпісалі мяне. Я ў той ДОС прыплялася, а там ужо чужыя людзі пасяліліся. Праўда, пусцілі мяне. Раскладушку маю, дзякаваць ім, не выкінулі, у калідоры паставілі, а ў іх там ладная псіна ў закутку вурчыць. Так удваіх і спалі, а новая гаспадыня глядзіць, як на скулу на самым патрэбным месцы. А я страх баюся каму замінаць. Пенсія мая канчалася, да новае далёка, і выбралася я ў сваю старану. Думаю сабе, перабуду колькі ў кумы, можа, каму нянька спатрэбіцца ці падлогі мыць і званкі даваць у школе. Папрасіла тых суседзяў, каб адрас запісалі, рубель пакінула: калі прыйдзе вызаў, каб у Балашоўку пераслалі.

От здуру, нямоглая, і выправілася на сваю пагібель. Прамачыла ў дарозе ногі, замерзла да самай сярэдзіны. Звярнула з шляху ў бліжэйшую вёску і прыбілася аж сюды. Немач тая, відаць, адкінулася назад. Так і сунулася без памяці пасярод вуліцы. Каб жа не вы, галубачка, вараннё б даўно і костачкі расцягала,— яна ўхапіла руку Арыны Аляксееўны, каб пацалаваць. Дакторка далікатна высмыкнула яе з шурпатай сухенькай далоні.

— Што вы, Анісімаўна, гэта вашы спрацаваныя рукі трэба цалаваць. Столькі яны папаварочалі!

Арына Аляксееўна, відаць, успомніла сваю маці і сцерла далонькай слязінку.

— Можа, там вас даўно чакае тэлеграма, сын шукае вас.

— Не шукае, ведаю, што не шукае. Каб шукаў, знайшоў бы адразу. Знаць бы даў, дзе ён... — Сны ў другі бок вернуць. А я даўно веру снам. Як сасню маці — дабра не чакай, ратуйся: яна мяне кожны раз пра бяду папярджвае. Калі дом прадавала, аж бытта прыходзіць яна да нас, стала ў парозе і маўчыць. Я адвярнулася ад печы, а яна, нябожчыца, уся аж зіхаціць ад таго полымя. Адале з-за пазухі выцягвае пук грошай, ды шась у печ, яны так і пакарабаціліся ды чорным попелам узяліся, потым яшчэ жменю — у агонь. Я хачу крычаць: «Што ж вы, мамачка, робіце?», а голасу няма, а яна толькі ўсміхнулася і растала, як дым. Падумала, падумала, дык гэта ж я свае грошыкі шуснула ў печ... І ў песні ж некалі спявалі: «Зялёны дубочак далоў пахіліўся, быў добры сыночак, пакуль не жаніўся».

— Прыедзе мой Федзя, папрашу яго, каб падкінуў вас на машыне ў тую Балашоўку, там, пэўна, і тэлеграма вас ужо чакае. Захочаце, да сына паедзеце, а не — у нас аставайцеся. Вы мне і ў бальніцы, і дома во як патрэбны.

— І я прыжылася пры табе, галубачка, да Галінкі мудрэй як да роднай унучкі прысохла, а ўсё адно ісці некуды трэба, прыбівацца да цвёрдага берага пара. Пажыла б я яшчэ ў вас, але што скажа ваш гаспадар? Спытае, адкуль гэтая навалач?

— Ён у мяне неблагі.

— Неблагі — дарагі, а дабрэйшы — даражэйшы,— усміхнулася Аўдоцця.— А я помню адно: першы дзень госць — золата, другі — серабро, трэці — медзь — дадому едзь. Пара

і мне. Калі не гоніце, пажыла б яшчэ колькі. Шкада мне вас з Галінкаю.

— Праўда, Анісімаўна, пра дом і пра бальніцу сваю і не дбаю. Там, дзе вы,— парадак.

Галінка ўжо даўно спала. Жанкі дапілі чай. Арына Аляксееўна была ўзялася прыбіраць пасуду, але Аўдоцця не дала, прычыніла за гаспадыняю дзверы, а сама ціха-ціха, каб лішні раз не бразнуць, управілася і патушыла святло.

Праз сон пачула, як па страсе шапаціць роўны спорны дождж. «Дзякаваць богу,— падумала,— праўду кажуць, два дажджы ў маі — не дбай аб ураджаі». Яна хоць даўно не арала і не сеяла, а душа балела за кожнае каліўца, думала, як уродзіць, як людзі давядуць да ладу, і пакутавала, калі нешта ішло ў глум,— смаліла спёка ці гніло ў аблажныя дажджы. Такая ў яе была душа — спрадвечнага хлебароба і гаспадыні.

А дождж шапацеў да світання.

Гаспадар Арыны Аляксееўны прыехаў надвячоркам. У доме яго ўсе чакалі: жонка прыбралася ў беленькую тонкую блузку і зграбную клятчастую спаднічку, валасы двума колцамі спадалі на высокі лоб. Уся яна свіцілася ад чакання. Галінцы завязалі вялікі блакітны бант, абулася яна ў новенькія чырвоныя сандалікі і выбегла да брамкі сустракаць татку. За парканам усміхалася Арына Аляксееўна.

З машыны вылез высокі шыракаплечы мужчына ў шэрым капелюшы, з перакінутаю цераз руку курткаю, у сінім касцюме, пры гальштуку. Круглатвары, смуглявы, як цыган. Ён пацалаваў у шчаку жонку, нібы саромеючыся, уха-

піў на рукі Галінку і пайшоў да ганка. Шафёр следам панёс вялікі чамадан.

Аўдоцця на кухні пякла наздрыстыя пшанічныя аладкі. Фёдар пачуў, што нехта староннi ёсць у хаце, і запытаў у жонкі: «Хто там?» Арына ціха адказала: «Добрая, мілая жанчына... Часова пакінула пасля бальніцы». А Галінка рынулася на кухню: «Бабка Аўдоцця, бабка Аўдоцця, татка прыехаў, паглядзі, што прывёз,— яна трымала вялікую шакаладку ў прыгожай абгортцы,— а ў чамадане яшчэ ёсць нештачка,— зашаптала,— от такая лялька». І раскінула рукі на ўсю шырыню. Анісімаўна выцерла рукі, выйшла з кухні, ласкава прывіталася: «Добры вечар. З прыездам вас. Зачакаліся ўсе, а Галінка ўсе вочкі прагледзела».

Фёдар кінуў на хаду «Вечар добры» і панёс у пакой разбіраць чамадан. Анісімаўна знікла на кухні.

Стол быў застаўлены па-святочнаму: мачанка, закалочаная падсмажанай мукою, стосік аладак, свежанькі тварожны сыр, масла са слязінкаю, наўкасы накроены батон, лустачкі свежага хлеба, скрылёчкі чырвонай падсушанай палядвіцы свайго засолу. На пліце булькаў вялікі эмаліраваны чайнік. Такому пачастунку здзівілася нават гаспадыня, а Аўдоцця толькі задаволена пасміхалася.

— Ну-у-у, жывяце вы, нічога не скажаш,— паціраючы рукі, садзіўся за стол Фёдар.

За вячэраю і чаем ён расказваў абласныя навіны: каго куды перавялі, каго адправілі на пенсію, каго павысілі; ▪ арганізацыяй аграпромаў нібыта і яму свеціць павышэнне ў раён. Казаў, што ўсе іх курсанты зачытваліся ў нейкім

маскоўскім часопісе пра недаробкі ў камбайнах. Адтуль і вялікія страты.

— Гэта ж трэба ўмець, зрабілі імянны камбайн славутаму казахстанскаму цаліннніку, адправілі ў Кустанай, паспрабавалі, а ён не круціцца. От партачы! А колькі мы б'ёмся з гэтай тэхнікай?

Фёдар з замілаваннем пазіраў на сваю Арышу, пад'юджваў Галінку, каб весялей ела, а сам нахвальваў вячэру пасля сталоўскіх харчоў:

— Паверыш, ад полівак ды шэрых катлетаў ікаўка да абеду пачыналася, а ад кампотаў пячайка дасюль смаліць.

Аўдоцця ўпершыню не села з усімі за стол. Нешта ўсё длубалася каля пліты. Арына Аляксееўна некалькі разоў яе запрашала, а яна ўсё аднеквалася: «Пакуль пякла ды смажыла, дык і накаштавалася. Ешце на здаровейка... Упраўлюся, тады...»

Гаспадыня памкнулася памагчы ёй.

— Ідзі, ідзі, галубачка. Столькі ж вы не бачыліся,— і выправадзіла Арыну Аляксееўну з кухні.

Доўга за дзвярыма чуліся гамана і смех, шчабятала, аж заходзілася, Галінка, а потым першаю замоўкла яна.

Анісімаўна патушыла святло, легла на свой тапчанок у баковачцы за сцяною гаспадарскага пакоя. А там яшчэ доўга чуўся басавіты голас Фёдара, нібыта ён за нешта ўшчуваў жонку, перабіваў яе слабы галасок. Часам далятала «анкета», «пашпарт», «заява», «навешаюць табе». Значыць, свае пытанні рашае, падумала і хутка заснула Аўдоцця, а ў сне збянтэжанасць і трывога не пакідалі яе. «Нешта ж не вельмі ён лас-

кавы». Снілася штось нядобрае, як пракінулася на світанні, так усё з галавы і выскачыла. Сілілася ўспомніць, і — ніяк. Бытта зноў свежае мяса прывярзлося. Няўжо на хваробу? Нядобры сон.

Устала, прычыніла за сабою на кухню дзверы, села абіраць бульбу ўжо з ладнымі струпамі белых парасткаў.

Ні з таго ні з сяго яе раптам апанавала нейкая асцярога, даўмелася, нібыта жывасілам улезла ў чужую сям'ю, ходзіць на дыбачках, азіраецца, як той злодзей, а з учарашняга вечара і зусім звяла: пазіраў гаспадар на яе, як на непатрэбнага прыхадня, хоць і хваліў вячэру. Раней Арына Аляксееўна ніколі з Галінкаю не садзіліся без яе за стол, а ўчора азвалася і больш не настойвала. Відаць, і яна не надта смелая пры гаспадары.

Бульбіны боўтаюць у каструльку з вадою. Ну, і хопіць. Паставіла на пліту, размачыла ў малацэ зачэрсцвелы батон: Галінка ж вельмі любіць свежанькія грэначкі. Як устане, адразу з патэльні — на стол.

Нячутна ў новенькіх тапачках з узорамі і памятым блакітным халацiку зайшла яшчэ непрычэсаная Арына. Прывіталася і маўчыць. Ад няёмкасці загаварыла пра нейкія дробязі, зірнула ў акно, спытала, ці не будзе дажджу.

— Не паказвае.

— Адкуль вы ведаеце?

— Калі круціць рукі ўсю ночачку і сярэдзіну ломіць, нібы грузавіком пераехала, чакай дажджу. А сёння абышлося. І неба вунь якое яснае. Можа, вы куды ў дарогу збіраецеся?

— Не, проста так пытаюся,— і замоўкла.

Яшчэ нешта папыталася, абы спытаць, і выйшла. Аўдоцця адчула, што нешта муляе яе гаспадыньку.

Управіўшыся дома, Аўдоцця адвяла Галінку ў садзік і пайшла наводзіць парадкі ў амбулаторыі і ў бальніцы: зноў мыла, працірала і шаравала вокны, сталы і падлогі, зноў той хрыпаты дзед назаляў сваёю «Прымай», хоць дакторка кончa забараніла яму не то што курыць,— нюхаць. Пасядзела ў палаце з жанкамі, падвесяліла іх трохі, сабралася было ісці, аж пазвала яе Арына Аляксееўна ў свой кабінецік.

— Як вы сябе адчуваеце, Анісімаўна? Давайце я вас паслухаю, памераем ціск.

— Мерай не мерай,— не паменее і не паболее, і ўсярэдзіне сілы не прыбудзе. А чую сябе добра. Дай бог вам здароўя, што на ногі паставілі. Цяпер хоць да Кіева дайду.

— Я якраз хачу, каб вы асталіся ў нас. Баковачку вам пры бальніцы зробім, зарплату па сумяшчэнню афармім санітаркі і вартаўніка... Толькі трэба, каб вы заяву напісалі, запоўнілі лісток па ўліку кадраў. Працоўнай кніжкі ў вас, вядома, няма.

— Як гэта няма? Аж дзве,— і Аўдоцця працягнула зрэзаныя маршчынамі далоні абедзвюх рук,— от яны, з усімі пячаткамі за ўсе гады... А пісаць пакуль што нічога не буду. От збегаю дадому, дазнаюся, калі нічога няма ад Паўліка, тады відно будзе. Мабыць, здарожаны гаспадар устаў, пабягу пакармлю яго.

— Не клапаціцеся. Мы разам паснедалі. Ён ужо да-а-ўно ў канторы ці ў полі. Цяпер жа самая гарачая пара, а трактарны парк яшчэ не ўвесь на хаду.

— Ну, я пабегла.

Аўдоцця пастаяла на ганку, прыкрыўшы далонню вочы ад сонца, паўглядалася ў зацягнутае сіняватай смугою ўзаранае поле [redacted] чародамі крыклівыхгракоў. Ад свежай зямлі цягнула сытай вільгаццю. Над бальнічкаю на высокай таполі з клёкатам і трэскам ладзілі гняздо буслы, недзе ў паддашшы стагналі і вуркаталі галубы, залівалася шчэбетам і свістам усё веснавое птаства. Недзе ў даліне вуркатаў трактар, выпырхваючы шызы дымок.

Многага Аўдоцця не магла зразумець, што робіцца ў наваколлі. Яна падняла на абочыне дарогі камячок зямлі, па даўняй звычцы размяла яго ў далоні: «Халодная яшчэ. Закляклая. Пад засеў трэба, каб угрэлася добра, тады зярнятка адразу праб'е парастачак і пойдзе ў рост, а ў сцюдзёнай — застыне, мажа і не прабіцца ці вылезе нягеглым заморкам. І чаго людзей ганяць як найхутчэй адсеяцца. Іншым разам у глум, пад снег сыплюць дабро, абы зводку даць. Па радзіву, па целевізару, на сходах у сто галасоў лямантуюць — давай, давай барзджэй, адстаў, падцягніся. Некаторыя такія «гаспадары» не пра ўраджай дбаюць, а пра сваё мяккае крэселца, каб жа, бронь божа, не скінулі, як дурную квактуху з седала. Хто калі хлеbabробу загадваў, калі араць, калі скародзіць, калі сеяць і жаць? Сам ведаў і рабіў, дык і было. Даўней казалі: «Прыйшла прачыстая — усё поле чыстае». А цяпер камбайны і зерневыя, і бульбяныя, і гарадскіх прысылаюць у памагатыя, а бывае аж да замаразкаў няўпраўка.

Бывалешнім часам сярпамі і косамі за два тыдні ўпраўляліся, і зямлі было не меней, як

цяпер, у той жа Балашоўцы, і не толькі ў Балашоўцы. Цяпер жа унь колькі на колішніх гонях гарадоў наставілі, а на тым асфальце нічога не ўродзіць. Гэта ж і тады, як ішла ў Маленчыцы, гляджу, аж з-пад снегу нейкія гурбы тырчаць. Памацала. А божухна, гэта ж ад восені пад снегам выбраны лён дапрае. Каб сваё, нябось бы лясёнкаю кожная баба перацягала б, ноч не даспала б, а ў полі не кінула. Відаць, пустадомак ацураўся, бо ніяк не ўцяміць, што нашае, гэта ж і маё. Грэх, вялікі, цяжкі грэх гнаіць дабро! Як жа вы так, людцы мае, дапусціліся? Хоць цяпер узяліся за лайдакоў і прайдзісветаў. Ніхто ж нам не дасць і не паможа, як самі не возьмемся сумленне сваё за чупрыну трэсці, ды сябе самога, як зброднае кацяня, носам таўчы туды, дзе нагнюсіў».

Пастаяла, паўздыхала Аўдоцця і пайшла амаль пустою вуліцаю: дзеці ў садзіку і ў школе, самыя рабоцькі — на полі і на фермах, яе равеснікі варушацца ў сваіх гародах і на сотках — паляць леташняе бадылле, плешчуць грады, беляць яблынькі; ад вогнішчаў цягне прэллю і горкім дымам, паветра аж звініць пад чыстым небам, сонца іскрыцца ў невялічкіх лужынах і ў шыбах суседніх хат.

От цяпер, як ніколі, занудзілася Аўдоцця па сваёй Балашоўцы. «Усё ж птаства ўжо вярнулася з выраю, адна я ніяк не прыстану нікуды. Людзі варушацца, садзяць і сеюць, а мой гарод палыном зарос ды малачаем. А я ж на ім кожную цалю на коленцах выпаўзала, ручачкамі сваімі пераграэбла»,— зноў закруціўся карагод думак. Не ведаючы, куды ідзе, Аўдоцця апынулася за сялом. Шырокі гасцінец ішоў на

ўсход сонца і ўпінаўся ў цёмны лес. Далей, на скрыжаванні, на ўтравянелым узгорку, край гасцінца, пахіліўся збуцвелы крыж з саламяным перавяслам і невялічкім кужэльным фартушком. Аўдоцця ўкленчыла перад ім: «Куды мне падацца, куды пайсці?..»

Што можа сказаць пакрытае лішайнікам белага моху струхлелае дрэва? На грудку выпстрыкнулі жоўценькія дзьмухаўцы, аж яснела ад іх уваччу. І падумалася: «Онь, якія яны свежанькія пад ранняю расою, а і не агледзішся, як пасівеюць, усходзіцца ветрык, насенне разляціцца белым пухам, і застанецца адно бадылле з лысымі булавешкамі». І так зрабілася маркотна на душы ў старое. Яна адышлася, павярнулася да крыжа: «А ці ёсць ты, божа? Каб быў, не даў бы столькі пакутаў чалавеку, не звёў бы столькі люду ў душагубках і старых пунях, не палегла б столькі нашых дзетачак невядома дзе. Я ж — праведніца. Праведніца: не зманіла, не ашукала, дзіцяці малога не дала ў крыўду. За што ж мне такая старасць? Га? Не, няма цябе. Адзін збуцвелы крыж застаўся. Добрыя людзі, такія, як дакторка, як той у шынялі, што ў аўтобусе заступіўся, ды хіба ўсіх палічыш,— от бог, адзін для другога, другі для трэцяга. Каб усе жылі ў злагадзе ды спагадзе, і горачка б на зямлі не было».

За вячэраю Фёдар бурчаў, што без яго так і не адрамантавалі ўсе трактары, не пратруцілі насенне, не ўзаралі леташняе ячнішча. Арына больш маўчала ці для прыліку абуралася Федзевымі памагатымі. Галінка з новаю лялькаю на руках не змаўкала каля Анісімаўны. А тая

і сёння не села за агульны стол, спаслаўшыся, што назбіралася, каштуючы.

Па тэлевізары нічога цікавага не было, і ўсе рана разышліся спаць.

Раніцаю было асабліва ціха ў хаце. Арына Аляксееўна зайшла на кухню. Там было ўсё прыбрана і вымыта. Ціхенька прычыніла дзверы ў Аўдоцціну баковачку. Там стаяў акуратна засланы бальнічнаю коўдраю тапчанок. На цвіку старога паліто не было, не было і Аўдоццінага мяшэчка. Сэрца закалацілася ад нечаканасці. Няўжо? Чым жа пакрыўдзілі? Вось так, не сказаўшы ні слова, сышла сярод ночы?

На кухонным стале ляжала папяровая сурвэтка. На ёй Галінчыным фламастэрам было старанна выведзена вялікімі літарамі:

С П А С І Б А
П А Д А Л А С Я  У С В А Ю
С Т А Р А Н У
А У Д О Ц Я

І больш нічога. Арына Аляксееўна заплакала, як аб вялікай страце, шкадавала, што загаварыла пра анкеты і афармленне ў санітаркі і вартаўнікі, пра перасяленне ў бальнічную баковачку. А што будзе, як прачнецца Галінка?

### *Пасля засеву*

Пасеяць пасеяў, а ці ўзышло кожнае калiва? Ці не выпалалі гарчэйшую, закураную дарожным пылам і дымам сцяблінку?

Каб ведаць смак салодкага, трэба паспытаць, як гарэніць скарынка з лебядою.

І яшчэ падумалася на апошнім заходзе.

Якая багатая, шчодрая, клапатлівая і спагадлівая наша дзяржава: колькі яна выгадавала і гадуе дзяцей пры жывых бацьках! Як чула і ласкава даглядае старасць бацькоў і мацярок пры жывых дзецях?

Дагледзела яна і Аўдоццю Кастрыцкую. Так, Аўдоццю, а прозвішча ў яе іншае. Гэта яна прасіла не называць яго, каб не зашкодзіць яе Паўліку. Усе думкі толькі пра яго.

Ёй часта і ноччу не спіцца ў светлым людным доме для састарэлых на ўскраіне сталіцы. А клопат адзін, трывога адна: дзе там яе сыночак, як яе адзіненькае дзіцятка?

Такі ўжо матчын лёс.

## ЗМЕСТ

Литературно-художественное издание

**ГРАХОВСКИЙ Сергей Иванович**

**ВСТРЕЧА С САМИМ СОБОЙ**

**Лирическая проза**

*Для старшего школьного возраста*
Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**ГРАХОЎСКІ Сяргей Іванавіч**

**СУСТРЭЧА З САМІМ САБОЮ**

**Лірычная проза**

Загадчык рэдакцыі В. М. Новік. Рэдактар У. А. Марук. Малодшы рэдактар Г. Д. Зінчанка. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар А. К. Юшына.

ІБ № 1028

Здадзена ў набор 06.07.87. Падпісана да друку 14.04.88. АТ 16433. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура Школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,0+0,65 укл. Ум. фарб.-адб. 15,60. Ул.-выд. арк. 11,76+0,34 укл. Тыраж 12 000 экз. Зак. 573. Цана 85 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Грахоўскі С.

Г 78 Сустрэча з самім сабою: Лірыч. проза: Для ст. шк. узросту/Маст. В. Сідарава.— Мн.: Юнацтва, 1988.— 316 с., [8] л. іл.

ISBN 5-7880-0050-5.

Граховский С. И. Встреча с самим собой: Лирич. проза.

Новая кніга прозы Сяргея Грахоўскага вяртае чытача ў рамантычную пару юнацтва камсамольцаў 30-х гадоў, у суровы час класавай барацьбы, расказвае пра чыстае і светлае каханне, пра лёсы людзей працы.

У кнізе знайшлі месца ўражанні аўтара пра першыя дні будаўніцтва Наваполацка і нафтаперапрацоўчага завода, пра нашых сучаснікаў.

Г $\frac{4803010200—089}{М 307(03)—88}$ 51—88 ББК 84Бел7

**Мінск
«Юнацтва»
1989**

---

# КНІГІ ДЛЯ СТАРЭЙШАГА ШКОЛЬНАГА ЎЗРОСТУ

---

*В. Рубанаў*

## ТАЯМНІЦА ПТУШЫНАГА ГНЯЗДА

*Аповесць, апавяданні*

*П. Ламан*

## АСТРАВЫ

*Аповесці*

Мінск
«Юнацтва»
1989

# КНІГІ ДЛЯ СТАРЭЙШАГА ШКОЛЬНАГА ЎЗРОСТУ

*А. Вялюгін*

## ПЕСНЯ ЗЯЛЁНАГА ДУБА

*Вершы, паэмы*

*А. Савіцкі*

## ОБАЛЬ

*Раман*